Мы ад сьвітаньня да сьвітаньня
Свайго палохаемся ценю.

Як на забойцаў, ці зладзеяў,
Глядзяць няласкавыя вочы.
Ў прадоньне канулі надзеі . . .
Твой кожны крок хтось пільна сочыць.

Мо сэрца насьцеж ім расхрыстаць
І паказаць, як кроў шчарнела?
Чаго ён хоча, дух нячысты,
Ад нас, бяздомных, кулі белых?

Няўжо ня мець нам супакою
Ад гэтай злыбедзі да скону?
Няўжо Ўсявышняга рукою
Ня скрэсьліць лютасьці дракона?

Я веру ў Божую ўсясілу,
У наша веру я збавеньне.
Мы перад злыднем да магілы
Ня будзем поўзаць на каленях.

Хрыстос Ўваскрэсьне ясным раньнем,
Ён нас падыме з дамавіны . . .
І пасьля доўгага чаканьня
Абдыме маці свайго сына.

Амбэрг, 1945

## ОЙ, РАЗЬВЕЮ Я СУМ

Ой, разьвею я сум,
Больш ня буду тужыць,
Не пакратаю сэрца мінoры.
Пазьбіраю красу

І ў паэмаў брыжы
Упляту васілёчкамі ўзоры.
На выгнаньні туга,
Нібы тая смала,

Прыліпае да сэрца штохвілі.
Ўспомніш родны свой гай,
На ускраі сяла —
І ня хочаш, а голаў пахіліш.

За сялом, у гаі,
Я пазнаў першы раз
Боль пякучы і слодыч каханьня ...
Ў тым гаі, бы ў раі,

Залатая зара
Шархунцом шалясьцела да раньня ...
Што было, адплыло
Ў туманы, ў далячынь,

Адцьвіло, як цудоўныя ружы.
Я пакінуў сяло,
Ў край чужы ідучы
Сьлёзаў буйных стрымаць не падужаў.

Мне шапталі палі:
— Будзь шчасьлівы, паэт,
Мы чакаем цябе з новай песьняй.
Я сказаў, што калі

Абыйду цэлы сьвет,
К ім вярнуся я з радасцю весьняй.
Ой, разьвею я сум,
Больш ня буду тужыць,

Не пакратаю сэрца мінора.
Пазьбіраю красу
І ў паэмаў брыжы
Упляту васілёчкамі ўзоры.

1943

# ПАД НЕБАМ СЛУЧЧЫНЫ КАХАНАЙ

(паэма)

1

Пад небам Случчыны каханай,
Дзе зоры сыплюцца ў расу,
Пазнаў я шлях цярністы рана
І краю роднага красу.

Там пад алешынай рагатай
Я пугай ляскаў да зары,
І мудры дзед там гэтак часта
Мяне вучыў, мне гаварыў:

"Жыцьця шляхі усе крывыя.
Да шчасьця шлях вядзе адзін —
Мінай прывабы залатыя,
Насустрач неведзі ідзі.

Спаткаеш ветры-ліхадзеі —
Падстаў ім грудзі, б'юць няхай.
Арла крылатага надзеі
Лаві, рукамі не махай.

Каменьне гострымі нажамі
Парэжа ногі да крыві —
Ідзі, за сьценем - міражамі
Асягнеш радасьці узьвіў.

Калі трухлявыя мыліцы
Працягне кат з крывавых рук,
Скажы яму: "Чым падаць ніцма,
Лепш сьмерцяй ваяра памру".

Я слухаў. Не, лавіў я словы
Навукі дзеда-мудрыца,
І сьвет няведамы і новы
Раіўся ў мроях без канца.

Быў ён прывабны і чароўны,
Зырэў у квецені шыпшын.
І, нібы гожыя князёўны,
Ўсплывалі постаці дзяўчын.

Яны глядзелі на загоны,
Дзе сярод мора каласкоў

Зырчэй расквечанай кароны
Зігцелі кветкі васількоў...

2

Пялёсткаў белыя завеі
Шумелі ў зелені садоў.
І нібы здрадлівыя фэі,
Скакалі дні маіх гадоў.

І ў гэтых скоках нечаканых
Я сэрца болем гартаваў.
Жыцьцём упоены, як п'яны,
Ішоў я, падаў і ўставаў.

І хоць-бы раз далёкі, блізкі
Руку таварыш працягнуў.
Адзін, сьхіліўшы голаў нізка,
Праводзіў я жыцьця вясну.

Дранцьвелі рукі ад зьнямогі,
І смаглі губы без вады.
Сьмяяўся старац ля дарогі,
Як я, бляды і малады.

О, гэты старац!
Сьмех пякучым
Дакорам сэрца працінаў.
А я ішоў па скалах, кручах
Туды, дзе сонца, дзе вясна.

3

Ў гаёх, лясох цьвілі пралескі,
Жаўцелі вербы, бэз сінеў.
Зялёны гай і пералескі
Плылі кудысь, як ува сьне.

Пішчэлі чайкі над ракою,
Сквілелі ў небе бакасы.
І вецер кволаю рукою
Мае кудлачыў валасы.

А я ішоў адзін па полі,
Ўпіваўся водарам зямлі.
Каханьня солад мімаволі
Мне ў сэрца чулае хтось ліў:

“Не забудуся, Алеся,
Час спатканьня над ракой.
Абдымаў нас ціхалесься
Вецер цёплаю рукой.

Дзесь зязюля кукавала
Пад зялёнаю вярбой.
Дакарала ты, што мала
Сустракаўся я з табой.

Патухалі ў небе зоры,
Як каралі тваіх сьлёз.
На сьвітаньні боль-дакоры
Я навек з сабой панёс.

Не забудуся, Алеся,
Час спатканьня над ракой.
Абдымаў нас ціхалесься
Вецер цёплаю рукой . . .”

Другая сумам закранала
Акорды ў сэрцы маладым,
Як у няволі памiралі
Ткачыхі слуцкія ў гады,

Калі агнямі і мячамі
Варшавы “гжэчныя” сыны
Тварылі суд над крывічамі
І каталі бязь віны:

“Ад родных ніў, ад роднай хаты,
У панскі двор дзеля красы
Яны бяздольныя узяты
Ткаць залатыя паясы . . .”

І мне рабілася балюча
За родных сёстраў і братоў,
І помста ляваю кіпучай
Бурліла ў сэрцы. Быў гатоў

Ісьці на сьмерць і на пакуты,
Каб не памерлі крывічы,
Каб не насілі вечна путы,
Чужыя гострачы мячы.

4

А даль ляжала няжывою,
Дрыжэлі ў сполаху кусты.

І над маёю галавою
Каршун у небе, як застыг . . .

Паўзьлі крывавыя туманы,
Ваўкі дзесь вылі ля ракі.
Стагналі, войкалі курганы,
Дзе Гаўрыловіча палкі

Пад сьцягам бел-чырвона-белым,
Рукамі вышытым дзяўчын,
Хадзілі ў бой адважна, сьмела
За волю Случчыны, за чын.

І ўжо ў руках шпяговай здрады,
Каб чула родная зямля,
Гэрой бясстрашны Лістапад
Ў апошнім слове прамаўляў:

"Няхай за край абрабаваны,
Імя якому Беларусь,
Сканаю я ў крывавых ранах
Ад вашых чорных, катніх рук, —

Ня буду плакаць і прасіцца,
Я свой народ ня здраджу век,
Бо покуль сэрца будзе біцца,
Хачу я звацца — чалавек".

Хоць я тады яшчэ ня ведаў,
За што крывавяць мой прасьцяг,
Ды словы-клічы Лістапада
Мяне вялі кудысь, як сьцяг.

І я пайшоў. Я лез на скалы
Сьлядамі сьвежае крыві . . .
А прыпарнаскія шакалы
Крамзалі дум маіх узьвіў.

А ў гэтых думах, гэтых мроях
Хацеў хоць раз я там пабыць,
Дзе Чарадзеевы гэроі
У вагні згаралі барацьбы . . .

Дык дзе там: "Тэма архаічна . . .
Вы ў правы хіліцеся ўхіл . . .
Сьляпы вы — сёньня гэраічней" —
Пісаў якісь мне Самуіл.

А я "сьляпы" глядзеў, як маці
Сьлязамі змочвала палі...
Хацеў крычаць, хацеў я плакаць,
Ня дытырамбы ім піліць.

5

Парваў я струны свайго сэрца,
Закінуў ліру ў забыцьцё,
Бо "родны бацька" горкім перцам
Перасыпаў маё жыцьцё.

Браты і сёстры скрыгіталі
Зубамі ў роспачы, нудзе.
І ня было ў жыцьці праталін,
На ўваскрашэньне нат надзей.

Ў Сібір халоднымі шляхамі
Ішлі з-пад Слуцку песьняры,
І там, пад тоўстымі сьнягамі,
Дранцьвеў бунтарскі іх парыў.

А тут пад небам родным, сінім
Вісела краканьне варон...
Маўчаў наш родны Паганіні,
Маўчаў наш родны Цыцэрон...

І толькі ціха хтось прарочыў:
"Ой, будзе суд, страшэнны суд...
Мы глянем сьмела тады ў вочы
І прайдзісьветаў і прыблуд".

6

Гайсалі ветры-буйнавеі
Па сумных вёсках ля Случы...
Хадзілі каты і зладзеі
Па хатах сонных уначы.

Хадзілі, чорнымі рукамі
Зрывалі посьцілкі зь дзяўчын.
Ірвалі цела іх іклами
Не за злачынствы, не за чын.

О, не! Віною была маці,
Што нарадзіла іх на сьвет,
Што паясы умела ткаці;
Свой край любіць вучыў іх дзед,

Які жыцьця стаптаў прасторы . . .
О, васількова палі!
Ой, колькі вы пазналі гора,
Ой, хоць-бы раз вы расьцьвілі

Праўдзівым цьветам буйналістым,
Каб там дзяўчатам маладым
Сьмяяўся месяц серабрысты,
Каб іх найлепшыя гады

Прайшлі, як сон, як казка-цуда,
Сярод каханьня і уцех,
Каб ноччу цёмнаю Іюда
Ня краў іх звонкі, чысты сьмех.

7

Гатоў штодзень я быць данорам,
Па кроплі кроў аддаць сваю
За васільковыя прасторы,
Дзе людзі маладосьць маю

Таптали бруднымі нагамі,
Дзе жыў мой бацька, любы дзед,
Дзе над лугамі-мурагамі
Іскрыцца сонца агняцьвет.

Хачу я крыкнуць родным хатам,
Дзе льлецца Случ, мая рака —
Мілей за тысячы дукатаў
Цьвяток мне сіні васілька

З прастору Случчыны каханай,
Дзе зоры сыплюцца ў расу,
Дзе я пазнаў жыцьцё так рана
І краю роднага красу.

1943

*
* *

Паэзія
не табака,
малакроўным нюхаць.
Паэт
не застыглая ў статыцы мумія.
Паэзія —
ў сэрцы будзіць завірухі.
Паэт
за мільлёны адзін думае.
У квактаньні жаб
прыгажосьці крупінка.
Для сэрца закон?
Не ўтаймуеш кратамі.
Буду йсьці ад сябе,
як заўжды, і прыпынкі
Рабіцьму над тым,
што натхніць і
раскратае.

## БЕЛАРУСЬ

Беларусь ты мая, Беларусь,
Незагасная зорка Вэнэра.
Я агнём тваім вечным гару,
У тваё уваскрошаньне веру.

За трыдзевяць нягодных зямель
Чую пушчаў, садоў тваіх гоман.
Разуквечаны ў чырвань і бель
Бачу, з бурай спрачаецца Нёман.

Крыж Прадславы і Вітаўта меч
У грудзёх тваіх зьзяюць і звоняць.
У чужацкім крывавым ярме
Набірае разгону Пагоня.

Беларусь ты мая, Беларусь,
Незагасная зорка Вэнэра.
Я агнём тваім вечным гару,
У тваё уваскрошаньне веру.

1945

## МАЯ МАЛІТВА

Крыжы і кроў — людзкое семя,
Як хлеб, сьвятло — штадзённы дар . . .
Народжаны у Бэтлееме,
Збавіцель наш і Валадар,

Як паміраючы бяз хлеба,
Аб хлебе буду паўтараць —
Зыйдзі яшчэ адзін раз зь неба
Не навучаць, зыйдзі караць.

Адамаў род ня верыць цуду,
А слова праўды не кажы.
І мы, як Ты, з тэй волі Юды
Пакуты зносім на крыжы.

Зыйдзі, зьбяры раскрыжаваных,
Вядзі ў сьвяты, апошні бой.
Нябожчыкі зь зямлі паўстануць
І пойдуць з намі за Табой.

9. IV. 1950

## ХРАМ

Грэх на сэрцы цяжкі, нібы камень:
На зямлі я найпершы Адам . . .
Не знаходжу я шчасьця у храме,
Бо у сэрцы разбураны храм.

Недаверкі жадалі ад Бога
Захаваць сваіх душаў ключы.
Пераццяў мне цень іхны дарогу,
Не магу ад яго уцячы.

Хоць вазьмі упадзі плашчаніцай —
Няспраможная гора гара:
Майго крэда згасаюць зарніцы,
Ды, успыхнуўшы, ледзьве гараць.

І гняце гэты цяжар, як камень.
На зямлі я найпершы Адам . . .
Я знайду сваё шчасьце у храме,
Калі ў сэрцы збудую храм.

## ПАДЗЯМЕЛЬНАЯ ПЕСЬНЯ

На зямлі мне і душна, і цесна;
Пад зямлёю душней, ды прасторней.
Падзямельная ціхая песьня
Супакоем мне сэрца агорне.

Лямпы-зьнічкі, падземныя зоры,
Ў сутарэньні паблікскваюць здрадна.
Далямітныя рушацца горы,
Мне насустрач ідзе непрагляднасьць.

Не праспэкты суворыя штрэкі,
Не на йгрышча іду я у ручу —
Нада мною вазёры і рэкі,
Пада мною агонь няўміручы.

Патаёмнасьць і веліч тварэньня,
Даляміты і вугальны камень . . .
Не, ня час, а магутнейшы гені —
Бог стварыў ўсё зямное рукамі.

Гэтай думцы было калісь цесна
Ў галаве, а цяпер вось — прасторней.
Падзямельная ціхая песьня
Супакоем мне сэрца агорне.

Бэльгія, 1947

Тлумачэньне:
Штрэк — ход, дарога пад зямлёй.
Руча — месца дабычы вугальля.

## ЗАКАХАНЫ Я

Закаханы я ў сонныя сіні,
Футбалістых гульнёй усхвалёван.
Ня шукаю сьвятой Еўфрасіньні —
Разбазараны сьвет, размалёван.

Рафаэлевы тускнуць мадонны,
Шчэрыць зубы вычварны Пікасса.
Акіян захлынуўся прадонны,
А на небе грымотныя кляксы.

І сымфонію глушаць куранты,
Зор рубінавых дзіды у сіні . . .
Дзе-ж вы, дзе-ж вы, суворыя Гранты,
Дзе ты, дзе ты, мая Еўфрасіньня?

1953

## НІРВАНА

Я ніколі ня буду Буддам:
Просяць помсты балючыя раны.
Па зямлі маёй блудзяць прыблуды —
Як-жа мне спачываць у нірване?

Я — жабрак, бяспрытульны бадзяга,
З роднай хаты прыблудам прагнаны.
Як-жа піць бястурботнасьці брагу,
Калі стогне мой край зрабаваны?

Мне палацаў ні славы ня трэба.
Я й пад плотам сабе нагарода.
Але бачу нахмуранасьць неба,
Чую енкі майго народу . . .

І пакуль не памшчуся прыблудам,
Не ўтаймую балючыя раны, —
Я ніколі ня буду Буддам,
На зямлі не знайду нірваны.

## САНЭТ

Я разгубляў санэты ля дарог,
Калі хаваўся ад сябе самога.
Я не прасіў ратунку у нікога,
І сам нікога ўратаваць ня мог.

Мінулі дні. Ступіў я за парог
Другой зямлі, ня выклятае Богам.
Хоць у грудзёх ня выцьвіла трывога,
Ды прывід сьмерці тут я перамог.

Час уваскросіць мілыя санэты,
Час разбудзіць тэрцыны, трыялеты,
Хай на чужой, няветлівай зямлі.

Век не бадзяцца сумнаму па сьвету,
Плакаць аб тым, што ружы адцьвілі . . .
Зьвінець, як сталь, павінен верш паэты.

Ля-Лювр, Бэльгія, 1947

## НА НОВЫ ГОД

Мару, спадзяюся — прыйдзе хтосьці
Зь цяплынёй і сьвятасьцю ў паглядзе;
Скажа: "З Новым Годам!" Любым госьцем
За мой стол уквечаны прысядзе,

Як калісь далёка там, далёка,
На Радзіме любай, сінявокай,
Мне падорыць цёплы пацалунак,
З навагодніх лепшы падарунак.

Маўкліня, і сьвечка ледзь іскрыцца.
Я сяджу, як высьмеяны рыцар . . .
Сэрца разрываецца ад болю.
За вакном халоднае сьвітаньне.
Ня збыліся мары, спадзяваньні
І ня збыцца, мабыць, ім ніколі.

1947

## ВЕТРЫ СЬВІШЧУЦЬ

Ні кала, ні двара і ні хаты,
А наўкола ветры сьвішчуць.
Роніць восень лісьцё, як дукаты,
На руіны, папялішчы.

Патускнеламу сонцу бязьмежжа,
А пад сэрцам смокча спрага.
Дзесь сягоньня заб'юць ці зарэжуць,
Дзесь віно бушуе, брага . . .

Прыпаду да граніту ніцам —
Стогне камень, енчыць камень:
— Хто ты духам, жабрак або рыцар?
— Не валодаеш рукамі?

Падпарадкую розуму сэрца,
Сэрцу я ня зусім давяраю...
Нада мной хай нядоля сьмяецца —
Я пакутую для Краю.

## ПРОСЬБА

Каля Слуцку ёсьць адно сяло,
Невялічкае, двароў зь дзесятак.
Калі-б вас туды як завяло,
Пашукайце, калі ласка, хату.

Паміж хат яна адна, бадай,
На страсе гадуе мох зялёны,
На двары красуе лебяда,
Ля варот сумуюць ціха клёны.

На кале пузаты дрэмле гляк,
Ля хлява цабэрак у мякіне.
На градзе цьвітуць півоні, мак,
Па сяброўках журыцца вярбіна.

Вы напэўна знойдзеце, і вас
Прывітаюць хлебам чорным з соляй,
І сьцюдзёны спрагу ўтоліць квас,
Пачастуюць бульбаю з фасоляй.

Папытайцеся тады у той,
Што спаткае і адчыніць дзьверы,
Ці чакае скуль-небудзь сватоў,
Ці ня страціла надзею й веру.

І адкажа: "Як-жа, абяцаў...
Толькі, мо, нямашака на сьвеце..."
Не чакайце сумнага канца
І маёй пакутніцы скажэце,

Што жыву, кахаю і прыйду,
Як зямлю маланкі зноў ахрысьцяць.
Хай прадзе пачынкі сьветлых дум,
Тчэ сузор'і радаснага прыйсьця.

1952

## ВЯЧОРКІ

Сіні вечар. Белы сьнег.
Скрып варот. Дзявочы сьмех.
Вецер, спрытны жартаўнік,
Кужаль выхапіў і зьнік.
Хтось згубіў верацяно.
Жарты ўспыхваюць ізноў.
Месяц чысты, малады
Абапёрся на сады,
Паглядае ён з-за хат.
Дзед надзеў сівы халат,
Выйшаў сенцы адчыніць.
А наўкол агні, агні . . .
Месяц глянуў за парог,
Залаты сыпнуў гарох.
З хусткаў зоры-матылькі
Разьлятаюцца ў куткі.
На камінку смалякі
Палыхаюць. Дзяцюкі
Пазіраюць з-за стала,
Ці каханая прыйшла.
Нібы пчолы у вульлі,
Дзеўкі, хлопцы загулі.
Закружыўся калаўрот.
Не змаўкае карагод.
Песьня родзіцца сама:
— Ой, ты, зімачка-зіма . . .
Поўнач певень пракрычыць,
Час вячоркам на спачын,
Ды ня моўкнуць песьні, сьмех.
Сіні вечар. Белы сьнег . . .

## ІДЗІ, ІДЗІ . . .

Упала ноч.
            Як эдэльвайсы, зоры
Цьвітуць над Альпамі.
            Аськепак-маладзік
У неба ўрэзаўся.
            Блакітнае на горы
Імжыць сьвятло.

А ты ідзі, ідзі . . .
Якая ноч!
Як у сьвятыні, ціха
І урачыста.
На калені упадзі.
Вунь там агонь міргае . . .
Шчасьце зь ліхам
Кладуцца спаць . . .
А ты ідзі, ідзі . . .
Трывожыць ноч,
як сьмерці жах мінулы,
І прышласьць мроіцца,
як недабіты дзік.
Нібы агонь,
няўсподзеў шуганула
Жаданьне жыць.
Каб жыць,
ідзі, ідзі . . .
Канае ноч,
і зазьвінелі зоры.
Прамень, як штых, бліснуў,
І маладзік
Збляднеў,
самлеў.
Ружовае на горы
імжыць сьвятло.
А ты ідзі, ідзі . . .

1944-1952

---

Эдэльвайс — кветка зь белымі пялёсткамі, якія ніколі ня высыхаюць.

## ФРАНТАВОЕ

Зоры ў небе, як срэбныя росы.
Месяц — гузік на шэрым шынэлі.
Фасфарычныя бзыкаюць восы . . .
Добра тым, хто на цёплай пасьцелі.

Мне падушкай — сталёвая каска.
З боку туліцца “жонка” із Тулы . . .
У вакопе сьцюдзёна і гразка.
Добра тым, што на векі паснулі.

А з-за лесу разьведчык чырвоны,
Здэцца ўлез-бы ў зямлю з галавою.
Лес надзеў залатыя пагоны . . .
Уставайце, галодныя воі!

## ДВА КРЫЖЫ

Узмах зьбялелае рукі . . .
Як каршуны, у просіні
Наўцёк увысь штурмавікі.
— Матуля родная, ўваскросьні! . .

Із роту кроў, як вішняў сок.
Прыйшоў ён, ды ня з радасьці
Упаў на стоптаны пясок.
— Забойца-брат, парадуйся ! . .

Вачэй дзьве пары, як нажы.
І паў кінжал пад брытваю.
Стаяць два новыя крыжы
І трэйці хтось з малітваю . . .

3. VII. 1950

## ТОСТ

І там, над Нёманам, зіма.
І тут халодныя норд-осты.
Нас там, іх тут няма, няма.
Каму прысьвеціць сёньня тосты?

Я п’ю за тых, што ў гэты час
Дзесь ловяць ворагаў на “мушкі”.
Я п’ю, хай кожны вып’е з вас,
За слаўных воінаў Вітушкі;

За тых, што мужна палеглі
На сопках жоўтых пад Пхеньянам,
Каб зоры белыя зямлі
Гарэлі радасна і п’яна . . .

За тых, хто сэрцу дарагі,
Падымем горыч вышэй гора.
Няхай змагарныя сьцягі
Зь вятрамі буйнымі гавораць.

1952

*
* *

Байдаркі і яхты . . .
Бурхлівыя хвалі.
Вятры заблудзіліся ў ветразях белых.
І шчоглы хрыбты да вады пазьгіналі.
Дарогу у мора бясьпечным і сьмелым!

Дарогу у мора, у штормы, у буры!
Няўтоймныя сэрцы жывуць небясьпекай.
Сівы акіян бровы шэрыя хмурыць,
У сударгі кінула рэчкі і рэкі.

У бухты даўно караблі паўцякалі:
На моры ў час шторму ня знойдзеш ратунку.
А човен плыве па разьюшаных хвалях,
У чорную даль углядаецца юнга . . .

1953

## ХОЦЬ ЛІСТАМ ЗЕЛЯНІЦЦА

Пачарнела золата. Да плоту
Гоніць вецер. І маўчыць нівошта.
Пасылае ціхую дрымоту
Дрэвам неба зьледзянелай поштай.

Прачыталі, дрыгнулі ахвяры
І ўздыхнулі — прысуд ня суворы:
Як мячы скрыжуюцца на хмарах,
Зноў лісты зь лістамі загавораць.

Пацячэ з карэньня да вяршалін
Сок салодкі, пахкая жывіца.
Хай мяне-б карэньні адшукалі
Пад зямлёй, — каб лістам зеляніцца.

1953

*
* *

Маладзік акругліцца у поўнік
Ды ізноў прыплюшчыць зь неба вока.
Як кілішак струшчаны напоўніць,
Як зраўняцца зь месяцам далёкім,

Каб гарэць, пагаснуць, нарадзіцца,
Хай сьцюдзёныя, кідаць праменьні?
Не, жыцьця кіпучую крыніцу
Нябыцьця сутоньне не заценіць.

Мо і ёсьць другія небасьхілы,
Прыгажэйшыя дзесь ёсьць сьвітаньні —
Падымацца буду я з магілы
Паглядзець на месяца кананьне . . .

1953

## СКАРПІЁН

У блакітнай недасяжнай высі,
Калі блудзіць па прасторах восень,
Пралятаеш ты над намі рысьсю
Навакол нябачанае восі.

Не адзін у небе ты бадзяга,
Маеш крэўных блізкіх — Рака й Рыбаў . . .
Да сягоньня вечнасьці прасьцягам
Шляхам зорным крочыш бяз ухібаў.

Пазіраеш на зямлю употай,
Прыгажуня, думаеш, сусьвету.
Абальлеш кагось халодным потам
І . . . на сьвеце больш адным паэтам.

* * *

Стаяў ля Ай-Пэтры
малады,
хворы,
Ў неабсяжны ўзіраўся сусьвет.
На небе паўдзённым
блакітныя зоры
Вышывалі маўкліва санэт.
Плылі па далінах зялёных
тэрцыны,
А ў моры зьвінеў трыялет.
І шапкі ў задуме здымалі вяршыны:
Стаяў ля Ай-Пэтры — паэт.

1953

## З ПРАСТОРАЎ

Белыя, белыя
        вішняў пялёсткі
Ціха апалі,
        упалі на хвалі.
Пенна усьпенены
        срэбныя ўсплёскі
Далі хапалі,
        хвалі імчалі.
Трактамі трактары
        такты адточваюць,
Топалі тонкія
        стогнам уторацць ім;
Пахкімі пасмамі кужалю
        кружыць дым,
З топатам сопкім
        коньніца гоніцца.
Ціха, панадна
        мятнуўся вятрыска,
Ў вуха дзьмухнулі мне
        песьні.
Прынесьлі іх
        ветры суладна з прастораў,
        дзе пырскаюць
Сьмешкі уцешныя
        пышнай машыны.
Тонкімі ценямі
                тэнар цягнуў,
Голас ягоны
        увысь узьвіваўся.
Альтамі сталь там
        у далі прапела,
Сьвежая сьвежасьць
        ў бязьмежжа лілася.
Посьле кагосьці
        магутныя грудзі
Бурай рванулі,
        гукнулі ўгруні.
Далей . . .
        Апалі,
                на хвалі упалі
Вішняў пялёсткі.
        Хвалі імчалі . . .

Менск, 1932

## ПАЦАЛУНКІ

Біруза над садамі белымі,
Вунь і бэз расплюшчыў вочы сінія.
Што-ж мы гэткія нясьмелыя?
Хіба сэрца ў нас пакрыта інеем?

Паглядзі, матылькі чорныя
Абняліся ў пялёсткавай замяці.
Перад намі дарогі ня торныя,
Дык вазьмі пацалункі для памяці.

За морамі, акіянамі
Ты ня згубіш іх, каханы, веру я,
І дарогамі нязнанымі
З журавамі зноў вернешся з выраю.

Зноў вясна закрасуе кветкамі,
Зноў цябе, мой каханы, пабачу я.
Аддасі тады з адсоткамі
Пацалункі мае гарачыя.

1949

## З. В.

Помніш, Зося, у парку Нью Ёрку —
Я ня веру, што можна забыць —
Пад кустамі скакалі вавёркі,
Буркавалі ля ног галубы . . .

Мы ішлі пад цудоўныя гукі:
Аб каханьні шумела трава.
Я трымаў твае мілыя рукі,
Мне здавалася — сьвет я трымаў.

Не вязалася неяк гаворка.
Я ня ведаю, сон быў ці яў:
Мне шапнула на вуха вавёрка,
Што ты будзеш навекі мая.

1953



Ня сумуй, сястра далёкая,
Не адна ты — сумую і я.
Ноч ня вечна. Яна, сінявокая,
На усход адплывае спатая.

Зоры ў небе дрыжаць ня з холаду,
Каб, упаўшы ў расу, адзьвінець.
І сваю няшчасную моладасьць
Хтось убачыць сягоньня у сьне.

Сэрца ўздрыгне. Успомніць прабуджаны,
Што была і кахала... Няма.
Ачуняе месяц прастуджаны,
І зялёны зноў вернецца май.

Дык ня трэба. Глядзі, як сыходзяцца,
Шэпчуць зоры у сінім вакне.
Памаліся Сьвятой Багародзіцы
За сябе, за яго, за мяне.

## НЕ КАЖЫ

Калі зямлю абдыме вечар,
Не сказаўшы нікому, чаму —
З пачуцьцём зямным чалавечым,
Дарагая, цябе абдыму.

Стануць зоры на вахту дазорам,
Вартаваць будуць ціха нас.
Пацалую цябе раз каторы,
Пацалую, як першы раз.

Не кажы, што рашчуленасьць гэта
Праляціць, нібы ветру павеў.
Мне-б ня быць ніколі паэтам,
Каб я гэтак кахаць ня умеў.

1951

*
* *

Што напісаць табе, каханая,
Чым суцешыць сэрца маладое?
Баліць душа ад сьвежых ранаў,
А ты ў сяброўстве з гэтаю бядою.

Прабач, прабач — нічога я ня маю,
Табе аддаць жадаў-бы я сусьветы.
Ды што з таго, што ў марах абдымаю?
Тваёй другія ласкаю сагрэты.

Жыву аднэй надзеяй і уцехай,
Даўно блукаю зь імі неразлучна,
Што пачуцьця майго нямое рэха
У тваім сэрцы адгукнецца гучна.

*
* *

Насупроць Хрыстос і стража ніцма.
Людзі йдуць, ідуць да аўтара́.
Я прыйшоў сягоньня памаліцца
За цябе, маўклівая зара.

У грудзёх ні болю, ні трывогі.
Дух вітае мой з табой, а я
З найшчырэйшай просьбаю да Бога
На каленях буду тут стаяць.

Аднаго прасіцьму я у Бога,
Каб і ты, далёкая мая,
Пра мяне ня думала благога,
За мяне малілася. А я . . .

Насупроць Хрыстос і стража ніцма.
Людзі йдуць, ідуць да аўтара.
Я прыйшоў сягоньня памаліцца
За цябе, маўклівая зара.

## АДКАЗ

Не такая была ты і ёсьць,
Не такую цябе я высьніў.

Раздарыла сваю маладосьць,
А цяпер мне на шыю вісьнеш,

Па сьлядох маіх ходзіш, як сьцень,
Не даеш мне нідзе супакою.
Хоць на Марс можаш зараз ляцець,
Не махну ні аднэю рукою.

Ня віню я сьляпых кажаноў —
Яны гуку паслушныя ўночы.
Як-жа ты за дурное віно
Прадаеш танна гонар дзявочы?

Не, я веру, на сьвеце йшчэ ёсьць
І такая, якую я высьніў:
Чысьціня, прыгажосьць, маладосьць.
Ты-ж на шыю другому павісьні.

## ТРЫМАЙСЯ, МАРЫЯ

Кіпіць акіян.
          Па-над Случчу
Агні маякоў
          Рэхчуць коні.
Пагасьлі ў тумане,
          Над кручай
Каб зноў загарэцца.
          Сасоньнік.
У тросах стальных
          Каля гаю
Вятры заблудзілі.
          Ёсьць хата.
Гайсаюць вятры
          Дарагая,
І стогнуць.
          У хаце адна ты.
Грудзямі на хвалі,
          У просінь
Як камень,
          Вачыма прыліпла.
Кідаюцца чайкі
          Галосіш.
І кануць,
          Я чую усхліпы

Каб зноў узьляцець
Каб ты знала,
І ўпасьці ізноў.
Што жывы я.
У штормы
Чакаю аўралу.
Уваходзім.
Трымайся, Марыя!

Травень 1950

*
* *

Я твой абраз, адзіную уцеху,
Пастаўлю ў рамцы залатой на стол.
Ён — твой прамень, аддаленае рэха,
Мяне сагрэе і разбудзіць. Навакол

Зямное кулі паляту у марах
Цябе шукаць, ужо каторы раз . . .
Ды ўсё адну, адну я бачу пару:
Мой горкі сум, маўклівы твой абраз.

*
* *

Вы, фройляйны, сіньёрыты,
Мадмазэлі, донны, панны . . .
Я прыймаць буду іспыты
Прыгажосьці беззаганнай.

Я прыехаў зь Беларусі,
Прыгажунямі багатай.
Там ёсьць Зосі і Алесі,
Сінявокія дзяўчаты.

Хто адзін раз іх пабачыць,
Будзе вечна закаханы.
Я жадаю вам удачы,
Сіньёрыты, донны, панны . . .

Ды скажу вам пад сакрэтам —
Пойдзеце зь нічым дахаты:
Прыгажэйшыя на сьвеце
Беларускія дзяўчаты.

## КАЛЯНДАР

1

Смалой і мёдам пахне у бары,
На небе ў схованку гуляюць хмары,
А дзесь дзятлы, лясныя дактары,
У хворых дрэў адлічваюць удары.

Ня стогнуць дрэвы, ведаюць — вясна
Залечыць раны сокам і жывіцай.
А вунь за хмары пяліцца сасна,
Хутчэй сьвятла, хутчэй цяпла напіцца.

Бярэзін косы чэша вецярок,
Асіны крэкчуць, разьмінаюць плечы.
На ўзьлесьсі бусел прысьпяшае крок,
Для жабаў марш прываблівы клякеча.

Казюляў, мошак славіць салавей,
І мне зязюля доўга жыць прарочыць.
А пад нагамі ў леташняй траве
Гараць блакітныя пралескаў вочы.

2

Сонца сьпелы сноп
Гарачымі дзідамі коле.
У лузе горды коп,
А мэтлікі вышылі поле.

У поце дзень замлеў,
Маланкі ўзмахнулі сярпамі.
Долу, спразе — ўлеў.
Малоціць гром неба цапамі.

Чуеш колаў грук
Блакітнаю ноччу на полі.
Боль працавітых рук
Бадзёрая песьня утоліць.

Ноч змахнула сон
Астатняй усьмешкай дзяўчыны.
Зор цьмянее звон,
І зоры пайшлі на спачынак.

Сонца сьпелы сноп
Гарачымі дзідамі коле.

У лузе горды коп,
А мэтлікі вышылі поле.

3

Прытупіўся прамень.
Ня чуваць птушак звону.
Вераб'і толькі сварацца
дзесь за сялом.
Быццам Жар-птушка
над вяршалінай клёну
Махнула перабітым
залатым крылом.
Пасьмялелі вятры,
вербам чухаюць грывы;
Сыплюць лісьце пад ногі,
адзьвінеўшы жар.
Жураўлі-ўцекачы,
пачакайце, куды вы?
Не займаўся яшчэ
арабінаў пажар.
Як ізрэб'е, туман.
Лес, як старцавы косьці.
Чыніць заяц кажух:
у разорах паздром.
Паглядзі, і ў цябе,
нежаданая госьця,
Валасы падмарожвае
серабром . . .

4

Паглядзеў у вакно і здалося —
Зацьвілі белым цьветам сады.
Разгубляла пажоўклая восень
Залатыя па сьнезе сьляды

Па рацэ у блакітных падковах
Пракаціўся ў дрыготках мароз.
Пад страхою аздобаю новай
Кіяшы крышталёвыя сьлёз.

Гэта плакала восень па леце,
Успамінаючы радасны май.
Божа мой, а я толькі прыкмеціў,
Што на яблынях цьвету няма;

Што лятаюць над садам у небе
Міліярды пабеленых мух,
Што зіма, срэбна-сьнежная лебедзь,
Падарыла зямлі белы пух.

1952-53



Нам сэрца асьвяжае подых новы.
Як радасна, калі замоўкне гром,
Вясёлка устае дугой шматкаляровай;
Альбо, калі на возеры паздром
Сузор'е серабрыстае зайскрыцца
І вецер-птах надломаным крылом
Зашалясьціць у вербалозах ніцых,
Ці першы сьнег заблудзіцца ў гальлі, —
Нібы вада вазёры ў навальніцу,
Душу зальле бадзёрасьці прыліў.

1947

## У АКІЯНЕ

Вецер-смык на струнах-тросах
Грае дзікія факстроты.
Як дазоры, альбатросы,
Нібы здані, шчоглы-гроты.

Акіяну й неба шэрасьць,
Маракі наўкол паселі.
Дзень і ноч калоціць, мэрам
На шалёнай карусэлі.

Раптам кіне, нібы з кручы,
Скрыгане, як сталь у жорнах.
Як у пекле тым кіпучым,
Круціць, верціць, бела, чорна . . .

Паўтарацьмеш бязупынна,
Як вар'ят той загайданы —
Ўсе пяскі зьбяру з пустыняў
І засыплю акіяны . . .

Атлянтычны акіян,
27. II. 1950

## ПРЫСТАНЬ

Палахліва у вады люстэрцы
Зь неба сіняга глядзяцца зоры.
Карабель стаіць. Стальное сэрца
Б'ецца ціха. У тумане горад,
Нібы здань. І вецер ня скуголіць.
Абнялося з прышласьцю сягоньня.
Я і мары. Ды Статуя Волі
Насупроць з запаленай паходняй.

1950

## НЬЮ ЁРК

Ботам каменным упёрся ў воду,
У зямлю другім, стаіць і марыць,
Голаў узьняўшы за хмары,
Места нягодаў, места прыгодаў.

Прыстань вятроў, акіяну хваляў,
Сымфонія фарбаў, бэтону, сталі . . .
Горад мільённагаловы, мільённавокі
Грудзі падставіў вятром шырокім.

1950

## МЕСЦА МАЛА

Нібы цясьніны гор — вуліцы.
Дамы — вылуджаныя ветрам скалы —
Бакамі размаляванымі туляцца,
У хмары лезуць: месца мала.

“Кадылякі”, “Бюікі”, “Шэўралеты”
Абгарадзілі, як плотам, кварталы;
Лезуць на ходнікі і ў кювэты,
І на людзей — месца мала.

Неба шрубуюць верталёты . . .
Хоць-бы другая плянэта упала, —
Будуць кідацца самазабойцы у пралёты:
На зямлі месца мала.

1952



Хутчэй, хутчэй, сымфонія грымотаў:
Пілуе душу заедзі сквіленьне,
За горла душыць затхласьць і духота;
Азону лёгкім, зыркасьць, а ня тленьне!

Зямлі уколы дайце, бліскавіцы:
Ад малакроўя вычахла бабуля!
На лоб кампрэс гарачы навальніцы,
Пакуль яшчэ рыпіць зямная куля!

## ХВЕДАРУ ІЛЬЛЯШЭВІЧУ

Змоўк, адыйшоў у неба.
Хто там заплакаў? Вы? . .
Ў сьлёзах няма патрэбы —
Ён сярод нас жывы.

Бачу, цяпер во бачу,
Брат мой далёкі паэт,
Месяц на раме адзначыў
Сьхілены твой сілуэт.

Думаў сусьвет узрушыць
Полымем палкіх слоў.
Толькі на чэрствыя душы
Сэрца сваё пракалоў.

Марыў па вёрстах, мілях
Несьці кляновую медзь . . .
Дарма стаіць Даміниля,
Хведара ёй ня сустрэць . . .

Жыць і загінуць трагічна, —
Гэта хіба ня лёс?
У сховы зямлі фабрычнай
Скарб непаднёслы панёс.

Сьпі пад нягодным небам,
Слухай малітву травы . . .
Сьлёзаў няма, ня трэба.
Ты сярод нас жывы.

## НОЖ

Не зь нягнуткай сталі, зь серабра
Ён адліты. Год яму ці мала.
Шмат разоў яго у рукі браў,
Над сталом сьхіліўшыся, Купала.

Разразаў пяшчотна "Кабзара",
Вершы Гётэ, томікі Лангфэло . . .
За вакном крывавая зара
Над зямлёй спалоханай зырэла.

Здрыгануўся. Сьмерць у тыя дні
І касой махала, і сякерай.
Але нож ня можам мы вініць:
Ён ня быў і сьветкам харакіры.

Зазьвінеў і змоўкнуў на стале.
Шуганулі шэрыя шынэлі . . .
Як паэт скрываўлены самлеў,
Серабра усхліпы патускнелі.

З тэй пары лагодная рука
Яго доўга, доўга не кранала.
На ліхую долю наракаў,
Над сталом сьхіліўшыся, Купала.

Серабро сьвяцілася зырчэй,
Як, бывала, моладзь завітае
І віно ў кілішках пацячэ . . .
О, бурштыну песьня залатая!

Толькі ў тую чэрвеньскую ноч,
Як пярун быў джвагнуў перад раньнем
І Купала выбіраўся ўпроч, —
Ня прыйшоў ніхто на разьвітаньне.

Кінуў дом паэт і серабро
І пайшоў ад сьмерці ў рукі сьмерці.
Толькі нож мо й бачыў, як дабро
Узьнялося ў неба чорным сьмерчам.

Шмат чаго ён бачыў. Не прасем —
Ні аб чым ня здрадзіць да сканаНЬня;
Таямніцы ў неведзь панясе
У сваім сярэбраным маўчаньні.

1953

## ТБЦ

Сьцены белыя.
Сёстры у белым.
І за вокнамі сьнежная бель.
Белы, белы
глядзіць нясьмела
На шпітальную пасьцель.
— Як-жа так?
Няўжо я хворы?
Пульс намацвае на руцэ.
Дзе ты, страшны,
сьмяротны вораг —
ТБЦ?
— Во, бягуць па жылах
бацылы . . .
Сэрца, утаймуйся,
ня дрыжы.
Малады не пайду ў магілу.
Жыць!
Гэй,
ня стой ты
у чорнай вуалі,
Не чакай,
я ня хутка памру!
Мяне цягнуць
марозныя далі
Тысячамі рук.
Там хачу
пад завеяў гойсы
Звонкай песьняй
зьвінець.

Забяры сваю гострую косу
Ад горла майго,
смерць!

*
* *

Воч праменьні
гаючым бальзамам
заіскрыліся.
— Сястра!
На зямлі гэтай грэшнай
таксама
Ёсьць і пекла,
і рай.
Рай —
у позірку
каханай дзяўчыны,
Маладой і прыгожай,
як ты,
Рай —
у подыху
кветак шыпшыны,
Ў косах сонца
залатых,
У маршах,
песьнях
грымотаў і
ветру . . .
Не, ня тое.
Пастой, паглядзі . . .
На вяршыню гары Ай-Пэтры
Узышоў чалавек адзін.
Узышоў і упаў.
Так балюча
нам зрабілася усім . . .
Непаўторны,
няўміручы
Багдановіч Максім.
Ты нічога аб ім ня чула,
Ты ня ведаеш, сястра,
Як любіў ён сэрцам чулым

І народ свой, і край.
Багдановіч — гэта дойлід
Неразгаданых слоў.
Ды над ім завязала доля
Перавясла . . .
І яго дагнаў ля магілы,
Ім адзначаны, чарвяк . . .
І яго даканалі бацылы.
І я,
        падуладны
        Коха палцы,
Жыць, пакутаваць прыстаў.
Растапырыла сьмерць пальцы
Перад вобразам Хрыста . . .
І стаіць,
        і глядзіць ён
                нясьмела
На шпітальную пасьцель.
Сьцены белыя.
Сёстры у белым.
І за вокнамі сьнежная бель.

1947-1953

## БАЛЯДА АБ ТАНІ

1

Зь ёю ў жыце ірваў я валошкі.
Тады яна была амаль дзіцё.
На гняздо курапаткі ножкай
Наступіла, ойкнула і наўцёк . . .

— Таня, Таня, гэта табе здалося:
Ты іх не прыдушыла, не! . .
І яна ў нейкім дзяціным перапалосе
Вачамі сінімі глядзела на мяне.

2

Дні ішлі . . . Каласіліся нівы . . .
Дні ішлі . . . Цярушылі сьнягі . . .
Маладосьці бясьпечнай, бурлівай
Узьвіліся й над намі сьцягі.

Акрыляла у росьце надзея.
Дзень вясновы прынёс навіну:
Нечакана, нядумана неяк
Я у Тані ў вачох патануў.

3

Неба сіняе, сіняе,
Даль іскрыста-срэбная.
Радасьць мая йзрэбная
Заінела інеем.

Коні-ветры хуткія,
Як Танечка, пудкія.
— Захініся хусткаю
Перад ночы пусткаю.

Усе дарогі згублены,
Ні агнёў, ні месяца.
Ў кажухох мы дубленых,
Двое ў санях зьмесьцяцца . . .

І пайшлі, і пайшлі вараныя . . .
Пад дугой заліваецца медзь;
Ветры буйныя, ветры начныя
За саньмі пасьпяваюць ледзь-ледзь.

А у Тані салодкія губы,
А ў вачох бірузовая квець . . .
— Мне з табою і цёпла, і люба,
На край сьвету-б вось гэтак ляцець.

4

Гэта было даўно. Пакінуць
Давялося мне бацькаў парог.
Сустракаў я ня мала дзяўчынаў,
Але Таню сустрэць ня мог.

І калі загрымелі гарматы,
Не скажу усяго, што было,
Я дарогай, што зьбілі гранаты,
Ня ішоў, а ляцеў у сяло.

І насустрач, як сон, як сьвітаньне,
Як сасонка, дзяўчына... "Няўжо
Гэта ты?"
— Гэта я . . .

— Таня, Таня! . .
У сотні сонцаў зіяй, прыгажосьць!

5

Дні былі — гарцавалі коньнікі,
Захліпаўся агнём кулямёт.
Па начох партызаны з сасоньніку
Мардаваць выяжджалі народ.

Усьцілалі дарогі мінамі,
А ледзь золак — ідзі, Беларус,
Разьміноўвай калёсаў шынамі!
Што ім, злыдням?
А Немец: "Люс, люс! . ."

6

У Тацьцяны пахілая маці.
А "бэфэль" — міны мусіць шукаць.
Шкода Тані матулю утраціць:
Ў кожнай капсулі сьмерці рука.

І сказала: "Ў вачох маіх радар,
А у сэрцы дзявочым — магнэт . . .
Заўтра выйду ранюсенька-рана
І дарогу зраблю, як паркет.

І пайшла, як са мною калісьці
Ірваць валошкі . . . Дарагое дзіцё,
Хай цябе зямля сырая песьціць,
Дзе паклала ты сваё жыцьцё.

Я ня ведаю, у чым прычына:
Здрадзіў "радар", ці што там было —
Невялічкая чорная міна
Пагасіла надзеяў сьвятло.

— Таня, Таня, гэта табе здалося:
Ты іх не прыдушыла, не! . .
Толькі неба ў нямым перапалосе
Вачыма сінімі глядзела на мяне . . .

## Я ДУШУ НЯВЫГОЙНА ПАРАНІЎ

Жаўрукоў шчабяткія клярнэты
Срэбным россыпам будзяць цішу,
І дзяўчатам агеньчыкі кветак
Уплятае вясна у касу.

Бы выданьніцы, сосны, бярозкі
Углядаюцца ў люстра вазёр;
Абступіў задумённыя вёскі
Гаманкі, непакратаны бор.

У прасторах жытнёвыя хвалі
Б'юць у грудзі сінявых лясоў;
Вабяць, клічуць блакітныя далі
Незямною бруёй ґаласоў.

Вечары, буйнаросыя раньні! . .
Дзе такія цудоўныя ёсьць?
Я душу нявыгойна параніў
Аб тваю, Беларусь, прыгажосьць.

15. V. 1958

## БЕЛАРУСЬ Б'Е Ў СЭРЦЫ . . .

Шмат мы зьмералі крокамі даляў,
Не адзін мілы вобраз пагас;
І жывых, няжывых пакідалі,
Але край родны з намі, у нас.

Ён гамоніць, галосіць, трызвоніць
Цяжкім стогнам разьбітых званоў,
Гострым мечам нястрымнай Пагоні,
Гучнай славай палеглых сыноў.

Ён грукоча, шуміць і шчабеча
Буйнай хваляю Нёмну-ракі,
Разгалосам птушынага веча,
Ціхім шэптам чароту, ракіт . . .

Ад зямлі непачатага краю,
Да няведамых тых берагоў
Беларусь б'е у сэрцы, гукае
Лязгаценьнем чужых ланцугоў.

27. V. 1958

* * *

Хтось прарочыў, а кон перайначыў,
Ня збылося і збудзецца ці
Гэтак вобмігам, спраўца гарачы?

Рубікон мо й ня нам перайсьці —
На твае, на мае спадзяваньні
Ветры вэта наклалі ў трысьці.

За гарамі ружовыя раньні,
А навобмацак — дзіды жыцьця.
Сэрца нехаця хто не параніць?

Строгай рытмікай кволасьць зацяў,
Пад замок, зашыфраваны, — крозы.
Весялосьці расхрыстваю сьцяг —

На сьцягу — воя цёплыя сьлёзы.

17. VIII. 1956

* * *

Дзень замкнуў залатую браму
І ключы захаваў у хмарах;
У суцішна-трывожную гаму
Улучаюцца сэрца ўдары.

Нявідомыя граюць музыкі
Няпісаныя псальмы прэлюдый.
Падымаецца месяц вялікі,
Спаць кладуцца малыя людзі.

Гэтак проста ўсё і складана,
Даўніну пазнаём мы па скрыптах,
Ды стаяць, ня плывуць ў акіяны
Чаўны ў пірамідах Егіпту . . .

1954

## СМАГА

Расою буйнай сьпёкі смагу
Ня ўтоляць пальмы у пустэльні.

Спадзеўны гімн, глушы развагу,
Настальгіі агонь пякельны!

Пустэльня што? Я ня пустэльнік,
Ня сьніць мне сны ў цянётах пальмаў.
Мне-б там, дзе стромы звоніць ельнік,
Дзе ў дуб стагодні пярун пальнуў,

Сачыць разгульле навальніцы,
Шаптаць малітву у затульлі . . .
Забудзь. Глядзі на камяніцы,
Бадзяйся вывіхамі вуліц,

Улевай соды ўтольвай смагу,
Што тыя пальмы у пустэльні.
Спадзеўны гімн, глушы развагу,
Настальгіі агонь пякельны!

1957

## МАЎКЛІНЯ

Баюся ў моўкны мой пакой заходзіць,
Хтось скажа — трус . . . А я прайшоў агні.
І супакой знаходзіў у прыгодзе,
Чакаў, бы вязень волі, маўкліні.

Тады, як неба на зямлю йшло ў наступ,
Хрысьцілі высь пражэктараў нажы,
Я прабіраўся, што вужака, пластам
У тыл варожы . . . Вось тады я жыў.

Тады затоеным я жыў дыханьнем
І прагна піў маўклівасьць зораў, ніў.
Ды перажыў раз маўкліню кананьня . . .
Маўклівіць ноч. Баюся маўкліні.

21. V. 1955

*
* *

Шчэ ня хутка крылом залапоча
На усходзе далёкім жарптушка,
І мяне, паланёнага ночы,
Сон ня кіне камечыць і гушкаць.

Маладзік, бы палойка банану,
Зачапіўся за воблакаў глыбу,
І лятуць з вышыні акіяну
Зоры сінія, б'юцца аб шыбы.

Я ня чую... Лязгочуць шасьцерні,
І машыны, бы коні ў спудзе...
Памыліўся ты, мудры Капэрнік:
Не зямля, гэта-ж кружацца людзі...

## НЕ ЎЦЯЧЫ

Ў хвіліну вольную пасьпешна йду
Ў прасьцяг шырокі, дзе кьяты і травы;
Забыцца хочацца пра дзеі, справы,
Ўцячы, схавацца ад трывожных дум.

Чмялі і пчолы карагод вядуць
З кьятамі шэпчуцца таемна травы.
Якія ў іх, жывых, бяздушных, справы?
Куды схавацца ад трывожных дум?

У места шумнае пасьпешна йду.
Асфальт ды камень... Дзе кьяты і травы?
Хвалююць іншыя тубыльцаў справы.
Не, не ўцячы мне ад трывожных дум.

1957



Я ішоў па краі прадоньня,
Я ступаў на збутлелыя скалы;
Здані з радасьці білі ў далоні,
Злыдзень зубы нячыстыя скаліў.

Не баяўся я сьмерці, а неяк
Затрымаўся ля самай магілы...
Над прадоньнем, мярлогаю зьмея,
Матылёк праляцеў белакрылы.

## СОН

Такое часам страшнае прысьніцца:
Нясуць труну нябожчыкі маю,
І сам сябе суправаджаю быццам;
Пяю і плачу, плачу і пяю.

Грымнуў пярун, і палыхцяць пажары.
Стаю адзін руйновішчаў жаміж,
А нада мною зь сіне-чорнай хмары
То блісьне меч, то зазіяе крыж.

28. III. 1955



Бы мурашка, не па росту падымаю цяжар,
Зьгінаюся, нясу, глытаю пот гарачы;
Зьняможаны, паглядаю ў неба, можа скажа:
"Апошняя ступень, адпачні, бядача! . ."

У небе маўкліня. Цяжка.
Паўзі, чалавек-мурашка!

1956

## РАНДО

Веру: смагу ўталю бруёй Случы,
Нарву лялеяў, кіяшоў, аеру;
Мяне уцягне з галавою далячынь, веру.

Калісьці там, на Поўначы, падлеглы зьверу,
Цынготна-хворы, я ледзь ногі валачыў,
Ды выжыў, бо ня траціў у збавеньне веру.

Цяпер — бадзяжныя шляхі. Ня ў нас ключы
Ад брамаў княжых. Жабраком няма даверу,
Але ўскросьне Збаўца, павядзе на чын, веру.

17. III. 1956



Міхась Кавыль — шахцёр. Бэльгія, 1947 г.




25-га Сакавіка — перад гарадзкою Упраўаю Саўт Рывэру, 1987 г.

## ПРАШУ НЯ ШМАТ

Прашу ня шмат — кунегі, ласкі,
Спагадных слоў і цяплыні.
Жыцьцё, я ведаю, ня казка,
І людзі — згорбленыя пні,

Тугой пакрытыя карою,
Сьвідруе шашаль іх душу.
Цябе хрысьцілі пад зарою,
Пад ветру воплескі і шум.

З тваіх грудзей ліліся песьні,
Віла вянок ты маіх сноў . . .
Чаму ружовы ранак весьні
Ня усьміхнецца нам ізноў?

Няўжо блакіт засьвідзеў казкі?
О, людзі, згорбленыя пні!
Прашу ня шмат — кунегі, ласкі,
Спагадных слоў і цяплыні.

1957

## НАД ГУДЗОНАМ

Імпэрскі за хмарамі дом
Згубіў залацістую піку . . .
З імпэтам юнацкіх гадоў
Заходжу ў горад вялікі.

У цёмнай Гудзона вадзе
Масты абмываюць калені.
Канае ўтомлены дзень,
На шыльдах забыўшы праменьні.

Павісьлі на вежах вятры,
Ня зьлезуць у вуліц цясьніны.
Прастораў зялёных парыў
Я ў Парку Цэнтральным пакінуў.

Гляджу на вітрыны, у іх
Паўвуліцы, бы на экране.
На грудзях зламаных маіх
Суценяў прываблівых танец.

Успыхваюць, гаснуць агні,
Мільгаюць вачыма машыны . . .
І Шэрман на срэбным кані,
І постаць крылатай жанчыны.

Іду і іду, як у сьне.
З вышыняў зрываюцца гмахі
І з гулам ляцяць на мяне
Ды ў зямлю ўлазяць з размаху.

Ня быў тут мітычны Буньян
І Біл са сваімі сябрамі,
А хто затрымаў акіян
І горы ўздыбіў рукамі?

Граніт і зялеза наўкол,
Купаюцца людзі ў поце . . .
Хутчэй на прастор, дзе шчыгол
Сонцам пралескі залоціць.

---

Шэрман — амэрыканскі генэрал (1820-1891 гг.), помнік якому стаіць у Нью Ёрку. На гэтым-жа помніку — «крылатая жанчына» — багіня перамогі.

Поль Буньян і Пэкас Біл — гэроі амэрыканскіх легендаў.

Залаты шчыгол (Goldfinch) і пралескі (Violets) — эмблема штату Нью Джэрзы.

*
* *

І мяне у шчасьця кнігу
Прамінуў зацеміць лёс.
Раскалола долі крыгу
Сіла зьверхняя нябёс.

І нясуць аськепкі хвалі
Праз прадоньне у гарэм . . .
Ў процьме злыдні рагаталі
Над катлом, дзе я гарэў . . .

Дзякуй, слаўны Амэрыга!
На зямлі тваёй ускрос.

Не забудзься ты у кнігу
І мяне зацеміць, лёс!

1953

## У СЬВЯТЫНІ

У Нэвадзе дыміцца трава,
Лёд кіпіць у паўночнай стыні...
Дзе дрыготнае цела схаваць,
Дзе душу адагрэць? У сьвятыні.

Славіць Бога суладны хор...
Я прыпомніў далёкія сіні,
Раскулачваньне, арышты, мор
Ды разгул басаты у сьвятыні.

Прападзі ты, разбойны род!
Дзякуй Богу за кут на чужыне.
Выдавалі нас гіцлям на звод.
Ратаваліся мы у сьвятыні...

"Знойдзем вас пад зямлёю!" — крычаць.
Кроў у сэрцы часамі стыне.
Крыжа злыдзень баіцца. Мяча
Не падыме нясьмелы. А ў сіні

Сьвішча "спутнік"... Трывога, адчай.
Сходзіць сьвет пяруновым клінам...
Дзе Адама нашчадкам спынак?
— У імя Айца і Сына!..

1957



Шукачы блакітных пэрлаў
На нязьведаных глыбінях...
Караблёў разбойных жэрлы
Ноччу чорнай іх ня спыняць.

Дзе снуюцца васьміногі,
Там, дзе рыфы ды каралі,
Напярэймы да зьнямогі
Няутоймныя сігалі.

Напіваліся зь няўдачы,
Пахмяляліся з знаходкі;
Ім пяялі "Кукарачу"
Чарнавокія какоткі . . .

За кармою бурапена . . .
Курс — да стрыму у сакрэце.
Заўтра з пэрлаў — чад тавэрны . . .
О, прыгодаў, мора дзеці!

## КРЫТЫКУ

Словы вершу, што глыбы граніту,
У нямым спачываюць бяздоньні.
Не падняць іх агнём дынаміту,
Калі ў сэрцы зара не зазвоніць.

Вершы, вершы, паэта малітвы
На жыцьця нясуцешнай аблоні!
Вы як сьлёзы, што воін уроніць
Пасьля цяжкай спраможнае бітвы.

У пустэльні сьпякотнай крыніца.
Перад тым, як бальзаму напіцца,
Меч хавае разбойнік у ножны.

Толькі ты, самасьвечаны крытык,
Не па сану імсьцівы, сярдзіты,
Хрысьціш лоб, блудасловіш бязбожна.

1955

## МУЗЕ

Цябе ніколі я ня клікаў,
Сама ты зьнекуль нечакана
Ў хвіліны ўзьнёсласьці вялікай
Мне несла роздыхі Баяна.

Рукою сноў ускалыханы,
Паперу браў, пяро у рукі;
З крыві расхлюпанае раны
Бруілі болю перагукі.

Кунегай сэрца песьціў мала,
Ня ў ногу рытмы кавылялі,
Стыхіі пеніліся хвалі . . .
Ты мне ні слова не казала.

Цябе ніколі я ня клікаў,
Нат для сябе неспадзявана
Прашу — суворай і вялікай
Прыдзі ў сугучнасьці чаканай!

1957

## ТРЫЯЛЕТЫ

1

Я падслухаў цябе ля крыніцы,
Улюбенец багінь трыялет.
Прыгажосьці тваёй таямніцы
У сінявым трызвоне зарніцы,
Што у срэбныя хвалі глядзіцца
Там, дзе сумны сьхіліўся паэт.
Я падслухаў цябе ля крыніцы,
Улюбенец багінь трыялет.

2

Апошні раз даю зарок
Урэзаць песьні сумнай крыльле.
Яна, змагарнасьці парок,
Зьбівае з рытму войны крок:
Аб ёй сказаў якісь прарок:
Яе узвышша — замагільле.
Апошні раз даю зарок
Урэзаць песьні сумнай крыльле.

3

«Ня было і няма весялосьці . . .»
Ул. Дудзіцкі

“Ня было і няма . . . ” І ня трэба.
Весялосьцю ня купіш тугі.
На абрусе блакітнага неба
Ёсьць акраец няспытаны хлеба,
Найвялікшая сэрца патрэба

На аблоні, дзе вецер тугі . . .
Ня было і няма . . . І ня трэба.
Весялосьцю ня купіш тугі.

Жнівень 1956

## ВІЛЯНЭЛЬ

З табою быў я справядлівы.
Прайшоў па сэрцы дзідай час,
Цяпер я грэшны, нешчасьлівы.

Ці раз я чуў твой сьмех глумлівы
І дакараў сябе ці раз.
З табою быў я справядлівы.

Мяне вялі душы прылівы,
Сьвятых надзей агонь ня гас.
Цяпер я грэшны, нешчасьлівы.

Пад'юджваў юны дух гульлівы,
Ў распусты багне часта граз.
З табою быў я справядлівы.

У сьне лавіў твой цень трымсьлівы,
Насіў партрэт твой на паказ.
Цяпер я грэшны, нешчасьлівы.

Паблытаў сьцежкі век імклівы,
Каханьня слодыч — не для нас.
З табою быў я справядлівы,

Цяпер я грэшны, нешчасьлівы.

1957

## ПРАБАЧЭНЬНЕ

Прабач, даруй! Балючых слоў
Не паўтару. Ласкавым словам
Цябе, князёўна маіх сноў,
Я называцьму. У казцы новай
Мы пойдзем сьцежкай васільковай.

У сад квяцісты таямніц
Ніхто, клянуся, не загляне,

І чысьцінёй сьвятых крыніц
У чарах месячнага зьзяньня
Бруіцьме нашае каханьне.



Варожыць ноч, смуглявая цыганка,
На трэфах зор сівых вякоў спакон.
Ня сьпіцца мне. Блакітная фіранка
Казыча скроні. Звонкамі вакон
Глядзяць дамы трывожна, таямніча,
Палошча вецер ночы чорны шаль;
Мільгае ў небе срэбра і крышталь,
Мільгнеш і ты у вечнасьць зоркай-зьнічам.

1959

## ДЫХАНЬНЕ

На зямлі я ня тубылец — часовы госьць,
Усхліп зары мяне кранае і хвалюе;
Няпэўным крокам адыходзіць маладосьць,
Што трэба ганіць, я ўзношу і хвалю.

А зоры падаюць, згараюць караблі,
Штурмуюць высі няутоймныя зямляне,
Ды чую голас непадатнае зямлі
І акіяну несьмяротнае дыханьне.

## МЭТА

Гараць агні. Зацьміла сонца згага,
Губляецца ў тумане небасхіл,
А мы ідзём, трымаем раўнавагу,
Ды падаюць зьнямоглыя бязь сіл.

А мы ідзём, імпэтам гоім раны,
Утолім спрагу горкую расой.
О, цудаў сьвет! О, край укрыжаваны!
Хто вас спавіў пакутай і красой?

Далёкі шлях, а мэта бліжай, бліжай,
Гараць агні, знаёмыя агні . . .
Няхай маланка нашы сьлёзы ніжа
І зорамі рассыпле ў вышыні.

## СЛУЦКІМ ГЭРОЯМ

Не адзін яшчэ лістапад
Адшуміць у нябыт жоўтым лістам,
Будуць вёсны наведваць сад
З салаўём, шчабяткім, галасістым.

Над магіламі тых, што ішлі
Ў бой няроўны, з думай аб волі,
Навявацьмуць сон кавылі,
Ды вятры ня умоўкнуць скуголіць.

Прыйдзе хтось, курганы ўзарэ,
Каб рассыпаць увесну зярняты,
Спатыкнецца сашнік на "ўрэз",
На аськепках іржавых гранаты.

Скліча сход гаспадар зямлі.
Там, дзе з воямі змоўкла і зброя,
Шугане увысь абэліск
З двума словамі: "Слуцкім Гэроям".

## НЯ СТЫГНЕ ВОЙНАЯ АДВАГА

Уладзімеру ПЕЛЯСУ

Ня стыгне войная адвага,
Паходаў дальніх сьняцца сны;
Жыцьця няўтоленая смага
Прыгодаў гойдае чаўны.

Вятры сустрэчныя скуголяць,
Грымотны блізіцца уздых . . .
Ці шторму буйная сваволя
Спраможа поступ маладых?

Ад сьмелых рызыкі, натугі
Скрыгочуць крыгі ляднікоў . . .
Крывёй абмытыя ратугі
Пад ногі вымасьцім вякоў.

Паходні жужлай не сатлелі,
Наш гарт змагарны не асьмяг;
Шрапнэльлю шытыя шынэлі
Ня кінем з ганьбай у кустах.

Мы ня шукаем Тропік Рака —
На штурм уснадзім караблі,
І кінем зноў вандроўны якар
У бухце Сонечнай Зямлі.

## ПЕРШАЯ РАНА

1

Слуцак. Станцыя. Цягнік.
На пэроне людзі.
Моўкнасьць гораду і ніў
сьвіст гудка успудзіў.

Кажушок на галаву
ад ліхтарні вока.
У мора чорнае плыву
ад зямлі далёка.

— Гу-гу-гу! . . Бягу, бягу! . .
Рэхча кабыліца.
Разагнуў цягнік дугу
з крыкам у сталіцы.

2

Іду па хаднікох. Бяжыць
дзяўчына. Пахне цьветам.
— Прабач, скажы: агульнажытак
тэхнікуму дзе тут?

— Вунь, там, Эльвод . . . Налева дом . . .
І вочы апусьціла.
— А лепш цябе я давяду.
І давяла. І міла

на ростань ціха па плячу
рукою, як хусьцінкай.
Агеньчык бліснуў у ваччу
блакітнай павуцінкай.

---

Эльвод — назоў электрастанцыі ў Менску.

3

На заняткі хадзіў штадня.
Прагуляць — найвялікшы грэх.
Не сабакаў прыехаў ганяць,
выстаўляць сябе на сьмех.

Выскалякі ўсюды ёсьць.
Асьмяюць, не заўважыш як.
Нежаданы ты станеш госьць,
брату роднаму не сваяк.

І ў насьценнай газэце — гэрой.
І на чорную дошку — красуй.
І студэнты, пчаліны рой,
не схаваюць пагарду, сум.

4

У Нямігу глянуць зоры,
усьміхнуцца сьцісла,
і лятуць, лятуць праз горад
паглядзецца ў Сьвіслач.

Паглядзяцца, вокам сінім
навакола кінуць
і заўважаць пад вярбінай
хлопца і дзяўчыну.

Каб ня бачыць іх правінаў,
стрымгалоў у воду.
А я йду шчасьлівы зь Нінай
ў домік ля Эльводу.

5

За прыгожай, маладою
злыя сочаць вочы.
Шчасьце спарана зь бядою
неразлучна крочаць.

Сьлёзы смачныя ад сьмеху,
горкія ад гора.
Раз ішла мая уцеха
не са мной за горад.

Хай пярун-бы мяне ўдарыў,
галаву расквасіў:

вёў пад руку маю мару
камсамолец Вася...

6

Перакрэсьліў загалоўкі
новае вязанкі,
у трамвай — на Камароўку,
ў лес каля Сьляпянкі.

Там зялёныя узьвеі
б'юць паклон Радзіме;
там чакаюць два Сяргеі,
адзін Уладзімер...

Там суцішнае ёсьць месца
каля стромкай хвоі.
Слухаць будзе толькі месяц,
як ракой жывою

рыфмаў стройныя узьвівы
зазьвіняць па лесе.
Павядзе нас па абрывах
маладая песьня.

А нязломная шыпшына
воплескамі лісьцяў
супакоіць — не загінем,
выйдзем, знойдзем выйсьце.

7

У тую ноч не адзін я прыйшоў.
Мо на шчасьце, а мо на бяду
п прывёў з сабою сяброў,
недазволеных дум чараду.

Не давалі заснуць мне сябры,
ўсё пыталі, чаму Беларусь
пяцікутнаю зоркай гарыць,
не запаліць сваю зару.

Адказаць я ня мог ім тады
і за мною хадзілі яны.
Няўтомных сяброў сьляды
страціў я на дарогах вайны.

8

Трыццаць трэйці галодны год.
Трыста грамаў хлеба — паёк.
Падцягнула і мне жывот.
Торбы накрыж і ў рукі кiёк?

Дзе падзеліся ўзьнёсласьць, імпэт?
Растапырыўшы ногі, як рак,
ледзь ідзе да харчоўні студэнт,
ня студэнт — запытальны знак.

9

Не прасіў дапамогі з дому,
ведаў — сёстры і маці ў бядзе.
Самі чэрствым давяцца комам,
рады шчаўніку ды лебядзе.

Сашчаперылі ў роспачы рукі
і ня ведаюць, жыць ці ня жыць;
ўпотай ловяць таемныя гукі
аб ратунку з заходняй мяжы.

10

Я ня бачыўся доўга зь Нінай.
Да мяне завітала яна...
Працягнула галінку шыпшыны
і лагодна сказала: "На!

Каля сэрца насі заўсёды,
гэта твой і мэдалік і крыж.
Ты радзіўся ў час непагоды,
непагоды баішся ці-ж?

Не давай заскарузець слову.
Слова праўды — ружанец і меч.
Словам можна здымаць галовы,
але сэрцы ты ім не калеч.

Шмат цябе навучаць ня стану.
Прад табою шляхі і шляхі.
Беларусі крываву рану
не загоіць прыблуда ліхі".

І пайшла, як прыйшла, ня ў дзьверы,
не праз комін, дзе чад і дым...

Новым вершам на белай паперы,
пачарнелі Музы сьляды.

11

З тэй пары сінязорныя вочы
павялі мяне цяжкай дарогай.
З камсамольскаю зграяю крочыць
я ня мог, не патрапіў у ногу.

Надрываліся выпаўзьні — левай!
Я наўмысна, наўсуперак — правай.
У шэрым гмаху высочныя гневу
завялі на мяне справу...

12

Чалавек чалавеку зьвер.
Чалавек чалавеку брат.
Якой хочаш меркай зьмер,
але гад застаецца гад.

Прайдзісьветы ўсюды ёсьць —
беларускі народ не сьвяты —
і Цыган Беларусу госьць...
Ці ня шмат у нас дабраты?

13

Зь ім я жыў пад аднэю стольлю.
Мы дзяліліся хлебам і сольлю.

Нас вязала агульная мэта:
як і я, ён цаляў у паэты,

надзяваў ён кашулю маю
і пяяў — "Я ля раю стаю..."

Я напяльваў ягоны пінжак,
падпяваў: "Падарэце пятак!"

Парным летам, суровай зімой
быў ён лепшы прыяцель мой.

Эх, таварыш, таварыш Васіль,
ты запазухай камень насіў.

14

Я ні слова пры спатканьні,
а яна хоць-бы паўслова.

Неяк сумна ў вочы глянем,
ды апусьцяцца галовы.

Так і пойдзем, як чужыя,
не знаёмыя ніколі.
Толькі сэрца ціха ные,
толькі ў сэрца штосьці коле.

І ня сьпіцца: думы, мары.
Што цяпер ты робіш, дзе ты?
Сэрца слухаю удары,
успамінамі сагрэты.

15

А сябра мой, прыяцель першы —
такім цяпер не назаву —
закінуў лекцыі і вершы,
пісаў даносы ў ГПУ.

Даруй яму, Божа, правіны:
кахалі мы адну дзяўчыну.

16

Мы спаткаліся зь ёй нечакана,
маладосьць ня ўмее чакаць,
гэтак толькі моцна закаханых
зводзіць лёгкая лёсу рука.

Да паўночы блукаў я ля дому —
домік Ніны, забыты даўно!
Нібы хтосьці яе павядоміў,
паглядзела Ніна ў вакно.

Доўга мы па Нямізе гулялі,
саграваλі нас ветры, мароз.
Як вастрогу праходзілі каля,
ня стрымала Ніна сьлёз.

Не даходзіў я надта прычыны,
думаў: сьлёзы — прываба жанчыны...
Пры растаньні ізноў залілася
і сказала: "Сьцеражыся — Вася..."

ЭПІЛЁГ

У прасторнай сьветлай залі
граў аркестр. Танцавалі вальс.

Слова мы зь ёй не сказалі,
сэрцы шапталі за нас.

Трубы, іскрыпкі зьвінелі,
вандраваў я не на зямлі...
І прыйшлі яны ў шынэлях,
з ГПУ каты прыйшлі.

Лопнулі мары, як струны,
меч каральны шчасьце расьцяў.
Першы ў жыцьці пацалунак,
першая рана жыцьця...

1955



Міхась Кавыль дома.

## КАНЦОНА

Балюча жаліць думак звонкі рой.
Адну, бы пчолы матку, п кунежу:
Міндоўга замак, пушчу Белавежу
Пабачу і пад Лысаю гарой

Заслухаюся жаўруковаю ігрой
На досьвітку румянкавым і сьвежым;
А вобраз мілы дзіўнаю мярэжай
Запоўніць сны пад ціхаю зарой. . .

Ды вось цыганка мо ўгадае шчасьце?
На стол упала карта чорнай масьці. . .
Ў калюгах сьцежкі на чужой зямлі.

Каля Вагэзаў, Альпаў, над Гудзонам, —
Куды-б шляхі нядолі не вялі,
Яна са мною — усіх паэм канцона.

1959

## САКАВІК

Ужо чуцён гракоў гарлатых крык,
І жураўлі дзесь звоняць ланцугамі,
У шматгалосай а мажорнай гаме
Фальцэтам цягнуць цёплыя вятры.

Няма ўтойму ўзбуджанай крыві,
Кіруюць маршы моладзі нагамі.
І бел-чырвона-белымі сьцягамі
Хвалюецца, шугае Сакавік.

Нязломныя, штагоду за звычаем
Мы дзень вялікі на вясны вузор
Малюем, ўрачыста адзначаем.

Народжаны у бурах, навальніцах,
Ён прыйдзе з завірухай буйных зор
Вачэй блакітам у вякох сьвяціцца.

1959

## ЖЫЦЬЦЁ

Люблю жыцьцё. І радасьць, і туга,
Бы пара крылаў, моцнае з падбітым,
Нясуць на бераг, тайнамі спавіты,
Дзе зор вірлатых вечная шуга.

Вялікі сьвет. Пустэльні і тайга
Пяску і лёду гурбамі пакрыты.
Для сэрца там ня знойдзеш акавіты,
А й там я сьмерці жах перамагаў.

Жыцьцё, жыцьцё — неразгаданы соньнік!
Ляціць зь мячом і крыжам слаўны коньнік
Паміж агнёў па войнікаў касьцёх. . .

Ляці, ляці! Ня бойся бліскавіцы!
Дзе тне пярун, там шчасьце забруіцца;
Дзе ляжа сьмерць, паўстане там жыцьцё.

1955



Вясну пазносілі пчолы ў вульлі,
Замуравалі духмяную ў соты.
Праменьняў струны расьцяла, бы ноты,
Гарачае сонца, каб век гулі.

Ля хмараў восень вязуць жураўлі
З пад клёну, сосен — пад пальмаў цянёты.
Прымчаўся з паўночнай мёрзлай Галготы
Прастуджаны вецер, — стогне ў гальлі.

Сумуюць сарокі па лісьцеў шасьце,
Шукаюць у сьмецьці зярняткі шчасьця.
Палозьзем сьвішча на ўхабах зіма.

Прыгожы сон на досьвітку сьніцца,
І кратае песьня вусны сама:
Сьлязу праліла на сьнег крыніца.

1959

## БОЛЬ

Нявыплаканы спражыць сэрца боль:
Ці хутка мы спаткаемся з Табою?
Стаяць палкі, гатовыя да бою —
Паходу мапу папсавала моль.

З вачэй забрала адпіхнуў кароль,
Падняў "шампань" за маршалаў разбою. . .
Пажоўклі мы, чакаючы прыбою,
Праелі цырклі, прапілі бусоль.

Атрутны чад паўзе зь "вяршынь" Жэнэвы:
Пашлі ў манашкі сёстры Жэнэўевы,
Дэ-Кастры зоры лічыць уначы. . .

Дзе вы, зямлі збавіцелі, прарокі?
Вядзіце войска мужнае на чын!
Правідцаў прасьвятлеце недалёкіх!

1955



Чырвоны кат на згубны эшафот
З благаслаўленьня здрадных янычараў,
Пад разгалос разгублены фанфараў
Падвёў пад нож змагарны мой народ.

Заплюшчыў вочы ў споласе Заход.
З сухотна-жоўтай маскаю на твары
Стаяць пакутнікі, чакаюць ка́ры. . .
За сіні Майн сягае той чарод.

Маўчаць "багі". Шайтана гімн спакусны.
Анёлы ведзьму цмокаюць у вусны,
Гандлюе словам сьпешчаны амур.

Ды той, хто зьведаў холад замагільля,
Сьмяротнік змардаваны, б'е у мур,
Арлінае аб краты ломіць крыльле.

1955

## КАМЭТА

На сінь зары, на белыя сьнягі
Паклаў дрыготы прывід атамовы.
А мы, бы тыя згоньнікі Яговы,
Мацуем шчоглы, каб узьвіць сьцягі.

Вяртае вецер на свае кругі,
Дракон із процьмы лезе шматгаловы.
Няўжо сьмяротны роздых пяруновы
Зруйнуе нашых мрояў берагі?

Паверыць лёгка, хоць і цяжка гэта.
Хвастом сьпякотным шастае камэта,
Крамсае хмары агнявы нарог. . .

Мінуй, грукоцьце, майго дому стрэху
Ды на прадоньня упадзі парог —
Пазбаў пакутнікаў сьлёз, а злыдняў сьмеху!

1955

## ЧАД

Бацькоўскі дом пакінуў я даўно.
Бяз жалю кон шляхі жарствою сьцеле.
Зямля ўздыхае маладосьці хмелем,
І чад вясьняны блудзіць пад вакном.

Ды ня шуміць брусьнелае віно.
Стаіць на століку бальзаму келіх.
Скрыпяць уснадкі карабля на мелі,
А крылы просяцца у неба зноў.

Шляхоў нясходжаных на сьвеце шмат,
І прыгажуняў маладых, дзяўчат,
Дзесь вабіць песьня ў ціхія сады.

Духмяны цьвет дыміць у сіняй высі.
Дзе вы, маé чубатыя гады?
Блакітны край, вандраўніку прысьніся!

1959

* * *

Душой шырокай задзіўляў я сьвет
Скупы, зайздросны, на чужое падкі.
Манюкі шчодра пляскалі мне ў ладкі:
— Браток, ды ты-ж — найлепшы наш паэт!

Ганьнёй, сасмаглай, бы чмялі на цьвет,
Прапойцы цёмныя, жыцьця адпадкі,
За мной сьцігалі, адтапталі пяткі,
Цягнулі цень мой, п'яны, ў кабарэт.

О, здрадны кон! Супольнікі вясельля
Мяне ці ўспомняць за сталом пахмельля?
Праносіць Бахус міма сіні нос.

Хвала табе, мой апякун цьвярозы!
Благаслаўлю той дзень, што мне прынёс
Спакойны сон і прабуджэньня крозы!

13. III. 1956

* * *

Усе, як людзі: сьпяць, нахлыне змрок,
Істужкай сноў ружовых вяжуць з сьветам
Нялёгкай прошласьці і прышласьці прыкметы,
А ў ціхаце зашарахціць ледзь крок

Цяжкога дня — ў бурлівасьці заток
Ідуць лавіць запал, дарунак лета,
І дыхаць водырам духмяных кветак,
Плясьці надзей вузорчаты вянок.

Ды толькі ты, бядак — палонны ночы.
У тваім сэрцы шасьцярні грукочуць,
Бяссоньне нэрвы круціць, бы той дрот.

Адна уцеха — дзіўныя прывіды:
Уда́ву чорнаму шпурляе ў рот
На золку сонца агнявыя дзіды. . .

24. VII. 1959

*
* *

Аднойчы бачыў у трывожным сьне:
Агнём пылае ўся зямная куля,
Ідзе праз бураў буйнае разгульле
Мая душа у госьці да мяне;

Галосіць цень, расьпяты на сьцяне,
І сьвечку ставіць у нагах матуля;
Вылазіць чорны дамавік з атульля,
Нясе мой меч, забыты на вайне.

О, сьвет уяў чульлівага паэта!
Ляжыць на лаве ў доме мерцьвякоў
Майго жыцьця, загубленага, мэта.

А я, Тамаш, зьнявераю разьбіты,
Гукаю дух адгойсаных вякоў,
Напіцца прагну вечнай акавіты.

1956

*
* *

Ўзялі мой дом у пікі чараты.
І дзень, і ноч шуміць, шасьціць аблога
Хвалюе сэрца нейкая трывога,
Нібы сапраўды пад прыцэлам ты.

Чырвоных ружаў палыхцяць кусты,
Як недзе, там. . . шыпшына ля дарогі.
І бачу я сябе яшчэ малога:
Іду ў суніцы ельнікам густым. . .

Ды вось прывозіць жонка з школы сына.
Галё! — крычыць ён праз вакно машыны.
Ты што дасі? І сёньня маю Star *

Прачнуўся вецер, што драмаў ад ранку,
Дыхнуў гарачым чэрвенем у твар
І сьвіснуў з подскакам па бутлым ганку.

---

*) Star — (зорка) найлепшая адзнака ў падрыхтоўчай клясе амэрыканскае школы.

* * *

Гніём, бы з таго дубу целяшы,
Сто год назад заваленыя ў воду.
Ускросіць волю ўтрацілі нагоду.
Замоўк Прарок у ледзяной глушы.

Дасочны праўды, ў кнігу запішы
Крывавы шлях пакутнага народу
Ды наш разлад і братнюю нязгоду
На новым бела-крыўным кірмашы!

Каторы год цябе, мой Край забраны,
Нагамі топчуць п'яныя Іваны?
Радзеюць шыхты войных змагароў.

О, Беларусь! Зруйнованыя вежы...
Засьвідзела на папялішчы кроў,
А збаўцу водзяць шайтаны, мярэжы...

1956

## ВУГОРЦАМ

Плаціць пакорай і цярпеньнем дань?
Валей на штых расхрыстаныя грудзі.
Агнём плявалі ў душу вам "орудии",
А сэрцу чулася — мадзяр, паўстань!

Ў дрыготкі кінула варожы стан,
А заклікалы згорбіліся ў спудзе...
І захлынуўся ў бесталанным злудзе
Сьвяты агонь крывёй абмытых ран.

Аддаўшы доўг, вы захавалі рэшту:
Нянавісьць да падступнае Масквы,
Любоў і веру ў вечнасьць Будапэшту.

Калюжны шлях прарочаць воям трэфы.
Ды ня сьхіляйце мужнай галавы,
Нашчадкі слаўных Кошута, Пэтэфі!

1957

## МЯРЭЖА

(Карона санэтаў)

1

На стромы шпіль усходжу спакваля.
Апошні крок да краю... З высі гэткай
Гранітны рыцар срэбнай статуэткай
Суцьмяніцца у за́сені гальля.

Тускнее хмараў белая ральля,
І месяц вілы ў рукі... Вечны сьветка.
На дне цясьнінаў — будняў апэрэтка,
Пасьцель асфальту... Кружыцца зямля...

Ды легла мне затхлань у горле комам,
Агнёў далёкіх моўкны перазвон,
Шарэш па скуры, пот халодны, стома: —

Бяруць пад рукі войныя узьвевы...
Яшчэ адзін датрыманы канон.
Утораць сэрцу строгія напевы.

2

Утораць сэрцу строгія напевы...
Мінуйце дом мой, Бахус і Эрот!
Любіў і я заснуць на ўлоньні Евы,
Сачыць дзяўчат у рэчцы праз чарот...

Сьлязой шайтана спражыў горла, рот;
Каўбы шчарнелі з горкае улевы.
Сьлімак бяскроўны прагне падагрэвы,
Што тых прыгодаў прайдзісьветны мот.

Цяпер сябе ушчуную постам шчырым,
Шаленства смазе — лёд бруі у віры,
Заміж віна — бязьвінны вінаград.

Мо й добра, што адкрасавалі ружы,
Вішнёвым сумам раніць просінь сад,
Сьцюдзёны вецер каля брамы кружыць.

3

Сьцюдзёны вецер каля брамы кружыць.
Бадзяга вольны стэпу і бароў

Самлеў у чадным водгульлі муроў,
Ліству увішна шастае у лужы.

Зямля, сьпятрэлая, жадае сьцюжы,
Бы той жабрак у роспачы дароў.
Гарачая у жылах стыгне кроў:
Праходжу шлях сьлізготны і калюжы.

А хтось у сьцены грукае штаночы,
Гукае, суліць, плача і рагоча...
Сьвятло у спальні зыркае гашу.

Цяжэй вярыгаў горыч успамінаў.
Хацеў-бы звадзіць роскашшу душу...
Як рады даць? Ля Нёману пакінуў.

4

Як рады даць? Ля Нёману пакінуў...
— Ды годзе! Сьлёзы ўпалі у цане.
Налі, братуха! Існасьць у віне...
— Але́, паэт... "А слаўную дзяўчыну

Я меў... Бывала, прыйдзе да мяне,
Пасядзем блізка, блізка... За чупрыну
Рукою возьме. Не, кажа, загіну,
Калі з табой штось стане на вайне".

Гадзіньнік выбіў дзьве. Шынкар пузаты,
Лянотна выцадзіў : "Пара́ да хаты!"
Ну, быццам доўбняй ліру аглушыў.

Пад плотам спаў і сон сьніў: на прывале
Паміж паходаў, зморных, у цішы
Пра вочы любых воіны сьпявалі.

5

Пра вочы любых воіны сьпявалі,
І мо таму у схопішчах ліхіх
Хадзілі ўвішней гострыя штыхі,
Гэрояў грудзі краталі мэдалі.

Яны квятамі ўквечвалі шляхі,
Каханыя Алесі, Зосі, Галі...
Ад іх паглядаў пасінелі далі.
Пакутніцы за нечыя грахі.

А вы, што рыбы, млосныя, на пляжы,
Па балях п'яных, похаці ў катажы
Сумуеце, спраквіліце зару!?

Няхай-бы шчэ раз над зямною тваньню, —
Уцяць агонь нянавісьці й каханьня, —
Сьпякотнай пугай паласнуў пярун.

6

Сьпякотнай пугай паласнуў пярун —
Пярэстай хмары трэснулі пастронкі.
Па гонтах град лупцуе, ў перагонкі
Лятуць вятры, вясёлыя, угрунь.

Іграе сонца на мільёнах струн,
Азонам душыць у бары сасонкі.
Ярыла, добры, ў цёплыя пялёнкі
Ахутаў шчэпы маладыя, рунь.

Мурзаты сьнег схаваўся на узьлеску.
Прад сьмерцю сіліцца зьнявечыць ён
Красы пяршуню, сінюю пралеску.

Сівы дзівак! Твой белы прах растане.
Ў зялёным княстве сьні апошні сон:
Кветы вясна кунежыць на кургане.

7

Кветы вясна кунежыць на кургане,
Напэўна, прыйдзе зь цёплых тых краін;
На шыр маўклівых, спаленых раўнін
Сінявым вокам баязьліва гляне.

Клярнэтам, флейтай працюрлыча раньне,
Гаркавы дым падымецца з руін...
У чадзе, шуме бэзу і шыпшын
Апаліць вусны першае каханьне.

Пранёсшы горыч праз усе шыроты,
Сьмяротна ранен сумам адзіноты,
Паэт прыйдзе́ да помніка здаля.

Ён выйме томік з-пад ізрэбнай сьвіты
І прагукае прывідам нязжытым:
— На стромы шпіль усходжу спакваля!..

1957

## ЦЯЖКІЯ ДУМЫ

(Вянок санэтаў)

А. Адамовічу

1

Плывуць наўгад бязь ветразяў чаўны. . .
Гляджу на неба. Сіньню можна ўпіцца.
Шасьціць чарот, шумяць аўсы, пшаніца,
Застылі ў снох блакітных туманы.

Стаялі ў лесе ўлетку цыганы,
І па дварох хадзілі чараўніцы.
На іх пярсьцёнкі зьзялі, завушніцы,
Мой сьвет уяў кунежылі яны.

Гады маленства, сьветлыя заранкі!
Вы па сьлядох мяне вялі падманкі
Ў гамокі бор, лугоў квяцістых шыр.

Жылі анёлы у маёй душы —
Атруты згубнай плюхнулі шайтаны.
За што, Тварэц, я цяжка пакараны?

2

За што, Тварэц, я цяжка пакараны?
Малюся часта грэшнік у цішы.
Па волі слуг крэмлёўскага тырана
За горла песьню сам сваю душыў.

Сумленьне мераць на стальны аршын?
Валей Сібір, Гальгота катаваных!
Сьляпіла вочы зарыва вагранак, —
Уторыў маршу-грукату машын.

Няхай ідзе сьвятое правасудзьдзе!
Зьяўлюся на узвышнае прылюдзьдзе
Паслухаць словы цяжкае віны.

Прыму маўкліва вырак-пакараньне,
Адно скажу сабе у апраўданьне:
Мяне Масквы зьнявечылі сыны.

3

Мяне Масквы зьнявечылі сыны,
Пагналі ў бой на лбе з крывавай зоркай;

Прапахла дымам пораху з махоркай
Шынэль мая за валам земляным.

Вылазіў цень мой, прывід, із труны
Сяброў закопваць пад аховай зоркай;
Сьлязою часта умываўся горкай,
Цягаў з агню для злыдняў каштаны.

Пракляцьце вам, халодныя забойцы!
Вы кроў людзкую дзеліце ўначы
На трупах бязыменных пры папойцы.

Крумчаць над курганамі крумкачы,
І я даўно бацькамі адпяяны,
Пякуць агнём, крывавяць мае раны.

4

Пякуць агнём, крывавяць мае раны,
Зямля ўцякае з-пад разьбітых ног;
Стаю паміж здратаваных дарог,
Іством жывы, душой раскрыжаваны.

Плывуць увішна хмараў караваны.
Ляцеў-бы зь імі, калі-б толькі мог
Туды, дзе лапцем змурзаны парог
Ды хлеб аржаны, чорны а духмяны.

Выгнанца шлях калюжны і цярновы.
— Шукай у храме для душы абновы, —
Даходзяць словы нечай гаманы.

Валей бальзаму хвораму — парада,
Ды дзе знайсьці затрачаную радасьць?
Абрыдзеў гурт нікчэмнасьці, маны.

5

Абрыдзеў гурт нікчэмнасьці, маны.
Чарніць сяброў да выяву жаўтухі
Азызлы жрэц даляраў і сівухі,
Пляце з чужых заломаў каўтуны.

Крычаць, бы над пагостам груганы,
З падмосткаў новых высахлыя зухі;
Растрэсьлі масу на падсілы, рухі,
Грызуцца між сабою за чыны.

А дзесь вясна і салаўёў клярнэты,
Ў садох суцішных водыр п'юць паэты,
Ім дораць музы водбліскі зары.

Бывайце, мёртвых душ правадыры!
Мяне гукаюць вольныя баяны,
Ў грудзёх маіх бушуюць гураганы.

6

Ў грудзёх маіх бушуюць гураганы
Зьнявагі, крыўды, горкае тугі.
Размыла кроў у сэрцы берагі,
Шпурляе тло праз горы, акіяны.

Грыміць зямля. Ідзе патоп другі.
Ў ратунку стругах Ной ды вэтэраны,
А Ён вісіць, забыты, закаваны
Ў чужацкія стальныя ланцугі.

Шчасьлівы кон праклятага Дзяньніцы:
Каторы раз грукоты навальніцы
Мінаюць мур збуцьвелае сьцяны!

О, Валадар! Прабач зьняверы слова!
Бадай і там, калюгаю Ільлёвай,
Гайсае страх на конях вараных.

7

Гайсае страх на конях вараных
Наўсьцяж шляхоў зьбянтэжанага сьвету.
Нашчадкі Гандзі чорную карэту
Вітаюць гойкам, скокам шчакаўным.

І ў Альбіёне лудзяць кубаны,
Парыж шугае шалам кабарэту...
Дзе гонар ваш, суворасьць запавету?
О, прышлы дзень, сумлеўны а сьвяты!

Зьнішчальны ўспруг разбойнага агната
Трымае дыхам пяруновым атам —
Даўно рыдлёўкі гострыць далакоп.

Благаслаўлю пякельны створ Саваны!
Але, чаму ў спалоханы натоўп
Ідзе паэт, ад цяжкіх думаў п'яны!

8

Ідзе паэт, ад цяжкіх думаў п'яны,
Бунтарна-войны злыбедзь сочыць крок.
Зямлі, забранай, мэсія, прарок
Шукае ў бітвах гойнае нірваны.

Прад ім сьвятлее непраглядны змрок,
Яму ў піхво дзяржаўныя тытаны;
Яго гнятуць кароны і сутаны,
Ён сам сабе пакута і дабро.

О, любы Дантэ! У чужой Равеньне
Ты прысуд гвэльфаў сьмерцю перамог,
Каб жыць вякі у сэрцах пакаленьняў.

Узьнёсься дух пад звадным тлом эпох,
І той імкне у бесканцовасьць часу,
Хто мае меч канодніка Парнасу.

9

Хто мае меч канодніка Парнасу,
Гастры аб сэрца, розуму брусок;
Прабуй на мрояў срэбны валасок
Пяро з крыла імпэтнага Пэгаса.

Зь сьвятой гары цікаўнаму Тарасу
Крамсай граніт, аж забруіцца сок,
Каб залаты запалыхаў пясок,
Мільёны тон прамый сырое масы.

Мастак і скульптар, пястуны Юноны,
Рукою спрытнай жнуць красы загоны;
Зырэе скарб нятусклы праз гады.

Ды толькі ён адлітых слоў запалам
Пяпеліць душ іржавае забрала,
Вартуе музаў чыстыя сады.

10

Вартуе музаў чыстыя сады
Падлізных блазнаў зграя. Хто даў права?
Бяздарам сны трывожыць думных слава, —
Гэрояў німб, фартуна маладых.

Яна з балота, невядзі, бяды
На трон вядзе ўрачыста, вялічава,

Каб зноў у багну скошанай атавай
На дзіды кеплік здраднай чарады.

Але сягаюць зораў стрымгаловы,
Адзін упаў — мацуе крыльле новы!
Стрымае што сьмяротнікаў жывых?

І ты, пясьняр, бяз пыхі, разгаласу
Маршуй чаловым шыхтаў баявых,
Пылай агнямі звышнімі да згасу!

11

Пылай агнямі звышнімі да згасу,
Бацькоў хрышчоных лішні ў сьвеце жыд!
Утраціў сілу на зямлі магніт,
Тралюе сьвет бязбожны ў процьму трасу.

Яшчэ адзін крывёй, агнём іспыт —
Мы, трагікі асьвістанага фарсу,
Жыцьцё паклаўшы на ахвярнік Марсу,
Адыйдзем моўкна ў непаўторны міт.

Каму шкада астылага нічога?
А там, дзе вочы адчыняюць сны,
Ськідаюць торбы нэндза і трывога.

Рыпяць мыліцы новае вайны,
Ўпіліся вочы сьмерці ў амбразуры,
Лятуць ганцы грымотныя — віхуры...

12

Лятуць ганцы грымотныя — віхуры...
Аскомла моўкняй скарадзіць душу.
Мы — дробны грош нямога кірмашу,
Вы — чорных дзён тхарыныя натуры.

Антыхрыст служыць вернікам імшу.
Забойцы ў дом, вы ў ногі ім — амуры...
А зьмей ліняе, не мяняе скуры,
Ды пахкасьць, смак адзін у спарышу...

Глухому песьня, а сьляпому зоры:
Крычы, сьвяці — плятуцца, хто куды;
Дабро, удоваль вольнае прасторы...

Адно ў мяне цяпліцца спадзяваньне:
Гукаюць Збаўцу голасна краяне —
Удар, пярун, у стойбішча арды!

13

Удар, пярун, у стойбішча арды!
Ды што Алімп трывожыць страшнай згадкай?
Паміж сягоньня й заўтра крохкай кладкай
Ляглі вар'ятаў хворыя глузды.

Пяройдзе хто крывавыя брады?
Там пушчы гоман, поўны таямніцаў.
А тут? Я сам, загадкавы і ніцы:
Шукаю скарб у рэшаце вады...

Няхай глядзяць на зоры астралёгі,
У прышласьць сочаць зорныя дарогі —
Ключы ў мяне ад вечных таямніц:

Царом зьвяроў — зубасты леў, кіпцюры,
Так лёгка дыхаць посьле навальніц,
Жаданы бераг — пад нагамі буры.

14

Жаданы бераг — пад нагамі буры.
Гартоўку шчоглаў пробуюць вятры.
Мярэжа? Сон? Глухі глыбіняў крык:
Вандроўцу клічуць на спачын лемуры.

Да іх? Куды-ж? Шляхоў ратунку тры:
Адзін на сьмерць... Барэй рагоча хмуры.
Балююць німфы. А па нас — хаўтуры...
Камечыць сэрца скрыгам частым стрым.

Цярэбяць кагаркі лянотна крыльле,
Гамоняць дзесь далёка эскадрыльлі,
А мо на дне затонныя званы...

І сьпіць штурвальны – ўгойдала блуканьне.
Пагас маяк. На ціхім акіяне
Плывуць наўгад бязь ветразяў чаўны.

15

Магістраля

Плывуць наўгад бязь ветразяў чаўны.
За што, Тварэц, я цяжка пакараны?

Мяне Масквы зьнявечылі сыны,
Пякуць агнём, крывавяць мае раны.

Абрыдзеў гурт нікчэмнасьці, маны,
Ў грудзёх маіх бушуюць гураганы.
Гайсае страх на конях вараных,
Ідзе паэт, ад цяжкіх думаў п'яны.

Хто мае меч каноднікa Парнасу,
Вартуе музаў чыстыя сады,
Пылай агнямі зышнімі да згасу!

Лятуць ганцы грымотныя — віхуры...
Удар, пярун, у стойбішча арды!
Жаданы бераг — пад нагамі буры.

22. I. 1956

## ЧОРНЫ ЛЁД

(Вянок санэтаў)

1

Магістраля

Грымотнай лявай рыне чорны лёд.
О, час жаданы у духмяным чадзе!
Маніць пра вернасьць, дакараць у здрадзе.
Пусьціцца-б у вясёлы карагод.

Ды тускне золак рамантычных цнот.
Мы толькі кроплі ў бурным вадаспадзе.
Лавіць віхуры маладой плеядзе,
Спачыць-бы ўрэшце ў моўкнасьці цянёт.

Пярэстай восені пажоўклы сум,
Клясычныя мяцеліц белых скокі —
Паэтаў сьвет, прывабны а шырокі.

Упаду боль ды горыч мне знаёмы,
Аськепак сонца у грудзёх нясу,
Шапчу санэт, ад магістралі сёмы.

2

Грымотнай лявай рыне чорны лёд,
Трашчаць мастоў натужаныя жылы;

Прабуюць сілу роздыхі Ярылы.
Штурмуй, крышы, бурлі вадаварот!

Ружовых вуснаў сьпелых мляўкі мёд,
Спатканьня момант трапяткі і мілы.
А сьлёзы ростані? Імпэту крылы
Імкнуць у новых чараў пераплёт.

Вясна. Пара квітненьня і кунегі.
Гартуе шчасьця, радасьці струмень
Твае гады, лірычных песьняў кнігі.

Бунтуе рунь на сьветлым даляглядзе,
Жарэбчык рэхча, йрвецца на пругмень.
О, час жаданы у духмяным чадзе!

3

О, час жаданы у духмяным чадзе,
Чарэмхі водыр, бэзу буйны хмель!
Калыша ноч пялёсткавую бель,
І ты адна, прысьнёная, у садзе.

Пяюць зарніцы у тваім паглядзе,
Дурманіць вуснаў сакаўная сьпель;
Садзіцца сэрца соладка на мель. . .
Дзе мы, пад дзічкаю хіба прысядзем?

Ляцеце ў даль зь вятрамі, успаміны!
Мяне мінаюць, што той корч, дзяўчыны,
Сабака толькі зьвягае наўздагон.

Паблякла ўсё. Блакітны сон адзаду.
Каму сягоньня выпаў шчасны кон
Маніць пра вернасьць, дакараць за здраду?

4

Маніць пра вернасьць, дакараць за здраду
Ў пяшчоце чыстай — першы запавет.
Юнацтва вабіць, грэе іншы сьвет:
Ім сьніцца матадорная Гранада.

Агні няведамых краёў, плянэт,
Князёўны госкія ў кунежнай звадзе,
Ці коньнік войны ў маршы на парадзе,
Акторка слаўная, пяюн, паэт. . .

Салодкі баль, ды горкае пахмельле.
Жыцьця шарэш, бы кіпцюрамі кот,
Парэжа баразны на кволым целе.

Вярба-ж каткамі срэбранымі звоніць,
І падымае кроў маю гармонік.
Пусьціцца-б у вясёлы карагод?

5

Пусьціцца-б у вясёлы карагод,
Скакаць, лявоніць зь любай да зьнямогі;
Правёўшы з маршам клопаты, трывогі,
Стаяць да першых пеўняў ля варот.

Або пайсьці жытамі у абход
Туды, дзе сьпяць бярозы ля дарогі;
Памыць крынічнаю вадою ногі,
Блукаць, пакуль расплюшчыць вочы ўсход.

Было звычайна, проста і прыгожа:
І выган той з жардзянай агароджай,
Вятрак на ўзгорку, з частаколу плот. . .

Адна пчала да скону смокча слодыч,
Гніюць пад сонцам мёртвыя калоды,
Ды тускне золак рамантычных цнот.

6

Ды тускне золак рамантычных цнот,
Праніжа джала павуціну клетак.
Чысьцюткі сок, што цёк у жылах кветак,
Прагоніць смагу ўскрыленых істот.

Пульсуе рошчын набрынялых сот. . .
Цябе агорнуць думы й куча дзетак.
Так восень хмурая з кашулі лета
Сьцюдзёным дыхам змые ліпкі пот.

Дарма. Маўчы! Забудзься у тварэньні!
Успыхне зьнічка шчасьця ў сутарэньні.
У горы цяжкім радасьці пачын.

Пчаліне — мёд, а чалавеку — чын.
Кудзейніку — штукарствы на эстрадзе.
Мы — кропелькі у бурным вадаспадзе.

7

Мы — кропелькі у бурным вадаспадзе.
Гляджу на Ніягару. Дзіўны створ.
Шуміць вада, а мне здаецца бор
За Шышчычамі. . . Дзе, я-ж у Канадзе!

Стыхіі веліч з мроямі ў суладзе.
Граніт і хвалі, наступ і супор!
Каб як падслухаць таямніцы зор —
Пачатак вершу новаму, баладзе.

Трасецца, стогне пад нагамі глеба,
І неяк страшна паглядзець на неба:
Вісіць на месяцы сабачы хвост. . .

Стае Арэс на ўвесь суверы рост. . .
Бывай, спакой! У вышнім ёсьць загадзе:
Лавіць віхуры маладой плеядзе.

8

Лавіць віхуры маладой плеядзе,
Змываць крывёю заскарузлы струп;
Адны за ланцугі няволі, й зруб,
Другія — за шляхотнае суладзьдзе.

Змагуцца ськіты, прагныя ў нападзе.
Зямлі шчасьліўцы перавяжуць пуп;
Лясун падорыць дыназаўраў зуб
Дрыадам, ацалелым, на уснадзьдзе.

Прайшлі так шмат, праехалі ці мала,
Агнём нас навальніца віншавала
Ды сьцёбаў па паджылках кулямёт.

Пад кустам кій паставіўшы дарожны,
Шпурнуўшы келіх, выпіты, парожны,
Спачыць-бы ўрэшце ў моўкнасьці цянёт.

9

Спачыць бы ўрэшце ў моўкнасьці цянёт,
Калі падрэжа зыбавіца душу.
О, так. Улевы бліскавічнай душам
Прыемна змыць даўгіх дарог налёт.

Тады так лёгка дыхаць. Пругкі дрот
Напятых нэрваў млее, цяжка ўзрушыць.

Рароцтвы думных пра сусьвету крушу
Іклы хаваюць у сухі чарот.

Паслухай толькі, што гамоняць людзі:
Канец надходзіць, мор, зьгібеньне, глум;
Прагольфіў гэты, гэны не марудзіць. . .

Ды меч сатыры сьвідзяе ў запасе.
Чакаю дня. Пратну ў вірлатым страсе
Пярэстай восені пажоўклы сум.

10

Пярэстай восені пажоўклы сум
Пакратаў струны йскрыпак адпяяных.
Далёкая у строях саматканых,
Занесла сьмерць халодную касу.

Вятры зямлі і неба сплаў трасуць.
О, гэты шорах чорнае сутаны!
Пяе лісьцё паліваю мядзянай
І роніць сьлёзы, срэбную расу.

А мы? Глядзім займглёнымі вачыма
У нямую высь праз завалоку хмар,
Чакаем, спадзяёмся. Ці-ж магчыма?

Гучней, мацней яе глухія крокі. . .
— Любіў ты, кажуць, стомлены змагар,
Клясычныя мяцеліц белых скокі?

11

Клясычныя мяцеліц белых скокі,
Рытмічныя, разьмераныя "па".
Тут "крыжачок" квяцісты, там "гапак". . .
Дрыжаць дубы, пабраўшыся у бокі.

Мароз праймчаў ад поўначы далёкай,
Вазёры, рэкі шклом ён закляпаў;
Пытлюе зь неба зманная крупа,
Глытаюць сьлінку бедныя сарокі.

Храпе мядзьведзь на печы у бярлозе,
Мяце лісіца залатым хвастом
Лірычны эпілёг паэмы ў прозе.

Шугае лес, чапурыцца высокі,
Ды зачыню зімы завейны том,
Паэтаў сьвет, прывабны а шырокі.

12

Паэтаў сьвет — прывабны а шырокі.
Яму найлепшы вэлюм — супакой.
У час тварэньня мастака рукой
Багі кіруюць, думныя пракрокі.

Пакута, роспач — хараства вытокі.
Бруіцца песьня вольнаю ракой;
Настроіць леру мужную, якой
Праславіць накаваныя рокі.

Шчасьлівы той, хто на жалейцы ў полі,
Цяплом прыгрэты роднае зямлі,
Падлеглы Богу аднаму, сваволіць.

Палац Парнасу паміж скалаў стромых.
О, колькі кволых буры зь іх зьмялі!
Упаду боль а горыч мне знаёмы.

13

Упаду боль а горыч мне знаёмы:
На брудным дне пануры камяніц
Таўклі каленьмі, распластаўшы ніц,
Заплечных спраў адпасьвеныя гномы.

Трывожыць сон крывавыя пагромы,
Амурскіх вочы рыжыя тыгрыц.
Паіў Сібір мяне іржой крыніц,
Каб высмаг водыр бацькаўскага дому.

А тут свае цаляюць у пячонкі,
Лыгаюць волюў жорсткія пастронкі.
Ці-ж я з радні дрыготнаму трусу?

Ля ног тваіх малюся, Ўсемагутны:
Дай моцы пратрываць! Зямлі пакутнай
Аськепак сонца у грудзёх нясу.

14

Аськепак сонца у грудзёх нясу.
Каторы год сьвяты агонь струменіць.

У ім мае спадзевы і імкненьні
Пяшчотна сьпеляць строгую красу.

Віхор сьцінае часта паласу,
Расьце асот, чарнобыль на каменьні;
Тады адскочыш толькі ў нездаўменьні,
Бы трапкачом ушчунены ласун.

Ці першы раз мяне нядолі тузаць
І нагароджваць срэбрам буйных сьлёз
Цябе, натхняльніца паэты, Муза?

На дзяснах тоны горкае аскомы,
Ляціць Пэгас крылаты насукос,
Шапчу санэт, ад магістралі сёмы.

15

Шапчу санэт, ад магістралі сёмы,
І стаўлю кропку, чорны амулет;
Шукаю ў картах таямніц, прыкмет:
Віновы туз, чырвоны каля дому. . .

Наўсьцяж шляхоў вядзьмарныя заломы,
Сьлінявіць вусень васільковы цьвет:
Збаўляе ўвішна градусы імпэт,
Нагу паэту падстаўляе стома.

Але ўськіпае кроў бруёй напеву,
Брыняе слова мужным згукам гневу:
Гукае Край Забраны у паход.

Стаю у шыхце вояў на праверцы.
Служу красе. Хай міма майго сэрца
Грымотнай лявай рыне чорны лёд!

**Саўт Рывэр, ЗША.**

**24. II. 1958**

# МЕНСК

О, любы Менск, мая сталіца,
Тваю балючую красу
Я, верны сын твой, горад-рыцар,
Праз завірухі, навальніцы,
Як вобраз Плачучай нясу.

Бясьпечных дзён і ў маладосьці —
Быў звадаў час — ня ведаў ты.
Аб тым няхай раскажуць косьці
Татараў, швэдаў, "ягамосьцяў"
Нямігі ў схoвах вечных тых.

Маўчыць Няміга, адбурліла,
Ды ў песьнях-баях празь вякі
Квітнее веліч, слава, сіла
Асілкаў-вояў моцнакрылых,
Што ў хвалях роднае ракі

Паілі коней перад боем
І раны мылі, каб пасьля
Магутнасьць гнеўнага прыбою
На завадатараў разбою
Абрушыць грозна. Спакваля

Залечваў раны горад мену
І рос увысь, і рос ушыр;
І важыў золата бязьменам,
Бы гладыятар на арэну,
У сьвет выходзіў багатыр.

Сюды зьляталіся на веча
Усе вятры з усёй зямлі.
О, любы горад, колькі сечаў
Твае пабачылі ўжо плечы!
А колькі сьлёзаў ты праліў,

Крыві гарачай! Пір, вясельле
Спраўлялі тут валадары,
А ты падносіў на "пахмельле"
Гранаты, міны пад пасьцель ім
Ды нож у сьпіны ім дарыў.

О, любы Менск, мая сталіца,
Ты кату рук не цалаваў.
І зараз ворагу скарыцца
Ня можаш ты. О. горад рыцар!
Твая сівая галава

Ляжыць разьбітая ў руінах;
Ды на пацеху нас, жывых,
Нашчадкі тых, што за Краіну
Зьляглі дачасна ў дамавіну,
Па сьледу ходзяць вартавых,

Што неўтаймоўных пільна сочаць...
Іх сэрцы помстаю гараць.
І веру я — прыблудаў новых
Ты пераможаш мечам, словам:
Мінецца чорная пара.

## УСЕВАЛОДУ КРАЎЧАНКУ

Заміж кветак на магілу.

Па менскіх завулках крочыў
Пад небам Радзімы... Ці-ж
Спракудзілі чорныя вочы —
Ляцеў паміраць у Парыж?

Прыгожая восень у Кане,
І вусны нарманак — мёд...
А ты там назначыў спатканьне
Са сьмерцю...
Скажы, Ўсевалод,

Ці ў рэчаньцы-рэчцы Нёман
Шчарнела блакітнае дно?
Ці маці прагнала з дому —
Махнуў у чужое вакно?

Ні маці, ні Нёман — молах,
Што сэрца і душу расьцяў;
Бясконцае страшнае кола,
Хімэра, жыцьцё бяз жыцьця.

Над Канам агні і зоры.
Ты зорку Вэнэру шукаў...
Ці думаў: "Ува мне ёсьць вораг...
Прыкончу бальшавіка..."

"Прабачце мне, дзеткі, Радзіма..."
Прабачаць, вянкі прынясуць,
А вораг праходзіць хай міма,
Сваю спажывае "красу":

Падкопы, паклёпы, даносы;
"Выконваць, пярэчыць ня сьмець..."
Таму, хто няволю ня зносіць,
Дае вызваленьне сьмерць.

Збылося тваё жаданьне:
Ты — вольны, спакойна сьпіш...
Ў вакно, праламанае ў Кане,
Глядзіць на цябе Парыж...

18. XI. 1961

**Заўвага:** Усевалод Краўчанка, беларускі савецкі пісьменьнік,быўшы ў складзе савецкае дэлегацыі ў Францыі, скончыў там самагубствам (27. VIII. 1961). У перадсьмяротным лісьце напісаў: «Я нічога не зрабіў супраць свае Бацькаўшчыны. Я канчаю жыцьцё, каб ухіліцца ад несправядлівых абвінавачаньняў і беспатрэбных мукаў. Я быў справакаваны маймі асабістымі «прыяцелямі» на некаторыя словы, што могуць быць інтэрпрэтаваныя ў некаторым сэньсе як варожыя». («Бацькаўшчына», Мюнхэн, 22. X. 1961).

## ВІЛЬНЯ

На захад з торбай суму, гневу
Ішоў я Гострай Брамы міма.
Абрушваў вечар зор улеву
На Вільні шэрыя кілімы.
Ня спала Вільня. Сны трывожыў
Адгук глухі грымотаў блізкіх.

Ціша зьвінела ў настарожы
Паміж крыжоў і абэліскаў.
Зырэла зарыва ў аддалі,
Дзесь агрызаліся "гэвэры".
Адны разбойнікі ўцякалі,
Другія стукаліся ў дзьверы.
Ў абдыме стомы і самоты,
Ня я адзін, прагнаны рыцар,
Схаваўся ў могілак цянёты
Пра незабыўнае забыцца.
На грудзях прашчураў далёкіх —
Няхай даруюць: бязь іх згоды —
Адчуў і зноў спакою дотык,
Ліствы зялёнай цёплы подых.
Ды сон ня йшоў. Блукаў ён дзесьці
Па Менску вогнішчах, руінах.
А тут, у гэтым ціхім месьце,
Вадзіў яго Франьціш Скарына.
Ішоў ён думны па Антоклі
І мерыў літарамі зоры.
Вунь там, дзе хмары ў сіньцы змоклі,
Няпоўны месяц цяў вузоры.
Першадрукар рукой умелай
За словам клаў сьвятое слова...
Мой сон, як сьвечка дагарэла,
Пайшоў па пляцы Мураўёва.
Не затрымаўся каля "шышкі":
Абрыдла з бронзы морда ката.
Сьпяшаўся трапіць на Лукішкі,
Дзе адбывалася расплата.
І валасы ўзьняліся дыбам:
На склютам зраненыя дошкі
Ўзышла нязьмераная глыба —
Кастусь Сямёнаў Каліноўскі.
Вяроўка сьвіснула у мыле,
І галава на грудзі ўпала...



Каб Беларусь не задушылі,
Загаласіў Янка Купала.
І сон падаўся на курганы,

Каб прыслужыцца там прароку. . .
Так я у Вільні незабранай
Пачуў краіны роднай крокі.
Ужо й на золак занялося,
І далеч невядзі ня страшыць.
А тры крыжы — мо так здалося? —
Мне наўздагонкі: "Вільня наша!"

4. III. 1960

## МАКІ

Можа сэрцу мне даць адпачынак
На аблоні суцішных вятроў?
Макі, макі на Монтэ Касына
Беларуская жывіць кроў.

Хай квітнеюць на вояў магілах,
Мне ня шкода, люблю я кветы:
Але бачу — арол белакрылы
Па-над макамі ў небе застыў.

Беларусаў ён душы вартуе,
Каб да Бога са скаргай ня йшлі,
Што за справу ня тую сьвятую
За чужую палеглі ў зямлі.

Не, я сэрцу ня дам адпачынак
На аблокі суцішных вятроў:
Макі, макі на Монтэ Касына
Беларуская жывіць кроў. . .

1953

## САКАВІКОВАЯ НОЧ

«Ад веку мы спалі, і нас разбудзілі. . .»
(Зь беларускае «Марсэльезы»)

Сакавік. Поўнач. Звон
Скалыхнуўся ў аддалі.
Не бярэ мяне сон,
Бо: "Ад веку мы спалі. . ."

Тэй мане чужака
Нехта можа й паверыць —

І падносіць рука
Алавік да паперы. . .

Не ад веку: Кастусь
Каліноўскі Сымонаў
Падымаў Беларусь
Здужаць сілы прыгону.

Падымаў, і ішлі
У дубровы і пушчы
Непадатнай зямлі
Непакора і вушчунь.

Не ад веку: й тады,
Як пятлю Мураўёва
Апаліў ціхі ўздых,
Як паніклі галовы, —

Не заснуў на Літве
Дух, загнаны ў затульле,
Адрыгнуўся Маскве
Грынявецкага куляй.

Не ад веку: пад грай
Бурачковае "Дудкі"
Адраджэньня пара
Брала процьму ўзагрудкі;

Гаспадарны ўмалот
"Наша ніва" зьбірала:
Багдановіч, Чачот,
Колас, Янка Купала. . .

І яшчэ, і яшчэ. . .
Сьцяг нястрымнай Пагоні
Іскры біў із вачэй,
Сэрцы, душы палоніў.

Гімн, вызвольны наш гімн,
Клічам моўкню прарэзаў,
Пакуль несьлі яны
Ў Беларусь "Марсэльезу".

Аж нарэшце ў Дэпо
Беларускай сталіцы
Голас кос і сярпоў
Загудзеў навальніцай.

Беларусі сыны
Нашу сьветлую мэту
Пад грымоты вясны
Аб'явілі сусьвету...

Сакавік. Золак. Звон
Скалыхнуўся ў аддалі.
Хіліць голаву сон...
Хай дапіша ўжо ён
Тых, што спалі й ня спалі.

1963

## ДЗЕНЬ ТОЙ ПРЫЙДЗЕ

Вельмі цяжка прарочыць,
    адгадаць Яго прыйсьце —
Ці тады, як зайграе
    агнём зялёным лісьце;
Ці тады, як падпаляць
    арабіны сініцы,
Ці тады, як апрануць
    панцыр сіні крыніцы...
Ці у сьнежні, ці ў маі,
Але прыйдзе Ён, знаю.

Дзень той прыйдзе, як сонца
    із начнога блуканьня,
Дзень той прыйдзе, як песьня
    маладога каханьня,
Што хвалюе і ўзносіць,
    і чаруе й трывожыць...
Дзень вясновы Сакавіковы
    ня прыйсьці ня можа.

Толькі трэба чакаць,
Толькі трэба ґукаць.
Так чакаць, як ніхто
    ня умее чакаць.
Так ґукаць, каб пачуў,
    каму трэба пачуць:
Маці наша зямля,
Што завуць Беларусь,
Што ня раз праваджала

у прочкі зару,
Што ў сузор'і крывавым, шчарнела.

Так гукаць, каб душа
адляцела ад цела
У таго ключара,
што прысвоіў ключы
Ад Крыніцы Сьвятой,
дзе ўсіх песьняў пачын. . .

15. II. 1963

## ПОМНІК

Ішлі яны па вуліцы шырокай. . .
Вецер скавытаў у завугольлі.
Песьняры, трыбуны і пракокі,
За што, за што вас пакарала доля?

. . .Лёрд Байрон маўчаў на высьпе шэрай,
Ня ўзбудзіў паэт Рабіндраната.
Беларусі рэвалюцыянеры
На пакуты крочылі за краты.

Жылка йшоў з узьнятаю паходняй,
Малады Дубоўка, непакорны;
І Хадыка зь імі долю зродніў,
Маракоў, задуманы а горны.

Жах над краем крыльлі растапырваў,
І пісаў лісты сабаку Пушча. . .
А Купала ранай "харакіры"
Нас гукаў на помсту і на вушчунь.

*
* *

Ні помсты, ні вушчуні. Мроіць
Пра агні далёкай Бэнгаліі
Нам, зялёным яшчэ, не далі.
Пайшлі і мы, бязвусыя "гэроі'
У Завуральле, Забайкальле
Ад сваёй беларускай зямлі.

Ня самі пайшлі мы. Везьлі,
Як жывёлу ў "цялятніках",

Гайдукі адборныя ГПУ.
Падалі зьнямоЖаныя. Мерзьлі.
Пiналі ботам і словам начальнікі.
Спраглыя, — неба пілі халодную сіняву...



Сёньня ўскалось прыгалешваюць Танкі,
Броўкі цясьней заціскаюць шляю,
І на вузор падмаскоўскай “шарманкі”
Песьні Дубоўка і Пушча пяюць.

Нам, падуладным Богу й сумленьню,
Лёгкім ня здасцца хай цяжкі іх крыж.
Янка Купала упаў грозным сьценем
На камяніцы Масквы... Недзе між

Соснаў чужацкіх чарнее магілка.
Дрэмле тайга, пасівеўшая ўшчэнт.
Там не апошні, ня першы Жылка
Крывёю пісаў тэстамэнт.

Дзесь ля Байкалу доля Хадыкі
Крычма крычыць із-пад глыбы скалы...
Колькі лягло іх, паэтаў, музыкаў?
Колькі лягло вяліканаў, малых?

Некалі зьлічым. Мужных імёны
Глыбы ня струшчаць. Ім жыць у вяках.
Лягуць няхай нашы сьлёзы, праклёны
Помнікам па бальшавіках!

## МАРШ “ФІЛЁЗАФАЎ” БССР

Скарына, Зізані, Сымон Будны
Падымалі мудрасьці пласты.
Мы, ахвосьце беларусаў мудрых
Круцім Маркса, Леніна хвасты.

Мы кляліся барадою Маркса —
Праслаўляць савецкую турму,
Ад Нямігі да “каналаў” Марса
Пашыраць чырвоную чуму.

На ўвесь рост ня крочым — ходзім ракам;
Не на ўзвышша йдзём, — паўзём уніз.
Перажоўваем гнілы сілос бяз смаку:
Сталінізм, марксізм ды брэжневізм.

Мы грамілі нацыяналістаў —
Гартавалася ў крыві пяро...
А цяпер патрошым сіяністаў,
Вытрасаем з рызаў сьвятароў.

Мы Сакрата, Канта ды Сьпінозу
У КГБ сьпісалі на "расход".
Мы разумным баламуцім розум,
Павялічваем аслоў прыплод.

Ня дурнейшыя за Феербаха...
Прападзі ты, немарач і зьгінь.
Нашу мужнасьць разбамбілі страхам,
Замянілі робатам мазгі.

Для чаго нам галава прышыта,
І прычэплены язык за рот?
Каб жылі мы весела і сыта,
І дурылі дарагі народ.

## КАМІВАЯЖЭР

Аўгену Яўтушэнку

Удалося
таварышу-паэту
Гасьцяваць у Дамы,
заморскай,
ветнай.
Дама тая
ў мастах
над прорвай,
бяздоннай,
Бачыла міру,
вечнага,

карону.
У імя гэтай ідэі,
Былі яе гасьцямі
гэніі і зладзеі.
Таварыш Жэня
ні злодзей,
ні гэній,
Але да вышэйшага
акружэньня
Знаходзіцца
ў прыбліжэньні,
Таму што
харэі і ямбы
Здольны наструньваць
на дыфірамбы
Барадзе Маркса,
як варотцы,
Ды Леніна
бародцы.
Дама,
міру дзеля,
Гатова на тыгру
гладзіць кудзелю;
А для таварыша пііта —
Каралеўскі закусон
і напітак. . .
— Лопай, Жэня,
ведай нашых,
Мо падабрэюць
твае "папашы"!
Ды вока, госьця,
трубадура Соса,
Даме ў вочы
глядзела коса.
Забраўшыся на кафэдры,
трыбуны,
Гарлапаніў пра сонца
сусьветнай Камуны,
Капіталізму аплёўваў
хібы,
Рэй Браўн нібы.
У шыю-б яго
бязь лішняе сваркі. . .
А Жэня

зашыбаў даляркі.
У Маскве прызямліўшыся
з чамаданамі "барахлішка",
Каміваяжэр
хамства лішкі
Выліў на Дамы голаў:
"Ды яна-ж — "сволочь..."
"Сволочь" забыла, бадай,
аксыёму:
Хама на выстрал
не падпускай да дому...

1975

## ПРАВАКАТАРАМ *)

«О, прабач мне, радзіма, прабач...»
(З правакацыйнага вершу)

1

Косткай у глытаўцы ў вас
Мы, Шматпакутнае воі.
Вы нам у душу плявалі ці раз,
Выплюнуць цяжка й з крывёю.
Здрада — зьняверы сястра —
У правакатара ў сэрцы.
Мы не здраджалі свой край,
Здраднікі вы і зьняверцы.
Мы ня ішлі па касьцёх
З вамі у маршы разбойным.
Край наш крывёю сьцёк,
У ранах гніе нявыгойных.
Жыў сам сабе Беларус,
Хай і ня соладка, ўсё-ткі
Нейкі партыйны туз,
Усякі прыблуда-гнус
Плянамі той сямігодкі
Сэрца ня кроіў яму,

---

*) У адказ на правакацыйны верш «Грэх на сэрцы цяжкі» ў «Г. Радзімы» (№ 70-45, верасень, 1960 г.) напісаны янычарамі Масквы, а падпісаны маім псэўданімам.

Волю аж так ня трыножыў.
Вы у прыгонны хамут
Пхнулі наш край, ціхі, Божы.
Край абяскровеў, зьнямог,
Зносячы зьдзек на каленях.
Вам у Радзімы ля ног
Трэба прасіць прабачэньня.

2

«Чую сьмерць у маўчаньні злавесным...»
(З правакацыйнага вершу)

Я знаёмы зь ёй, бязносаю пачварай:
У вочы, ямы чорныя, глядзеў ня раз.
Крывёй упіўшыся, касіла ГПУ,
Касу заносіла і на маю там галаву.
Ў тайзе Сібіру падстаўляла мне нагу.
Ды маладосьць перамагла тады цынгу.
На Данцы сьвістала, біла агнявым хвастом,
У разьведцы вартавала з аўтаматам пад кустом.
У "мяшку" пад Лазавенькай, як хадзілі на прарыў,
Пасылала грамавыя, пяруновыя дары.
І у концы малаціла па галовах чарпаком
Ды крычала ў катлаване: "Ком, швайнэ, ком, ком! .."
У яе не касьцяная, а крывавая рука.
Я знаёмы зь ёй — ня трэба прывыкаць.

3

«Пан Абрамчык пазвоніць з Парыжа:
Ты жывы? Сабірайся ў паход».

(З правакацыйнага вершу)

Жонка, вяжы лахманы!
Годзе "бадзяцца бяз працы",
Звоняць з Парыжу паны,
Мушу ў паход сабірацца.
Можаш пажыць у бацькоў,
Покуль з паходу вярнуся.
Эх, пераб'ю баньсюкоў
Там, на Беларусі.
Мо й сувэнір прывязу,

Скальп, ці нагу генэрала. . .
Што ты камечыш сьлязу?
Паўэрс там, кажуць, няўдала
Сеў на калгасны загон?
Я-ж мо ня ён? Па сакрэту:
Я — прафэсыйны шпіён.
Не наляту на ракету.
Сьмела пакуй лахманы!
Годзе "бадзяцца бяз працы. . ."
Эх, зажывём, як паны,
У сьветлых, раскошных палацах! . .

4

«Ня дурыся, казала мне маці, —
Будзь заўсёды з народам, сынок.
І паслала у сьлед мне пракляцьце,
Калі з дому, як злодзей уцёк.»
(З правакацыйнага вершу)

О, не! Мяне не пракляне
Мая пакутніца, уцеха.
Яна мяне не пракляне,
Што з процьмы ў вольны сьвет паехаў.
Яе хусьцінку — белы сьнег,
Як сёньня бачу каля млыну.
Яна палуднаваць нясе
Ў жытох сьцяжынкай свайму сыну.
Сьвіней зваліла гарачынь,
І мы сядзім на мулкім доле.
О, як любіў я адпачыць
У роднай, любай на прыполе.
Вятрыска сьвежага парыў
Кранае пасмы кос. Разоры
Ляглі крыжамі на твары —
Пячатка старасьці і гора.
. . . . . . . . . .
Ад Слуцку ў Менск далёкі шлях.
Ня служаць ногі, сэрца млее,
А перадачка на плячах,
А думы мучаць: "Што зь ім- Дзе ён?"
Стаіць, трасецца ля варот
Былінкай, зьмятай ля вастрогу,
І праклінае катні род,
Ратунку просячы ў Бога.

О, не! Мяне не пракляне
Мая пакутніца, уцеха.
Яна мяне не пракляне,
Што з процьмы ў вольны сьвет паехаў.

5

«Меркаваў — людзі зробяць засаду
На мяне і на вершы мае.»
(З правакацыйнага вершу)

Быў у войску шэраговым,
Кандыбаў ад заду першым.
Чалавек я не вайсковы,
Ды ў мяне ёсьць зброя... вершы.
Я камандую радкамі,
Надаю імпэту рытму,
І сугучнымі палкамі
Вершы йдуць за мной у бітву.
Неадступны і упарты,
Ня ўхіляюся баталій.
Паласуе не на жарты
Меч надзейны, цьвярдзей сталі.
Як урэжа гастраджалы,
Вольным духам гартаваны,
Заракуцца й генэралы
Наступаць... на мае раны.
А як нейкая пачвара
Пекане з засады ў ду́шу,
Падымуся грознай хмарай,
Пяруны на вас абрушу.

17. XI. 1960

## КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

Калі я думаю аб ім,
думаю аб сэрцы,
Найбольшым сэрцы на зямлі,
непадуладным сьмерці.
Яго ня здужала пятля
ката-Мураўёва,
Яно рытмуе у грудзях
песьняю баёвай;
Пяе у гру́дзях у маіх,

у тваіх грукоча
Няўтольнай спрагаю жыцьця
сьветлага, як вочы...
Як вочы любае дачкі,
сына дарагога,
Каму ня сьніцца эшафот,
дальняя дарога...
Жыцьця між сініх васількоў —
не зь мярэжнай казкі —
Жыцьця бяз кратаў, ланцугоў,
бяз чужацкай ласкі.
Вялікім, зыркім тым вагнём
непагасна, сьмела
Каліноўскага празь век
сэрца палымнела:
"Мужыцкай праўдай" у душы
дзірваны арала,
Праз пушчы помстаю ішло
са склютам, самапалам...
Шляхоцкі сын, Кастусь ня знаў
злыбяды, патолі,
А сэрца плакала яго
бліжняга нядоляй.
Малілі Бога за яго
бедныя матулі.
Хрыстапрадаўцы прадалі...
У Маскве ўздыхнулі.
Уздыхнулі рана — жыў Кастусь...
у Вільні, на памосьце,
Не Каліноўскага — прыблуд
хруснулі пся-косьці.
Касою голаў сьцяла сьмерць...
А пятля на шыі
Вязала цесны вузел тым,
што яго душылі...
І хай ня скваціцца Масква
нас зрадніць з Тунгусам —
Бунтуе сэрца Кастуся
ў грудзях Беларуса...

13. II. 1963

## БЭНГАЛІЯ

Бэнгалія,
Бэнгалія. . .
Не даходзіць, хоць зарэж,
Для чаго табе, Бэнгалія,
Прычапілі хвосьцік "дэш"?

Бэнгалія,
Бэнгалія. . .
Ты глядзішся ў акіян.
А гуляюць па Бэнгаліі
Голад, мор і Гора-Хан. . .

Бэнгалія,
Бэнгалія. . .
Беларус юнак-паэт *
Твае сьлёзы нёс, Бэнгалія,
Із катоўні на той сьвет.

Бэнгалія,
Бэнгалія. . .
Талент збыў чырвоны "рай",
Бо у вобразе Бэнгаліі
Ён аплакваў родны край.

Бэнгалія,
Бэнгалія. . .
Беларусь — твая сястра,
І сястру тваю, Бэнгалія,
Бог нядоляй пакараў.

Бэнгалія,
Бэнгалія. . .
Ты парвала ланцугі,
А сястры тваёй, Бэнгалія,
Сэрца сьцяў ланцуг тугі.

Бэнгалія,
Бэнгалія. . .
Не сьпяшы ў чырвоны "рай",
Дзе пакутуе, Бэнгалія,
Беларусь, твая сястра.

---

*) Сяргей Астрэйка.

Бэнгалія,
Бэнгалія...
Ня румянь пажоўклы твар:
Няма розьніцы, Бэнгалія,
Душыць хан, ці камісар.

Бэнгалія,
Бэнгалія...
Гуж "расейскі" не парвеш.
Калі зьгінеш як Бэнгалія,
Не ўратуе хвосьцік "дэш".

25. III. 1972

## ТРЫВОЖНАЕ

Кожны крок са спадзевам трыножым,
Слоў вызвольных сьпісалі тамы;
І ў сьвятынях укленчваем: "Божа,
Збаў наш Край ад чырвонай чумы!"

Маўкліня ў "небеси"... Зь сьветлай марай
Сакавік славім, Слуцкі чын...
А нячысьцікі валадараць
Каля Нёману, ля Случы...

Ня зьлічыць "достижений" прыблудаў:
Лік нявінных ахвяр ня зьлічыць.
Круцяць, чмуцяць агнём Асінбудаў,
Асьляпляюць мазгі ільлічы.

І чамусьці на Менскім напрамку
Страшна ціха... Лягглі ўсе няўжо?
Услаўляе прыгонную лямку
Хор культурных тхароў і смаўжоў.

Атрафіркі там ёсьць і такія:
"І Ушачы мае — Масква..."
(Пацярухаю, Лось Еўдакія,
Натаптана твая галава).

Разгуляліся ведзьмы і "бесы",
Янычары ў тон тнуць кагадзе...
Дзе вы, дзе вы, нашы Валэнсы —
Чалавечая годнасьць дзе?

Кукабаку даў Бог... Небараку
На гулагскім калечаць крыжы...
Можа, Пушчы Язэпа сабаку
Папрасіць вартаваць рубяжы?

Рубяжы беларускага слова,
Беларускай душы рубяжы:
Каб жыла беларуская мова,
Каб народ беларускі жыў.

Дзе бязвольле, адпорнасьці мала, —
Чынгісханіць бязбожная Русь...
Несьмяротны Янка Купала,
Малі Бога за Беларусь!

1980

## МІЖАГНЁЎЕ

Змагаром за незалежную Беларусь —
прысьвячаю.

1

На ўсход,
як можна,
Уцякала
"неперможная"
Чырвоная.
Чорныя вороны,
штукасы,
мэсэршміты, [1])
Агнём палівалі
кусты,
жыта.
На дарогах
задралі ногі
танкі,
гарматы,
коні.
На загонах,

[1]) Stukass, Messerschmidt — назвы нямецкіх самалётаў.

як снапы,
трупы.

І кроў
вужамі
ў лужы.
"Дранг нах остэн..." [2])
Як гэта лёгка
і проста.
Не ваяваць —
"шпацырэн" [3])
вышлі
Патрыцыі
аэравай
эры.
Мэрам
у агоніі,
сырэнаў сымфоніі
загаласілі:
— Воньня сіла!
— Гэта сіла!
— Магіла юдам,
гоям!
У жывот
нагою,
Штыхом
у плечы.
Гансэк са Шлёнзку
"дольмэтчэр" [4])
— Матка, яйкі!
— Матка, "шпэк" [5])
"Іх" [6]) — нямецкі чалавек.
Давай,
ні пікні!
"Гайль", [7])
вялікі!..

---

[2]) Drang nach Osten — Наступ на Усход.

[3]) Spazieren — Прагульвацца.

[4]) Dolmetscher — Перакладчык.

[5]) Speck — сала.

[6]) Ich — займеньнік «я».

[7]) Heil! — Няхай жыве!

2

Умылася сонца
дымам
над сталіцай.
Чырвона-чорнае.
Горна
каркаюць у парках
вароны.
Як дазорныя,
вісяць на асінах
засіленыя
моўкна.
Моўкнуць званы на званіцах.
— Цок-цок-цок. . .
Цокаюць цьвікамі
па бруку
жаўнеры
"Райхсвэры". [8])
"Гэвэры" [9]) —
на зважай.
Нажа просяць рукі.
Унукі крыжакоў —
рыцараў. . .
Пакараў нас Бог,
зямліца.
На тваіх пляцох,
сталіца
Апрычнікаў Бэрыя
зьмяніла
"фэльджандармэрыя". [10])
Якая розьніца?
Рабуюць агулам і ў розьніцу,
Як і першыя, другія, —
Абразы Рэмбрандта,
Растрэлі. . .
Растрэльваюць
гэтак-жа сама,
Нават
у тыя самыя
ямы.

---

[8]) Reichswehr — дзяржаўная армія.

[9]) Gewehr — стрэльба.

[10]) Feldgendarmerie — палявая жандармэрыя.

А мы?
Што мы
у гэтай
мясабойні?
Дзе нашы войнікі?
У хвойніку?
Р а з б о й н і к і.

3

Не!
У вайне
двух Калосаў
Галасіць голасна
няма чаго
рабом белым.
Ілбом сьмела
біць у дзьверы
“правадыроў”.
Ня “ура”.
Ня “гайль”.
Няхай жыве
Н е з а л е ж н а я!
Кожны,
дзе можа,
Загады
пры нагодзе
абыходзіць.
Перад гадам
на калені
ня падаць.
Прамахі —
на ўзмахі
крыльляў,
Пакуль ня дойдзем
да сваіх арміяў,
эскадрыльляў;
Пакуль
у маршы
куль
Ня станем
самі
Гаспадарамі.

4

Гэта —
думы адных,
годных пашаны,
павагі.
"Змагі" другіх —
на чорным рынку:
— Ці не патрэбна
сахарынку,
сівухі?
На вуха
таямніча.
Трэйцыя,
зазвычай,
былі рады
Свайму агароду,
свайму коніку.
Жылі сягоньня.
Для іх
коньнікі Пагоні
і
бел-чырвона-белы —
Залатапагоньнікі белыя.
Чацьвертыя,
вартыя шыбеніцы,
Быццам
вынішчалі
бальшавіцкіх
"шпіцляў",
А кожны цаляў
выкруціць цяля
у круцяля;
І пятля
вісела
на дрэве кожным.
— Каго яшчэ
абняць за шыю
можна? —
Пытала.
Было ня мала
пятых
і дзясятых,
Богам і людзьмі

праклятых:
Тутэйшых,
прыблудаў;
Юдаў,
катаў,.
Хто пытаў зь іх, —
чыя хата?
З аўтамата
тра-та-та-та! . .
— Гары!
Чужое! . .
— "Ой, я мальчик
на чужби-и-не. . ."
Зьгінем
нізавошта.
Крыві коштам
Здабываць мусім волю.
Даволі
сваволіць
вы,
прайдзісьветы,
шахраі!
Вон з Краю,
чорная зграя!
"Нет и не будет. . ."
Будзе!!
"За вашу і нашу. . ."
А не жадаеце ў. . .
вашую!
У маршы
шашою,
Грудзі гарою,
як гэроі
Ідуць жаўнеры
Б.К.А.
Зброя
не задрыжыць
у руках.

5

Грукат землятрусу
страсянуў горад.
Няжывым —

магіла,
Жывым — гора.
— Згуба,
згуба! ..
Забілі Кубэ! ..
Міны учора,
Міны сягоньня.
Ня сьпіць вораг.
За ворагам пагоня:
СД [11]) менскае,
СД смаленскае;
Гестапа [12])
наступае на пяты...
— Ой, тата, тата,
хто вінаваты?
— Партызаны...
Рана, рана
усхапіліся
мянчане.
Зь сем'ямі,
ў адзіноту
напяхоту
употай
Уцякаюць
у цемнату
з сталіцы.
Кожны сьмерці баіцца.
Чыстакроўныя арыйцы
майстры расстрэльваць
цэлыя вуліцы.
Бяз допыту...
На аўта —
старых і
немаўлятаў,
як шчанятаў,
і
ў казэматы,
А там
аўтаматы
строчаць без адказу.

---

[11]) Sicherheitsdienst — служба бясьпекі.
[12]) Gestapo — нямецкая дзяржаўная паліцыя.

На дапамогу
газы...
“Вынішчым бальшавіцкую
заразу!..”
На платох і сьценах
“бэфэлі”:[13])
“Расстрэлена
дзьвесьце камуністых...”
Дзяцей у калысцы,
схопленых на працы,
на вуліцы...
Праца чыстая,
забойцы.

6

Хмары над Краем
крывава-чырвоныя.
Ахвярамі ўпалі
Акінчыц,
Іваноўскі,
Казлоўскі,
Саковіч,
Маракоў...
Бальшавікоў рука
мардуе,
нішчыць.
Кроў і вогнішчы.
Сьмерці ігрышча.
У тэатры міны —
“Купальне”
ў крыві
пакупалі.
На цьвінтары
чатырнаццаць
дамавінаў.
Хто тут вінен?
Каты
Катыні...
Маўчы!
Вышчарыш зубы —
на згубу.

---

[13]) **Befehl** — загад.

Крывавы біч
лютуе,
сьвішча.
— На ушчунь!
На ушчунь!
Радзіма кліча.

7

“Дранг нах Остэн! . .”
“Доннэр вэтэр!” [14])
Ня гэтак проста.
Гарачы вецер. . .
Зьмей пяціхвосты,
недабіты,
Спрытна раны гоіць:
Воям — пагоны,
шырэй лапаты,
Хатам убогім —
Бога. . .
Малецеся,
бабулі!
Ілбы сьмялей
пад кулі,
Сусаніны,
Суворавы! . .
Нораў ваш потым
выгаю крывёю,
выгаю потам,
выб'ю бокам. . .
Гострым вокам
за акіян,
Чорны вус
і так,
і сяк,
рукі крыжам. . .
Жабрак?
— Бедны Джоў! . .
— Добры Джоў! . .
Прайдзісьвет із Горы!
“Гора плача,
гора скача,

---

[14]) **Donner Wetter — лаянака: Каб цябе пярун. . .**

гора песянькі пяе:”
— Даражэнькія мае,
Вінстоны,
Франкліны,
Гіну,
гіну! . .
Выручайце зь бяды!
Фронт другі!
Бомбы на гарады!
— Гі-гі-гі! . .
— Гі-гі-гі! . .
Давайце
самалёты,
мінаносцы,
танкі,
Залатапузыя Янкі,
Цьвёрдалобыя лёрды!
Наб’юць вам морды
мае Гарынічы,
Мікулы.
Пачакайце,
заморскія “акулы”.
Вазьму [illegible] за горла
і вас.
Дайце час!
Дайце час!

8

Бомбаў бярэмя
на Брэмэнгафэн.
Бух!
— Люфтвафэн! [15])
— Люфтвафэн!
— Фэрфлюхтэн! [16])
Бамбавозы
хваля
за хваляй
На Бэрлін,
на Дэсаў,
на Гале. . .

---

[15]) Luftwaffe — паветраная зброя.
[16]) Ferflüchter — праклятыя.

На Атлянтычным вале,
дзе было двух, —
адзін СС. [17])
— Ніхтс эссэн. [18])
— Ніхтс трынкен. [19])
— Капут! . .
На Гэссэн,
на Фурт —
Бух!
Бух!
Бух!
Спускае дух
Нінэвія.
А ў "Лебэнсраўме" [20])
маладыя,
як дубы,
воі:
— Дайце зброю!
— Дайце зброю!
— Дайце зброю!
Дзе там?
"Дойчлянд, Дойчлянд
ібэр алес. . . [21])
"Ніхт вар?" [22])
Паказалі твар
гатэнтоты.
— Гот, майн Гот! [23])
З Усходу на Захад
уцякаюць
Гільды,
Фрыцы

---

[17]) S.S. — адборныя войскі.

[18]) Nichts essen — няма чаго есьці.

[19]) Nichts trinken — няма чаго піць.

[20]) Lebensraum — жыцьцёвая прастора.

[21]) Deutschland, Deutschland über alles — Нямеччына, Нямеччына на усё. (Першыя словы нямецкага гімну)

[22]) Nicht Wahr? — Ня праўда?

[23]) Got, mein Got! — Божа, мой Божа!

Без спадніцаў,
нагавіцаў.

9

Ў буралом падзеяў
з галавой,
халдзеі!
Неадступна,
упарта!
Жыцьцё на карту!
Картаген разбурым —
Упадзе Нінэвія.
На чын,
на чын,
душой жывыя!
І з Палескай глушы,
зь Беластоку,
з Урэчча
Народ у сталіцу
на Веча,
на Веча. . .
Бел-чырвона-белае сонца
Панад стольным градам.
У гарачай гамонцы
Нараджалася радасьць.
На трыбуну ўзыйшоў
чалавек валадарны,
І, нібы пярун,
словам мужным
ударыў:
"Няхай памятаюць Немцы —
з Масквою
Ня ў час перамогі
нямецкай зброі,
А ў час небясьпекі
Мы разрываем на векі. . ."
Скулябіліся "госьці" —
Шрэтар,
Сівіца,
Быццам далі ім
цытрыны напіцца.
Мо здалося,
на трыбуне

З прэзыдэнтам Астроўскім
стаялі побач
Цьвікевіч,
Ластоўскі...
А з тысячаў рук
воплескі градам
— Жыве Беларусь!
— Жыве Рада!

10

Радасьць наўкола.
Бы голас анёлаў:
"Мы — бойкая моладзь,
арлы маладыя..."
І маршы ірвалі
шляхі і дарогі.
— Вышэй галовы!
— Ногу! Ногу!..
Праз дым,
агонь.
"Далоў прымусы!
На бой сьмяртэльны,
Беларусы!"
І сьцягі з Пагоняй
маланкамі ў высі.
Песьня мая,
у бязьмежжа ірвіся!
І грукала сэрца
гарматай у грудзях:
Будзем гаспадарамі
сваёй хаты!
Будзем!

1949-1961

## КРАЙ КРАСЫ

Край красы, Беларусь-чараўніца,
Песьняў хто пра цябе не пяяў?
У забыцьці мне цябе не забыцца
І ў магіле ты будзеш мне сьніцца,
Сінявокая ўцеха мая.

На прасторах тваіх васільковых
Я сьмяяўся і плакаў ня раз;
На кані ў іскрамётных падковах,
Гойсаў ветрам, шукаючы ў сховах
Скарб, што ў бурах згубіла зара.

Не знайшоў я тых скарбаў багатых:
Іх вартуюць стальныя замкі. . .
І да чыну адважных, крылатых,
Праз стальныя варожыя краты
Я імкнуўся на волю, ў блакіт.

Край красы. Беларусь-чараўніца,
Пра цябе буду вечна пяяць.
Ў забыцьці мне цябе не забыцца
І ў магіле ты будзеш мне сьніцца,
Сінявокая ўцеха мая.

1952

## СЛУЧЧЫНА

Случчына, мой сон ты сьветлакосы,
Казка на начлезе у бары;
Матчыныя сьлёзы ў буйных росах,
Жаваранка песьня на зары. . .

Ты на ўсё жыцьцё заваражыла
Сэрца трапяткое юнака.
І трымае мяне тая сіла
У сваіх нябачаных руках.

Тыя рукі — матчыныя рукі,
Тыя вочы — неба сінява. . .
І бунтуюць мае песьні гукі,
Сам з сабой ня ў сілах ваяваць.

Размахнуся крыламі адвагі —
Ападае радасьці крыло. . .
Не ад шчасьця з торбаю бадзягі
Я пакінуў роднае сяло.

Случчына, дзяцей тваіх каханых
Разагнаў па сьвеце "старшы брат".
Удавой, на паншчыну забранай,
Ты глядзіш із-за чырвоных крат.

Ты сядзела на падсудных лаве, —
Плюнула у вочы маскалём. . .
І зайздросьцяць тваёй гучнай славе
Менск і Віцебск, Гомель, Магілёў. . .

Тваю славу выткалі ткачыхі,
Паясамі слалі у вякі.
Распісаліся гранатай, штыхам
Ў несьмяротнай славе случчакі.

Случчакі — Капыльскія, Рудляне,
Пакаршоўцы, Грозаўцы. . . Крывёй
Чырванілі воду ціхай Лані,
Баранілі волю, гонар Твой.

Твой і Беларусі гонар, волю. . .
За цябе, заціяўшы боль і сум,
Беларусы сёньня Бога моляць,
Слуцкі сьцяг, вызвольны сьцяг нясуць.

24. XI. 1965

## УСЁ ПАКІНУ

Я жыву ні бедна, ні багата:
Маю сэрца, ды яшчэ душу.
У бяз вокнаў ледзяную хату,
Як і кожны, вельмі не сьпяшу.
Завязуць мяне туды калісьці,
Дзе ні сьлёз, ні песьняў дарагіх.
Нада мной у міжплянэтны высьціг
Палятуць агністыя стагі.
Я пайду ў бязьмежжа. . . Не загіну.
Белы месяц сінюю зару —
Усё для вас, каханыя, пакіну,
Толькі ў вечнасьць душу забяру.

1974

## МАМА

Ты мяне не праводзіла, мама,
За сяло, як калісь, да дарогі.
Вусны нешта шапталі. Тэстамант?
Ці малітву? Ці песьню убогіх?

Штось, кагось ты шукала, бо вочы
Сьлёз агнямі пранізвалі далі.
Можа час той шчасьлівы, дзявочы,
Што сваты ў цябе п'яныя ўкралі?

Можа тату шукала майго ты,
Што сканаў ля акопаў ад ранаў?
Ці сястру Антаніну, што ўпотай
Разьвіталася зь сьветам так рана?

Мо мяне ў падзямельлі катоўні,
З жоўтым тварам, сьпятрэлага ў трэску?
Можа. . .
            Боль маё сэрца напоўніў,
Я ішоў праз палеткі ды ўзьлескі. . .

Абыйшоў паўзямлі. . . ў акіяне
Не ўтапіў няспраможнага болю.
Прада мной ты стаіш, мама, й сёньня,
Але я прад табою — ніколі. . .

Сьнежань, 1961

## СЯСТРЫ

Далёкая каханая сястра!
Ці помніш ты, як зьмеі-бліскавіцы
Саджалі джалы ў жыта ды пшаніцу,
Хвастамі росы абсякалі з траў?

Як неба ніву гром-пярун араў,
І я ў спалосе долу падаў ніцам?
А ты ня ўмела "Айчанаш" маліцца,
Дык ціхай песьняй адганяла страх?

З тае пары колькі разоў грымела.
Мо не паверыш, але стаў я сьмелы:
Ўжо ня дрыжу, бы ўзімку верабей.

Ды вось, як толькі блісьне, загрукоча,
Замкнуцца самі неяк хутка вочы,
І ўбачу поле, гурт авец, цябе. . .

1969

## ПРЫТОКАЮ СЛУЧЫ...

Некаму Нарачы хвалі,
Быццам каханай вусны,
Шэпчуць праз шэрыя далі
Казку юнацтва узрушна.

Некаму лісьцем-хусьцінкай
Ветна махнуць Налібокі.
У некага блісьне сьлязінкай
Нёману сум сінявокі.

Кожнага сэрца разьбіта.
Я, толькі вочы замкнуцца,
Бачу: сьпяшыць паміж жыта
Босы падлетак у Слуцак.

Вёрстаў над дваццаць бяз спынку.
Кошык суніцаў ня мулкі.
Ленькі, а там Васілінкі
І. . . Замагільнай завулкі.

Слуцак. . . Гяргечуць нэпманкі
Газай дыхне, селядцамі.
Едуць шашою хурманкі
З хлебам, курамі, аўцамі. . .

Збыўшы суніцы знаёмым,
З кошыкам булак духмяных
Лёгка вяртацца дадому
Шляхам, дзе пахне румянак.

Слуцак, зарослы малінай,
Грушамі, сьлівамі, бэзам.
Слуцак, жывая быліна,
Душу маю перарэзаў. . .

Сэрца ў шалёным парыве.
Гэтак балюча, балюча. . .
Колькі йшчэ мне праз Саўт-Рывэр
Віцца прытокаю Случы?

20. XI. 1966

## ДЗЕД

Мой дзед Казьмір (паміж намі. . .)
Прападаў, як кажуць за
грыбам,
Ды раз аб'еўся валуямі
І ледзь на той сьвет не
падыбаў. . .

Бабка Анэля
Адходжвала дзеда ўсялякім
зельлем:
Палыном, ядлоўцам. . .
А болей "сьвятым" слоўцам:
"Трасца табе ў бок,
Каб ты ня ўстаў, абібок!"

А дзед устаў. . .
І доўга яшчэ грыбачыў,
Але валуі называў
грыбам сабачым. . .

1972

## ЛЕТА

Лянотна хмараю мурзатай
Змахнула сонца з твару пот.
Ня рупіць ветру ліст пакратаць,
Пляцецца нехаця паўз плот. . .

Падкіне белую пушынку,
Паважыць дзьмухаўку ў руцэ. . .
Няхай-бы ўскочыў на часінку
Тут да мяне, ў гарачы цэх.

Ілбы памацаў у матораў,
Гарачку зьмераў у мяне. . .
Дык не, і сёньня, як і ўчора,
Нават на сьмех не загляне.

Духота рідая старацца,
Гняце і цісьне да зямлі,
Быццам адна у яе праца —
Цябе зьнясіліць, паваліць.

А пот, абрыдлы спадарожнік,
Ня знаю, што аддаў-бы, каб. . .
Бы сок з тых клёнаў прыдарожных,
Праз дзень цалюткі — кап ды кап. . .

Няхай стараюцца. Ня зломак.
Ня гэткіх бачыў у жыцьці.
Няхай і вецер, той бяздомак,
Задраўшы голаву, ляціць.

Я спразе выдумаю ка́ру:
Вадой празь дзень не напаю. . .
А там — басы дажджовай хмары
Зацягнуць арыю сваю.

Пярун скрыжуе з сонцам шпагі
І доўга будуць лязгацець. . .
І тут, як тут, вятры-бадзягі —
Ды ў шыю поту, духаце. . .

Так дзень за днём. . . І дзьмухне восень
Арктычнай пробы халадком
І сьпіс праступцаў агалосіць:
Духота, спрага, пот і Ко. . .

30. XI. 1966

* * *

Жуюць шасьцерні цішу
Чыгуннымі зубамі,
Маторы цяжка дышуць
Гарачымі ілбамі.

У грукаце, у шуме,
У тым мажорным маршы,
І я ў бурлівым тлуме
Над аўтаматам старшы:

Націсну гузік — пойдзе,
Другі — канец грукоцьцю.
Я з тэхнікай у згодзе,
Хоць цела мокне ў поце,

Усіх паджылкаў столкі
Дрыжаць у тахт з маторам.
Ня ведаю вось толькі,
З душою з нас каторы...

1961

## САЛАЎІ

Яны старанна кроплі сонца
Зьбіралі ў звонкія клярнэты
І разьлівалі іх бясконца
Ў садох зялёных, моры кветак.

Ды адыйшлі уцех часіны —
Сады абмыліся сьлязамі,
Сьлядамі песьняў салаўіных
Прагойсаў вецер з маразамі.

У край далёкі, ў сад квяцісты
Занесьлі птушак хутка крыльлі;
Яны там змоўклі галасіста,
Бо край няродны ня зьлюбілі.

11. II. 1963

## БЯЗВУСЫЯ ГАДЫ

Я свае бязвусыя гады
Не растрос на гоцах рок-эн-ролу.
Сербануўшы з бульбай лебяды,
Без штаноў ня бег за камсамолам...
У нядзелю канцавы Вінцук
Рэзаў польку на усе лапаткі...
Там і мне, нясьмеламу хлапцу,
Адтапталі ці адзін раз пяткі.
Танцаваў я, мабыць, як гусак
На гусіным балі ля карыта.
І дзяўчаты да мяне ніяк
Ня хінуліся. Ня меў мо спрыту?..
А дзяўчыну, я кахаў адну,
Так кахаў, як рыцар той харобры...
Ды ізноў-жа праз маю віну

Адабраў мой сябра, нават добры.
Пакахаць другой ужо ня мог,
Мо таму, што ня было выбору.
Доўга [illegible] па прыгажуні сох,
Здэцца, большага ня ведаў гора.
З чаратамі гаманіла Случ
Ды шугала пушча за Замосьцем.
Выліваў я сум а боль вяслу,
Раськідаў, блукаючы самотна.

Мёд суніцаў ды бярэзін сок
Падлілі бадзёрасьці і сілы.
З кутасамі слуцкі паясок
Я насіў, як вобраз яе мілы.
Сябраваў з малодшаю сястрой,
Навучаўся мудрасьці у дзеда.
Невялікі быў зь мяне гэрой:
Дзіркі ў плоце ў сад чужы ня ведаў.
Каб у людзі выпхнуць мяне нейк —
Не чапіўся [illegible] чамусь да плуга... —
Навялі на армію сьвіней,
Нагародзілі даўжэзнай пугай...
Сьмех савы ды клёкат бацяна
Паўтарала ў полі завіруха —
На вячорках сьпеў верацяна,
Калаўрота звон чмяліны слухаў.
Я любіў зіму. Вясны чакаў,
Як жаўнер нярадаснага бою:
Зноў сьвіней у поле з хляўчука
Берасьцянай запрашаць трубою...
Апякаў пяту ці раз мазоль
Пасланец камяністых пагоркаў.
Асядалі ў сэрцы сум ды боль
Непадважным пластам солі горкай.
Мо таму так лёгка было йсьці
Па шляхох, ня высыпаных макам,
І сьмяяцца ў цяжкім забыцьці,
Калі трэба было плакаць, плакаць...

1963

## СЛУЧЧАКІ

«Ж. Б.»

Прыемна мне і ганаруся нават,
Што і я са Случчыны — случчак.
Гэрояў Слуцкіх мяне водзіць слава
Па ўзвышшы гонару — затак.

Яны ішлі штыхоў, агнёў насустрач,
Жыцьцё нясьлі ідэі ў дар.
У чыну іх скрываўленага люстра
Гляджуся ўпатайкі, змагар.

Ня я, ня я — засьвідзелая пляма
Паўзе няўпрыкмець, спакваля.
А нехта мой шпурляе ў далеч лямант,
У дом благі сьпісаў зямляк.

Яму лягчэй з кары агаў высмоктваць
На Капры дзесь Эрота сок,
Ці, на скалу ўзабраўшыся высока,
Пяяць пра Слуцкі паясок.

А ты пайдзі спрабуй пастой у Форда
На тым канвэеры цалюткі дзень;
Я пагляджу, якім ты станеш лёрдам,
Пра вусны ці успомніш, дабрадзей?

Другому гуз памехай палітычны
Мадонну славіць з высі гор.
Бы той ардэн, ламовы, непрактычны,
Нажыў і ён на сьпіне горб.

І трэйці ёсьць. Адной нагой у прыйсьці,
Другой у сёньняшнім увяз:
На ўсе пэдалі цісьне без карысьці
Вызвольны марш за сказам сказ.

А той, што зьведаў сьцежкі ўсе, дарожкі,
Калі пылала Случчына ў агні,
Шуміць пахілай, ціхаю валошкай
Сярод чужых, неураджайных ніў.

Усіх сабраць, пабудаваць па росту —
Раўняць ня трэба: як адзін —
На душах войных наскраблі каросту,
Чакаючы ўсё тых гадзін. . .

## ВЯСНА, ВЯСНА...

Танга

Вясна, вясна, а ў сэрцы восень,
Душа баліць, душа галосіць:
Каханьня час, шчасьлівы час,
Ня прыйдзе зноў, ня вернецца да нас.

Давай руку, бадзяга-вецер!
Я палячу з табой па сьвеце
Ўтаймоўваць боль, разьвейваць сум,
Забыць каханае красу.

Я памятаю дзень вясновы:
Пілі мы ў лесе сок кляновы
І вуснаў сок, салодкі сок,
Вілі чаборавы вянок...

Давай руку, бадзяга-вецер!
Я палячу з табой па сьвеце
Ўтаймоўваць боль, разьвейваць сум,
Забыць каханае красу.

Я верыў ёй, як роднай маці,
Можа, таму так хутка страціў:
Цяпер яна, цяпер яна
З другім уцеху п'е да дна...

Давай руку, бадзяга-вецер!
Я палячу з табой па сьвеце
Ўтаймоўваць боль, разьвейваць сум,
Забыць каха́нае красу.

1951

## ІДУЦЬ ДЗЯЎЧАТЫ...

Ідуць дзяўчаты...
І, здаецца, сонца
Ім пад ногі кідае чырвонцы.
Ім зайздросьцяць прыгажосьці багіні.
Перад імі — вобземлю ілбом.

Ножкі, як бярозкі... "міні-міні"...
Здэцца-б піў дурман красы нагбом,
Ды, каб жонка не разьбіла люстра,
Трэба ганіць: "Цьфу, распуста!.."

1970

ПРАЦА

Грыміць, грукоча твістар-аўтамат *
Бы дрот, ён круціць нэрвы мае й жылы.
Што-ж? Лягу кабелем. Электра-сілы
Камусь засьвецяць, нехта будзе рад.

Няхай расьпяляць на слупох між хат —
Па мне празвоніць голас нейчы мілы.
Антэнаю на той касьмічны? Ўзьвілы,
Зямлі дыханьне зловіць касманаўт.

А сын маленькі, гэткі сьмешны, квола
Ашчэпіць шыю ручкамі ўвабхват,
Калі прыйду дамоў, сьхіліўшы голаў.

Сабе самому хто, скажэце, кат?
Але, каб Край мой сьветлы ўбачыў золак,
Гатоў скруціцца ў сотню тысяч столак.

1963

КАБ ЯКОЕСЬ ЦУДА СТАЛА

Каб якоесь цуда стала:
Каб я жыць пачаў з пачатку, —
Ўзяў-бы хлеба, трохі сала
Ў торбу йзрэбную у латках

І пайшоў за чарадою
Хай сьвіней, няхай авечак.
Запіваў-бы хлеб вадою
З той крыніцы, што шчабеча

---

*) Твістар (амэрыканскае) — машына для скручваньня дратоў.

Салаўём каля ракіты.
Падстаўляў-бы сонцу цела.
І, як бронзаю абліты,
Бы статуя, стаяў сьмела

На зямлі бацькоў-гэрояў
Каля Случы, пад гарою. . .

1970



Недарост і зайздрасьць — блізьнята.
Я не зайздрошчу нікому:
Ні славутым, ні багатым.
Мо таму, што маю паўдому? . .

Я страшэнна рады, што нейк
Захаваўся ўва мне чалавек,
Дабрадушны, хоць ня ціхі,
Бяз хітрошчаў і пыхі. . .

1963

## ЖУРАЎЛІ

Із далёкай заморскай зямлі,
Дзе сады зелянеюць узіму,
Бяз трывогі ляцяць жураўлі
На сваю дарагую радзіму.

Каля Нёману, лесу наўскрай,
Адкурлычуць прыгожае лета,
А увосень у сонечны край
Зноў у вырай у эскарце дзетак.

А куды мне падацца, куды?
Ці-ж навек прысмактала чужына?
Дзе напіцца жывое вады,
Камень цяжкі каб з сэрца нізрынуў?

Жураўлі, мае сёстры, браты,
Як ня выстаю, сум мо задужыць,
Па дарозе ў Сьвятую Сьвятых
Захапеце з сабой маю душу.

1976



Месяц срэбнай шпорай
Рэжа хваляў лусты.
На ўзьбярэжжы мора
Маўкліня і пуста.

Хвалі б'юцца ў скалы,
Адлятаюць з шумам.
Дзесь зары апалак
Пакаціўся з сумам.

Бы крыло кагаркі,
Палыхнуў сьлед зоркі.
Мне на дне байдаркі
П'ецца трунак горкі.

Недзе сьпіш ты. Вось-бы
Сон хоць раз парушыць?
Як-жа ты бяз просьбы
Мне залезла ў душу?

Не злавіць на вуду
Плотку ў тым вазерцы.
Як цябе забуду,
Калі б'ешся ў сэрцы?!

1960

## СЬЛЁЗЫ ДРЭЎ

Пісьменьніку Ю. Віцьбічу.

Каля пошты ў машыне сядзелі мы. Было
раньне.
"Сьлёзы дрэў" — Вы знайшлі параўнаньне
Таму прыгожаму шэраню,
Срабрыстаму, трошкі шэраму.

18. X. 1973

## ПАЭТЭСА

Натальлі Арсеньневай.

У Расеі — "Марина" ды "Анна"...
Натальля, Ларыса — у нас...
Асанна! Асанна! Асанна!
О, бедны, бабыльны Парнас!

Паэтаў — Палесьсе загаціш;
Чаўпуцца ў цянётах гары...
Яна-ж — гаспадыня і маці,
Шчэ й песьняй змагарнай гарыць.

Раўняй па асілку пракосы,
Пляці слоў агністых вянкі.
Ды ўчэпіцца крытык у косы:
Бі ў бубны, літаўры, жбанкі!..

Ды Муза, зайздросная дама,
Хвастом перад носам крутне
І пойдзе гуляць да Адама,
Што ручкі цалуе вясьне...

Сьлязой ці зарою рассыпся, —
Адна ёй спагада й хвала:
Ні ў броньзе яе, і ні ў гіпсе
Ня ўзьнесьлі. Сябры да стала

Запросяць, "сто год" прагалосяць
Адзін раз за сотню гадоў...
Вось так і ідзе па эпосе
З тугою сірот і удоў.

Таму мо — "Марина" ды "Анна",
Натальля, Ларыса — у нас.
Асанна! Асанна! Асанна!
О, бедны, бабыльны Парнас!

12. XII. 1961

## ЯНКУ ЗОЛАКУ

Да 65-годзьдзя ад дня нарадзінаў

Няўрымсных шэсьцьдзесят і пяць
Замоўклі за плячыма.

Табе іх цяжка ўспамінаць,
Забыцца немагчыма.

А ў тых, што сьпераду стаяць,
Зь непазнавальным тварам,
Няхай ня спыніцца буяць
Гадоў юнацкіх мара.

Хоць на піколавай струне
Не забывайся трумкаць,
Бо, кажуць: — Янка распанеў
Над “Беларускай думкай”.

Шугай, паэт, пакуль душа
Трапечацца у целе,
Хоць за шугу — ні паўграша,
У Пантэон ня ўселяць. . .

Ці ты вялікі, ці малы,
Не дапаможа росту
Мана падлызнай пахвалы
Ды звон крыштальны тостаў.

Так чалавеку чалавек,
Як бервяно калодзе. . .
Ці ты паэт, ці дрывасек —
Цана адна ў народзе.

Бяда вялікая! . . Твары!
Адточвай словаў пікі
І за Сяднёвам паўтары:
“Я сам сабе вялікі”.

## ПЕРШЫ СЬНЕГ

Хмары, авечкі котныя,
У небе вымя разьвесілі.
І сьняжынкі самотныя
Закружыліся весела.

Вецер, гуляка раздураны,
Між сьняжынак вяселіцца:
То разгоніцца бураю,
То закружыць мяцеліцай.

Грае, сьвішча пад стрэхамі,
Каб дзятва ня журылася.
Дзесь з казою, арэхамі
Каляда прытаілася.

23. XII. 1973

## МАСЕЮ СЯДНЁВУ

Ці раз, ці два вядзьмарны кот
Нам сьцежку, злыдзень, пераходзіў;
І я, чужы абняўшы плот,
З усімі кляўся жыць у згодзе.

А час такі — і брату брат
У сэрца кеплік цэліць джала.
Ды я, Масей, ня вінават,
Што плеткары цябе расьпялі.

Яны, забытыя Тварцом,
Красы бяскрылыя агнаты,
На ўзвышша пнуцца мудрацоў,
Сяброў сьпіхнуўшы ў плягіяты.

Баліць і мне. І я цану
Пазнаў нікчэмнасьці вялікай,
І на халодную вайну
Іду з загостранаю пікай.

Цябе як сьлед ня ведаў я,
Калі узьмежак перакрочыў. . .
Ды Муза слаўная Твая
Маёй пяском сыпнула ў вочы.

Мая, гаротніца, у плач. . .
Ну, хто-б ня ўстаў на абарону?
І паляцела ў гразь, прабач,
Паэтаў чыстая карона.

А ўсё той кот, вядзьмарны кот
Сяброўства сьцежку нам дратуе.
Дык вып'ем чарку, хоць праз плот,
За браму ціхую, сьвятую!

1955

## АЛЕСЯ

Не забуду я, Алеся,
Час спатканьня над ракой:
Абдымаў нас ціхалесься
Вецер цёплаю рукой;

Дзесь зязюля кукавала
Пад зялёнаю вярбой...
Укарала ты, што мала
Сустракаўся я з сабой.

Пагасалі ў небе зоры,
Як каралі тваіх сьлёз.
На сьвітаньні боль-дакоры
Я на век у даль панёс...

Не забуду я, Алеся,
Час спатканьня над ракой:
Абдымаў нас ціхалесься
Вецер цёплаю рукой...

Менск, 1943

## ВЯЛЬЛЯНАЧКА

Танга

Сасоначкі і бярозкі заспаныя
Туманамі ля бурлівай Вяльлі
Цябе, вяльляначка мая каханая,
Ў сады прысьнёныя са мной вялі.

Усьміхалася сінім сьмехам заранка,
Ты прасіла мяне: "Пачакай, пастой..."
Разьвіталіся мы з табой, вяльлянка,
Каля Трох крыжоў на гары сьвятой.

А на золку дзесь за Войстрай Брамаю
Рассыпаўся, быццам зоркі, твой сьцень.
Няўпрыкметкі і сьцяжынкай тэй самаю
Падагнаў мне коні белыя дзень.

Углядаўся я гэтак доўга і пільна
На знаёмы сад, што даўно пажоўк.

Разьвіталіся мы з табою у Вільні,
На гары сьвятой каля Трох крыжоў.

Сасоначкі і бярозкі зялёныя
Шумяць, шасьцяць, быццам хвалі Вяльлі.
Цябе, вяльляначка мая каханая,
Ў сады — нյродныя — сны прывялі.

Усьміхалася ты, як тая заранка,
Дарыла мне вуснаў сьпелых віно...
Разьвіталіся мы з табою, вяльлянка,
А хто скажа, згадае, ці стрэнемся ўзноў...

20. V. 1962

## ДЫМОК

Над Нёманам ціха
Стаіць хутарок.
Над хатай у небе
Блакітны дымок...

Як сонца заходзіць,
Як стане цямнець,
Дзявочыя вочы
Гарэць у вакне.

Дзявочыя вочы
Глядзяць на Заход:
Даўно даражэнькі
Пайшоў у паход.

Паходы, паходы...
Пагасла зара.
А вочы ня гаснуць,
А вочы гараць.

Над Нёманам ціха
Стаіць хутарок.
Над хатай у небе
Блакітны дымок...

## РЫБАЦКАЯ КАЛЫХАНКА

Сьпі, мой сынок:
Вецер замоўк,

Хвалі ня рушаць наш чаўнок;
Плоткі, лінёчкі
Сплюшчылі вочкі. . .
Сьпі, лю-лі, лю-лі,
Мой галубок.

Вырасьцеш ты —
У хвалях крутых
Рыбкаў лавіцьмеш залатых.
Будзеш, як рыцар,
З бурамі біцца.
Сьпі, лю-лі, лю-лі,
Рыцар сьвяты.

## З ДАРОГ

Ля чужое хаты стаю, малюся,
Адпачыць каб пусьцілі з дарог.
Туманы паснулі — можа зь Беларусі? —
Ля маіх акрываўленых ног.

Тумаиоў Радзімы сонца не спраменіць,
Не разьвеюць ветры навальніц.
Ля чужое хаты стану на калені,
Упаду ля роднай хаты ніц.

16. V. 1955

* * *

Слупоў ня бачна на мяжы —
Яшчэ кантракт мой не адроблен. . .
У даль прывабную бяжыць
Дарога ў сонечных аглоблях.

Ўзірацца вельмі не хачу,
Спаткацца зь Ёю страшнавата.
Стаіць, як сонца, уваччу
Каля Случы старая хата. . .
Цьвіце кукольнік на мяжы,
Бакас над паплавамі плача. . .
Бяжы, дарожанька, бяжы, —
Матулі доўг яшчэ ня сплачан.

20. III. 1966

## ПЕСЬНЯ ПРА ВІЛЬНЮ

О, Вільня, Вільня! . .
Места сноў маіх юных,
Гастрабрамскіх званоў,
Базыльлянскіх муроў.
О, Вільня, Вільня! . .
Бы цымбальныя струны,
Гэта слова адно
Грэе, пеніць мне кроў.

О, Вільня, Вільня! . .
Кожны дзень піў я трунак
Шчабятлівых садоў,

Беларускіх двароў.
О, Вільня, Вільня! . .
Бы цымбальныя струны
Гэта слова адно
Грэе, пеніць мне кроў.

О, Вільня, Вільня! . .
Кут мой мілы, гарунны.
Ты ня срэбра, ня медзь
Дзеля царскіх дароў. . .
О, Вільня, Вільня! . .
Бы цымбальныя струны
Гэта слова адно
Грэе, пеніць мне кроў.

О, Вільня, Вільня! . .
Шыхты войнікаў юных
Пранясуцца віхурай
Ля жмудзкіх муроў. . .
О, Вільня, Вільня! . .
Бы цымбальныя струны
Гэта слова адно
Грэе, пеніць мне кроў.

22. V. 1962

## КАЗКА

Сьвеціць месяц маладзенькі,
Зоркі, як валошкі.
Мой каханы, даражэнькі,
Пасядзім шчэ трошкі.

Памятаеш, як калісьці
Ночку ўсю да раньня
Нам шаптала ціха лісьце
Казку пра каханьне?

Адшаптала, адгулялі,
Шчасьце праляцела:
Засмуціла восень далі
Павуцінай белай. . .

Сьвеціць месяц, маладзенькі,
Зоркі, як валошкі.
Мой каханы, даражэнькі,
Пасядзім шчэ трошкі.

1953

## НІЯГАРА

Бягуць, як ільвы,
    пераваліваюцца
        праз валуны
            парогі
    беланогія хвалі.
Раптам
    упалі.
Абрыў.
Бы Індыянцы-грабары
    выграблі роў глыбокі,
        хвалі каб
    не ўцякалі далёка.

Расчасаўшы белыя грывы,
                з абрыву
            стрымгалоў,
        як самазабойцы,
    кідаюцца
        белапенныя
        глыбы
            вады...

Дым,
    дыямэнтавы дым
        уздымаецца
            ў неба
            хмарай,
Каб упасьці назад
                Ніягарай...

*
* *

Сьвішча вецер,
    Вечар. Косы
Дождж у вочы.
    Ірве атосы
Калясьніцы
    конь стаенны.
Бліскавіцы,
    быццам кроў
Ад сэрца ў цела
Разьлятаюцца па хмарах.
Пахне гарам.
Навальніцы,
    хто ня сьмелы,
    хто баіцца?
— Джвагні, джвагні!
Загрымела. . .
— Ах, як ціха,
    як няўмела!
Джвагні!

## ЧАЛАВЕК

**Сэкстына**

Пылінка вечнасьці ты, чалавек,
Вянок тварэньня усямоцнай сілы;
Спыняеш бег грымотны горных рэк,
А сам сябе ня ўпыніш да магілы;
П'янееш з славы, пераносіш зьдзек,
Шукаеш праўды, шчасьця зь веку ў век.

У той далёкі дакаменны век
Зубамі грызьзя зь зьверам чалавек,
Любіў раздольле, ненавідзеў зьдзек;
Над ім стыхіяў бушавалі сілы...
Вяшчаюць шмат што курганы, магілы,
Раскопаныя на ўзьбярэжжы рэк.

Па хвалях мора, паўнаводных рэк
Байдаркай, стругам, у навейшы век
Туды, дзе вее холадам магілы,
Дзе джунгляў вусьціш, пнуўся чалавек,
Тубыльцаў вольных перавагай сілы
Ў няволю браў, чыніў над імі зьдзек.

Прыроды дзеці, вам на зьдзіў і зьдзек
Бэтон і сталь скавалі грудзі рэк,
Трыножыць розум незямныя сілы;
Дарос да сотні чалавечы век,
І ён, правобраз Боскі, чалавек
Ляціць на высьціг з гукам да магілы.

Ляці да сонца — ня мінеш магілы.
За што, Тварэц, такі над сынам зьдзек?
Гарылы брат вышэйшы, чалавек
На Марсе сочыць скрыжаваньні рэк,
Махнуў крылом у атамовы век,
На штурм вышынь маланкі ловіць сілы.

Зыйшлі на землю процьмы чорнай сілы,
Разносіць вецер цяжкі дух магілы,
Імкне жыцьцё у дапатопны век;
Пакутнік славіць катаваньні, зьдзек,
І кроў людзей дыміць на хвалях рэк,
Сячэ галовы страшны чалавек.

Прадоньня жах, і кроў і зьдзек, ня век.
Магілы ўстануць, лопнуць жылы рэк. . .
О, Джвагнуць сілы неба, чалавек!

9. I. 1957

## ЯНКА КУПАЛА

Глухою ноччу ў чорныя часы
На Беларусі глыба сонца ўпала.
Прайшло праз сэрца жалем і запалам
Яе праменьне — неба галасы.

Ня любіць пан халопскае красы:
І ў творцу злосьці паляцелі джалы.
А маці ў горы рукі не падклала,
Як грымнуў вобзем непакорны сын.

У броньзе — мёртвы, ў ланцугох — жывы.
Прад сьмерцю ня сьхіліў ён галавы:
Ідзе ў вякі бунтарным звонкім крокам.

За ім кагорта, сьмелых, маладых. . .
А дзесь шумяць у квецені сады,
І полымем шугае кроў прарока.

## ЯКУБ КОЛАС

З палітай потам і крывёй зямлі
Працяг да сонца рукі буйны колас,
Ды вецер дзікі яму зрэзаў голаў
І кінуў груганьню на горб ральлі.

Грымелі ў цёмнай кузьні кавалі,
Чырвонае кавалі з сталі кола. . .
Музыка, бедны, надарваў свой голас:
Дамінікі Ганну ў пекла завялі.

Сумленьне здаўшы ў сатаны архіў,
Не адмаліць пакутамі грахі;
Сышлі ў магілу разам з катам оды. . .

І Лабановіч, сам сабе ня рад,
Блукае сумны ля пахілых хат,
Нагамі топча цацкі-ўзнагароды. . .

## САНЭТ ЕДНАСЬЦІ

Ці трэба нейчых мудрых слоў паўтор
Аб сіле ў еднасьці, пра воя ў полі?
Наслухаліся, ведаем даволі,
А ўсё-ж ідзём глуздом наперакор.

Вядзём за крэсла зломанае спор,
Крычым: “астроўшчык”, “абрамольчык”.
“Солім”,
Таму, каго й ня бачылі ніколі,
Каму — нажом па сэрцы — наш дакор.

А мы-ж усе з-пад Менску ці Вялейкі. . .
За што-ж ліём на брата, як із лейкі
Ды косім вочы, нібы ваўкалак?

Давайце ськінем з сэрцаў злосьці маскі.
Яны у нас аж сьвецяцца ад ласкі
Нават тады, як сьцісьнецца кулак.

28. І. 1963

## СТО ГОД!

Антону Адамовічу

Прымеце ў дзень народзінаў санэт,
Пачуцьцяў, думаў згустак, строгасьць
формы.
Сады квітнеюць і бушуюць штормы:
Гукаюць пляжы, корчмы, “лянчанэт”. . .

А Вы, бы той няўрымсьлівы паэт, —
За праўдай рысьсю па шляхох няторных.
Агню змаганьня аднаму пакорны,
А воля Беларусі — запавет.

Па родных, блізкіх часта сэрца тужыць.
Хто настальгіі разарве сіло?
Ні чаркі горыч, а ні водыр ружы. . .

За Шматпакутную цярпеньні згону.
А трэба — кроў пральлём. Вышэй чало!
Жывеце і змагайцеся сто год нам!

Чэрвень, 1982

## ЮБІЛЕЙНАЕ

Доктару В. Тумашу

Пакойчык сьціплы ў месьце-тлуме,
І шыльды нат няма "БІНіМ".
А колькі стуль прыгожых думак
— Нямала й Вашых, доктар Тумаш, —
У сьвет пайшло, да родных ніў?!

А колькі йдзе?
А колькі пойдзе
Праз "Запісы", праз "Конадні"?
І як ня ўспомніць пры нагодзе,
Што зь іскры родзяцца агні!

Дык хай трызвоняць іскры-гукі,
Ганцы нязгасных вольных дум!
А юбіляра хай пад рукі
Нам музы мудрасьці вядуць.

Няхай вядуць у ногу з часам
Яшчэ нам доўга, і ня раз,
Пяром хай Доктар тне Пэгаса,
Жвавей імкнуў каб на Парнас.

Для сына слаўнае князёўны,
Імя якое Беларусь,
Там налівайце кубак поўна,
Адпаліваны пад зару!

У тым вясёлым, гулкім шуме,
Пад гоман тостаў і прамоў,
Што пажадаць Вам, доктар Тумаш,
Апроч тых круглых "сто гадоў"?

Ды аднаго: у Менску Новым,
У Акадэміі Навук,
Хай юбілей Ваш стогадовы
Адзначыць з часам вольны ўнук!

15. XII. 1970

## МАМОНА

Мамона, Евы грэшнай плоць,
У Рай табе замкнута ўвойсьце;

Мяне ня звабіш, ведзьма, хоць
І я жыву ня ў шчырым посьце.

Мне лішні грош ня засьціць сьвет,
А чаркі звон ня рэжа вушы,
Ды над усё мой запавет —
Не прадаваць мамоне душу.

Ня пхнуся я ў сям'ю сьвятых:
Грыміць за мной грахоў пагоня,
Але ў зямлю ня ўпялю штых,
Пакуль браты мае ў палоне.

Я поўны войнасьці, надзей,
Гатоў прадоньне пераскочыць,
Каб хоць раз шчэ паглядзець
Случы ды Нёману у вочы.

Няхай змагуся, упаду —
Не пакланюся ізуверцам,
Апошні атам маіх дум
Вызвольнай песьняй разарвецца.

1964

## ПАМЯЦІ ГЭРОЯЎ

Між дрэў здраньцьвелых вецер ськіголіў,
Шпурляў белы сьнег і шчарнелае лісьце,
А ім, атакованым каля Слуцку ў полі,
Адно заставалася толькі выйсьце:

Штыхі ў зямлю, а рукі ўгору. . .
Ды не такое случчакі закваскі.
Ім па калена бяздоньне мора
Яны і ў сьмерці ня просяць ласкі.

Такіх разыкантамі звалі ў вёсках,
Яны ішлі на кулачкі, ў абхваткі. . .
Калі-ж у вызвольнае клікнулі войска,
Пайшлі з чужакамі ў сьмяртэльныя схваткі.

"Гранёным" штыхам у руках азіятаў
Гэроі ня раз кулакі падстаўлялі. . .
І гледзячы з больлю на родныя хаты,
Апошні патрон для сябе пакідалі.

А вецер між дрэваў здраньцьвелых
ськіголіў.
Шпурляў белы сьнег і шчарнелае лісьце.
Яны, што ляглі каля Слуцку у полі,
Крывёй асьвяцілі да Волі выйсьце.

1976

## ГАЛАКТЫКАЎ ГОЛАС КАСМІЧНЫ...

Галактыкаў голас касьмічны
І промняў сьмяртэльных шорах...
Звышмудрасьцю кібэрнэтычнай
Ня зьмераць майго гора.

Якая з таго мне уцеха
І гонар з таго які мне,
Што поступу нашага рэха
У грудзі стагодзьдзяў грымне?

Жыву я адзін раз тутка,
На гэтай прыгожай кулі.
Шчасьлівы, бо сын ціхутка
Сьпіць на руцэ у матулі.

Ня сьняцца яму ні атам,
Ні жахі у джунглях В'етнаму...
Няўжо-ж мне стаць яго катам,
Капаць яму, любаму, я́му?..

Ня просяць нас тыя й стагодзьдзі,
Каб мы ім грымалі ў грудзі...
Яны там такое народзяць,
Пра што — ані слова ў "Талмудзе"...

Рэакцыяй адваротнай
Бяздумнасьці чалавека, —
Прывідаў народзяць страхотных
Ды гномікаў, недарэкаў...

А можам мы грымнуць і гэтак,
Што тыя стагодзьдзі запішуць:
"Зямлёй тую звалі плянэту,
Цяпер там — пустэльня, ціша..."

Галактыкаў голас касьмічны,
І промняў сьмяртэльных шорах...
Звышмудрасьцю кібэрнэтычнай
Ня зьмераць майго гора...

Красавік, 1966

## БОЖА НАШ

Божа наш, Твае мы просім ласкі:
Дай нам шчасьце, радасьць у жыцьці,
На зямлі няроднай шлях наш цяжкі
Віфліемскай зоркай асьвяці!

А яшчэ, Усявышні, Цябе просім:
Зьдзейсьніць мары-сны дапамажы, —
Каб у згараванай Беларусі
На сьвятынях ажылі крыжы;

Каб у ціхай вечаровай сіні
Звон вяшчальны калыхаў зару;
Каб з душой Сьвятое Еўфрасіньні
Выйшла ў людзі Маці-Беларусь!

## ЗЯЛЁНЫ ШУМ

Плывуць над паркам ціха хмары,
Праходзяць міма мяне пары;
Маю самотную душу
Трывожыць шум, зялёны шум.

Я памятаю дзень вясновы;
Пілі мы ў лесе сок кляновы
І вуснаў сок, салодкі сок;
Плялі пралескавы вянок.

Квітнеў у садзе бэз духмяны,
П’яніў ён сэрцы закаханых.
Мяне п’яніў ня бэзу чад,
П’яніў каханае пагляд.

Апошні раз пад гоман гаю
Яна шапнула мне: “Кахаю...”
І з тэй пары маю душу
Трывожыць шум, зялёны шум.

## ВЯСНА

Вясна. . .
А жураўлі, напэўна,
Дзесь зьбіліся зь сьцяжынкі:
Ні "кур-лы. . ."
І жаўрукі на струшчаны іржэўнік
Не рассыпаюць зярняткі хвалы.

Шпакі. . .
О, так! Яны ўсю зіму
У белым кіпені чарнілі лахманы.
Яны ў мяцеліцу кірмаш падымуць. . .
Шпакі — не пашчабетнікі вясны.

"Ку-ку. . ."
Камусь зязюля маніць
За вёскай на разгалістай сасьне? —
"Кукуе" кожны дзень а шостай раньня
Будзільнік, эўрапейскі, на сьцяне.

Вясна. . .
Яе бяз тых салютаў
Дыктары па хвалях эфіру прывялі. . .
Клубіцца туманам блакітным смутак.
"Ку-ку" — зязюля. . .
"Кур-лы" — журавы. . .

24. III. 1961



У садзе, ў зялёным гальлі,
Замоўк вясёлы хор птушыны.
Цяпло і ціша паднялі
Таўкач стазвонны камарыны.

Праменьня дзіды ў сіняву
Вэнэра з сонца настругала.
Зямля схавала галаву
Пад ночы чорным пакрывалам.

Упяліў месяц у вакно
Касое вока з-паза хмары.
Яму, бадай, усё відно,
А я надзену акуляры.

Ад лаўкі ў садзе да сьцяны
Ляглі два студеныя цені,
Трымцяць, хістаюцца яны
У бела-срэбным зіхаценьні. . .

Пад сэрца комам — зайздрасьць, млосьць.
А ў небе зорная зухваласьць. . .
І мне чужая маладосьць
Паўночы добрай адарвала.

1959

## БОМ*

Што пудзіла на агародзе, зашмальцаваны,
Капялюх падмасьціўшы пад галаву,
Сьпіць на ходніках каля рэстарану,
Ногі, рукі раськінуўшы, бы павук.

Мінаюць, яго, як бомбу, дасьціпныя да́мы,
Паліцэйскі пераступае, бы праз агрызак
сухі.
А ён, нашчадак грэшнага Адама,
За чые пакутуе грахі?

Не для ўсіх нагародай бязьмежная воля.
Для бязвольнага воля — бяда.
І залiваюць тугу жыцьця алькаголем.
Хвала узаконенаму кудзейнаму "дай"!

І даюць. І напіваюцца да паўсьмерці.
Шматкаляровы дзей людзкіх альбом.
— Дарогу, д'яблы, цьвярозыя чэрці! . .
Ідзе сам сабе няшчасьце — бом.

## ГАЙВЭИ **

Кожны дзень я еду, ці іду, —
Як абрусы, сьцелюцца гайвэі.

*) Bum — (амэрыканскае) бадзяга, п'яніца.

**) Highway (амэрыканскае) — аўтастрада.

Падарожных неадчэпных дум
Сьледам блудзяць сумныя завеі.

Вось ляціць, як лялька "Кадыляк",
А за ім навыперадкі "Пант'як"...
Хто на працу, а хто проста так
Стрымгалоў стальныя коні гоняць.

Гэткі шлях — уцеха із уцех!
Ня тутэйшы я, а ў захапленьні.
А у нас, як зыйдзе з поля сьнег,
Дык мясі гразюку па калені.

Ад вясны да моцных маразоў
Растрасай калёсы па калюгах.
Толькі ўзімку песьня палазоў
Вараных падхлёствае, як пуга.

І лятуць, як ветры, нацянькі...
Тут такая радасьць і ня сьніцца.
Ў бездарожжы любыя дзянькі!..
Па шляхох разгубленыя сьпіцы!..

Я адным, нягаснучым, гару, —
Не разьвеюць дум маіх завеі, —
Вось сюды-б маю Беларусь,
Ці туды вось гэтыя гайвэі!..

1952

## КУБА У МЕНСКУ

Куба ходзіць па Менску —
Барада і пацёрты бэрэт.
Поруч
        поўную міску
У студэнцкай сталоўцы бярэ.
Пад вачыма густая сінеча,
Ад бяссоньніцы,
                        як і ў мяне...

Анатоль Вялюгін

Барада, нечасаная, ў бэрэце
Трасецца ў даўжэзнай чарзе...
Пайшла бадзяжыць Куба...
                                        Паэце!

Голад
сорак пяць гадоў зьеў
Да песьні твае, салаўінай,
Каб выплюнуць недзе на выспу
кастравага крэтныны.
Ня сьпі яшчэ сто ночаў —
магчыма,
Ня Кубу —
Беларусь пабачыш
зь сінечай пад вачыма,
Укрыжаванай, забітай, —
патрэбна ёй хіба
Торбу старэцкую дарыць
хлопцам з выспы ў Карыбах?
Прыветная і гасьцінная,
сябе ці ўратуе ад згубы?
Ня сінеча, а чырвань
у яе пад вачыма
і ў Кубы...

28. II. 1963



Яшчэ сьнягоў ня выкіпела пена,
Вятры ільдзінак зорных не зьмялі,
А ўжо бруіцца па бярэзін венах
Прыглушаная музыка зямлі.

Шпурнуўшы ў сінь праменьне-камэртоны,
Гарыць агнём няўрымсным дырыжор.
Яшчэ часіна — пяруноў трамбоны
Удараць марш вясновы з рэ-мажор.

Лясы спрасоньня зашумяць: "Дзе лісьце?"
Зямля нап'ецца сонца і вады.
Паймчацца рэчкі ў эстафэтны высьціг,
У белай радасьці закружацца сады...

19. II. 1963

## ЮБІЛЕЙНАЕ СЛОВА

Лёгка неяк мне сягоньня,
Зь ветрам мог-бы ў перагонкі.
Мо таму, што чаркі звоняць,
Прыбыло ў душы сілёнкі?

Не, прызнацца, глухаваты
Стаў [illegible] штось да чарак звону.
Не, ня Бахуса "санэты"
Падалі таго разгону...

Лёгка мне, бо я між вамі,
Змагарамі Беларусі;
Бо сінеюць васількамі
Вашы вочы ў тым хаўрусе.

Бо і ў вас на сэрцы раны,
Б'юць крыві бурхлівай хвалі.
Вы за родны Край, забраны.
Сябе самі ўкрыжавалі.

Сэрцу нельга даць параду,
Калі з болю яно ные.
Рады я, бязьмерна рады,
Што жывыя мы, жывыя —

Духам волатаў нязломных,
Спрагай волі і тварэньня.
На этапах векапомных,
Па-над Нёмнам і на Рэйне

Ня сьхілялі ніц галовы,
Ня зьгібаемся й сягоньня.
За прыгожым родным словам
Нашых душ імкне пагоня.

Ў час, калі страхотны атам
Сьмерці голасам гаворыць
Пра зьнішчэньне і адплату, —
Ў час бяздушны і суворы,

Вы віншуеце паэта,
Што яго нячысьцік тузаў...
Гэта добрая прыкмета.
Чуеш, здрадлівая Муза?

Ты часьцей заходзь у госьці.
Ёсьць у нас перспэктыва:
Дапамогуць нам у росьце
Каўбаса, гарэлка, піва. . .

Жарты жартамі. Паважна?
Дзесь на мітынгу дабавім,
Бо сумуюць чаркі, ажно
Разьбягаюцца ў абаве,

Што ня любім мы іх звону:
Ўсё гаворкі ды гаворкі. . .
Шчыра дзякую за гонар,
Дзень салодкі, вечар горкі! . .

1961

*
*     *

Кажуць людзі — ўсё ў жыцьці праходзіць.
А чаму, спытаю я ў людзей,
Правяла мяне да загародзьдзя
І пайшла, як з могілкаў адходзяць,
А й дасюль ня выйшла із грудзей.

Ў маіх грудзях шмат хто меў прытулак,
У сэрцы, знацца. . . Што таіць грахі?
Ды, ці грэх, калі краса дзяўчыны
Пекане, бы дзідамі шыпшына,
У час самоты, сумны і ліхі?

Не, я сэрца вельмі ня трыножыў,
Калі йшоў сярод дзяўчын, жанок.
Ды агонь спакусьліва-прыгожы
Не крануў сьвятліцы тае Божай,
Дзе цьвіце яе душы вянок.

Кажуць людзі — ўсё ў жыцьці праходзіць.
Шмат няпраўды блудзіць між людзей.
Правяла мяне да загародзьдзя
І пайшла, як з могілкаў адходзяць,
А й дасюль ня выйшла із грудзей. . .

1963

## ВЕРШ

Верш — ня вычварны каўтун
Слоў-мерцьвякоў мудрагельных,
Нейкіх мярэжаў пустэльных.
Верш — гэта водгульле струн
Тых, што ў душы ня ўміраюць,
Вечна прыгожае граюць.
Верш — гэта сьпеў салаўёў,
Сьлёзы Радзімы, забранае,
Вочы дзяўчыны, каханае.
Верш — залатое пяро
З птушкі, што клічам мы мараю,
Той, што за сіняю хмараю.
Верш — гэта крык пачуцьця,
Песьня, што ў грудзях ня месьціцца,
Зорка, што ў просіні песьціцца.
Верш — гэта рытмы жыцьця,
Тыя, што ў вечнасьці стукаюць,
З болю адлітымі гукамі.

22. X. 1968

## МАЛАДОМУ ПАЭТУ

Ты бачыў, як лезуць
        альпіністы на скалы?
Ты ведаеш, колькі
        іх прадоньне схавала?
На выступе кожным,
        у граніту расколе
Трымаецца, млее
        альпіністага доля.
Высока зіяе
        сьнегам сінім вяршына.
Як хочацца ўзьлезьці,
        ды як страшна нізрынуць.
А часам на голаў
        жухне сьнежная лява.
Бывай, белы сьвеце:
        і каханьне, і слава!..
Вось так і цябе

на шляху да Парнасу
Чакаюць выступы
ды расколіны часу...

1961

## АДКАЗ ПАЭТУ

«Ну, скажэце, каму сяньня нашыя вершы патрэбныя? Ці набярэцца наагул чалавек дзесяць, што іх чытаюць, і чатыры-пяць, а мо й менш, што іх разумеюць?»

(З прыватнага ліста)

Мне чытач не наструньвае ліру, —
Муза песьні падкажа тон, —
І у сэрцы маім нечакана
Скалыхнецца звон...

Закручуся у нейкім віры,
Бы ўтапіўшыся ў сны і тугу...
Вам знаёма гэта? Даруйце!
Ня пісаць тады не магу.

І ня дзесяць хай, не чатыры, —
Хай ніхто не захоча чытаць, —
Застануся адзін, а буду
Сам сабе і паэт, і чытач...

## ПАЭТУ

Годзе выседжваць
слоў кураняты,
Раскалупваць
пачуцьцяў
струп!
Чуеш, рыгаюць
крывёй
гарматы?
Бачыш, труп
абдымае
труп?
Чорны,
грымучы,

гад стоязыкі
Страшны вузел
пяліцца
сьцяць. . .
Сьмерці насупраць,
паэта-музыка,
Пераможную песьню жыцьця!
Маршы і вершы —
бомбы, гранаты —
У атрутную гада
сьлізь.
Чорствыя сэрцы
словам раскратай,
Сонцазорую радасьць,
блізь!
Сьлінай
сьлімачай
раны ня гояць
І ня гасяць пажар
сьлязой.
Музыку волі —
у сэрцы
вояў!
Эскадрылі рыфмаў
у бой!

Лістапад, 1952

## КНІЖКУ КУПЕЦЕ

Нехта пакпіць і асудзіць,
Знойдзе жадобу ў паэце:
— Ходзіць ён з торбай па людзях:
"Кніжку купеце! . .
Кніжку купеце! . ."

Крывяцца хмурыя твары
Лідэраў, знаных у "сьвеце":
— Вось ня было яшчэ кары! . .
"Кніжку купеце! . .
Кніжку купеце! . ."

Іншы загляне да скрынкі:
— Нештачка ў жоўтым кувэрце?
Цьфу! Як гандляр той на рынку:
“Кніжку купеце! . .
  Кніжку купеце! . .”

— Зь вершаў ня сшыеш кашулі,
Выкінь далярык на вецер. . .
Дзед наш і бабка ня чулі:
“Кніжку купеце! . .
  Кніжку купеце! . .”

Бедныя, “бедныя” людзі!
Цяжка паэту на сьвеце!
Бог хай вас, грэшных, асудзіць!
Кніжку усё-ж —
              купеце!

7. XII. 1961

## У МАЛЕНЬКІМ МЕНСКУ

У “маленькім Менску” ля Ню Ёрку
Ад відна да зорнае начы
Не змаўкаюць гутаркі, гаворкі,
Песьня беларуская гучыць. . .

Бы ўцякачкі з пушчы Белавежы,
Сосны квола горы абнялі,
Каб надыхацца паветрам сьвежым
І ляцець да роднае зямлі.

Зь імі ўровень ясакары, клёны
Неба п'юць сівых вякоў настой.
Хочацца ісьці у дым зялёны,
Пашукаць блакітных васількоў. . .

Іх няма тут. . .
          Гутаркі, гаворкі. . .
Ад відна да зорнае начы.
У “маленькім Менску” ля Ню Ёрку
Песьня беларуская гучыць. . .

Бэлер-Менск, 7. VII. 1971

## ВЯСНА

Сарамліва і нясьмела,
Бы дзяўчына на спатканьне,
Па прасторах шэра-белых
Крочыць цёплае дыханьне.

Прамывае неба вочы,
Раськідае хмар падушкі.
Дробны дожджык стрэхі строчыць,
Ветры любяць гольле гушкаць.

Лес да сонца туліць сьпіну,
Доіць поле хмараў вымя.
Журавы назад, да гнёздаў, —
Бумарангамі крывымі.

З кожным днём сьмялей, увішней
Сонца палкія уколы.
Што там: сьнег прымёрз да вішняў?
Памыліўся-б, каб ня пчолы. . .

Нібы бубны на вясельлі,
Рэжуць першыя грымоты.
Блудзіць песьня ля аселіц,
Кліча сэрца ў цянёты.

1959

## ЛЕТНІ ВЕЧАР

Гамы летняга вечару дзіўныя:
Льецца жніўная песьня ў палёх,
Задумёная, сумна-надрыўная,
Быццам лірнік на струны налёг.

У сулад з салаўінымі трэлямі —
Зычны кагарак хор ля ракі;
На сінь неба апёршыся крыламі,
Спражаць звонкі гарох жаўрукі.

У цымбалы тнуць пчолы над кветкамі,
Ды ня доўга ім маршы іграць:
Шэры змрок над лугамі, палеткамі
Васільком працінае зара.

Туманы ў паплавох ляглі покатам,
Дзень духотны за сонцам паплыў,
І віншуюць узрушаным клёкатам
Прахалоду начную буслы.

1973

## ІНЬДЗЕЙСКАЕ ЛЕТА *

Ні сьпякотна, ні сьцюдзёна.
Ціха, здорава, бадзёра.
Бы іньдзеец, клён чырвоны
Асядлаў каня-пагорак:

Аглядае пільна вёскі,
Ці ня ймкнуць адтуль "блядыя"?
Не. Наўкол вярба, бярозкі,
Бы іньдзейкі маладыя.

---

*) Наша «бабіна лета» ў Амэрыцы завуць Indian summer («іньдзейскае лета»).

Паўбіраны, як на сьвята.
Ломіць чырвань сонца стрэлы.
У паветры водыр мяты
Ды малiны перасьпелай.

На ральлі шпакоў нарада,
Як дабрацца да Флярыды?..
Не вялікая ім радасьць
Хаты бацькаўскія кідаць.

Вось і я ў краі "навага"
Абзавёўся парай дзетак,
Але мучыць мяне спрага:
Прагну "бабінага лета"...

24. X. 1968

## АРЛА БАЧЫЎ Я

Арла бачыў я. Быццам мечам, крылом
Ён рэзаў вятроў выгінастыя сьпіны;
Ракетай нізрынуўся ў хмараў пралом
Ды йзноў узьвіваўся між горных вяршынаў.

А лебедзь па возеры ціха плыла,
Бы ветразь бялюткі цудоўны.
І я заглядзеўся, забыў пра арла,
Палонены чарам князёўны.

Ды вочы увысь ірвануліся ўзноў:
Арла я ўжо там не пабачыў.
І доўга блукаў па нажох валуноў,
Засмучаны гэтай няўдачай.

Ля глыбы гранітнай праменьне піў гад,
Ляжаў ён бяз мэты, бяз мары...
І думка кальнула: "Каму зь іх я брат?
Арлу ў вышыні, ці вось гэтай пачвары?"

## ЖАВАРАНАК

Толькі сонца тне крылом
Павуціну ночы,
Страпянецца за сялом
Жаўранка званочак.

Бы трымцістая зара,
Ён вісіць у сіні
І журботных гукаў град
На зямлю нізрыне.

Нейк сьпявалі дудары:
“Хтось дзяўчыну кінуў. . .”
Вось і б’ецца угары
Сэрца той дзяўчыны.

Каб ён дзесь на чужыне
Бачыў той камочак. . .
Звоніць, звоніць мне і ў сьне
Жаўранка званочак.

21. VIII. 1964

## ВЭНЭРА

Стаю адзін у трапяткой цішы.
У небе зоры — ноты вечнай песьні.
Сьпявае вецер сумна і балесьне,
І — бура ў сэрцы, цяжка на душы.

Вэнэра зь цемры даляў і вышынь
Глядзіць на нас, мо й думае: “Род грэшны,
Ты й мне рыхтуеш аржаны апрэсьнік
Ды чад забойчы фабрык і машын”.

Дарэмны потуг “спутнікаў”, “марынаў”:
Ля ног маіх яны сьпятрэюць, зьгінуць —
Мяне ўжо сонца сын пацалаваў. . .

Дый у зямлі — сівая галава,
Яна сядзіць на атамаў вулькане. . .
Я чую маршаў пахавальных граньне. . .

5. X. 1972



Не заўважыць у прыцем
На шыпшыне калючак.
Можаш сам сябе выцяць
Нечакана балюча,

Да крыві спаласнуць
Цела дзіды шыпшыны.
Не хадзі накасую
Праз кусты да дзяўчыны.

Ёсьць-жа сьцежак даволі,
Часу шмат да зьмярканьня.
Ды бяз ночы і болю,
Дык якое-ж каханьне?

1961

## НОВЫ ГОД

Ня цьвіце чабор на межах,
Над вадой бакас ня плача,
У бязьлісьці белы сьнежань
"Крыжачка" з задорам скача.
Тоўсты лёд скаваў Арэсу
І на Нёман кінуў путы...
Дзед-Мароз выходзіць зь лесу,
Ў лапці новыя абуты.

На ялінках стужкі тэнчу,
Зіхацяць жучкі, гарэшкі...
Ля ялінак дзеці кленчаць,
На губах цьвітуць усьмешкі.
Неба зорамі іскрыцца,
Шыр і бель мо вёрст на дзьвесьце,
За сталы народ садзіцца...
— Дзед Мароз, куцьцю йдзі есьці!

1943

## ПЕСЬНЯ - КЛІЧ

Арляняты маладыя,
маладыя, сьмелыя,
Падымайце ў сонца сьцягі
бел-чырвона-белыя!

Падымайце і нясеце,
дзе маланкі бліскаюць,
каб у сонечнае заўтра
крочыць сьцежкай блізкаю!

Каб у сонечнае заўтра,
у сям'ю вялікую
зь песьняй гучнаю зьявіцца,
зь сілай мнагалікаю.

Каб зьвінела наша песьня
над старонкай роднаю,
каб гарэла наша сэрца
радасьцю народнаю.

Дык наперад, арляняты,
маладыя, сьмелыя,
падымайце ў сонца сьцягі
бел-чырвона-белыя!

1943

## ПАЭТА

Бабка часта мне казала,
Што людзей разумных мала,
Што паэты ўсе дурныя...
Іх вастрогі і піўныя,
Як знаёмых, сустракаюць,
І дзяўчаты не кахаюць,
А калі і пакахаюць,
Дык нядоўга, пакідаюць...
Думаў, думаў я над гэтым
І рашыў ня быць паэтам,
Бо, папраўдзе вам прызнацца,
Не жадаў я дурнем звацца.
Толькі так, як мы жадаем,
Не заўжды ў жыцьці бывае:
Хочам звацца чалавекам,
Паглядзіш, а ты — калека...
Так і я... Адзін раз п'яны
Нахлябаўся і буяны
Перад групаю народу
Стаў казаць якуюсь оду...
Расказаць хацеў паэму,
Глядзь, крычаць: "Дзяржы нацдэма!"
Падляцела ўміг карэта
І у вастрог мяне, паэту...
Праўду, бабка, ты казала,
Што людзей разумных мала...

## ВЕЧАР

Наліліся сокам сонца зоры.
Маўкліня. Ня шэпчуць чараты.
Туманоў блакітныя уборы
Паразьвешваў вецер на кусты.

За сялом зялёныя дубровы
Шэры падпяразваюць хвартух.
Малаком цяжарныя каровы
Праганяе выганам пастух.

Парасьселася ў гальлі на веча
Вараньнё у чорных лахманох.
На спатканьне з ноччу вышаў вечар,
Малады замроены манах.

1945

## МНЕ ЦЫГАНКА ВАРАЖЫЛА

Мне цыганка варажыла
І ўсю праўду гаварыла:
"Будзеш ты на сьвеце, мілы,
Жыць да самай да магілы...
Як памрэш, дык пахаваюць,
А ў жывога ня спытаюць,
Дзе ты будзеш сёньня спаці:
Ў чыстым полі, ці у хаце...
Ты на клопаты багаты.
Будзеш тры разы жанаты:
Раз з сумою, раз з турмою,
Трэйці раз зь зямлёй сырою...
У жыцьці ня маеш шчасьця,
Бо кароль чырвонай масьці
На тваёй стаіць дарозе.
Будзеш вечна у трывозе...
Калі будзе брага й сала,
Будзеш мець сяброў ня мала.
А спаткаешся зь бядою,
Будзеш есьці ком з вадою, —
Ў дзень з агнём, ў ночы зь сьвечкай
Ты ня знойдзеш чалавечка,
Каб памог размыкаць гора.
Вось і ўсё. Ідзі ў камору
Прынясі што небудзь, мілы.
Будзеш помніць да магілы,
Як цыганка варажыла
І ўсю праўду гаварыла".

1946

## МУЗЕ

О, Муза, зноўку ты са мною!
Садзіся, рад цябе я бачыць.
Глядзі, якою я сям'ёю
Узбагаціўся ў час лядачы.

Вось гэты госьць завецца голад,
Часьценька рэжа мне па шлунку...
А гэты вось дзябёлы — холад...
Ня дам я зь ім сабе ратунку.

Сказаць дурны, дык мае розум...
Разумны? Сораму ня мае:
Ці ёсьць мароз, няма марозу, —
Мяне усюды дапякае.

А вось сядзіць яшчэ хвароба.
Змагацца зь ёй ня маю сілы.
"Кахаю, — кажа, й — што ты зробіш?
I не пакіну да магілы..."

I жонку — шчасьце меў. Лішыўся
Даўным-даўно, калі й ня помню.
Яшчэ на сьвет я не радзіўся,
А ёй паставілі ўжо помнік.

А дзеці — вершы ўсе па сьвеце
Паразгубляў у час нягоды.
Ды мне, прызнацца, сонца сьвеціць
Ні лепш, ні горш бяз іх уродаў...

Нядоля-мачыха рыпіць шчэ.
Глядзі, як вылупіла вочы.
I бацька — лёс сядзіць на печы.
Чакае сьмерці ўдзень і ўночы.

Заходзяць шчэ, ня маю крыўды
I сум, і роспач на сьвітаньні...
Браты наведваюць гібрыды,
Хоць вельмі рэдка, спадзяваньні...

Як бачыш, Муза, не адзін я.
Цябе мне толькі не хапала.
Прыйшла ты ў добрую гадзіну:
Скажы, а дзе-ж ты кукавала?

Пакрыўдзіў мо? Прабач за гэта.
Ды ты-ж бо Муза, а ня цёткі,
Якія беднага паэта
У магілу ўгоняць. . . Плёткі, плёткі!

Руку дай, Муза, пойдзем разам,
Туды на стромкія вяршыны,
Дзе сярод песеннай праказы
Квітнее пышная "Шыпшына"!

Там шмат паэтаў і музыкаў.
У іх ня гэтакія дамы!
Дык ты надзень хоць чаравікі,
А то узьніме злыбедзь лямант.

Ужо крычаць: "Кавыль, Таполя. . .
Ха-ха! Няма йшчэ кукурузы. . .
Такая нас, паэтаў, доля.
Дык пойдзем, час! О, Муза, Муза!

Бэльгія, 1947

## ВЯСЁЛКА

Грукацелі грымоты грозна,
Водгульле бухала ў горах.
Крэмзалі бліскаўкі розна
Неба, як чорнае мора.

Грудзі зямлі дрыжэлі,
Вецер ськіголіў колкі.
Змоўкла. Ў задымленай далі
Устала дуга вясёлкі.

Бэльгія, 1947

## ПРАРОЦТВА

Я маю надзею і мрою:
Калі-ні-калі ў завірусе
Пад марш пераможны гэрояў
І я на радзіму вярнуся.

Вярнуся, як казачны рыцар;
У латках, зь кійком, з барадою...
І дзеці за мной падзівіцца
Будуць хадзіць чарадою.

Я выму з жабрачае торбы
Скарынку і кіну... "Лавеце!"
За гэта старэчаму горбу
Каменьням аддзякуюць дзеці.

Тады я прысяду ля хаты
І звонка удару у ліру:
Ў маіх прасьлядоўцаў кудлатых
Зранкі разьбягуцца шырай.

Я ім раскажу аб гэроях,
За край, што зьляглі ў завірусе...
. . . . . . . . . . .

Я маю надзею і мрою:
Калісь на радзіму вярнуся...

Бэльгія, 1947

## ПАПРОСІМ

Акопы... Салдаты, салдаты...
Год Новы... "Мо, новае шчасьце?"
Адходную гралі гарматы...
— "Дай, Божа, сягоньня ня ўпасьці!"

Прасілі, хто верыў у Бога,
Ня ўпалі, бо ён літасьцівы,
Другія сягоньня дарогі
І песьняў другія матывы.

Ды ўсё падуладна Ўсясіле.
Год Новы... "Мо, новае шчасьце?"
Папросім, як колісь прасілі:
Дай, Божа, сягоньня ня ўпасьці!

1950

## ЭПІГРАМЫ

На Ю. Віцьбіча

Не, ня крывёю, а чарнілам
Ён паражае д'ябла сілы
І на узвышша шляхам чыну
Вядзе праз немарач "Шыпшыну".

На М. Вярбу

Жабрачы хлеб каўтае горкі,
Не пераступіўшы за парог...
Нашчуліць сэрца у вугоркі
І плача: "Ня даў нічога Бог"...

На У. Дудзіцкага

Напіша верш у год
І вады ў рот...
А, мо наадварот?

На С. Жамойду

Зь ім жартуйце асьцярожна —
Псалтыром забіць ён можа.

На Я. Золака

У жыцьці ён паслушны і шчыры,
А ў зэніце, як водблеск зары...
Калі гусі зьбіраюцца ў вырай,
Пачуцьцём ён вясеньнім гарыць.

На У. Клішэвіча

І ў палацах Сансусі
Сьніць ён сны аб Беларусі.

На Р. Крушыну

Лебедзь чорную, белыя гусі,
Данясеце да Беларусі,
Хай пачуе уцеха-дзяўчына,
Як іграе на йскрыпцы Крушына.

На А. Салаўя

На крыльлях вольнага Пэгаса
Сьпявае весела ён часам,
Бо на Гальгофе, у "Крывіі"
Гарацъ... "званы Сьвятой Сафіі".

На М. Сяднёва

Спадзяваўся ў акіяне ночы
Сам сабе быць не маленькім,
Ды сказалі проста ў вочы:
"Гэта-ж хуліганства, даражэнькі!

На Я. Юхнаўца

У яго зусім другія скрыдлы,
Ён ні на кога не падобны з нас:
Руінаў моўкнасьць — яго Парнас,
А куст крапівы — яму Азарыс.

1950

## ДЗЯКУЮ, АМЭРЫКА!

З роднымі разлучаны,
Зь нядоляю заручаны,
І на сэрцы ляжаць цяжкіх думаў разоры.
Дзякую, Амэрыка,
Мая другая Случчына,
За ўтульны куток ды за белыя зоры!

1951

## МОЛЛЫ ПІЧЭР

Помнікі. Крыжы. Магільныя пліты.
І мы, жывыя, на цьвінтары.
Сьцюжы зацерлі імёны забітых,
І дух вітае ціха ўгары.

Дрэвы шумяць аб бясьмерці, вяліччы.
І мне за імі як паўтараць?
Жбан уздымае Моллы Пічэр
Вышэй вяршалін — пеце вятры!..

Там, ля дарогі, у студні славутай,
Воду сьцюдзёную сушаць гады...
Піў яе "янкі", сьмерцю крануты,
Прасіў у спразе: "Моллы, вады!"

"Піць" — скавыталі ангельскія кулі.
"Пі, дарагі"... і зьнямогся гэрой.
Вечар надходзіў, а мы і ня чулі.
Моллы маўкліва гаворыць з зарой...

1952

## НЯ ШУКАЙ

(Адказ на «Просьбу»)

Ня шукай, каханы, дарогі,
Не прасі ў нікога дапамогі:
Замялі халодныя сьнягі
Да мяне таёжныя дарогі...

Як сьцяна, дрымучая тайга
І драты калючыя навокал,
Ды паўзе сьмяртэльная туга
Туманамі цёмнымі шырока...

На Радзіме пэўна васількі
Расьцьвілі, і сходзяцца дзяўчаты...

---

Molly Pitcher — амэрыканская нацыянальная гэраіня вызвольнае вайны.

Толькі я забылася які,
Раз які забойца мяне сватаў...

Ты мяне галубіў, цалаваў,
На губах цьвілі маіх півоні...
А цяпер сьсівела галава,
Як тайга, шчарнелі мае скроні.

Я цябе чакала па вайне,
А прыйшлі разбешчаныя каты
І, як тую злыдніцу, мяне
У падзямельле кінулі за краты.

За цябе на зьдзекі я пайшла,
За цябе жыву я у абаве:
Можа, дасьць Бог, цяжкая скала
Ад пакут на векі мяне збавіць...

Ня шукай, каханы, дарагі,
Не прасі ў нікога дапамогі:
Замялі халодныя сьнягі
Да мяне таёжныя дарогі...

1953



Адгудзеў суладна, ня зьвініць
Мой варштат, аддадзены другому.
Сьлепяць вочы зыркія агні
Незнаёмага новага дому.

Што таіцца — горыч не схаваць:
Ня крывавіць венік мае рукі,
Але пялю вочы, як сава,
На агні далёкія Баўнд-Бруку.

Нехта скажа — чыхні і ня дбай:
Шыя будзе, а хамут гатовы...
Адзьвінеўшы сябра мой "гут бай".
Добры вечар, венік, сябра новы!

* * *

Ня люблю мудрагеляў млосных,
Іх лісіна-сабачыя пысы.
Быццам вожык паўзе паросны
Да чужога пойла місы.

І калючкі чамусь тапырыць,
На яго быццам хтось палюе.
Незайздросных, сумленных і шчырых, —
Прастадушных людзей люблю я.

1955

* * *

Прайшоў гульлівы лівень,
(Грымотаў грукат ня змоўк)
На поплаве і ніве
Траву, ячмяні патоўк.

Вісіць кляноў ярмолка,
Падраная, над хлявом.
З вазёр ваду вясёлка
Квяцістым п'е рукавом.

А там, дзе бліскавіца
Агольвае грэх вятроў,
Прысела ноч ваўчыцай,
Аблізвае сонца кроў. . .

1957

## ПРЫЙСЬЦЕ

(Жылкі)

Соаца, суквецьцямі сьцежкі усып!
Звоніць падковамі прыйсьце красы.

Водар сьлязы адраджэньня
Дарма ня выспражыў кон.
Думы і песьні ўяўленьня
Полымем дышуць валеньня,
Буры ў іх роздых, разгон.
Пішуць Прарока забойцы,
Цёмных вякоў альбігойцы,
Права сваё і закон.
Мужныя ўпалі ў гарэньні,
Кволыя раняць калені...
Гасіць паходні прыгон.

Зорнай бруі васільковай,
Смазе агнёў пяруновых —
Музаў сівы запавет —
Шляхам адвечна цярновым,
Душам — узвою, абновы,
Мечам адточаным слова,
Мужна нясе няўпрыкмет,
У творча-узьнёслых аковах,
Мэсія вечны — паэт.

Соаца, суквецьцямі сьцежкі усып!
Звоніць падковамі прыйсьце красы.

1958



Зоркі, сумнай, самотнай, сьляза
Апякла росы звонкія ў полі,
І прынёс жураўлі на паказ
Шлях птушыны у белым прыполе.

Закрычалі ня ў лад жураўлі,
Бы ўдавіўшыся шчасьцем, бадзягі;
Акіян дружным хорам клялі,
Над якім паміралі ад спрагі.

А яшчэ, чуў я добра, яны
Ўспаміналі Палесьсе, балоты...
У палонных крылатай вясны
Я хацеў запытацца употай

Не пра сад, цёмны лес, сенажаць —
Пра князёўну адну маладую.
Не адважыўся імя назваць.
Пабаяўся — зоры пачуюць.

1961

## "ПАГОНЯ"...

Пад сібірскімі корчыўся сьцюжамі,
Бяз хлеба азыз...
А і я-ж з сябрамі, лапцюжнымі,
"Кароткі курс" грыз.

Падрастаў і мужнеў з пяцігодкамі
На роднай траве;
Гарлапаніў, як трэ, з аднагодкамі:
"Жыве! Хай жыве!.."

Я любіў на начлезе ў сасоньніку
Распальваць агні.
І ня сьніў пра вызвольнага Коньніка —
"Пагоню" ня сьніў.

Першы раз мне паштоўку з "Пагонею" —
Вянок, БНР... —
Паказала сьледчая... Зь гіроніей
Сказала: "Цяпер

Ты ня будзеш мне болей адбрыкваццa:
'Ня знаю, ня я...'
Прызнавайся, буржуйскі прыхвасьцень:
"Пагоня" твая?..

Мы знайшлі у цябе пад падушкаю...
Ня сьмейся, дурак!
Ты ня быў яшчэ, мабыць, пад мушкаю?
Кажы, што ды як!.."

Я "паздравіў" яе зь перамогаю.
Ці сон быў, ці яў?..
Адказаў я ёй словамі строгімі:
"Пагоня" мая...

Расьмяялася: “Цябе мы вылечым
Ад уяў, праяў...”
Перад сьледчай тады нехта велічны,
А ня я стаяў...

1963

## СЫНЫ БЕЛАРУСІ

Сыны Беларусі
Ня здрадзяць да скону
Старонку сваю.
У джунглях Бразыліі,
У краі Вашынгтона
Галосна пяюць:

Пра вялікі Сакавік,
Усенародны сход,
Пра сваю Беларусь,
Слаўны свой народ.

Іх песьня, як лава,
Грыміць пад зарою
Ў нinfoродных краёх
Пра вечную славу
Нязнаных гэрояў,
Што ўпалі ў баёх —

За вялікі Сакавік,
Усенародны сход,
За сваю Беларусь,
Слаўны свой народ.

Нясуць тую песьню
Магутныя хвалі.
Хутчэй хай нясуць
Туды, дзе балесьне
Душу закавалі,
Забілі красу.

Хай бушуе Сакавік,
Пярунамі б’е.
Беларусь, Беларусь,
Мы — сыны твае.

6. XII. 1965

## ЛІСТ МАМЕ

Мама, мама, любая матуля,
Чым суцешыць цябе? Што сказаць,
Каб да сьлёз балючых не расчуліць,
Каб зазьзяла радасьці сьляза?
Хіба тое, што, вось, неяк выжыў,
Вокы п'юць чужых нябёсаў сінь;
Пад нялёгкам злое долі крыжам
Вобраз твой у сэрцы я насіў.
Вобраз твой мне часта, часта сьніцца.
Вобраз твой — сьвятлей за ўсіх Сьвятых.
Ёсьць на небе зорка-зараніца.
Паглядзі, матуля! Гэта-ж ты...
Гэта-ж ты мне сьвеціш у тумане,
Сьвеціш сёньня гэтак, як тады,
Калі ногі аб іржэўнік раніў,
Як прыйшоў з канцлягэру худы...
Як тады, прашу — ня плакаць, мама!
Захлынецца той няхай ад сьлёз,
Хто капае для другога яму,
Хто і мне душу ўсю ператрос.
Шкода сына кожнай добрай маме.
Я і сам ня раз сьлязу душу...
У сьвятым далёкім ціхім храме
Я малюся за тваю душу.
З дня на дзень у роспачы, пакуце
Сочыш ты маіх таварышоў
І, стуліўшыся ў суцьмяным куце,
Просіш Бога, каб і я прыйшоў...
Адзін раз цябе я не паслухаў:
Не на тую сьцежку павярнуў...
О, матуля! Ў час ліхое скрухі
Я пазнаў і праўду, і ману.
Ёсьць на сьвеце, мама, гады, кобры.
Сьмерць, пакуты, калі тне той гад.
Не схацеў я гадам стаць, бо добры,
Бо я песьні і пяшчоты брат.
Я ня мог сяброў чарніць і выдаць,
Дык наклікаў на сябе бяду:
Быццам Маркса называў я жыдам
І пляваў яму на бараду...

Быццам вус адцяў я Джугашвілі,
Быў актыўным сябрам СВБ. . .
Гэты “грэх” мне сьледчыя прышылі.
Не маню, матуля, я табе.
За ману ты мне давала пытлю.
Твой “катэхіз” добра завучыў.
Ды й мяне адкормленыя гіцлі
У “чорны воран” пхнулі уначы.
І пяклі халоднымі мурамі,
Слоў, адборных, дзідамі пяклі.
Ў маю мару аб цудоўным храме
Ўкалацілі душагубы клін.
А калі і мара памірае,
Тады сьмела йдуць на эшафот,
Тады й чорт слугою здасцца Раю,
Збаўцам здасца немец-ідыёт.
Дык няхай ня вельмі мяне судзіць
Той лятун, прыземлены, сусед,
Бо і я вадзіў агнём арудзьдзі,
Сьмерць і ў мой ня раз ступала сьлед.
Бараніў і я Радзіму тую,
Дзе мяне ніхто не бараніў,
Дзе мяне напэўна закатуюць,
Каб вярнуўся, Божа барані.
Пра вяртаньне я баюся марыць.
Ды ня зьдзейсьніў я яшчэ свой чын.
Для цябе я, мама, — кара з караў. . .
Што-ж?. . Даруй! Чакай! Цалую! Сын.

20. I. 1968

## ЛІСТЫ

Лісты, лісты, зялёнай песьні словы!
І вас сьлязамі мочыць лістапад.
Ды сок зямлі бруёй ударыць новай,
І запяюць ізноў і лес, і сад.

І я прыйду на той канцэрт вясьняны,
Бо я пад ветрам лютым не астыў;
Бо зь Беларусі, ціхай і буянай,
Лятуць інакшыя ка мне лісты.

Лісты, лісты. . . Дрыжаць чамусьці рукі,
Калі канвэрт трымаеш дарагі.
Казычуць сэрца слоў знаёмых гукі,
У вачох вясёлкаў ломяцца кругі.

“Хоць мы з табой ня ўбачымся ніколі,
Але ад шчасьця хочацца скакаць:
Бо ты жывы. . . Пішы часьцей і болей!
У нас сьнягі, скавана льдом рака. . .”

І мне ніяк ня хочацца паверыць,
Што гэта яў, а не страхотны сон:
Што для мяне зачыненыя дзьверы
У родны дом, на бацькаўскі загон. . .

6. XII. 1968

## САКАВІКОВЫЯ МАТЫВЫ

Колькі вёснаў на ростань ліствой нам
махалі?
Дзесьці зорка, жаданая, блудзіць у далі.
Пяцьдзесяты, сьцягі ў высь узьняў Сакавік.
Над Гудзонам кагаркі распачлівы крык:
“квік. . . квік. . . квік. . .”
Бы ў адказ ёй, ці нам віншаваньне са
сьвятам —
Разарвецца ў джунглях “марына” граната;
Зашуміць на падмостках Ню Ёрку “Каліна”:
“О, Беларусь, мая шыпшына”. . .
У Сыднэі, Таронто, Рыо Дэ-Жанэйра
Чаркі падымуць былыя жаўнеры. . .
Бы малітву, паўтораць паэт зь не паэтам:
“Люблю наш край, старонку гэту. . .”
Сотні тысяч вачэй увап’юцца ў высі:
“Можа там бел-чырвоная зоранька
блісьне?”
Пяцьдзясяты, сьцягі ў высь узьняў Сакавік.
Над Гудзонам кагаркі: “квік. . . квік. . .
квік. . .”

13. III. 1968

## СЛАЎНЫ МОЙ РОД

Пахвалюся бацькамі. Чаму-ж?
Не пасадзяць за гэта ў турму.
Я сядзеў там, а бацька мой — не.
Галаву ён паклаў на вайне.
Бацька мой меў адзін толькі лоб,
Ды і той не хаваў у акоп:
Першы йшоў у разьведку, у бой,
Шчэ й другіх ён вадзіў за сабой.
Ня дрыжэў, хоць і быў дрыгавіч,
І сканаў у гарачай крыві. . .
Калі-б бацька меў лоб запасны,
Да другое дажыў-бы вайны;
Ня крычаў-бы напэўна "ура"
За чырвонага ка́та-цара.
Як і я сумаваў-бы ня раз,
Пра шчасьлівы марыў час.
Бацька быў весяльчак, жыцьцялюб,
Ня сьхіляў прад нядолею чуб.
А калі на гармоніку йграў,
Танцавалі з гарою гара,
Салаўі падпявалі ў гаі,
Вецер слухаў, аж дух затаіў.
А калі бацька йшоў праз бары,
Прад ім шапкі здымалі зьвяры,
Дуб стагодні, бярэзіны, клён
Да зямлі адбівалі паклон.

Вось славуты мой бацька які!
А якія ў яго сваякі?!
Каліноўскі, Міцкевіч, Францісь Скарына. . .
А матуля? Княгія яна.
Яе сёстры: Рагнеда, адна.
Ефрасіньня Сьвятая.
Злы лёс іх зьяднаў.
Маму голай рукой не бяры.
Ўладары ёй дарылі дары:
Лапці, торбы, пакуты і боль
Ды на рукі — крывавы мазоль.
Ганаруся я роднымі, вельмі рад,
Што Купала — старэйшы мой брат;

Багдановіч, Дубоўка, Чарот...
Усе браты мае... Слаўны мой род!
Хай жыве беларускі народ!

21. I. 1969

## ГНУЦЬ ВЯТРЫ ШЫПШЫНУ...

Ля ракі над кручай гнуць вятры шыпшыну.
Як сястра шыпшыны, там стаіць дзяўчына.

Гнуць вятры шыпшыну, ды зламаць ня ў сілах,
А дзяўчына хлопцу сэрца падарыла.

Падарыла сэрца ў час вясны прыгожай,
А цяпер гаруе, бо забыць ня можа...

Бо забыць ня можа той шыпшыны ў цьвеце,
Бо каханы блудзіць дзесь па белым сьвеце...

1970

## РАЗЬВІТАЛЬНАЕ

(Уладзімеру Клішэвічу)

Што сказаць табе, Валодзя,
Недабіты небарак?
Карыстаецца ў народзе
Не вялікай славай рак.

Рак жывы — чорны.
Мёртвы рак — чырвоны.
Чырванее рак па сьмерці,
Каб ня пхнулі ў пекла чэрці...

Нешта з рака можна зьесьці,
Нешта выкінуць у сьмецьце.
Ты у чорта на прыкмеце.

Ужо смакуе твае косьці
"Завяртанка"...
"Раб" у злосьці...

“Раб” у суме...
Рака шыйка, клешні ў глуме.
Не паквапіцца “Зьвязда”
Ды і “Полымя” ня вельмі.
Ты экзамен дрэнна здаў:
Там сваіх хапае шэльмаў.

“Васіля Каліну” побач
Не паставяць Ільліча...
Не, браток. За тваю спробу —
Славіць Леніна пачаў —
Не даруе век Каліна:
Не заб’е, дык пракляне.
Здрадзіў ты яго, пакінуў,
Як той брата на вайне.

Мы яго тут не пакрыўдзім.
Сын за бацьку — не адказ.
Да цябе ён яшчэ прыйдзе
Даказаць пачаты сказ...

А у рака шлях вядомы:
Не наперад, а назад.
Мо й праедзеш ты ля дому,
Каля бацькаўскіх прысад;
Ды і ў родным агародзе
Ад сябе ня уцячы...
Прад табою, брат Валодзя,
Далячынь... Ой, далячынь...
Не прарочаць шчасьця хібы.
Дык ні пуху, ні кала!..
Хай мінуе цябе глыба,
Што Хадыку прытаўкла!..

1970

## АД ІМЯ СВАЙГО ДВАРА...

Мяўкаюць мякка за гаражом каты.
Шпакі затыкаюць дзецям чарвякамі раты.
Надрываецца радыё
Да хрыпаты:
“У Кэнт
    студэнтка

на штых
Пачапіла кляты...
Пазьней упала
ад кулі гвардзейца..."
Што дзеецца?
Што дзеецца?
Бомбы — ў Ню Ёрку...
Бомбы — ў Чыкага...
Зь "ветконга" сьцягам
Маршуюць юнакі-барадачы,
як малпы.
Крычаць:
Спыніце ў Ветнаме залпы.
Ня кідайце бомбы, міны
На сьцежку Хошыміна.
Мао — слава!
Брэжняву — ура!.."
А я,
ад імя свайго двара,
Багаслаўляю тых,
Хто скрыжоўвае
са штыхом штых,
Каб у Кэнт цьвілі кветы,
Каб мяўкалі мякка за гаражом каты,
Каб шпакі затыкалі дзецям чарвякамі раты!

Травень, 1970

## СІЛУЭТЫ

**В. Быкаў**

Трошкі мыкаў, трошкі брыкаў...
Залыгалі грозным крыкам.

**М. Танк**

Верш, ці доўгі, ці караткі,
Трасецца ленінскай бародкай.

**І. Мележ**

Ну і меле-ж...
Але ня пытлюе.

**А. Макаёнак**

У пазалочаным карыце
Сьпіць зь Лявоніхай на арбіце.

**Ул. Дубоўка**

Разумная галава,
Але дурням дасталася.

**І. Гурскі**

Кандуктар, затрымай трамвай:
Я галёшы на прыпынку забыўся. . .

**Р. Бярозкін**

Паспытаўшы сталінскае розгі,
Стаў палохацца бярозкі. . .

**У. Бягун**

Ні мур-мур, ні гу-гу-гу. . .
Куды скажуць, пабягу. . .

**Прокша**

Ня Прокша, а Прошка.
Пісьменьнік, каб трошка. . .

**А. Кучар**

У клубку гадзючым
З гадаў гад, шыпучы.

**М. Лужанін**

Калі-б хам Музу ня згнусіў, —
Маякоўскі Беларусі.

**П. Броўка**

Вось таму ён і "народны",
Бо народу ня прыгодны.

**1972**

## ДА ХМАРАЎ

Хмары, шэрыя тлустыя гусі,
Разьвітайцеся зь небам-гняздом,
На прасторах маёй Беларусі
Прызямлецеся спорным дажджом!

Чуў я, сонца там выпіла рэкі,
Крумкачы расьцягнулі лясы. . .
І як хлеба “хоць крошку” калекі,
Просяць “кропельку хоць” каласы.

Размахнецеся крыльлямі, хмары!
Хай маланкі скрыжуюць мячы, —
Каб пшаніцай трызьнелі папары,
Каб пірог магла маці сьпячы. . .

1973

## МУЗА

Сорамна прызнацца, але мушу:
Муза-шэльма зьбегла ад мяне.
А жылі-ж мы зь ёю душа ў душу,
Плавалі і ў масьле, і ў віне.
Кволая, дрыготкая, бы птушка,
Ойкала, стагнала ўся ў сьлязах.
Хто-б сказаў, што гэткай завітушкай
Скруціцца і брыкне, як каза.
Я яе ня вельмі вінавачу:
Сьвет увесь пакручаны, здурэў.
Для адных даляр — жыцьця задача,
А другія — шчасныя на дне.
Абрасьлі валосьсем, нібы малпы,
І крычаць на тых, што на гары:
“Пачакайце, мы “Аўроры” залпам
Зямлю пернвернем дагары! . .”
Можа й Муза там знайшла прыгоду,
Парашыла задзівіць сусьвет?
А баржджэй на станцыю “Свабода”
Заблудзіла. Там адзін паэт
Аўдавеў, маўчыць даўно, як рыба,
Што сарвала голас нотай “ша”.
Сэрца Музы не граніту глыба,
А на Капры п’яных хваляў шал. . .
Музу я шкадую, хоць ня вельмі:
Маю Грамадзянку нарасхрыст.
Гэтая — павыдзірае бельмы,
Не багіня, нейкі тэрарыст.
Радзяць мне дарадцы — адрачыся,

Тую, з сэнтымэнтамі, шукай...
Праўда: век жыві і век вучыся...
Ды ня зьменіць курс жыцьця рака.

1972

## ХАНДРА

Хандра — вандра,
    А крыўда — выдра.
        Мудрыў мядрак —
            Бадрыцца збрыдла...

Харобры драб
    Грудастай гідры.
        Хандру з раба
            Вандра ня выдра.

23. III. 1973

## ЗІМА

Сьнегу белая гушча
Ў жорнах ветру заенчыла.
Пасівелая пушча
Перад бурай укленчыла.

Маразішча балюча
Коле дзідамі колкімі;
Пранізаў сьнег сыпучы
Ледзянымі іголкамі.

Праз завеі, віхуры
Сонца землю ня ўбачыла.
Абняліся пад скурай
Доля воўка з сабачаю.

1974

## СОН

Здаецца, дзень. . . А, можа, ноч?
Плыву, ляту. . . У небе сьпевы. . .
Насустрач дзед і дзед узбоч.
— А вы адкуль, дзядулі, дзе вы?

Маўчаць дзяды. А я ізноў:
— Над Менскам мы. Мая Радзіма.
Тут жыў калісьці я, даўно.
Гляджу, а дзед расплыўся дымам. . .

Другі за мной. Я да яго:
— Пайшлі, дзе-небудзь перакусім!
Няма тут зь мёдам пірагоў,
Ды люд гасьцінны ў Беларусі.

За стол папросяць. Пі пітво. . .
І ўжо падмігваюць нам чаркі.
— Вось "скач". . . Мо хочаце "Віо"?
А, можа, зблыталіся маркі?

— Ды не маўчы, дзед, раскажы,
Якое нас чакае прыйсьце?
Як доўга будзе на крыжы
Брат зьнемагаць і локаць грызьці?

Кульнуў дзед чарак, недзе, тры
І доўга чмыхаў белым носам.
А за вакном гулі вятры
І зораў хор срэбрагалосы.

Падняўся дзед із-за стала.
А мо й ня дзед?. . І кажа трэзва:
— Што будзе?. . Ведае Алах. . .
Я-ж толькі вечнасьці адрэзак.

Што да гасьціннасьці — чалом!
У гонар мой спраўляюць балі,
Ды за нігодненькім сталом
Я не сядзеў — не запрашалі.

Яшчэ. . . Маскоўская зара
Ў маю кадэнцыю ня згасьне,
І Беларусь, пакутны край,
Ня стане жыць вальней і шчасьней.

Я перамог гарэлкай шок
І пракрычаў Сяднёва словы:
— Ідзі туды, адкуль прыйшоў!
Які ты, Год, да д'ябла новы?

І ён пайшоў. . . А пярун — джвах. . .
Маланка шась у мае вочы. . .
І мне як грымне ў грудзі жах —
Бы коршун, сон зь мяне саскочыў.

Сьмяецца сонейка з вышынь,
І сьмешна мне з начных прыгодаў.
І рупіць крыкнуць ад душы:
— Суседзі-людзі, з Новым Годам!

**1974**

## УЗВЫШША

Малады як ідзеш на узвышша,
Каб злавіць сваіх мрояў зару,
Тваё сэрца надзея калыша,
Марш паходны іграе жаўрук.

*

І здаецца, да ўзвышша вяршыны
Падарожжу ня будзе канца;
І здаецца каханай дзяўчынай
У даліне худая аўца.

*

А на ўзвышша вяршыну як прыйдзеш,
Ды агледзіш наўкол далягляд, —
Сам сабе ты яшчэ не абрыдзеў,
Ды часьцей паглядаеш назад.

*

Часта сьніш, што да ўзвышша вяршыны
Падарожжа пачаў ты з канца,
І здаецца каханай дзяўчынай
У даліне худая аўца.

*

Дні ідуць спакваля, а як ступіш
Колькі крокаў з узвышша наніз,
З камарамі, здаецца-б, у ступе
Тоўк куцьцю, локаць свой перагрыз.

*

Толькі-б жыць і з узвышша вяршыны
Ня куляцца стрымглаў да канца,
Дзе ніколі каханай дзяўчынай
Больш ня здасцца худая аўца. . .

*

Можа там, на Ўсявышнім узвышшы
Я злаўлю сваіх мрояў зару,
Ды валею — хай сэрца калыша
Тут няхітраю песьняй жаўрук.

1977

МОЙ ПРАРОК

Дні, як сьцёртыя цэнты звоняць
У сусьветнай скарбонцы на дне,
І лятуць, як шалёныя коні —
Ня ўтрымацца за грыву іх мне.

Аглянуся назад — страшна стане:
Як ваўкі, у мае сьляды
За манашкай у чорнай сутане
Зь цяжкім стогнам ступаюць гады:

І галодныя, і халодныя
Із канцлягеру, із вайны. . .
Сэрца жаляць песьні родныя,
Як хатыньскія званы.

А наперад зірну — ўцехі мала:
Ваўкалакаў ня моўкне "вой",
Як скула, злом зямля набрыняла,
Вось прарвецца агнём і крывёй.

Настрадамус зьгін сьвету прарочыць...
Ня дрыжу я: страх лёг каля ног,
Бо зь мяне ня спускае вочы
Мой Прарок — Ўсемагутны Бог.

21. III. 1983

## ЯНКУ ЗОЛАКУ

Што сказаць табе, Янка?
На Случчыне ўзышла твая зорка-заранка.
Там і мая глядзелася ў Случы хвалі,
Але разам яны ў "гарадкі" ня гулялі.
Прабіраліся нашы зоркі праз цёмныя
хмары,
Асьляплялі іх маланкі, глушылі пяруноў
удары,
Калашмацілі ветраў, дзікіх гураганы
І загналі ў край далёкі, заакіянны.
Тут атрэсьліся ад пражытых гора, глуму,
Хоць няраз і праглыналі чаркі суму.
Тут, пад небам вольным зямлі новай
Зазіялі нашых зорак промні слова.
І зіяюць, і трызвоняць, і галосяць...
Ды надыйшла нечакана восень.
Асыпаецца ліства, кволая...
Працягнуць дрэвы рукі голыя,
Насустрач марозу, насустрач сьнегу,
Будуць чакаць адлегу.
І дачакаюцца: зашумяць ізноў вяршынамі,
зялёнымі
Дубы, бярозы, клёны...
А мы?..
Ня прыйдзе для нас адлега.
Ня будзем за дзяўчатамі навыперадкі
бегаць.
Сівізна пабялее сьнегам,
Прыйдзе няпрошаная чарнавокая госьця...
Ня будзем пра яе думаць.
У нас і без яе, хоць падавіся сумам.
Будзем упівацца жыцьця прыгажосьцяй.
Будзем нашы нестарэючыя Музы

За звонкія струны тузаць,
Каб яны галасілі нашы радасьць, трывогі,
Каб весялей было крочыць да канца дарогі.
А, каб яшчэ доўга ня цураліся нас Музы-
Змагаркі,
Давай у іх гонар асушым горкія чаркі.
А табе, Янка, ў семдзесят пяць —
Мае пяць. . .
Жыві сто год! Не хварэй!
Дары народу ямб, харэй!
І пакуль твой Пэгас ня прыстаў,
Вязі "Пацука ў пастцы" праз "Ціхі стаў",
Каб на Першым Незалежнасьці Сьвяце
Цябе ўспомніла добрым словам Белая
Маці! . .

1987

## НАСТАЛЬГІЯ

Ці пішу штось, ці ў хоры сьпяваю, —
Спражыць сэрца маё настальгія:
Бачу вобразы роднага краю,
Незабыўныя, дарагія. . .

Вунь, пад Лысай Гарою матуля
Раз-параз нахіляецца ў жыце. . .
Там і сёстраў бялеюць кашулі,
А над імі жаўрук у блакіце. . .

Случ сінявыя хвалі калыша,
Із вады выстаўляе лілеі.
Ў садзе россып вішнёвая вішань,
І антонаўкі ў лісьцях бялеюць. . .

Падканвойны на рэчцы Усуры
Нахіляўся бурштыну напіцца:
У буйных хвалях, як волава, хмурых
Чуў усплёскі случанскіх крыніцаў.

Ў Альпах краскі ірваў "эдэльвайсы",
Мне здавалася — йрву васілёчкі.
У Парыжы пад Шопэна вальсы
Я кружыўся, ўзіраўся у вочкі

Мадмазэляў, а бачыў Алеську,
Як палескую пралеску...

Настальгія, як здрада ў каханьні,
Дапякае й на дзён, сумных, сьхіле.
Не дае супакою жаданьне:
На матулі укленчыць магіле...

1990

## ЖАЎРУК

1

Высока, высока,
Як дакінуць вокам,
Над рэчкаю Пінай
Трапятаў у сіні,
Як лісточак,
Шэранькі камочак.
З раньня ў раньне
На працу йшлі сяляне.
Не сьпяшылі крочыць,
Узьнімалі ў неба вочы,
Настаўлялі вуха,
Каб пабачыць той камочак,
Каб паслухаць
Жаўрука пяяньне,
Як жалейкі граньне.

2

А жаўрук у небе,
Як-бы ведаў тое,
Што ня толькі ў хлебе
Зерне залатое, —
Што да лусты хлеба
Солад песьні трэба;
I напружваў крыльле,
Колькі меў усільля,
Каб на дол ня ўпасьці,
Каб уцеху, шчасьце
Тым прынесьці людзям.
I з птушыных грудзяў

Гулка на ўвесь край
Зьвінела песьня жаўрука.

3

А з-за лысых гораў,
З-за чорнага мора
На зямлю Палесься,
Дзе зьвінелі песьні
Птушак разнаякіх,
Дзе на градках макі,
Васількі у жыце
Не давалі плакаць,
Гараваць, тужыць;
Дзе за пот гарачы
Бог плаціў па-божу, —
На той край прыгожы
Чарней чорнай хмары
Горды йшлі татараў.

4

Высока, высока,
Як дакінуць вокам,
Тлела сонца дыня
За хмараю дыму:
Гарэлі вёскі,
Пылалі сёлы...
Татарскае войска
У цэрквах, касьцёлах
Канюшні латкавалі,
Урусам-славянам
Галовы сьцінали:
Халопа і пана
Бусурманы
Хапалі ў няволю,
Саджалі на кольле...

5

Вазёры і рэкі
Крывёй чырванелі.
Ад голаду лекі —
Што папалі елі...
Хто жыў, галасілі
На сьвежых магілах.

Зьвяры уцякалі,
Хаваліся ў норы,
Маўчалі у далях
Птушыныя хоры.
І ня зьвінела з краю ў край
Песьня жаўрука.

6

На мяжы ў малачаі
Жаўраняткі ня крычалі,
Ляжалі з разьяўленымі ратамі,
Растоптаныя капытамі.
Жаўрук залатадзюбы
Зажурыўся па любых
Дзетках шчабятлівых,
Для каго імклівіў
Па жучкі, зярняткі,
Каб жылі ў дастатку
Жаўраняткі,
Для каго пяяньне,
Для каго стараньне.
Страшнае жывому няжывых маўчаньне.

7

Высока, высока
Над рэчкаю Пінай
Узьвіўся жаўрук
І кліч кінуў:
"Шляхотныя людзі,
Жанчыны Палесься,
Татары вас судзяць,
Пазбавілі песьняў;
Браты вашы, дзеці
Сканалі ў пакутах.
Ськідайце з ног путы,
Нясеце, жанчыны,
Клубкі і пачынкі,
Складайце ля Піны,
Чакайце чыну!"

8

І несьлі жанчыны,
Татар недабіткі,

Клубочкі, маточкі,
Усялякія ніткі.
Па клубочку,
Па маточку з двара —
Вырасла каля Піны гара,
Гара ніцяная
Пад самае неба.
А ніхто ня знае,
Нашто яна трэба?

9

Жаўрук няупынна
Імклівіў над Пінай,
Склікаў ён падвечар
Птушынае веча.
З усёй Беларусі
Зьляцеліся гусі,
Жураўлі і сойкі,
Буслы і салоўкі,
Вароны, сініцы...
Каршуны, удоды...
Усіх і ня зьлічыш
Тых родаў, падродаў
Птушынай пароды.

10

Да самага раньня
Жаўрук ваяводзіў:
Аддаваў загады,
Разьмяркоўваў ніткі:
Хто цяжкі, ня пруткі,
Тым ляцець адзаду,
Хто баіцца бою,
Падвозіцьме зброю.
Лёгкакрылым, сьмелым
Нападаць і ўмела
Павязаць бяз гуку
Сонным воям рукі,
Каб пасьпець да рана
Зьнішчыць бусурмана.

11

На імшарах шэрых,
Ля алешын, хвояў
Спалі па вячэры
Татарскія воі.
Спалі не салодка:
Камары іх тнулі.
А ночка каротка,
А дзесьці матуля,
Каханая дзесьці
Другога прытуліць. . .
Нямашака весьці.
Ах, сьніцца глупота:
Салодкая цнота,
Урускі, урускі
І птушкі, птушкі, птушкі. . .

12

На мяккіх кілімах
Ня сьпіцца й Аліму,
Татарскаму хану,
Вялікаму пану.
Думы — чарней ночы:
"За што уталочыў
Алах мяне ў багну,
Дзе кісну, дзе смагну,
Дзе топяцца коні,
Ясаком ня ўгоніш
Слаўную пяхоту
У тое балота. . ."
Із шатра выйшаў вонкі хан
І пакаціўся, як жбан. . .

13

На голаў сеў хану грак
І дзюбам у цемя — гак.
"Так яму, так яму, так!" —
Біў і крычаў гусак.
"Ах, ён сякі і такі!" —
Заліваліся шпакі.
"Бі яго, бі яго, бі!" —
Ціўкалі вераб'і.

Бусел у вуха — бах.
Хан не ўстаяў на нагах,
Стаў маліцца і прасіцца,
А ў твар яму сініца —
Падляцела й за язык. . .
І замоўк плачэўны зык.
А з матком ля хана рук
Увіхаўся сам жаўрук. . .

14

На працу рана-рана
Ішлі нявольніцы да хана,
Ды бяз духу на зямлі
Ляжаў хан Алім.
А навокал на імшары
Енчаць спавітыя татары. . .
Высока, высока,
Як дакінуць вокам,
Над рэчкай Пінай
Трапятаў, як лісточак
Шэранькі камочак,
І зьвінела з краю ў край
Песьня жаўрука.

Верасень 1955

# НЕПАКОРНЫЯ

(Паэма)

Пакорнасьць нейкая дый годзе.
Няўжо наш род такі, няўжо?
Язэп Пушча

1

Ў цянётах яблыняў кашлатых,
Каля Случ-рэчкі на узвышшы
Стаяць у дзьве шарэнгі хаты...
Знаёмцеся: вёска Ціша.

Ня шмат у вёсцы Цішы хатаў,
Ня ў кожнай хаце ёсьць мужчына:
Вайна, вайна... Дзесь на Карпатах
Ляжыць салдат Ільля Лучына.

Ці ён адзін? З "ура", грымотным,
Ішлі ў штыхі палкі і роты...
За што? Каб з плачам ля варотаў
Стаялі ўдовы і сіроты?

У час, як дзесьці на загонах
Ільля Лучына ўпаў і зьгінуў,
Пад знакам зорным Скарпіёна
Прыйшоў на сьвет Алесь Лучына.

Суседка-бабка пупавіну
Зацяла ніткаю вашчонай.
А па людзях пайшла навіна,
Казалі, бабкай "ахрышчона":

"Дзіцё, як вылітая маці.
О, гэта-ж дрэнная прыкмета:
Ня жыць яму ў бацькоўскай хаце,
Бадзяцца век за белым сьветам;

Ён і турму не абміне,
І кроў пабачыць на вайне..."
Хай-бы язык бабцы адскочыў,
Як стаўся сказ яе прарочым...

Марыля чула ўсе гамонкі,
Казалі людзі: "От дурная:
Сама й за плугам, з бараною;
Яшчэ-ж кабета ядраная

І не пакрыўджана красою.
Што вандравалі між людзей,
Сынка захутала ў пялёнкі
І прыціскала да грудзей.

Яна, утраціўшы сужэнца,
Дала перад абра́зам слова:
Ня ўпусьціць больш нікога ў сэрца —
Там будзе жыць душа Ільлёва. . .

Магла-б любому заляцанку —
Пад хвост шляю, хамут на шыю. . .
Няўжо ня мае яна смаку?. .”
Усяляк “салдатку” патрашылі.

Суседкі-свахі разоў колькі
Яе бухторылі на здраду.
Яна аднеквалася толькі:
“Ад Ільлюка я маю радасьць. . .

І больш ніхто й нішто на сьвеце
Мне не патрэбны й ня цікавы”.
Алеся мела на увеце
Што ўжо хадзіў пад стол з-пад лавы. . .

2

Няма на картах Цішы вёскі,
У энцыкляпэдыях таксама.
Яе затое Янкель Ёськін
Не абмінаў з паходнай крамай.

Старога Янкеля худога
Ніхто ня бачыў без ярмолкі,
Гукаў ён голасна: “Па дзёгаць!
Цукеркі, мыла, соль, іголкі!. .

Пачуўшы Янкелявы голас,
Із хат шугалі птушкай дзеці.
Алесь ляцеў, задраўшы голаў,
За дроў складанку ў падпавеці.

Там куры несьліся ў закутках,
На дроў аськепках, розных трандах.
Схапіўшы пару яек, хутка
Сьпяшаў да Янкеля на гандаль.

За шклянку семачкаў — яечка.
Цукеркаў пару — за другое. . .
“Дабрыдзень, лес! Вітаньне, рэчка!” —
Усё там люба, дарагое.

Знаёмы кожны куст і кусьцік,
Мурашкаў дом, вавёркаў хаткі.
А колькі водыру, а вусьціш. . .
Знайсьці такую ўцеху цяжка.

А што важней — ня знойдзе маці.
Паесьць усе далікатэсы,
Тады праз поле, сенажаці
Цішком дадому. . . “Лабатрас ты! —

Пачуе матчыны дакоры: —
Ізноў цягаўся, валацуга?”
І панясе. . . Праз час каторы
Павесіць дзедаву папругу,

Нальле масьлёнкі, суне хлеба
І скажа ціха і лагодна:
“Сынок! Трымацца дому трэба!
Бадзяцца брыдка ды нягодна”.

Ды што матуліна навука,
Калі ў алешніку ў канаве,
Луской срабрыстай сьвішча шчука? . .
Рукой злавіць ня цяжка нават.

І, закасаўшы нагавіцы,
Алесь ваду узбаламуціць.
Няма дзе рыбе затуліцца,
Няма чым дыхаць, хоць апруцей,

Плыве па версе й кажа, мэрам:
— Бяры мяне, я ўжо гатова. . .
Тады за жабры і на бераг.
Бы корч, шчупак такі здаровы.

Карась часамі, як аладка,
Ці ўюн, як вуж, даўгі, віхлясты.
Ўюна баяўся. Сьлізкі, гадкі.
А быў ён госьць канавы часты.

А там, на сонечнай палянцы,
Як мёд, салодкія суніцы;

Малінаў згорбіліся плянцы,
І неба сінь сплыла ў чарніцы.

І ўсё дарэмныя ласункі.
У абмен ня трэба несьці яйкі.
А бор шуміць, высокі, стрункі,
Нібы цымбалы-самаграйкі.

Сядзі ў сунічніку пад сонцам,
Альбо ў цянётах, пад малінай,
Глядзі ў блакітную бясконцасьць,
Жыві прыгожаю хвілінай.

Жыві, пакуль жывая маці,
Свайго сынка вядзе за руку;
І дзед апошні грош патраціць
На абаранак смачны ўнуку.

3

Алесеў дзед ня дрых на печы.
Быў ён сівенькі, але прудкі.
Таптун уськінуўшы на плечы,
Дзесь прападаў на дзень цалюткі.

Вяртаўся стомлены на змроку,
А па вусах паўзла усьмешка:
Пішчалі ў торбе ўюн, ці вокунь. . .
Чакала іх з вадою дзежка.

Увішна цюпкала Анэля,
Алесева уцеха-бабка.
Каб рыба доўга ня пішчэла,
Нажом галовы цяла трапка.

А дзед сьлязіўся над цыбуляй,
Кадзіў укропам і пятрушкай.
Ў вадзе муку ўзбаўтне бабуля,
Чыгун у печ — і будзе юшка.

За стол пасядуць, як на сьвята,
Парэжуць хлеб, нібы, сьвянцоны,
І доўга будуць ложкі кратаць
Навар духмяны і салёны. . .

4

За днямі дні, бы ў ліхаманцы:
То навальніца, то сьпякота;

Дайшлі навіны й да цішанцаў:
“Цара ўхаёдала басота. . .

Якісьці Ленін, нейкі Троцкі
На царскі трон залезьлі, селі,
І абяцаюць з маслам клёцкі
Апухлай з голаду Расеі. . .

А ў Менску нашы “талегэнты”
Мазоляць мудрыя галовы,
Як аб’ягорыць, тых і гэных,
Як паськідаць “братоў” аковы. . .”

Навінаў поўныя закуткі,
Як ураганаў на прадвесьні.
Падзеі рынуліся хутка
І Цішу, ціхую, патрэсьлі.

О, Ціша, Ціша, думаў Мэкка,
Ты й Весялуха, й Гараватка!
Тваіх дзяцей да скону веку
Ты будзеш сумна-сьветлай згадкай.

Шляхоў вялікіх у аддалі,
Ты абгароджана балотам,
Але цябе не абміналі
Суседзяў кованыя боты.

Цябе таптаді швэд, французы,
Таптаді немцы і палякі;
Арол “двуглавый” гнёў і тузаў,
Каб выдраць, выскубаць адзнакі;

Адзнакі іншай, апрычонай
Душы народу — твае мовы.
Гняце й сягоньня цар, чырвоны,
Асыміляцыяю новай.

5

Касьцёл на ўзвышшы у Замосьці
Стаяў, бялюткі, з крыжам гонкім.
Ён заклікаў да Бога ў госьці
Званоў расьпевам, гучным звонкім.

Кляны ўздымалі ў неба кроны
Наўкол касьцёла і званіцы.

Іgraлі голасна арганы,
Трымцелі сьвечкі, як зарніцы.

І, здэцца, Бог із сутарэньня
Глядзеў нябачны і магутны.
Алесь, нікчэмнае стварэньне,
Ступіўшае на шлях пакутны,

Усім, і целам, і душою,
Дрыжэў у страсе, ў захапленьні.
З Сьвятою зьліўшыся Імшою,
Стаялі людзі на каленях.

Стаяў і ён, пакуль арганаў
Не замаўкала навальніца. . .
Людзьмі і Богам пакараны,
Сядзеў жабрак каля званіцы.

Ён не прасіў, трымаў, бы крыжык,
Кульцяпкі рук на ўпалых грудзях.
Казала маці: "Ось-жа выжыў. . .
А мой. . . а бацька твой. . . На людзях

Яна сьлязамі залілася.
Пасьля штось сунула калеку.
Дарога ўзгоркамі вілася. . .
Пачуўшы гром, ці стрэл аднекуль.

Сказала маці, як умела:
— Гэта ня гром, а людзі б'юцца.
Ідуць чырвоныя на белых,
А ўсё завецца — рэвалюцыя. . .

6

Зіма пасьцеле белы вэлюм,
Зазвоніць лёд на загуменьні.
Падлеткам кожны дзень — нядзеля.
У іх сьвяточныя імкненьні:

З гары на саначках спусьціцца,
Канькамі лёд крамсаць да ўпаду. . .
Ды наш гэрой мусіў прасіцца:
Над ім трымала маці ўладу.

Давала рэдка маці волю,
Дык уцякаў із хаты ўпотай



Міхась Кавыль — Саўт Рывэр, ЗША.




М. Кавыль на тле будынку гарадзкое Управы Саўт Рывэру.

І на іскрыстым льду раздольлі
Да зьнемагаты зганяў ахвоту.

Дамоў вяртаўся у анучах,
Матляліся лапцей аборкі.
Ён ведаў: маці йзноў правучыць,
Шмат будзе крыку і гаворкі:

“Хто будзе лапці табе плесьці?
Пляці іх сам, калі ня ўседзіш! . .”
Ля сэрца саменькага дзесьці
Прасіўся сорам у суседзі.

Даваў Алесь раз колькі слова:
На лёд ніводнаю нагою. . .
Але выконваў на палову
Ён сваё слова. Нейк з другою

Пасяbраваў крыху уцехай:
Часамі слухаў дзеда байкі,
Як на ваўку ён раз праехаў,
Як убрыкнулі воўка зайкі.

Ды, неяк дзед ляжаў на печы,
Усё хроп і хроп. . . І не прачнуўся.
У вёсцы хто цябе палечыць,
Яшчэ пры страшнай завірусе?

А дзед карабкаўся да сотні,
Ды не дайшоў. Ляжыць. Ня ўстане.
Марозным сьнежным днём суботнім
Перажывалі пахаваньне.

Труну з сасновых зьбілі дошак.
Прыехаў ксёндз, махаў кадзілам.
Суседзі гнуліся пад ношай,
Бо дзед быў цяжкі, як асілак.

А бабка ўсхліпвала, стагнала. . .
Ня доўга, праўда: нейк аднойчы
Кальнула ў сэрца штосьць, як спала,
І ёй закрылі хусткай вочы.

Было Алесю шкода дзедку.
І бабку шкода. Бо-ж, бывала,
У клецьадмаці няўпрыметку
Яна хадзіла ўсё па сала.

Сама ні ў нюх, Алесю ўпотай
Давала беленькі скрылёчак.
Што праўда, то была глупота:
Алесь па тыфе ледзьве крочыў.

А фельчар маці сказаў строга:
“Алесь каб нат ня нюхаў тлушчу.”
Ды часам мудрых засьцурога,
Бы кліч бяз рэха ў цёмнай пушчы.

Свая ёсьць “мудрасьць” у народзе,
Свае і лекары і лекі:
“А хто сказаў, што тлушча шкодзіць?
Ня хвэльчар ён, а дурань нейкі. . .”

Ці так, ці не, але на покуць
Алесь ня лёг пад абразамі,
Бо ня спускала маці вока,
Апаласканага сьлязамі.

Яна была яму дакторкай
І міласэрнаю сяstriою:
Вадой паіла, жоўтай, горкай,
Настоем кораня з карою,

Сама сьпятрэла ад бяссоньня,
Як цень тулялася па хаце,
Ды не здалася ў абароне
Свайго сынка ад сьмерці маці.

7

Аднойчы раніцай вясновай
Прыйшлі палякі нечакана.
“Пся крэў!”, “Холера!” — Што ні слова.
Ня шмат шляхотнасьці у “пана”.

А войска страшна выглядала:
Багнэты бліскалі, гарматы,
Ды шмат брынчэла прычындалаў
На тых “жолнежах” зухаватых.

Гарматы хуценька ўкапалі
У маёнку панскім на гасьцінцы
І час ад часу пасылалі
У пушчу Грэскую “гасьцінцы”.

Там конармейцы білі вошы,
Тых, што ня змылі ў Віслы хвалях...
О, прайдзісьветныя яношы,
Цішанцы век вас не пахваляць!

Шапталі бабы: "То-ж пазнанцы...
Курдуплі нейкія, а зьлюкі.
Чаго прыперлі, каб іх пранцы?
Сьвярбяць паночкам рэнкі-рукі..."

Ня сёньня-заўтра мусяць рушыць
Туды, дзе пахне сьмерцю порах,
Таму трымалі гостра вушы,
Як пацукі ў трывожных норах.

Трывогу латалі гарэлкай.
Майстры на жарты і насьмешку,
Ў Марылі ў клеці да кубэлка
Уночы вытапталі сьцежку.

Аб тым учынку "гэраічным"
Марыля скаргу "вудзу" склала.
Той слухаў з выглядам трагічным,
Сказаў: "То котка зьядла сало...

Жолнежэ мое не злодзеі...
Нех пані добжэ то памента..."
Ды як ня круцяць ліхадзеі,
Ня доўгі век у крутамэнтаў.

За скаргай скарга: шмат кубэльцаў
За час кароткі апусьцела.
Супроць няпрошаных прышэльцаў
Цішанцы выступілі сьмела:

Хавалі хлеб, хавалі "млека",
Сабатавалі, хто як можа.
І не знайшоўшы іншых лекаў,
Закукарэкаў "бялы ожэл":

Сёньня ў школе прамаўленьне
Будзе мець маёр Прытыцкі.
Па прамаўленьню — прадстаўленьне.
Запрашаем "вшысткіх..."

8

На прамаўленьне, прадстаўленьне
Прыехаў ксёндз і пан Пакрэўскі,
Халуй Пакрэўскіх Ахрыменя
І клебановы Падарэўскі.

Яшчэ — настаўніца з сужэнцам,
Пару харунжых, плютуновых.
Цішанцы тоўпіліся ў сенцах,
Вачыма бліскалі, як совы.

"Давудца" збройных сіл Прытыцкі
Доўга пшэкаў, умела блытаў
Пра шпіёнаў бальшавіцкіх,
"Врогув Жэчы Посполітай".

Яшчэ мудрыў: "Ту польске земі.
Сон католіцы — сон поляцы".
І прыгразіў: "Кто вруг наш, вемы.
Збродняжы бэндзем стшэляць тацых. . ."

О, шмат каму "давудцы" словы
Глыбока ў памяці заселі,
Бо ў Слуцку буйныя галовы
На перакладзінах віселі.

Нарэшце даў "поўшэхны росказ":
— Пісаць дзяцей да польскай школы. . .
І задыміўся папяроскай,
Сабе на ўвеце і вясёлы.

На прадстаўленьні — круці-верці:
Палякі — збаўцы. . . Дурні, верце. . .
"Пёсэнкай" "Шэўчык на доробку"
Паставілі на "зьбюрцы" кропку.

9

Гастрылі вушы сосны, хвоі,
Дубы сьхілялі ўніз галовы:
— Браты, мы Бацькаўшчыны воі,
І мусім быць на ўсё гатовы.

Адыйдзе лях, маскаль надыйдзе
І прынясе каўтун, каросту. . .
Ці-ж горб падставім зьдзеку, крыўдзе?
Косу, нож на іх нагострым. . .

Крычала помста ў ціхіх душах:
Цішанцы радзіліся ў лесе...
Падгаварыў нейк Янка Груша
На чын і нашага Алеся.

Быў Груша лідарам змаганьня,
Шукаў па вёсках памагатых.
І атрымаў Алесь заданьне:
"Здабыць патроны і гранаты..."

Загад вайсковы, не матулін.
Вазы са зброяй пад аховай...
Як сон ахове вочы стуліць,
Хадзіў Алесь выконваць слова,

Што рызыкоўна даў ён Янку.
Не падвялі Алеся феі:
Ад зьмярканьня і да ранку
Дарылі польскія "трафэі":

Гранаты, стрэльбы і патроны...
Сьвісталі ветры ў цёмнай далі.
Пазьней у Слуцку па чырвоных
"Трафэі" голасна сьвісталі...

10

Як прыйшлі палякі, так і адыйшлі:
Нечакана, няпрыкметна.
На Ўсход "давудцы" павялі
Па дарогах запаветных.

Доўга дзесь за далямі гуло,
Замаўкала толькі зрэдку.
Шмат лягло захопніцкіх галоў
На прыбярэзінскіх палетках.

На Бярэзіне адбыўся новы "цуд",
Не, ня той, што зьвёў французаў.
Не адзін расейцы зьелі солі пуд,
Каб палякі драпанулі з гузам.

Асьляпляў крывавы гуз і ныў,
Мо таму дарогу на Варшаву
Недабіткі "гжэчныя" сыны
Асьвятлялі полымем пажараў?

Запалілі Цішу з двух канцоў.
Крык і плач мяшаўся з дымам;
Як граната, лопала яйцо
Ў прыску шэрым — сьлёзах дому.

Прамінуў пажар Лучынаў дом
Ды яшчэ зь дзесятак цэнтру вёскі.
Тут жыло найбольш сірот, удоў...
Праважалі яны ветна войска:

Аддавалі бяз прымусу хлеб,
Малаком абдорвалі паночкаў...
Канцавыя ўсё схавалі ў склеп:
І пайшлі жабрачыць без сарочкаў...

Тых мужчынаў, хто разьявіў рот,
Ня уцёк — зграбасталі ў падводы...
І стаялі жонкі ля варот,
Вочы прывязаўшы да Заходу:

Ці ня выскачыць із лесу воз?
Ці ня едзе гаспадар-кармілец?
А ў адказ ім — кроплі буйных сьлёз...
Суцяшала іх ня раз Марыля:

"Не бядуйце!.. Вернуцца! Вось, мой
Ўжо ня вернецца... А я ня плачу...
І з высока ўзьнятай галавой
Ішла плакаць, каб ніхто ня бачыў...

11

Наш гэрой па вуліцы блукаў,
Што змалолі боты ў попел, прысак.
Там і тут хапалася рука
За патроны з валавянай пысай.

Назьбіраў тых штукаў поўны кош,
Яшчэ і "мільсаў" з тузіну ў прыдачу.
А яшчэ знайшоў блішчасты грош...
Кажуць, грошы знойдзеш — на няўдачу.

Пахваліўся маме пра свой "клад".
Думаў, маці ўсьцешыцца, пахваліць.
Але маці: "Аднясі назад!
Яшчэ хату мне тут не ўзарвалі?!"

Не панёс Алсеь назад “дабро”,
Захаваў ля коміна ў падстрэшшы,
Каб аддаць, як вернецца з дарог
Непакорны Янка Груша.

12

Ціхата над Цішай, хоць крычы.
Толькі бусел часам заклякоча,
Закрумкае жаба уначы,
Ці пачуецца дзесь сьмех дзявочы.

Дзесь сабак гультайны пераклік,
Хлапчукоў, што ладзяць перабежкі. . .
Ці вы чулі, бачылі калі,
Як гуляе дуб з сасной у сьнежкі?

Як вавёрка залатым хвастом
Замятае у дупло арэхі?
Як бабры галіністым мастом
Перагароджваюць рэкі?

Як мароз наструньвае смычок,
Каб зайграць на рэчках лёдам звонкім?
Як у полі скачуць “Крыжачок”
Белы сьнег зь вятрамі ў перагонкі?

А дзяды на прызбах, як князі,
Прасяваюць мудрасьць праз бароды?
Не, жылі цішанцы не ў гразі —
Прыгажосьцю цешыла прырода.

Пагарэльцам хаты спакваля
Збудавалі гуртам. Лес пад бокам.
Без палякаў, без маскаля
Дыхалася лёгка і глыбока.

Толькі-б жыць ды цешыцца жыцьцю,
У вясельных гойсаць карагодах,
Запрашаць Мароза на куцьцю,
Каб ня орды Леніна з Усходу. . .

13

Задыміўся сьнег каля аселіц:
Пруцца ў белай пене табуны. . .
У прашытых кулямі шынэлях
Прыляцелі ў Слуцак “груганы”.

“Груганы” — апрычнікі Расеі
Зь ленінскім кляймом “бальшавікі”.
Прыляцелі жах, галечу сеяць,
Нас аддаць Камуне ў батракі.

Чым маглі мы пасячы, парэзаць
Іх штыхоў сібірскую тайгу?
У іх вінтоўкі, а ў нас абрэзы.
І бягуць, як саранча, бягуць. . .

Апантаныя савецкім клічам —
Хто быў нікім, той стане ўсім —
Яны ня ганьбай, а за гонар лічаць,
Пірага чужога адкусіць.

У захопніка ў крыві з прадвеку:
Крывадушша, змус, хлусьня і блуд.
“Мы нясём свабоду чалавеку”,
А нясуць галечу, кабалу.

Рысакоў татараў і манголаў
Залыгала раскосая Русь.
Закруцілі ў крывавае кола
Ленін-ханы маю Беларусь.

Дух, разбойны, ў ленінскіх дэкрэтах,
Пекла чырвань плешчацца ў сьцягох;
Галаўлёвы Юдушкі ў Саветах. . .
“Што чакае нас? . . Зьлітуйся Бог!”

Так казаў паўстанец Янка Груша,
Стрэльбу ня зьнімаючы з пляча.
Самагонкі ён дапіў кілішак
З горкаю сьлязою у вачох.

І пайшоў у ноч, у пушчу
Гэты, непакорны чалавек.
Суцяшаў: “Нічога. . . Прыйдзе вушчунь.
Беларусь, жыве. . . Няхай жыве!”

І Алесь з малым, нават і з большым
Быў гатоў пабіцца аб заклад:
Янка Груша вернецца із Польшчы,
Каб забраць з падстрэшша яго клад. . .

14

Ня збылася хлопца спадзяванка:
Клад ляжыць пад страхою сухі.

Не вярнуўся із Польшчы Янка,
Ў чужыне яго водзяць шляхі.

А над Цішай чырвонае сонца
Растапырыла промні-нажы...
У загадаў суровай нагонца
Давялося цішанцам жыць.

ВЧК, ГПУ люта, жорстка
Безгаловілі гнеў, супраціў.
Спэцзаданьнем, прадразьвёрсткай
У жабракі прымушалі ісьці.

Ня чума хлебаробаў касіла —
Прадатрады... Свае басякі.
Хто у дом ня пушчаў, злыдні сілай
Выбівалі дзьвярэй вушакі.

— Дзе схаваў, прызнавайся, гад, жыта?
Па вачох тваіх бачу — схаваў...
Ня прызнаешся — шлёпну і квіта...
Гэта свой так, часамі й сваяк.

Сход за сходам. Галосяць: "Бясплатна
Школа, лекар... Вучыся, жыві...
Што-ж яшчэ вам патрэбна, праклятым?
Хто зямлёй надзяліў? Бальшавік..."

Трэба праўду сказаць, як на дусе:
Шмат хто ленінскай верыў брахні.
У лёгкавернасьці і завірусе
Загарэліся з "Іскры" агні.

І пайшлі бушаваць пажары
Палатнішчаў, сьцягоў і сьцяжкоў.
І пайшлі панаваць-камісарыць
Камітэты бядняцкіх бажкоў...

15

І ў Цішы зьявіліся "шышкі"
Новай савецкай улады.
Мікола Чорт і Боўдзень Грышка
Пачалі пісаць загады:

"Ад імя сялянска-рабочай,
У імя Інтэрнацыяналу,

Жадаем мы, ці ня хочам,
А мусім вёскай цэлай

Ісьці, куды Ленін кажа,
Туды, дзе Камуны сонца.
І хай памятае кажны,
Што трэба дзяржаве чырвонцы.

І вопратка трэба, і жыта,
І масла, і мяса, і яйка. . .
І трэба лавіць бандытаў,
Што ўсьпелі пахавацца. . .

А яшчэ — здаць трэба зброю,
Што ржавее ў падпечках,
Бо калі каго "накроем",
Хай рыхтуе сьвечку. . ."

16

Хтось казаў, як быў маленькі,
Паляцеў Мікола з лавы,
Грымнуў вобзем мазгавенькай,
Стаў на галаву кульгавы.

Дый у Грышы падглядзелі:
У мазгавеньцы ня ўсе дома,
Бо з казою у нядзелю
Ён брыкаўся на саломе. . .

Людзі ў цэркву, да касьцёлу,
(Яшчэ "опіюм" цярпелі. . .)
Толькі Грыша і Мікола
За паўлітраю "гавелі". . .

"Разгавеўшыся" рашалі:
На чарзе якая хата?
Да Аўдоці, ці да Галі
Яны пойдуць сёньня ў "сваты"?

Калі нос, як сьцяг, чырвоны,
Ў галаве прачнуцца гуны;
Пад парамі самагону
Шлях кароткі да Камуны.

І хадзілі камунары,
Недапечаная пара,

Хвост дудою, як гусары,
Пабрацімы камісараў.

Заляцаліся да ўдоваў
З посьпехам і без пасьпе́хаў
Ад улады гэтай новай
Было людзям не да сьмеху.

У лес глыбей, дык болей дроваў...
Дроў ня мала наламалі.
Год праз колькі пастанову —
Нішчыць цэрквы — выдаў Сталін.

Тут як тут таварыш Боўдзель,
Зь ім і Чорт. Для іх ігрышча.
У нядзелю пры народзе
Узяліся "цемру" нішчыць.

На царкву ўзабраўся Грыша...
Лез па лесьвіцы й бяз лесьвіц,
Усё "выше, выше, выше",
Як пра лётніка ў той песьні.

Сеў на крыж, крычыць у хмару
Багахульныя абразы...
Бог паслаў на злыдня кару:
Грымнуў вобземлю зараза.

І ніхто ня плакаў вельмі,
Нават бацька сказаў строга:
— Пакараў Бог майго шэльму...
Ёсьць мяжа цярпеньня і ў Бога...

А Мікола Чорт ня ўняўся:
Паламаў крыжы ўсе чыста;
Сьвятара й ксяндза у расах
У Сібір загнаў антыхрыст.

З дапамогай камсамолу
Хуліганіў Чорт, хамула.
Ды, як Грышу, і Міколу
Кара Бога ня мінула.

Мы аб гэты яшчэ ўспомнім:
На чарцях ня ставяць крыжык...
Час у гэтай сьветаломні
На Алеся глянуць бліжай.

17

Ня кожны дзень крыжы крышылі,
Былі ў той скрусе і распоркі:
Дзяўкі узімку да Марылі
Ішлі з кудзеляй на вячоркі.

А дзе дзеўкі, — там і хлопцы,
Дзе маладыя — там вясёласьць;
І пакуль певень стане лопаць,
Дуэты чуліся і солё.

Зьвінела квола "Перапёлка",
Журчэла "Рэчанька" імкліва.
І, як у летні час вясёлка,
Іскрыўся "Юрачка" гульліва.

Як ніткі пражы на пачынак,
Віліся хлопцы каля дзеўкаў.
Ніхто ня думаў пра спачынак,
Сон адганяў запал спадзеўкаў:

"Можа, прызнаецца сягоньня,
Слова чаканае пачую? . ."
— Мо не пакрыўджу, не прагоніць,
Калі зьнячэўку пацалую? . .

Стаялі доўга пад зарою
І цалаваліся ля плоту. . .
Ды толькі нашага гэроя
Цягнула Муза ад Эрота.

Цягнула ў госьці да "Паўлінкі",
Ці слухаць музыку Сымона. . .
Зь "Зямлі" пачаў Алесь зажынкі,
З "Жалейкай" крочыў па загонах.

Ён скончыў школу на "выдатна"
І сямігодку ў ліку першых.
У вольны час ад працы хатняй
Сьпяшаў Алесь у пушчу вершаў.

---

**Тлумачэньні:** «Паўлінка» — драматычны твор Я. Купалы. «Зямля» — паэма Я. Коласа «Новая Зямля»; «Жалейка» — першы зборнік твораў Я. Купалы;

А там “Пялёсткі”, “Віта”, “Крэдо”
І “Дзіва”, “Раніца рыкае” . . .
Якая сьвежасьць. Колькі ведаў.
Мэтафар вычурнасьць якая.

Нібы цымбалаў, рыфмаў граньне,
Суквецьці вобразаў цудоўных. . .
І сьнілася перад сьвітаньнем:
Між зорак ён лавіў князёўну. . .

Мы ўсе лавілі ў маладосьці
Свае князёўны-спадзяваньні;
Сумлевы рэдкай былі госьцяй,
А частай госьцяю жаданьні.

Жаданьні вуснаў, як півоні,
Гэройскіх чынаў, пераменаў. . .
У снох Алеся несьлі коні
Туды, дзе княжыў слаўны Менэк. . .

18

Няхэнтнік месца перамен,
Ішоў ад дому, ці дадому,
Трызьніў Алесь: “У Менск, у Менск,
У горад стольны, невядомы.

Купала там, Дубоўка, Колас,
Бядуля, Пушча, Маракоў. . .
Краіны роднай звонкі голас,
Што быў задушаны зь вякоў.

Пачуць, пабачыць. . . Часу крок,
Узьвівы дум, надзеі Цішы
Саўю з прыгожых слоў вянок
Для “Маладняка”, а мо й “Узвышша”. . .

“О, мары, мары, дзе ваш мёд?”
Казаў даўно вялікі Пушкін.
На канцавосьсях вечны лёд,
Там не пачуеш песьняў птушкі.

---

«Пялёсткі» — зборнік вершаў В. Маракова; «Віта» — зборнік Я. Пушчы; «Крэдо» — зборнік Ул. Дубоўкі; «Дзіва» — зборнік Н. Чарнушэвіча; «Раніца рыкае» — зборнік Я. Пушчы.

Гэтак і ў тым "Маладняку":
Сядзяць Пякучы й Кучаравы;
Паціснуць ветліва руку,
Калі савецкі лад праславіш.

Калі-ж міноры зазьвіняць,
Па рызыканта сьмелым сьледу
Сэксотаў пусьціцца ганьня...
Пра гэта наш гэрой ня ведаў.

Ня ведаў ён пра "страшны гмах",
Дзе беларус цярпеў і гінуў,
Дзе "чорны воран", пекла птах,
Крывёй пратух і дамавінай.

Ня ведаў шмат чаго Алесь,
На ўсё глядзеў дзяцінна-чыста;
Яму здаваўся сьвет увесь
Сугуччам песьняў урачыстых.

19

Марнеў у роспачы ня раз.
А ў тую ноч, перад ад'ездам,
Прысьнілася: ў балоце ўграз,
Вылазіць стаў — сарваўся ў бездань.

А там: "Чысьцілішча душы", —
Бялеюць словы ў цёмным куце.
— Карнач, * прышэльца запішы!..
Шкілеты крыкнулі: "Ратуйце!"

Людзей, што ў бочцы селядцоў,
Ляжаць пад нарамі й на нарах,
А Спэц, начальнік "подлецов",
Чытае вырак: "Сьмерцьцю кара..."

Крычаць русалкі на вадзе:
"За што страляеце сыночкаў?"
Карнач Алеся дзесь вядзе
І шэпча ў вуха: "Эх, браточак,

Ты ня дрыжы, ня блытай крок:
Вяду цябе не да расстрэлу..."
А сам націснуў на курок,
І бездань громам загрымела.

---

* Карнач — каравульны начальнік

Алесь угору паляцеў
Ад хвалі выбуху. Той выбух
Змахнуў з вачэй прывідаў цень,
Сапхнуў з грудзёў цяжкую глыбу.

Убачыў маці на каленях
Прад абразамі у куце.
Ён ведаў: матчына маленьне —
Яму жаданьне шчасьця, ўцех.

Калі паднеслася зь зямлі,
Алесь паведаў сон нядобры.
Трывога й жах яе згнялі,
Казала, глянуўшы на вобраз:

"Хоць гэта, можа, й забабоны,
Але я веру ў сны-знаменьні.
Мне сьніўся ў небе крыж чырвоны,
Калі твой бацька ў утрапеньні

Зьбіраўся ходацца зь германцам.
Узяў гармонік ён з сабою.
Казаў: "Прад боем трэ жагнацца,
А я зайграю перад боем. . ."

Ці йграў, ці не, ды не вярнуўся. . .
І ты — адна ў мяне уцеха.
Я за цябе чамусь баюся,
Было-б мо лепш, каб ты ня ехаў?

Часы нядобрыя насталі:
Калгасы нейкія прыдумаў
Той у Маскве, разбойнік Сталін,
Тварэц нявольніцтва і глуму.

Людзей хапаюць, высылаюць. . .
За што, пра што? Ці-ж гэта жарты?
А нават, кажуць, і страляюць. . .
Сапраўды ехаць лепш ня варта".

Алесь сядзеў, кудлачыў голаў,
Быў у вялікім непакоі.
Перамагаючы свой сполах,
Сказаў, каб маці супакоіць:

"Мама, ня бойся. Кастрыцу
Я ня шпурляў нікому ў вока.

І ня шпурну. Буду вучыцца.
Хачу пазнаць я сьвет шырокі.

Пазнаць сябе. І стаць паэтам.
Пісаць пра долю і нядолю...
Дык, хто-ж асьмеліцца за гэта
Мяне хапаць? У нас-жа воля...

А сон?.. Як кажа пагаворка,
Лёс не абыйдзеш, не аб'едзеш.
Мой лёс асьвеціць мая зорка,
Што з Богам лучнасьць мае недзе..."

Перахрысьцілася Марыля,
Нібы канчаючы малітву,
І на пазыцыях бясьсільля
Усё-ж хацела выйграць бітву:

"Сынок! У Бога поўна працы.
За ўсім і ён не дапільнуе.
Самому трэ асьцярагацца,
Тады й няшчасьце пашкадуе.

Твой сон, нядобры сон, сыночак.
Калісьці ўспомніш мае слова:
Як крыжык той, твой сон прарочы,
І збудзецца... Абавязкова..."

На тым і скончылі гамонку
Пад абразамі ў сьветлай хаце.
Узяўшы ў мыцельні даёнку,
Пайшла даіць карову маці.

20

"Гэй, вятры, марш паходны іграйце.
Каб да мэты дайсьці, не спаткнуцца!"
Разьвітаўшыся словам "Бывайце!"
Ішоў гэрой на станцыю ў Слуцак.

За плячыма ня торба, а крыльлі,
Сундучок у руцэ, бы пярынка.
Думкі лёталі лёгкай "кадрыляй",
Бы скакала наўкол вечарынка.

— Гэй, дзяцюк, ты далёка дзе крочыш?
Калі ў Слуцак, садзіся, падкіну!..




Вокладкі зборнічкаў паэзіі М. Кавыля выданых на эміграцыі.



На паседжаньні рэдкалегіі «Беларускае Думкі». М. Кавыль у цэнтры.

— Так, у Слуцак. . . І зьмералі вочы:
Конь дабротны. . . Са скуры ляйчыны. . .

Не стары яшчэ дзядзька на возе
І дзяўчына, зусім маладая.
Вельмі рэдка хлапцу ў дарозе
Шчасьце гэткае трапляе.

Усьміхнулася ветла дзяўчына,
Як Алесь ля яе прымясьціўся.
Гаспадар яго вокам акінуў,
Кашлянуў у кулак, адхіліўся.

Доўга ехалі польнай дарогай,
Падкідала, трасло ў каляінах.
З разьвітальнымі сумам, трывогай
Жураўлі хмары кроілі клінам.

— А ты чый будзеш сам ды адкуль-жа?
— Я, Лучына Алесь, зь вёскі Ціша.
— Мы Шарупічы. . . Значыцца, зь Вішань.
А дачка, вось, малодшая, Юля.

— На кірмаш вы ў Слуцак напэўна?
— Не, далей трошкі. . . Ў Менск па навуку.
— Што я чую? А я думаў, пеўня
Везяце прадаваць. . . Дай мне руку!

Павіншую й мяне павіншуеш:
Я таксама у Менск, у сталіцу.
— Тата, чуеш?
Будзем разам з Алесем вучыцца.

— Добра! Добра! . . І ў школе той самай?
— Я у Тэхнікум Пэдагагічны.
— Імя Ігнатоўскага? . . Мама!
Гаспадар на каня нокнуў зычна.

Конь трусіў спакваля бяз супынку,
Васілінкі даўно прамінулі.
Грызучы канюшыны сьцяблінку,
Думы сьветлыя песьціла Юля.

А Алесь, яе цёплую руку
Паціскаў, адпускаў, цісnуў зноўку. . .
Увіхаліся сэрцы іх грукаць.
Запытаў гаспадар: “Што-ж вы змоўклі?”

А Алесь: І бяз слоў зразумела:
Весялей стала жыць, Сталін кажа".
Крыва глянуў Шарупіч, і белы
Твар, здалося, пакрыўся сажай.

— Я ня ведаю, што ты за птушка,
Але бачу — высока лятаеш.
А скажы, праз іголчына вушка
Слон пралезе, як нітачка тая?

— Я ня майстра разгадваць загадкі,
Гаварэце прасьцей, зразумела.
— Бачыш, конь мой, як слон, сыты, гладкі?
Воз на восях зялезных, а цела

Ня ізрэбная лашчыць кашуля,
І ў кішэні ня грош, а чырвонцы.
Я ня злодзей якісьці, ня шулер —
Я, што конь мой, цягучы бясконца.

Ленін што нам казаў?
— Багацейце. . .
— А што Сталін нам кажа?
— Што й Ленін. . .
— Дудкі, брат. Ён мае на ўвеце
Жабракоў, што паўзуць на каленях.

Абрасьце хто кулацкаю тлушчай,
Хто ня ўлезе ў жабрацкае "вушка",
Той зь сібірскай пазнаецца пушчай,
Будзе сыты з карэньняў юшкай.

— Праўда ваша. . . Адна толькі "коска":
Сталін — гэта-ж Ленін сягоньня.
У іх адна і душа, і костка,
На тых самых едуць конях.

— Калі-б Ленін быў жыў, супраць НЭП-у
Не паслаў-бы сто тысяч хіба?
— Што-ж, па вашаму, Ленін – Прышчэпаў?
У вас бухарынскія перагібы. . .

— Хто Бухарын? Смаркач галапузы,
Без бухарства мне тут і пагрозы!
Не дазволю так нэрвы тузаць!
Зьгінь з вачэй! . . Вон з чужога воза!

— Што вы, тата? . .
— Пакінь мне тут таткаць!
Я для ўсякіх такіх не рамізьнік.
Запыніў ён каня злоснай хваткай.
Скочыў з воза, паправіў намызьнік,

Пачакаў, пакуль госьць забярэцца,
Сеў на мейсца, напружыў ляйчыны.
У Алеся затрэслася сэрца
Ад абразы бяз ведай прычыны.

Конь рвануў. . . Затарахталі колы.
Дзесь сабака скугольна загаўкаў.
Абхапіўшы рукамі голаў,
Стаяў Алесь, як зьбянтэжаны Саўка.

21

— Вось і Менск. . . Добры дзень, мая мара!
Ты такі-ж прыгажун, як я й высьніў.
Праўда, гмахі ня лезуць на хмары
І гудкі ня рыкаюць лішне.

Бляхай крыты дамы, чарапіцай,
Вуліц безьліч, ня ўбачыш канца ім;
А трамвай, бы стаеньнік імчыцца
І зьвініць, і шуміць шархунцамі.

Між слупамі драты, як цымбалы.
А галосьнікі маршы іграюць.
Як у лесе на сьвята Купалы,
Ты стаіш у каменным гаі.

Нібы Случ, брук у промнях зіхціцца,
І плывуць хвалі жыта ў палетках.
Можа тут, сярод тых каменіцаў,
Я знайду сваю папараць-кветку?

Ўсхваляваны, да сьлёзаў шчасьлівы
Спакваля па Савецкай пакрочыў;
На сустрэчных мянчанаў пытліва
Пазіраў — разьбягаліся вочы.

То-ж былі гарадзкія, ня то што
Ён, у змазаных ворвалам ботах.
Праўда, вопратка й іхняя коштам
Не фасоніла: ўсюды бядота.

“Рэвалюцыі трэба ахвяры...”
І прыпомніў Шарупіча, Юлю...
Сонца голаў схавала за хмары,
Сундучок пачаў пальцы муляць.

У другую ўзяў руку — ня цяжкі.
І пайшоў, паглядаў на вітрыны.
Дом Пісьменьніка — хатка із казкі,
Толькі што не на ножцы курынай.

Чамаданчык паставіў ля ўходу
І прысеў на хвілінку з мэтай:
Глянь-жа колькі снуецца тут люду,
Можа, ўбачыць якогась паэту.

Прасядзеў з паўгадзіны з гакам, —
Меў даволі вольнага часу —
Прыглядаўся да розных гулякаў,
Ды ня ўбачыў тубыльца Парнасу.

І ня дзіва, бо-ж, ведама, творцы —
Мастакі, музыканты, паэты —
Любяць з Музай сядзець у каморцы,
А ня швэндаць па месьце бяз мэты.

А яшчэ ў цягніку шэпт падслухаў:
“Пасадзілі Дубоўку і Жылку,
Адамовіча, Пушчу... Па вуху,
Б'юць і ў лоб за нязгоду, памылку...”

— Ну, нічога. Ня ўсіх... Яшчэ ўбачу,
Пазнаёмлюся, пэўна, з тым-гэным.
І, смакуючы прышлую ўдачу,
Зноў пакрочыў у ценю паўз сьцены.

Вырас комін Эльводу *) ў даліне,
Мост над рэчкай крывою... Няміга?..
Можа, Сьвіслач?.. Гракі на галіне
Заглушылі трамвая скрыгат.

Пад узгоркам палац, ды толькі:
Ў два паверхі будынак, бялюткі,
Не далічышся вокнаў тых колькі,
А сінеюць, бы “вочкі Анюткі”.

---

*) Эльвод — электрастанцыя.

Брама сьвежаю хварбаю пахне.
На замку. Але брамка — насьцеж.
На двары ні брахне, ні кудахне.
Белпэдтэхнікум... Плакаць ад шчасьця.

У калідоры студэнтаў бязьліку,
Шум і гоман разнагалосы...
У куце, каля люстры вялікай,
Уладкоўвала дзеўчына косы.

Мастака вокам дзеўчыну зьмерыў:
Ножкі зграбнасьцю кроў скалыхнулі.
Хоць і ведаў, што ўбачыць, ня верыў,
Што так хутка спаткаецца зь Юляй.

Думаў перш не чапаць, прайсьці міма —
Яшчэ крыўда на бацьку кіпела —
Ды спаткаўся ў люстэрцы з вачыма,
Ад якіх сэрца ў пяткі дзесь села.

Вочы Юлі — пралескі, вясьнянкі,
Бровы — ластаўкі чорныя крыльле,
Косы — нітак пшаняных вязанкі,
Плечы золатам мяккім пакрылі.

У люстэрцы убачыў ён сонца:
Усьміхнулася Юля Алесю...
Крутанулася спрытна... Увесь ён
Нейк абмяк, разгубіўся бязконца.

І стаяў, бы нямы, нярухома,
Як той слуп тэлефонны ўсёроўна;
Словы ў глытаўцы зьбіліся комам,
Уздыхнулася зь цяжкасьцю поўнай.

— Што так цяжка? Ня рады спатканьню?
— Што ты, Юля, чаму-ж я ня рады?
Ды абразы мяне вельмі раняць,
Не магу сам сабе даць я рады.

Юля сьціснула вусны, як вішні,
Скроняў бель заірдзела зьнянацку;
І, зірнуўшы наўкола увішна,
Запытала: “Злуешся на бацьку?”

— Так, злуюся...
— А й ты вінаваты...
З тым Бухарынам... Тата гарачы.

Ён у Леніна ўверыў. . . Наш тата. . .
— Ён кулак! . .
— Ты мяне аздачыў! . .

Выбачай, я ня маю больш часу! . .
І пайшла. Моцна грымнулі дзьверы.
"Зьліквідуем кулацтва, як клясу!" —
На сьцяне галасіла папера.

Стала сумна Алесю. Бы хваля
Із грудзей падкаціла да дыху.
— Пачакай, мая любая краля,
Маю час астудзіць тваю пыху. . .

22

Граніт навукі грызьці ня цікава,
Калі ў мазгах трашчыць тая самая
"страва":

Івана Грознага апрычнікі,
Сацыялістычная Кастрычніцкая,

Галіфэ, Мураўёў, Ленін, Сталін. . .
Былі ў хлюпоціне пратапінай

Антона Лёсіка словы
Пра назоўнікі, дзеясловы;

Алесі Александровіч размовы
Пра Купалу і брата твор новы. . .

Алесь мог слухаць бясконца
Нават пра нудныя "Цені на сонцы",

Калі шмат хто не жадаў слухаць,
Як зайцы натапырвалі вуха:

Ці не працюпкае дзед Лабанок,
Ці не задзілінькае званок? . .

— Дзінь-дзінь-дзінь. . .
— Га-га-га! . .
— Увага! . . Увага! . .
Дзе там! . .

Як на пажар, лятуць лабатрасы
Із клясы.

Алесь ня зь імі:
Ня любіў парушаць дысцыпліну;
Ён ня бег на "абы" за другімі,
А выседжваў хвіліна ў хвіліну.

У сабе выпрацоўваў паважнасьць
І павагу настаўніка, сябра;
Быў з маленства сьмелы, адважны,
Ды нікога ня браў за "жабры".

А яго колькі раз хапалі
Аднагодкі, як пасьвілі коні,
Ды ляцелі, як шумныя хвалі
З валуна, на зялёнае ўлоньне.

Рызыкантаў гарачы выбрык
Ня прываблівау і ня трывожыў;
Абмінаў размалёваных "выдраў",
Захапляўся усім прыгожым:

Воч блакітам, чароўнай усьмешкай,
Словам ласкавым, думкаю сьвежай...
На Парнас уяўлялася сьцежка
Без калдобінаў і бязь межаў.

Усё было і цікава, і новае.
Неразлучны Алесь быў із кніжкай,
Дзе мастацкае княжыла слова,
У празе ведаў ня ведаў зьніжкі.

23

Дні бурхліва ішлі. У калідоры
Не спаткаў Алесь Юлю ні разу.

Ведаў, дзе яна, ў клясе каторай,
Ды ня мог нейк рашыцца адразу,

Без прычыны пайсьці прывітацца,
Папрасіць за "кулак" прабачэньня.

"Закаханым ня грэх паламацца,
Хоць ламаньне — самасячэньне".

Доўга ён афарызм, нібы нэктар,
Прыкладаў да душэўнае раны,

А ня ведаў, што Южык, дырэктар,
Ужо пра Юлю паінфармаваны,

Што Шарупічы — “кулакі”...
Няма месца нідзе для такіх,

Сацыяльна-варожых,
Для уладаў бязбожных.

Але Юля ня лыкамі шыта,
На забойчы загад не чакала,

Усё зрабіла “шыта-крыта”,
Калі ліст ад сястры дастала:

«Юлечка, дарагая сястрыца!
Мама наша ў Случы хацела ўтапіцца,
Як даведалася, як сказаў тата,
Што ўсё наша, і зямлю, і хату,
Забяруць бальшавікі,
Бо мы — «кулакі»...
Нас вышлюць у Сібір, ці яшчэ недзе.
Тата сказаў, ён нідзе не паедзе,
Лепш у лес пойдзе да зьвяроў лютых,
Як у тую Сібір на пакуты.
Мама страціла розум і Чорту Міколу
Расквасіла сякерай голаў.
Ён прыйшоў, каб нас на станцыю адвезьці.
Маму забралі, павезьлі дзесьці.
Мы з татам уцяклі із дому.
Дзе мы зараз, толькі нам вядома...
Ты старайся вучыцца. Духам ня падай.
Упадзе, дасьць Бог, мардэрцаў улада.
Мне і тату часта сьніцца
Нейкая недалёкая граніца...
Зразумела?.. Да спатканьня!
Абдымаем і цалуем!

Тата. Маня».

Пасьля гэтакіх навінаў
Доўга плакала дзяўчына.

“Значыць — ворагі народу...
Няма долі ўсяму роду.

За бацькоўскую крамолу
Дзецям вузенькае кола:

Ім, “пракляцьцем закляймёным”, —
Бяспрытульнікаў калёны...

У пэдагогі шлях зачынен.
А ў тэатры, ў мэдыцыне?

Можа, там ня вельмі сочаць
І пашчасьціць нейк праскочыць?"

І Юля з развагай такою
Белпэдтэхнікуму памахала рукою...

24

А гэрой наш нічога ня ведаў,
Не сьпяшаўся пабачыцца зь Юляй.
За сваю непасьпешнасьць, вярэду
Мазгавеньку думкамі змуляў.

Што Алесь перажыў, перадумаў,
Як уведаў, што Юля прапала.
Разрывалася сэрца ад суму,
Апякалася роспачы палам.

Першы раз ухапіла за сэрца
Незнаёмая сіла каханьня,
А з тэй сілай прыйшло памерацца
Нечаканае гора растаньня.

Пераносіць лягчэй зь нейкім ростань,
Калі ты ня віноўнік здарэньня.
Але-ж тут зразумела і проста:
З "кулака" пачалося гарэньне...

Праўда, ён не задумаў пагрозы,
Толькі ляпнуў дурніцу пры Юлі.
Ці-ж Лучына, як Паўлік Марозаў,
Гада чорнага ў сэрцы прытуліць?

Не і не, і ніколі, ніколі,
Каб жыцьцём заплаціць давялося,
Ён ня стане ў мярзотніка ролі
На кагосьці уладам даносіць.

Род Лучынаў ня ведае здрады,
Азіяцка-цыганскай прадажы.
Дабрадзейнасьці, ласкі, спагады
У гэтым родзе дух Боскі княжыў.

І Алесь наш із чыстай крыніцы
Зачарпнуў тыя Боскія рысы.

Непакорны прачнуўся ў ім рыцар,
Закаханьня ўспыхнуў прысак.

А Эрот мо крыху не па-Боску
Тнуў акорды каханьня бязь сьмеху:
У вёску Вішні, Юліну вёску,
Шукаць Юлю Алесь паехаў...

25

Ноч цалюткую грукалі колы
І замоўклі ў Слуцку ўраньні.
Зь цягніка зьлез Алесь невясёлы:
Ня быў пэўны, што зьдзейсьніць заданьне.

Сам сабе ён заданьне паставіў:
Адшукаць за-бы-што Юлю.
І ў рашучай сваёй паставе
Твар падставіў буры разгульлю.

Запалонены думкаў улевай,
Пралятарскаю крочыў паволі,
З Пралятарскае збочыў налева:
Замагільная вывела ў поле.

Няпрыветла поле спаткала:
Мокрым сьнегам, пранізьлівым ветрам.
Із Слуцку ў Вішні ладны кавалак,
Больш за дваццаць кілямэтраў.

Поў-бяды, калі-б вецер ня ў вочы,
Каб халат хоць-бы трошкі цяплейшы.
"Трэба будзе дадому заскочыць,
Цяжка крочыць нічога ня еўшы.

А што маме скажу, як спытае?
Адкажу — закахаўся па вушы.
А яна-ж, як анёлак, сьвятая,
Але трапіла ў "грэшныя душы"...

Уцякла, ня прыйшла на заняткі,
І ў мяне ў сэрцы бухаюць хвалі
Нечаканай гэтай загадкі...
Знаю, мама мяне не пахваліць..."

Ногі мерзьлі, ступалі няпэўна,
Ў каляіны зрываліся з храпаў.

Ні душы, ні сабакі, ні пеўня,
Толькі буры калючая лапа.

Дзесь у поўдзень дабраўся да лесу
Да знаёмага Цёмнага бору.
І зрабілася млосна Алесю
Ад халепы, ад думак, ад гора.

Абясьсілены і адубелы,
Да сасны прытуліўся плячыма.
Як дзяўчаты ў сукенках белых,
Мітусіліся перад вачыма

На палянцы шырокай бярозкі. . .
Нібы пошчак, ці гоман пачуўся,
А за тым нейчы голас рэзкі
Крыкнуў "Стой!" І Лучына прачнуўся.

Як рукою, змахнула дрымоту:
Перад носам зазьзяла сякера. . .
За сякерай — кажух, шапка, боты. . .
І Лучына вачам не паверыў:

Перад ім быў Шарупіч. . . Пякуча
Паласнула маланкай прадчуцьце:
Засячэ, засячэ. . . Думкі кучай:
"Што рабіць? Нападаць, уцякаць ці?. ."

Абарваў яго думкі Шарупіч:
"Весялей стала жыць, кажа Сталін? . .
Брэша, гад! Нас брахнёю ня купіць:
Разумнейшымі трошкі мы сталі".

Размахнуўся сякерай шырока
І загнаў па абух у бярозу;
Уздыхнуў з хрыпатою глыбока
І сказаў, бы лагодзіў пагрозу:

"Пушча цёмная, лес — мая хата,
А суседзі — ваўкі ды мядзьведзі. . .
Ашчасьлівіў Грузін пракляты:
Кулака у Шарупічу ўгледзеў.

А ня бачыў крывавы мардэрца,
Як Шарупіч вылазіў із скуры,
Каб набыць начоўкі й цабэрцы,
Каб вяліся каровы і куры. . ."

Паўзіраў на Алеся пільна,
Пяцярнёю паскроб каля вуха
І спытаў з халадом замагільным:
“Хто паслаў па сьлядох маіх нюхаць?”

Скалануўся Лучына ад злосьці,
Ды сказаў, як мага, лагадней:
“Вы мяне прынялі за кагосьці,
Я ня крочу дарогай нягоднай.

Я дахаты іду... Вунь, за борам,
Наша вёска. Ізь Менску прыехаў.
А чаго? Прызнавацца нейк сорам,
А для вас будзе дрэннай уцехай...”

Ад сасны адхіліўся рашуча,
Каб пайсьці, але мусіў спыніцца:
У арэшніку трэснула суччa...
І Шарупіч спалохаўся, быццам.

Ён з падозрай зірнуў на арэшнік,
Ірвануў із бярозы сякеру
І стаяў, як над ямаю грэшнік,
Брат загнанаму дзікаму зьверу.

Ды пачуўся ў арэшніку голас:
“Тата, дзе вы? Хадземце адсюля!..
Быццам сьнег загарэўся наўкола,
І Алесь закрычаў: “Юля!.. Юля!..

Памыліўся Алесь: гэта Маня,
А ня Юля клікала бацьку.
І Шарупіч сказаў на растаньне:
“Ты душу адчыніў мне зьнянацку.

Я лічыў цябе... Бачу, ня тое.
Ды, чаму ты тут Юлю шукаеш?
Юля ў Менску. Ты нешта ўсё-ж тоіш...
Не таі, бо сябе ашукаеш”.

— Юля ў Менску? А я думаў дома.
Юля кінула Тэхнікум, зьнікла...
— Гэта — дрэнна... Я ёй павядоміў,
У лісьце ўсю бяду сваю выклаў.

А бяда ў мяне... Як яе зьмерацць?
Не пралез я праз Сталіна “вушка”

І блукаю вось сьцежкамі зьвера,
І міліцыя ловіць на мушку. . .

Не злавілі пакуль што. Эх братка!
Прабяруся, дасьць Бог, заграніцу. . .
А, вось, зь Юляй якаясь загадка.
Яна кінула, кажаш, вучыцца? . .

Што зь ёй сталася? Божа ласкавы,
Пакараў нас, караеш за што так?"
Выцер сьлёзы рукою каравай,
Паглядзеў на Алеся зь пяшчотай,

Папрасіў: "Калі Юлю пабачыш,
Дык скажы, што мы з Манею жы́вы:
Маці зьгінула. . . Ну, хай ня плача:
Прыйдзе час, і казьба будзе й жніва. . ."

— Тата, пойдзем! — Гукнула зноў Маня.
І Шарупіч Алесю даў руку.
Праз вятроў шугату, завываньне
Чуў Алесь свайго сэрца грукат.

26

Ня быў гэрой наш палахлівы,
Ды, як сьціхлі Шарупіча крокі,
Шмыгануў без аглядкі імкліва
Нацянькі па палянцы шырокай.

Доўга бег паміж дрэў без аддышкі,
Затрымаўся ля дуба старога.
Наўкол дуба валяліся кішкі,
Капыты, косьці, рогі. . .

"Хто-ж тут бойню стварыў: воўк ці людзі?
Месца ўзвышнае, месца гуляньняў,
Канавал які гэтак забрудзіў?" —
Хвалявала Алеся пытаньне.

Атрымаў ён адказ неўзабаве,
Калі еў цёплы мяса кавалак.
Маці побач сядзела на лаве,
Уздыхала і сьлёз не хавала:

— Ужо ў хляве ня рыкае Лысуха
І ў сьвінушніку стала суцішна. . .

Мой сынок, каб ты толькі паслухаў,
Што гавораць: зьгіненьне для ўсіх нас.

Кажуць, Сталін паслаў камуністаў
Раскулачыць, загнаць у калгасы,
А гультай і на руку нячысты
На чужое дабро вельмі ласы.

Каб басоце ня йшло на закуску,
Людзі рэжуць жывёлу. . . Ад злосьці.
“Мама, мама, ня будзе вам спуску,
Як пра гэта дазнаюцца “госьці”.

— Хай дазнаюцца. . . Нашая ўласнасьць:
І каровы, і сьвіньні — нашы.
Вось тады, калі прыйдзе калгаснасьць,
Калі нашае стане ня нашым,

Справа іншая. . .
“Вашая справа,
Але трэба рабіць асьцярожна.
Камуністы адкажуць расправай.
Ім усё з ласкі Сталіна можна:

Арыштуюць, пасадзяць, замучаць. . .”
— Дык, якая-ж гэта улада?
“А такая, як Ленін вучыць:
Прайдзісьвета, люмпена, смрада. . .”

— То-ж бо то: як зьвяры, бязь веры,
Бяз душы, а таму і душаць.
І няма на той зброд халеры!?
Мала іх пераніўчыў Груша! . .

Каб ня ты, не тваё вучэньне,
Не пайшла-б у калгас на муку.
Не пайдзі, як цябе ацэняць?
Шлях табе зачыню ў навуку.

Не ў калгас, а ў саўгас падамся.
Там рубель, хоць які, ды плацяць.
А ў калгасе. . . Што ў тым калгасе?
Ў кніжцы кол-працадзень адзначаць. . .

Ад вясны да зімы у полі
Аблівайся салёным потам,

А заплацяць — жабрак мае болей. . .
Як ты быў, так і будзеш ніхто ты.

У бары сон прысьніўся совам:
Баль мышыны на сенажаці. . .
Не змаўкала доўга размова
Паміж сынам і маці.

27

Зноў у Менск з маразамі і сьнегам,
Зноў цягнік лязгатаў і гу-гу-каў. . .
Крочыў зноў спакваля і з падбегам
Наш гэрой па сталічнаму бруку.

Прыглядаўся да менскіх дзяўчатаў:
Можа Юлю спаткае, можа?
"Плюнь, дзівак! . . Ты-ж яшчэ не жанаты.
Паглядзі, колькі зграбненькіх ножак! . .

Колькі вочак блакітных наўкола,
Колькі вуснаў, нецалаваных! . ."
У Алеся гарачую голаў
Лезьлі ўсякія думы-спадманы.

Каб прагнаць іх, ня думаць пра Юлю,
Волю даў наш гэрой успамінам
Пра бацькоўскае хаты утульле,
Пра студэнтаў турботы, павіннасьць:

"Пасьля лекцыяў — сход, дэманстрацыі. . .
Ібаруры слабоду, Ракошы! . ."
На суботніках трэба ўвіхацца.
Не пайдзі — ўсіх чарцей успалошыш:

І кляском, і парткам, і дырэктар
Словаў грозных усадзяць пікі;
Ганьбаваньня ты станеш аб'ектам
Для актыўна-падлізнае клікі.

А сябры, а тава́рышы? . . Званьне.
Не чакай спачуваньня. Благога.
Толькі часам Нарэйка загляне,
Прадэклямуе Лугаўскога.

А часам Янка Рамановіч,
Мастак на выдумкі, гастроты,

Перш анэкдот раскажа новы,
Пасьля ўзарвецца: "Ідыёты!..

Усьселі так на Галадзеда,
Што праз вакно ў магілу скочыў...
І Ігнатоўскі за ім сьледам
Знайшоў спакой у вечнай ночы..."

Глыбоцкі, крытык-пачатковец,
Прыгожых слоў падчэпіць гушчы.
Ён прыгажунь у снох ня ловіць,
Бо закаханы ў Музу Пушчы...

А Рудзька ўскочыць, як з абрыву...
І ўсё ён ведае... Адкуль-бы?
Рыхтуйся, скажа, да "прарыву":
Ізноў саўгас ня выбраў бульбу...

А Лойка ўсім дае параду:
"Сядзь на Пэгаса ў карусэлі,
Як Санча Панча, ўперад задам,
Дык Бэндэ-злыдзень не падстрэліць..."

Сябры?.. Казала маці: "Вельмі
Не абзаводзься ты сябрамі,
Бо ёсьць такія сябры-шэльмы,
Што прададуць і жыда з крамай".

Алесь скэптычна слухаў маці:
Адкуль ёй знаць "прадажнасьць" нейку?
Ды ўсё-ж паміж знаёмай брацьці
Ён давяраў найбольш Нарэйку.

28

Сяргей Нарэйка — далікатны,
Паэт і целам, і душою;
Сярод выдатнікаў выдатны,
Сьцяжынкай роднаю ішоў ён.

Старэйшы векам, клясай вышай,
Ён ведаў шмат ня з кніг казённых.
Ня кожны чуў, хто мае вушы:
Літва, Масквой перахрышчона

У Беларусь, у Бэсэсэрыю...
Ура, таварышы-прахвосты!

Гадуйце янычараў псарню,
Штурмуйце будучыні аванпосты!

Яго ня вабілі зьвяршчэньні,
Не падпяваў, ня бура-пеніў;
Як Броўка, перад сюзарэнам
Не станавіўся на калені.

Бо сюзарэн, Масква, вякамі
Душу вытрэсвала з васала.
Беларусь пад бальшавікамі
Трасца трасе, як і страсала

І пры Пятры, пры Кацярыне,
Пры аляксандрах, мікалаях. . .
Калі-ж у процьму яна зрыне
З душой бязбожнай Русь "сьвятая"?

Маўчы, ня пікні праўды слова
І ў снох ня кратай анты-тэму.
Ды напісаў Эзопа мовай
Нарэйка сьмелую паэму.

Чытаў аднойчы твор Нарэйка
Ў Дубягі бедненькім пакоі.
Чытаў-сьпяваў, як канарэйка,
Усё аглядаўся ў непакоі.

Стаяў Дубяга, як апостал,
Высокі, згорблены, суровы.
А Рамановіч сядзеў проста,
Як тэрарыст на загаворы.

Глыбоцкі (клікалі "Бялінскі")
Штосьці запісваў, часта моргаў.
А Сяргей Лойка, "шляхціц пінскі",
У руку кашляў, носам шморгаў.

Алесь паэму ўважна слухаў:
Ёсьць дзесьці Ганга, Брамапутра. . .
Там вечны голад, нэндза, скруха.
А побач роскаш сьпіць у футрах. . .

Дзесь з батракоў у заміндара *
Крывавы пот цячэ за рупі. **

* Заміндары — зямляўласьнікі. (Бэнгальскае).
** Рупі — грашовая адзінка. (Бэнгальскае).

Дзесь стэкі дэньдзі валадарыць,
З бэнгальцаў дзесяць скураў лупяць.

Не аднаму Алесю, мусіць,
Прыйшло: Эзопава тут мова.
Гэта-ж аб долі Беларусі
Тая "бэнгальская" размова.

Гэта ня дэньдзі стэк крывавы,
Лёг паміж Даккай і Калькутай —
Гэта наш край Масква з Варшавай
Расьцялі, кінулі ў пакуты.

І выглядала, што паэма
Контррэвалюцыяй "пахне" . . .
А хлопцы крыкнулі: "Жыве Нам!
Няхай мацней-жа бура джвагне!

Алесь падумаў: Дон-Кіхоты. . .
Гэта-ж змаганьне зь ветракамі:
Замоўклі стрэльбы, кулямёты,
Што спор вялі з бальшавікамі.

Хоць шчэ ня ў моцы дыктатура,
Ды меч каральны шчэрбіць зубы. . .
Адкуль-жа джвагне тая бура?
Нашто трубіць у вуснаў трубы?

Нашто панаджваць катаў гнюсьных?
Пакуль разьліку час настане,
Павесь замок на свае вусны
І думай лепей пра каханьне. . ."

Але ў Алесевых паглядах
Жыцьцё зрабіла карэктуру:
Сябром засмучаным на радасьць,
Пачаў Лучына клікаць буру. . .

29

Калі-б ты й ня думаў буру клікаць,
Дык жыцьцё жабрачае прымусіць.
Ці-ж бы стаць нікчэмнасьцю вялікай
І марнець зь няволяй у хаўрусе?

Раскулачваньні, калгасы, "стройкі" —
Рэвалюцыі разбойнай паглыбленьне. . .

ГПУ калегіі, тройкі...
Ня жыцьцё, а вечнае зьгібеньне.

І маўчаць, калі галодны з ранку
І да ранку, як шчанюк паршывы;
Калі гоняць у саўгас Сьляпянку,
Ці ў калгас “Камуна” на прарывы?

Закасаўшы рукавы па локаць,
Выкалупвай бульбу зь мёрзлай глебы,
Альбо ў лесе па сасьне высокай
Тні сякерай, покуль зьлезе зь неба.

Ня вучэньне, а адно мучэньне,
Ня студэнт, а шпунт ад цёмнай дзіры.
Плюнуў наш гэрой без прабачэньня
І махнуў з прарыву ў дээртыры...

Ажно ў роднай Цішы апынуўся,
Маці напалохаў неспадзеўкай.
У апраўданьне так казаў у скрусе:
“Мама, не чакаў я гэткіх зьдзекаў.

Ня гультай я нейкі, ня выкруцька.
Але, хто я? Ў калясе вавёрка?
Уцяклі: Нарэйка, Лойка, Руцька...
Шмат хто пакаціўся, нібы з горкі.

Ужо зіма кажух надзела белы,
А ў калгасе бульба ў палі гіне.
Дык, ці-ж я, сьсінелы, адубелы,
Вінаваты, калі нехта вінен?”

Маці лоб памацала — гарачы.
Заварыла ліпавага квету.
Праляжаў Алесь тры дні на печы:
Выганяў калгасную “асьвету”.

Праз тры дні вярнуўся на заняткі.
Атрымаў узбучку ў хвост і грыву:
Не дарэмна ўсё-ж падмазваў пяткі:
Больш не пасылалі на “прарывы”.

Толькі ў “Асабістай справе” чорным
Ды па беламу зьвілі вяроўку:
“Сымулянт, шматдумны, непакорны...”
Выпісалі ў ГПУ пуцёўку.

30

У канцылярыю выклікалі Юлю. .
Хоць жыла ўвесь час, як на вулькане,
Вестка тая моцна страсянула,
За пытаньнем лезла запытаньне:

"Што казаць? Ці праўду, ці маніць?
Ці-ж забіла я кагось, ці ўкрала?"
Нібы Жанна Д'Арк у вагні,
Перад дырэктарам стаяла.

Працёр дырэктар акуляры
І зацягнуў фальцэтам арыю:

— Таварыш Шарупіч! Прызнацца,
Я — вораг хвалебных рэляцый,

Ды трэба сказаць адкрыта,
Што ты для тэатру — здабытак.

Ня шмат у нас талентаў гэткіх,
Каму на падмостках кветкі

Зьбіраць разам з воплескаў бурай.
У цябе і талянт, і фігура,

І голас адменна чысты.
Усё, што патрэбна артысту.

Твой шлях мог быць слаўны, цікавы.
Ды, вось, на шляху да славы

Стаіць адна перашкода:
Бацькоў тваіх вырода. . .

Ты ведаеш, што гэта значыць.
Прад намі — культуры задачы.

Ня быць мне асобай дыскрэтнай. . .
"Што Вам патрэбна канкрэтна?" —

Абсекла Юля тыраду.
І пачула яна кананаду:

— Канкрэтна? . . Паслухай, гарачая:
Хачу я цябе "раскулачыць". . .

І толькі. Каб Юлю Шарупіч
Ачысьціць ад шкодных шкарлупіц. . .

Каб сталася Юля Джульетай,
Ці Тільдай, ці Віялетай. . .

"Паўлінкаю хопіць. . ."
— Ну, што ты?
З тваёй галавою і цнотай?

Табе — усе галоўныя ролі.
У Маскву хутка едзем. . . Гастролі. . .

Пабудзем там болей за тыдзень.
У "Большом" перад Сталінам выйдзем. . .

Упэўнен: таварыш Сталін
Мэдалямі нас пахваліць. . .

Ды ў гэтай мажорнай гаме
Ёсьць сумная нотка. . . Між намі,

Бяда над табой навісла:
Із Менску цябе хочуць выслаць. . .

Былі ў Наркамаце я й Сэлях,
З начальствам гутаркі мелі.

Я веру, што ты ня вораг,
Ды любяць законы пакору.

Каб зьняць цябе з чорнага сьпіску,
Ты мусіш даць расьпіску.

На лісьце, вось тут, падпісацца,
Што з бацькам ня будзеш знацца.

"Я нават ня ведаю, дзе ён. . ." —
Крыкнула ў Юлі надзея.

Дырэктар з свайго агароду:
— Твой бацька — вораг народу. . .

Ты мусіш яго зрачыся,
Тады і жыві, й весяліся. . .

"Бацькоў адрачыся? Для славы?
Цікава. . . Вельмі цікава.

А хто даў жыцьцё мне, скажэце:
Бацькі, ці яны, ў Наркамаце?

Жыву па бацькоўскай я волі,
Бацькоў не зракуся ніколі.

Бацькі мае не зладзеі.
Зрабілі іх вы, ліхадзеі,

Вар'яткаю маму, а тату
Таксама амаль што вар'ятам".

31

Пабегла Юля да Алеся,
Расказала ўсю сваю бяду.
І, як толькі ў вокны глянуў месяц,
Вышлі з дому у завеях дум.

Яны крочылі на станцыю ўвішна:
Уцякала Юля ад бяды...
Але, дзе завулак ёсьць суцішны
Дзецям "ворагаў народу" маладым?

Ліхадзеі, ўсюды ліхадзеі,
Маякоўскім толькі "хорошо"...
Суцяшаў Алесь: "Ня трацъ надзеі!
Час такі, нядобры, надыйшоў.

Спадзяюся я міне час чорны.
Мардаваць ня можна без канца,
Высылаць на Поўнач непакорных,
Рай, рабом пакорным, абяцаць.

Вось да нас паедзеш, перабудзеш
Год няхай, ад сілы два, пакуль
Я закончу тэхнікум, і будзем,
Разам будзем. Выеду адсюль..."

Уздыхнула Юля: "Ў Цішы выйсьце?
Хіба ў Цішы ня той самы змус?
Хай хутчэй-бы хоць якое прыйсьце:
Хоць патоп, хоць нейкі зямлятрус".

— Не кажы так. Што ты нарабіла?
Заламала над сабой залом.
Ты была зязюлей аднакрылай,
Страціла апошняе крыло...

"Не, Алесь, я крыльлі свае маю.
Мае крыльлі — ў вернасьці бацьком.

Хто зрачэцца родных — страшны Каін,
Гэткі можа стаць бальшавіком”.

— Я ня тое думаў. Здрадзіць родным,
Тое самае, што іх забіць.
Ды нашто прад злыднікам нягодным,
Сябе самога словамі губіць?

Жыць з ваўкамі — трэба выць па-воўчу,
Покуль час настане для нажа...
Перабіла Юля: “Я-жа змоўчаць,
Калі родных стаў ён абражаць?

Ў мазалёх крывавых родных рукі,
Нажылі дабро сваім гарбом.
А за гэта мне няма навукі,
Хоць аб сьцену малаці ілбом...”

Ім насустрач двое... І Лучыну
Узялі пад рукі дзьве рукі.
Хтось да Юлі: “Ты ідзі, дзяўчына!
Завтра встретитесь с любимым у реки...”

Закружылася наўкольле калаўротам,
Здэцца, нехта ногі падкасіў.
Прытулілася Юля да плоту.
Блізка дзесь цягнік загаласіў.

32

Прывялі Алеся ў Дом высокі,
Ў Менскую Лубянку прывялі.
Там канчаўся шмат чый сьвет шырокі,
Там сядзелі сьмерці кавалі.

Маўкліня магільная. Мурашкі
Пад кашулей кіпцямі скрабуць.
На сьцяне Дзяржынскі. Погляд цяжкі.
“Вырвацца-б ад гэтуль як-нібудзь?..”

Аддалі Алеся канваіру.
— Следуйте за мною, гражданин!..
На чацьверты йшлі паверх. Бы гіраў
На нагах вісеў пуд не адзін.

Калідор даўжэзны, сотні мэтраў,
Колькі тых дзьвярэй, не палічыць;

Бы ў трупярні, ліпкае паветра,
Здэцца, нехта стогне, ці крычыць...

Ля дзьвярэй там-сям, да сьценаў тварам,
Як прывіды, "ворагі"... "Дапрос"...
Заламала рукі дума-хмара:
"Для чаго на сьвет радзіўся, рос?"

Рашчыніліся маўкліва дзьверы:
Невялічкі сьледчага пакой.
Зноў Дзяржынскі. Шэрыя шпалеры.
Стол. Паперы. Ціш і супакой.

За сталом — "япрук"... Як на адкорме.
Важны і халодны, як лядзяк.
Партупэя на "защитной" форме.
Ордэн Леніна сьмяецца на грудзях.

І Алесь падумаў: "Добра ўмее
У зямельны заганяць аддзел
І душу ад грэшных целаў веяць..."
Ды "япрук" зарохкаў кагадзе...

Шмат пра што той сьледчы рохкаў суха,
Тухту перапрэлую жаваў.
Зразумеў Алесь: як стане "сукай",
З шыі ня кульнецца галава.

А "япрук" паперу падпіхае:
"Падпішы й нікому ні гу-гу.."
І пайшоў Лучына зь "вяртухаем"
Па прыступках страшнага кругу...

33

Із ГПУ Алесь выйшаў, як з трупярні,
Дзе пабачыў свой собскі труп.
Калаціліся на слупох ліхтарні,
Зуб не трапляў на зуб.

Можа ад марозу? Быў студзёны люты.
Не, гэта ад страху. Што там ні кажы,
Будзь ты канквістадор, броньню абкуты,
Як бяду спаткаеш, сэрца задрыжыць.

А бяду Лучына вельмі добра бачыў:
У ГПУ ня водзяць абы толькі так.

Правакатар трэба ім з душой сабачай,
Хто гатоў прадаць і маці за пятак.

Калі ты ідэйна вытрыманы гіцаль,
З часам, пэўна, будуць грудзі ў ардзянох.
А які, скажыце, будзе зь цябе рыцар,
Калі ўжо “вымова” ходзіць па сьлядох?

І пайшоў Лучына сам сабе ня рады.
Ці-ж такім ён высьніў шлях свой у жыцьці?
Ні сказаць нікому, ні спытаць парады.
Як-жа тую бездань абыйсьці?

Падпісаў паперу: памагаць згадзіўся
Антыбальшавіцкі разматаць клубок. . .
Радуйся, прадажнік! Сука, ганарыся!
Каін, будзь гатовы шаснуць вілы ў бок. . .

Сам сябе ўратуеш, а сяброў загубіш.
Што табе Нарэйка, Лойка, Рудзька?. . Што?
Зь бервяна аськепкі ў камунізму зрубе. . .
Пранізаў Алеся ліхаманкі ток:

“Куда итти и скем мне поделиться
Той грустной радостью, что [illegible] остался
жив?”

А што з жыцьця, калі ты стаўся гіцаль,
Калі на сэрцы га́дзіна ляжыць?

Вялікі сьвет, прастор шырокі,
Але нікуды не ўцячэш
Ад усёбачачага вока
І ад усё чуючых вушэй.

І мне стаць вокам тым і вухам?
І, можа, Юлю ім прадаць?
Хваробу ў бок! Забойцаў слухаць?
Я — не прадажная брыда.

Валею жыць з душой паэты:
Малітвы сэрца галасіць,
А не касою прайдзісьвета
Галовы “ворагаў” касіць. . .

Каб хутчэй выблытацца з гэпэушнага
матка,
Сеў Алесь на трамвай, што йшоў да
Унівэрсытэцкага гарадка.

Там, на Літфаку, схаваўшы "грэшныя
канцы",
Навучаліся Белпэдтэхнікумаўскія
выгнанцы...

34

А назаўтра "наседка" "япруку" даносіў:
"Як мне выведаць удалося,

Алесь Лучына быў учора ў Гарадку,
Меў гутарку зь сябрамі ў цёмным кутку.

Сабралася іх вялікая шайка:
Глыбоцкі, Нарэйка, Рамановіч, Лойка;

Былі таксама: Гінтаўт, Руцька
І яшчэ пару шалапуцькаў.

Прозьвішчаў іх ня ведаю пакуль.
Даведаюся хутка, нікуды не ўцякуць.

Лучына казаў, што яго цягалі ў ГПУ
І там марочылі галаву:

Вербавалі яго ў сэксоты
І выпытвалі абармоты,

Дзе вы зараз, вашы думы, мроі?
Перапалохаліся кулацкія гэроі.

Глыбоцкі казаў: "Трэба ў Польшчу
ўцякаць".
Нарэйка пярэчыў: "Небясьпечна.
Варшава баіцца Масквы кулака
І выдасьць бязьлітасна, "гжэчна".

А мы не злачынцы. Баяцца ня нам.
Зьбірацца нам рана у вырай.
У нас адна толькі ёсьць "віна"'
Мы любім свой Край моцна, шчыра".

Тады Рамановіч разьзявіў рот:
"Я справу лічу разьвязанай —
Хто любіць свой Край і гаротны народ,
Ня можа любіць Чынгіс Хана..."

Тады падыйшлі да сьцяны, дзе вісіць
Любімы таварыш Сталін,
І зь лютасьцю дзікаю контрыкі ўсе
Пляваць яму ў вочы сталі.

Яшчэ: яны носяць значкі СВБ
На штрыфеляў адваротах,
Бязбожнікамі ня лічаць сябе,
А лічаць сябе абармоты

Сябрамі падпольнай арганізацыі —
Саюзу вызваленьня Беларусі
Ад маскоўскай акупацыі. . ."

Пятрусь Укусік.

"Япрук" ад радасьці ажно падскочыў
І Дзяржынскаму казырнуў і падмігнуў:
"Дваццаць трэйцяга лютага, ў дванаццаць
ночы,
Усю свалату — мячу і агню! . ."

35

Алесь адчуваў такую радасьць,
Быццам, праз замінаванае поле прайшоў,
Ад таго, што ня стаўся гадам,
Што папярэдзіў таварышоў.

Галаву трымаў ён высока,
Хоць і ведаў — бяда ня міне:
Хто ня хоча быць "вухам" і "вокам",
Таго меч гэпэвушны пратне.

І хадзіў ён ня раз, як падбіты,
І на лекцыях сумны сядзеў.
Усё ішло, як заўсёды, нібыта,
Бы кругі на спакойнай вадзе.

Як раней, гаманіў Антон Лёсік,
І дзілінькаў дзядок Лабанок.
На марозам падмазаных восях
За дзяньком увіхаўся дзянёк.

Вось і Арміі дзень. . . Будуць славіць
Да нуды камісар, палітрук. . .
У Страшным Доме зграю лягавых
Рыхтаваў для аблавы "япрук". . .

Не цягнула Алеся на танцы:
“Хай танцуюць сабе безь мяне...”
У прадчуцьцяў і дум ліхаманцы
Праз вакно паглядаў на сьнег.

“Сыпле сьнег... Дзесь у далечы Ціша...
Хата родная... У хаце — яны...
Юля, можа, мне вестачку піша?
Мама, пэўна, пячэ бліны...

Удваіх весялей ім жывецца...
Удваіх? Хто сказаў, што ўдваіх?
Эх, дзівак, табе шмат што здаецца,
Шмат жарптушак у марах тваіх.

Юля, можа, ў далёкай дарозе,
Да бацькоў дзесь у Польшчу ідзе?
Мо схапілі, сядзіць у вастрозе?
Ты ня ведаеш, дзе яна... Дзе?”

Закружыўся Алесь, бы ў вагні.
“Што рабіць? На цягнік! На цягнік!..”

І ступіў да дзьвярэй, ды парог
Перакрочыць гэрой наш ня мог:

На парозе стаялі чэкісты...
Нібы ордэн Алесю ўрачыста,

Уручылі ордэр на арышт...
Сьвет зьмяніўся за пару хвілін:
Быў Лучына хоць нейкі таварыш,
Стаў нівошта — грамадзянін...

Грамадзянін і раб — тоесамасьць.
Права у раба — страх,
Будучыня — чорная яма
На магільніку ГУЛ-аг...

36

О, як жадалася дамоў
Майму гэрою маладому.
Вялі яго паміж дамоў
У страшны Дом, у Дом вядомы.

Над Менскам сажай сіняй ноч
Перасыпала бель сьняжынак.

Уся Беларусь спала, апроч
Такіх няшчасных, як Лучына.

А іх, Лучынаў — лягіён:
Вялі настаўнікаў, студэнтаў. . .
Як бараноў у той загон,
"Контррэвалюцыйных элемэнтаў".

Вялі, як грэшнікаў вядуць
У пекла чэрці для апалу.
О, не, ня скажаш: "Не пайду",
Хіба, што гэтак, як Купала:

Каб ня ісьці на эшафот,
Відэльцам шаснуў у жывот. . ."

Вялі Нарэйку і Руцько,
І Рамановіча й Дубягу. . .
Толькі Глыбоцкі дзесь уцёк
У ленінградзкую акругу.

Пазьней злавілі. Усіх вялі,
Хто ня сьхіляў пакорна голаў.
Палохаў злыдняў у Крамлі
Рабоў "шчасьлівых" сьмелы голас.

Маскве разбойнай у звычай
Так, як смактаць мядзьведзю лапу,
Увайшло: "Тащи и не пущай! . ."
"Ура!" — Крываваму сатрапу.

Грымелі пульманы ў Сібір,
Плылі па Обі параходы. . .
А там апрычнік-канваір
Быў і Вышынскім, і Ягодай:

Крок управа, крок улева —
Аўтаматная улева. . .

Калі ня скосіць аўтамат,
Спакваля цынга задушыць;
Мароз сібірскі, белы кат,
Агнём халодным спаліць душу.

"Як гэты жах перажыву? . ."
Успомніў сон перад ад'ездам. . .
І ўжо ня ў сьне, а наяву
Убачыў Дом, у кратах — бездань. . .

Пераступіў Алесь парог.
Заскрыгітала пекла брама...
"Не ўпрасіла Бога мама.
Ці-ж сатане паддаўся Бог?.."

*

Калі вялі Лучыну ў ГПУ,
Ён, сьхіліўшы долу галаву,
Перакрыўляў Маякоўскага Музу:
"Глядзеце!
Зайздросьце!
Я — грамадзянін
Савецкага
Саюзу!.."

1982

## ВЕРШЫ ПЕРАКЛАДЗЕНЫЯ
## М. КАВЫЛЁМ

**З Ангельскае:**

Норман Гімбэл

### Я ЧАКАЦЬ ГАТОЎ

(Вольны пераклад)

Калі ты адыйдзеш
Хоць у іншы сьвет,
Маё сэрца пойдзе
За тваім усьлед.

Хоць куды, ня знаю,
Сьлед твой павядзе.
Як цябе кахаю,
Знае кожны дзень.

Знаю, ў тваім сэрцы —
Тое, што ў маім:
Жыць у паняверцы
Цяжка, сумна ім.

Сэрца мне прарочыць —
Прыйдзе лепшы час:
Ноч заплюшчыць вочы,
Як абдыме нас.

Будзеш ты з усьмешкай —
Сонца ў касьніках —
Трапятаць, як птушка,
У маіх руках. . .

Калі-б стала гэтак,
Я чакаць гатоў
І зіму, і лета
Тысячу гадоў.

Ядвіга Баран

## ДАЙ МНЕ ВУСНЫ ТВАЕ

(Вольны пераклад)

Дай мне вусны твае! Неба ў роспачы плача,
Й прагну я цалаваць кожнай кроплі
зіхценьне
I зьвіваць з маіх змочаных косаў вяночак,
Каб ім нас апавіць паміж сьценаў
сьвяшчэнных.

Як ня вусны твае, дай праменьні мне
сьмеху,
Словы — сонца сьвятло з матылёчкавых
крыльляў!
Каб пакратаць хоць скронь, слухаць музыкі
рэха,
Я гатова ў самоце ляцець сотні міляў.

А калі не жадаеш і ні ўзяць, і ні даць,
Тады буду змагацца сама з тым
жаданьннем.
Досыць мне, што глядзеў, не даваў
сумаваць,
Не пакінуў маўклівы а сонны той камень...

**З Польскае:**

Віктар Гамуліцкі

## НА БЕЛАРУСІ

Беларускія палеткі цішынёй спавіты,
Як на золку імжа.
А ў беларускіх хатах шэпт чуваць малітвы,
I скрыпка родзіць жаль.
Тускнее сонца тут праменьне,
I таямніц на тварах цені,
Якоесь духу затаеньне,
А ўсё імкнецца ў даль.

Беларуская дзяўчына выбуху ня знае,
Рэдкі ў яе й сьмех,

Але досыць духу адпорнага мае
Анёлак нізкіх стрэх.
У яе звычаях — прыветнасьць,
У яе абходзінах — сардэчнасьць,
Як пакахае, дык на вечнасьць,
Бо веру ламаць — грэх.

Беларускія сяляне кемныя даволі,
Цяжкі, пэўны іх крок;
Ціхія ў сьвятыні, у карчме, у полі,
Паўсонны маюць зрок.
"Ты сьпіш, а доля твая сьпее", —
Чуваць вясной і ў час мяцеліц.
І так з тугою і зь вясельлем
Плыве гадоў паток.

Беларускае сумленьне ня любіць адмены,
Бо й сьвет нязьменны сам.
Слухаюць, што кажа крыж, што шэпчуць
курганы,
І блудзяць тут і там.
І чуюць Бога ў віхураў хоры,
У цэльнай бачаць яго натуры
І ў разарванай грымотай хмары
У неба шукаюць брам.

О, беларуская мова. Голас твой напеўны —
Рэха сівых гадоў.
Мова белых людзей, мірных, пэўных,
Сьветлых хатаў, лясоў.
Там, дзе славянскае ў моцы слова,
Ты звоніш нотай жаўруковай.
О, напеўна-салодкая мова, —
Ліповага цьвету надой.

О, беларуская песьня. Ты, як край той
цэлы, —
Сумны, прыгожы звон.
Ноты падказалі курганы, магілы,
Нявольнікаў стогн.
Квітнееш дзіка ў запусьценьні,
Яшчэ ня ўпала на калені. . .
Ушануе сьвет цябе ў зьдзіўленьні,
Бо новы дасі тон. . .

О, беларускі народзе. Змоўкнуць калісьці
буры,
Лёсу цяжкі ўзвой.
Будзе ў славянаў супольным хоры
Голас чуцён і твой.
Той голас будзе сапфіровы,
Накшталт у раньні птушак мовы,
Ад сэрца голас, поўны, новы,
Як колас у жніво.

Леанард Падгорскі-Аколаў

## БЕЛАРУСЬ

Некалі нам Бог з вандроўкі вярнуцца дазволіць
І зноў жыць у доме на бацькоўскім полі.
Адам Міцкевіч

1

О, ты — далёкая, ты — незаменная,
Зямля мая зялёная, беларуская!
Дзесь там, як калісь, твой прастор
праменны
З прасоньня песьціць веснавы вятрыска.

Дзесь там лугі ў блакіце і загоны,
Ў задуме сьветлай іх палосы дрэмлюць;
Трымціць жаўрук і цішу будзіць звонам,
І шпак цікуе ўзвораную землю.

Ня моўкне шорах соснаў пурпуровых,
Ў садох квітненьне яблынь, як усьмешкі;
Цьвірк ветру ў такт зьгінае дрэў галовы,
А ў небе сінім палымнеюць шышкі.

І дом стаіць там белы павярховы,
З шкляной вэрандай і дрўляным ганкам,
З прычыненымі дзьверма да паловы,
Дзе мухі грэцца прысядалі ўранку.

Над домам — неба ў промняў завірусе,
І тры таполі ўвысь імкнуць зацята.
А йшчэ вышэй — клякоча бусел.
І хмарка зьзяе. А мяне — няма там.

2

Замучыла мяне бруку грубасьць,
Тых камяніц глухія сьцены.
Толькі трава мне сёньня люба
Ды крыты гонтай дом драўляны.

Але такі дом і такая
Трава, вядома, быці мусіць,
Што на шляхох адно ўзрастае
Маёй каханай Беларусі.

Няма мне чым тут захапіцца,
Душа нічому тут ня рада;
Болей ня цешыць заграніца
І Рым вымроены, й Эллада.

Бо чым яны ўжо разьвяселяць,
Калі мілей мне за Акропаль
Узгоркаў між, касьцёлу белі —
Капыль: дрыготкая дзесь кропка.

3

Калі сябе за места брамай
Шукаю я ускрай дарогі,
Тапчу нагамі тоесамасьць:
І бабкі ліст, палын убогі,
І кветкі, стомленыя мэрам,
Ружова-белай канюшыны,
І пыл, як быццам попел шэры,
І брычкі нашай каляіны.

Сьхіліўшы голаву, блукаю
І сам сабе кунежу веру,
Што вось ізноў у родным краю
Сьпяшу з вандроўкі на вячэру.
Ў экстазе сэрца забывае
Пра долі выгнанага раны,
Чакае — можа, сьцежка тая
Патрапіць нейк на родны ганак.

Як толькі хутка зноў угору
Ўзьніму я голаў, кіну вокам —
Як колісь, сумны і пануры
Вяртаю ў места вольным крокам.

Няма двара майго ў далечы,
Ня льсьніцца белых вокнаў рама.
Ня наш навокал пахне вечар
І неба, неба ня тое самае.

4

Бацьку

Мы ўжо ня пойдзем, як раней, у поле —
Ты ў шэрай сьвітцы і з дубовым кіем,
Ўжо не загляне даўняя к нам доля,
А ні надвор'е вочы не абыме.

Ўжо нам з табой ня прыдзецца жытамі
Крочыць мяжою мяккаю ў задуме;
Жыта ня будзе біць нас каласамі,
Вецер ня скажа нам аб сваім суме.

На сенакосе ў сьпёку ліпня колісь
Як было люба паляжаць на сене;
Голаў ніхто ўжо не ўзьнясе і болей
Ветна ня скажа табе: "Ясны пане".

Так, як раней, ня пойдзем у нядзелю
Ані да Слуцка, ані да Капыля. . .
Клікаў нас тракт у даль бярозаў бельлю,
Вёрсты ішлі, за міляй бегла міля.

Наш шарабан хістаўся на узбоччы,
Грывамі часта патрасалі коні.
Ты, захаваўшы у бінокаль вочы,
Ціха сядзеў у белым балахоне.

Так. Яшчэ сьвет той быў тады вясёлы,
Сад абдымаў двор, сонны і шчасьлівы;
Ў садзе паціху гаманілі пчолы
І дасьпявалі ў сіняй дымцы сьлівы.

Буры над намі колісь пралятали,
Шум спавіваў блакітныя прасторы.
Зараз праз шыбы ў далеч вочы пялім,
Ў старых мундзірах гасьнем у канторы.

Што было блізкім, робіцца далёкім,
Радасьці мала зь вясной кожнай новай.
Ўжо не глядзім на ўсё ранейшым вокам,
Часта зьлятае з вуснаў камень слова.

Ды на дне сэрца, бацька дарагі мой,
Першай сьлязою дрыжацьмуць век цэлы:
Сена пракосы, дальнія дарогі,
Ты і бінокаль, балахон твой белы. . .

5

Да Адама
Едзьма, ніхто ня кліча.

Аднак-жа нам шумелі сумна, але ціха
Таксама беларускія бярозы, дуб карысты,
Над намі неба звыкла плысьці бяз увіху,
Румяніць ранак сьвежы, цьмяніць вечар
чысты.

Нас тая самая зямля, зялёная, мілая зь
мілых,
Карміла лустай хлеба, малаком бялюткім,
І кахаць, шанаваць, сумаваць вучыла
Зямля, як далі, смутная, далёкая, як смутак.

Таму, калі абоім нам прышлося, як ізгоям,
Ад зямлі далёкай адарваным завірухай,
Жыць і думаць — адначасна ў нас абоіх
Скавытала ня раз жаль працягла, глуха,

Што аж галосім: "Божа, голасам зямлі той
Скуй ты нашы сэрцы, скуй нашы пакуты!"
Але дарэмна ловіць вуха прагавіта:
Ціха. . . Я — на горкім бруку, там, у стэпе
— ты. . .

6

Уладыславу Завістоўскаму

Глянь, як прыгожа ў ціхі вечар летні
Будзяцца бела-чырвоныя ружы,
Бэз, нібы зоркі, сілы больш ня пружыць:
Сьмерць ужо хутка тне іх няпрыкметна.

Глянь, як дзьмуць вятры і воблакі ходзяць,
Ветразі быццам на чаўнох вялікіх:
Як над далінай нікне дым далёкі,
Золатам месяц змроку сінь салодзіць.

І нам-бы вось гэтак дыхаць з табою
Шчасьцем, якое ня спляміць жальбою,

Ня мець надзеі, ды ня здраджваць крозам,
Ружай радзіцца і памерці бэзам.

7

Там жоўты лубін ня квітнее
І думаў запахі ня пояць,
Там маку кроў не палымнее
На пшанічным, жытнім полі.
Там у лясох ня блудзяць сарны,
Не расьце мяккі ядловец.
Аб Маршалкоўскай гамарні
Ніхто ня кіне нават слова.

Блакітны лубін льле там сьлёзы,
А бярэзьніку на ўскраі
Гайдае вецер з срэбра лозы,
А ў небе сінь такая. . .
Трывожна ноччу там бясконца,
У гумнах сыч галосна плача.
А ўдзень інакш зіяе сонца
І дрэвы там шумяць іначай.

8

Адвярнуўся дзень плячамі,
Пацямнеўшы, ціха млее;
Змрок спадае над аўсамі,
Над лугамі мгла гусьцее.

Атуліла сьвет ласкава
Прадвячорняя ціхота.
Асьцярожна жаба ў ставе
Струны пробуе зь лянотай.

Адвярнуўся дзень плячамі,
Патускнела неба сінька.
І над воблакаў плытамі
Жалю блiснула сьлязінка.

9

Моўкнуць птушак перазвоны,
Над сьціхлым домам дым вячэры;
Стускнелі зоры, стаў замглёны,
І воддых сьвежы садоў шэрых;

І жорсткасьць струджаных далоняў,
І Богадайны хлеб штодзённы,
Павеў вякоў над лесам сонным,
Цяпло і холад над аблоньню:

Заспаныя ў пыле дарогі,
Ня рушаць ціш ні сьвіст, ні шчэбет;
Як мара, месяц залатарогі,
На нівах мір — і Бог на небе.

10

Пустка бароў, палёў блакітнасьць,
На пяскох панавеены мох,
Нізкіх вокнаў позірк няспрытны
Пад капялюхамі жытніх стрэх.

У цьвірку зычным сенакосаў
Лыкавых лапцяў ціхасьць хады,
І дым над нэндзай сьветлакосых
Пастухоў задумнай чарады.

І ўсе араньні, сяўба, жніва —
Эвангельле ніваў і боль.
Нібы далонь нялітасьціва
На раны сьвежыя сыпле соль.

Ужо сьвятло, кранаючы павекі,
Зь бяссоннай ноччу выйшла ў бой. . .
Над сэрцам кружыць край далёкі,
Як шкода: далёкі, блізкі, мой.

11

Усё яшчэ нашу я пад павекай
Тваё прыгожае аблічча.
Усё спадзяюся, чакаю, клічу,
Яшчэ не жадаю аддаць веку.

Усё яшчэ роспач прэч ганю я,
Грудзі ратую закаханьнем.
Пазьней сагнуся, цела зьвяне,
І дум канец хтось прыпільнуе. . .

А ты ўсё кружышся нўкола,
А ты ўсё ёсьць і тут, і ў далях;
Ноччу гукае мяне голас,
Удзень дыханьне тваё паліць.

Сярод турботных дзён зіяньня,
Страт вадаспадамі сьціраны,
Усё йшчэ веру: дзень вяртаньня
Загоіць нашыя ўсе раны.

12

Аб тваім хлебе і аб тваім дыханьні,

Аб ветрах, што маладосьць маю абвявалі,

Аб пустках, дзе вятрака маханьні

І горка пахне палын пасівелы —

Сёньня мая скарга й крык грудзей пакутных:

"О, Ты, што сусьветы стварыў рухам далоні,

Вярні нас зь нядолі доўгай на яе аблоні,

Літасьцівы Божа, Ўладар ўсемагутны!"

13

Пра штосьці думаць няма сілаў,
Толькі пра тое, толькі пра тое,
Як нам вяртацца будзе міла
Ў гняздо далёкае сьвятое!

Як нас, пакутнікаў у згоне,
У раздрыгочаных вагонах,
Ў скрыпучых мякка фаетонах
Пацягнуць, фыркаючы, коні.

Зноў даль палёў веер распусьціць
Усьцяж дарог у абраменьні,
І зашыпіць калёс акуцьце
Ў пяску, цалуючы каменьне.

І вецер, сябра падарожжа,
Шпурляючы пясок з ахвотай
Над залацістым цяжкім збожжам,
Запахне смачна конскім потам.

О, падарожныя здарэньні,
Ўспамінам вашым душа дыша:

Вадзяной мельніцы гудзеньне,
Папас у ценю лясной цішы. . .

А там, за грэбляю, чакаюць
Для сэрца цяжкія хвіліны:
Куст кожны скажа: "Памятаю!"
Паўтораць тое-ж каляіны.

А там — буслоў убачым рухі
І з бараны іх дом той самы,
І з плачам у старыя рукі
Ухопіць нас уезду брама. . .

14

Як даўней, усё будзе: дні зімы адляцяць няімкліва,
Прыйдуць ночы ў блакіце, ад якіх сэрцу зробіцца лёгка;
Месяц выблісьне зноў над садамі і ставам маўклівым,
І з-за лютні салоўкі запахне ляшчына здалёку.

На вэраньдзе паставяць дамашняй гатоўлі вячэру,
Зашуміць самавар і задумаецца хлеб вясковы,
І раз першы па часе ўсьміхнуцца зноў вусны шчыра,
Задушэўным рэхам адгукнуцца ў таполях размовы.

Галасы-ж як замоўкнуць, дзесь ночы адклікнецца граньне,
Тлумны грукат і рокат з шашы не памесьціцца ў вусе:
З агародаў суцьмяных рой цемры пушыстай нізрыне,
Будзе віцца над лямпай і моўкнуць на сьветлым абрусе.

Будзем з радасьцю слухаць тыя шорахі ўсе і тоны,
І ў сябе заглядзімся, і ў зораў глыбокіх задуму...
І далёкімі стануць, нібы сон той даўно сасьнёны:
Маршалкоўская, Скарупкі, Скамандэр — і гады суму.

15

Паветра, тхну — ня маю ўжо чым дыхаць,
Балючы крык над местам мглою вісьне.
"Прыходзь! — Апошні раз цябе гукаю, ўцеха, —
Дай сэрцу зноў сады, салоўкі, вішні!"

Бракуе сіл. І роспач гне да ўпаду
Руіны хвіляў, дыхаць чым ірцела.
Кастрычнік — голад. Лета — лістападам.
І пусткі пясьць над неастыўшым целам.

Паветра: тут пяць год, як ран пяцёрка,
Тут муштры ўструс, муры тут магістрату,
Тут ноч, тут енк за спушчанай фіранкай,
А там дзесь ты. . . Ратуй, мая утрата! . .

**З Расейскае:**

Барыс Пастэрнак

## КАЛЯДНАЯ ЗОРКА

Наўкол сьнег бялеў.
Із стэпу дзьмуў вецер колкі.
Сьцюдзёна было Дзіцяці ў прытулку
У ўзвышша скале.

Яго сагравала дыханьне вала.
Зьвяроў прыручоных —
Паўнютка пячора.
Над ясьлямі цёплая хмарка плыла.

Пасьцельную перхаць абтросшы з дахі
І зерняткі пшонкі,
Глядзелі спрасонку
З скалы ў паўночную даль пастухі.

Ў аддалі бялелі цьвінтар і прастор,
На плітах сьнег, на плоце,
Аглобля ў сумёце.
І высь над магілкамі, поўная зор.

А побач нікому прад тым неўдацем,
Сарамліўшая за каганец
У вартоўні вакне
Сьвяцілася зорка на шляху ў Віфліем.

Яна палымнела, як стог, збоку нейк
Ад Бога і высяў,
Бы вобліск узьвіўся
Пажару на хутары дзесь у гумне.

Стаяла яна і пылала гарой
Саломы і вецьця
У цэлым сусьвеце,
Узрушаным гэтаю новай зарой.

Ўсё большае зарыва йграла над ёй,
І азначала нешта.
І ймкнулі пасьпешна
Тры астралёгі на кліч нябывалых агнёў.

За імі вязьлі на вярблюдах дары.
І ў збруі асьляты,
Адзін трошкі меншы за брата,
Цюцюпкалі дробна з гары.

І бачаньнем дзіўным наступнай пары
Ўставала ў аддалі прыйшоўшае потым:
Усе думы вякоў і сусьветаў,
Усё будучае музэяў, галярэяў,

Свавольствы ўсе феяў,
Справы ўсе чарадзеяў,
Ялінкі ўсе ў сьвеце, усе сны дзетвары,
Ўвесь трэпет запаленых сьвечак,

Папяровыя ланцугі,
Уся пыха квяцістая мішуры.
. . .Усе яблыкі, ўсе залатыя шары.
. . .Мацнеў з стэпу вецер — тугі. . .

Частку ставу хавалі вяршыны альхі,
А частка віднелася праз перашкоды:
Праз гнёзды гракоў ды праз дрэваў вярхі.

Як гацяў усьцяж ішлі аслы і вярблюды,
Вельмі добра маглі разглядзець пастухі.
— Хадземце з усімі, паклонімся цуду! —
Сказалі яны, захінуўшы кажухі.

Ад шоргу па сьнезе горача стала.
Па зыркай палянцы лістамі сьлюды
Вялі за хаціну босых сьляды.
На тыя сьляды, як на зыркі апалак,
Бурчалі зласьліва аўчаркі.

Марозная ноч выглядала, як казка.
І хтосьці з завейнае сьнежнай грады

Нябачна ўвесь час папаўняў іх рады.
Сабакі ішлі каля ног у падпаскаў,
Глядзелі з трывогай, чакалі бяды.

Па той-жа дарозе, па сьнежнай пасьцелі,
Анёлы ішлі ў гусьціні грамады.
Рабіла нябачнымі іх бязьцеласьць,
Ды крок пакідаў на дарозе сьляды.

Ля каменя сноўдалі моладзь, старыя.
Сьвітала. Віднеліся кедраў ствалы.
— А хто вы такія? — Спытала Марыя.
— Мы племя пастушае й неба паслы,

Прыйшлі вам абоім узьнесьці хвалы.
— Ўсім разам ня можна. Чакайце ля ўходу.
У попеле шэрым сьвітальнай імглы
Сварыліся з коньнікамі пешаходы,

Таўпіліся гоншчыкі, авечкаводы,
Ля выдаўбленай вадапойнай калоды
Вярблюды раўлі ды таўкліся аслы.

Сьвітала. Сьвятло, нібы попелу пыл,
Зьмятала зь нябёсаў апошнія зоры.
Адно вяшчуноў із бадзячага збору
Ўпусьціла Марыя ў жарала скалы.

Ён спаў, увесь у зьзяньні, ў ясьлях дубовых,
Як месяца зьніч ва ўглыбеньні дупла.
Яму замянялі кажух аўчыновы
Асьліныя вусны і ноздры вала.

Стаялі ў цяню, бы ў хлява шэрым змроку,
Шапталіся. Словы ня ймкнулі ракой.
І хтосьці зьнянацку ад левага боку
Ад ясьляў крануў вяшчуна рукой.

І той аглянуўся: з парогу на Дзеву,
Як госьця, Калядная зорка глядзела.

## З Украінскае:

### Яр Славутыч

*
*   *

Не даруй, як прысягу нарушу,
Не зважай на распачлівы крык, —
Запалі смаласкопамі душу
І грахоўны мой вырві язык.

А як помсту ня ўсыціш у смазе,
Не вагайся — пячы, каб асьлеп,
Толькі дай у саромным экстазе
Мне паслухаць, як дыша твой стэп.

О, сьвятая! О, радасьць да болю!
Толькі зрадай зняслаўлю цябе,
На сыноў ня дзівіся сваволю,
На ўзаемны няслаўны разьбег, —

Пакарай на шырокім бязводзьдзі
Пад сьпякоцьцем знайсьціся шугі,
Каб дзяўблі каршуны мае грудзі,
І ня знаў [illegible] ні ўцех, ні тугі,

Каб — спрамогшы вялікія мукі —
Я ня каяўся ў цяжкім баі,
У насалодзе ламаючы рукі
У рахманым ваганьні маім.

*
*   *

Жаданьне сьвету, што дрымала ў снох,
Няўтоймным сьмерчам выбухла з вайною.
Былыя жалі месяца сьлязою
У срэбраных сканалі палынох.

Шчасьлівы той, каму нятленны прах
Ня вабіць думаў хатняю нудою,
Пазбаўлен хто бязьдзейнага спакою:
Ў тайніцу Створу крышталюе шлях.

О, сусьвет! Тваe прывабны далі,
Зьвіняць праз дні, што ўжо адгрукаталі,
Бы гамана забрала й булавы.

Бяры мяне у цяжкія абыймы,
Дай разгадаць прастор мне векавы
І кон суцешлівы жадальна выймі.

М. Рыльскі

* * *

На сьвеце ёсьць пявучы Лянгедок,
Шампань — квітненьне Францыі вясёлай,
Дзе сонца песьціць кожны хутарок,
І ў вінаградах патанулі сёлы.

Дзесь ёсьць Марсэль і мора п'яны дых,
Дзесь ёсьць Парыж, дух генія й гамэна.
Дзесь жыў Додэ, узьнёслы, малады;
Дзесь паляваць любілі Тартарэны.

Дзесь выспа ёсьць, што увазьнёс Шэкспір,
Дзесь Дыкэнс усьміхаўся праз туманы.
Дзесь ёсьць, бы зьвер разьюшаны, Сібір;
Плывуць сярод пустыні караваны.

О, сьвеце мой, далёкі сьмех дзяўчат,
Што йрвуць бурштын салодкі вінаграду.
Благаславенны будзе вінаград,
Асеньні вытвар весьнянога чаду.

П. Тычына

## СМУТЛІВАЯ МАЦІ

1

Праходзіла па полі,
Узьмежкамі, мяжамі.
Боль сэрца апраменіў
Бліскучымі нажамі.

Наўкол зірнула ціха.
Ў жытох чыйсь труп чарнее. . .

Спрасоньня каласочкі:
— Ой, радуйся, Марыя!

Спрасоньня каласочкі:
— Пабудзь, пабудзь ты з намі!
Спынілася Божая Маці,
Заплакала сьлязамі.

Ня месяц, і ня зоры,
І днець нібы ня днела.
О, жах!.. Людзкое сэрца
Да краю абяднела.

2

Праходзіла на полі —
А зелень зелянее...
Насустрач вучні Сына:
— Узрадуйся Марыя!

Узрадуйся Марыя:
Шукаем мы Ісуса!
Скажы, як найпрасьцей нам
Прайсьці да Эмауса?

Зьвяла Марыя рукі
Блядыя, як лілеі:
— Не да Юдэі шлях вам,
Вяртайце й з Галілеі.

Ідзеце на Украіну,
У край той змардаваны —
І вам Яго пакажуць,
Там цень укрыжаваны.

3

Праходзіла па полі.
Туман магілы крые.
Насустрач вецер вее —
Хрыстос васкрос, Марыя!

Хрыстос васкрос? — Ня чула,
Ня ведаю, ня знаю.
Ня быць ніколі раю
У тым крывавым краю.

Хрыстос васкрос, Марыя!
Мы — кветкі зьверабою,
З крыві вось тут гурбою
Ўзрасьлі на полі бою.

Маўчаць лясы далёка.
Туман магілы крые.
А кветка палымнее
— О, глянь хоць ты, Марыя!

4

Праходзіла на полі.
— У тым краі памерці,
Дзе Ён радзіўся двойчы,
Які любіў да сьмерці?

Наўкол зірнула-ціха.
Жыты з быльлём дымілі.
— За што Цябе расьпялі?
За што Цябе забілі?

Ня вытрымала суму,
Ня вытрымала мукі, —
Упала на узьмежак,
Расьпяўшы крыжам рукі.

Над ёю каласочкі
"Ой радуйся!" шапталі.
А ангелы на небе
Ня чулі і ня зналі.

## ПЕРАКЛАДЫ ВЕРШАЎ М. КАВЫЛЯ

**У Гішпанскую:**

Пераклады У. Снопа

LA VIDA

(Жыцьцё)

Amo a la vida — la alegría y la tristeza;
Que con un par de alas llevan a la orilla,
A la corriente de la eterna pena de las estrellas,
Lo fuerte y lo herido, lleno de misterios.

El mundo grande — las tundras y los desiertos;
Cubiertos con capas de hielo y de arena.
Allí para el corazón no se encuentra el puerto,
Mas, en ellos, al miedo de la muerte yo vencía.

¡ La vida, la mida — no adivinados sueños!
Corre con la espada y la cruz el jinete
Entre fuegos y esqueletos de los combatientes...

¡ Corre, corre! ¡ No temas a los rayos!
Donde el rayo corta, surge la fuente de la suerte;
Donde la muerte reposa, allí se levanta la vida.



(Вясну прынесьлі пчолы ў вульлі)

Las abejas trajeron a las colmenas la primavera;
La encerraron perfumada en la cera.
El sol ardiente, rellenó con la música
Las cuerdas de los rayos, para que resuenen
eternamente.

Junto a las nubes, los cisnes llevan el otoño
De hojas de castaños, junto a la sombra de las
plameras.
Y llegó del helado Gólgota del norte
El viento siberiano, crugiendo en las ramas.

Las urrocas sienten pena por falta del susurro de
las hojas;
Las migas de la felicidad buscan en la basura.
El invierno silva con el trineo sobre las laderas.

Y el bonito sueño se ve la madrugada,
La canción entonan los labios cerrados:
Una lágrima se desprendió sobre la nieve de la
fuente.

## EL FINAL

(Канцона)

Sonora colmena de los pensamientos
dolorosamente apena.
La única, como las abejas a la reina, estoy
acariciando:
La Fortaleza de Mendouh, la Selva de Bialaviezha
Veré y sobre el pico de la Montaña Calva.

Me quedaré encantado escuchando la canción
del pajarillo
Hasta el amanecer, fresco y encarnado;
Y el cuadro extraño con la finura del cariño
Rellena los sueños bajo la silenciosa madrugada...

·Tal vez la gitana adivinará la suerte?
El as de bastos cayó sobre la mesa...
Camino pedrajoso en la tierra extraña.

Cerca de la Vegas, en los Alpes y sobre el rio
Hudson, —
No importa a dónde el destino me llevará,
Ella conmigo — y a todos mis poemas el final.

## EL MARZO

(Сакавік)

Se oyen los gritos chillones de los jugadores,
En la lejanía campanan las cadenas de los cisnes,
Múltiples voces entonan a la gama mayor,
Que resuena en los suspiros de los vientos.

No se detiene la sangre despertada,
Las marchas dirigen los pasos juveniles.
Y la banderas blanco-rojo-blancas
Ondean, el Marzo prosigue adelante.

Invictos, cada año conforme con la costumbre
El día grande al molde de la primavera
Edifican, y solemnemente festejan.

Nacido en las tempestades y truenos,
El vendrá en tormenta de grandes estrellas
Para lucir en los siglos con sus ojos azules.

## У Польскую:

Пераклад кс. В. Матэйчыка

### DUSZE NIEWYGOJNIE ZRANIŁEM

(Душу нявыгойна параніў)

Skowronków szczebiotliwe klarnety
budzą ciszę — srebrzysty ich wtór,
i dziewczętom ogniczek swój kwietny
wplata wiosna we warkoczy sznur.

Niczem panny młode, sosny, brzózki
przeglądają się w jeziorach z lustr;
zadumane obstąpił wkrąg wioski
rozdzwoniony, niedotknięty bór.

Na przestrzeniach bujne żyto falą
bije w piersi o sinawy las;
wabią dale błękitem, wołają,
nieziemskimi głosy wiecznie nas.

W zmierzch kolorów gry, rosy w zaranie!..
Gdzie tak cudne są, jak właśnie tam?
Duszę swą niewygojniem poranił
o twą, Białorusi, krasę, czar.

### BIAŁORUŚ BIJE W SERCU...

(Беларусь б'е ў сэрцы)

Wiele krokiem zmierzyliśmy dali,
miły obraz niejeden nam zgasł;
i żyjących, nieżywych rzucali,
lecz rodzony Kraj z nami i w nas.

Jego nam rozkołysze, rozdzwoni
ciężkim stękiem rozbity ów dzwon,

ostry miecz niewstrzymanej Pogoni,
huczna sława swych synów, ich skon.

On grzechocze wciąż, szumi, szczebiecze
falą bijąc o niemeński brzeg,
gdzie rozdaje się gwar ptasich wieców,
oczeretu, rokit cichy szept...

Skąd horyzont zaczyna się znowu,
po ostatnią ziemi obcej piędź —
bije w sercu Białoruś i woła
cudzych więzów gruchotem i pęt.

## ЦЯЖКІЯ ДУМЫ

(Вянок санэтаў)

А. Адамовічу

1

Płynie ma myśl w zbłąkanych żagli ślad...
Spoglądam w niebo. Siność tylko widzę.
Szemrzy oczeret, owsy i pszenice,
zastygły mgły w swych lazurowych snach.

Cyganie latem stali w lesie, szmat
ich, zaś po drogach chodziły czarownice.
Na ich pierścionki złote, zuasznice,
mój się ułowił, urzeczony, świat.

Lata maleństwa, świątłe wy jutrzenki!
Które nęcąco wiodły mię pod rękę
w szumiący bór, szerokość kwietnych łąk.

Żyły anioły w mojej duszy, skąd
trucizną zgubną chlustnęły szejtany.
Za co ja, Stwórco, ciężko pokarany?

2

Za co ja, Stwórco, ciężko pokarany?
Modlę się wciąż, wtulony w celki cieśń.
Z woli kremlowskich sług i ich tyrana
za gardłom dusić musiał własną pieśń.

Sumienie na stalowej miary piędz?
Już Sybir, Golgotę katowanych,

wybrałbym raczej, niż słuchać od rana
grzechotu maszyn, ciężar w marszu nieść.

Chiech się odbywa święte osądzenie!
Zjawię się na pedestał ludzki cieniem
wysłuchać słowa ciężkiej winy swej.

Przyjmę milczonco wyrok, jak brzemienie,
lecz jedno powiem w usprawiedliwienie:
mnie Moskwy zniewoliły syny złe.

## У Славенскую:

Пераклад Tine Debeljak

### ORLA SEM GLEDAL...

(Арла бачыў я...)

Orla sem gledal: s krili je rezal
kot z mečem vetrav navaljujočih sipine,
pal kot raketa skoz oblakov brezna
in vzdignil se spet v vrhov višine.

A sinjo gladino jezera orje
labodka tiha in bela,
zagledam se v čar njen, pozabim orla,
vsegà me je knežna prevzela.

Ko pa sem vzdignil pogled spet k višinam:
orla biló ni ne v nebu ne v kršu
in ne v naostrenih kot nož pečinah.
Iščem ga z žalostjo v srcu.

Na skali v prstenih tleh sonči se gad
brez gibov, brez sanj, v lenobi.
Vstala mi misel je: kômu sem brat —
orlu v višini? na tleh tej grdobi?

**У Украінскую:**

Пераклад Яра Славутича



Тюрингія-цариця,
Смарагдові ліси. . .
Ніяк мені не впиться
Твоїм вином краси.

Люблю твої я гори
В привабливих лісах,
Та маряться узори
На слуцьких поясах.

Сумне грання сопілки,
Тужні дівчат пісні
Та поклик перепілки
Вчуваються у сні.

Тюрингія-цариця,
Смарагдові ліси. . .
Ніяк мені не впиться
Твоїм вином краси.

# РАЗВОДЗЬДЗЕ

## Апавяданьне

Загасьціла ў госьці сонца. Трэйці дзень не засланялі яго мурзатыя хмары. Неба пасінела, быццам яго папаласкала дбайная гаспадыня вадою, не пашкадаваўшы ўсыпаць туды сінькі. Калі яшчэ нядаўна комін Эльводу кранаў, здавалася, дзідай грамадводу край птушынага шляху, дык цяпер патрэбна было павялічыць яго ў некалькі разоў, — так неба паглыбела. Ночы стаялі цёплыя і не сьпяшаліся разьвітацца зь зямлёю. Затое сьнег увішна абліваўся потам, раскісаў і срабрыстымі кроплямі каціўся па кволым лядку ў ручайкі, якія абмінаючы камяні, прыкметна пасьмялеўшы, жвава зьбягалі да ходнікаў у выемку, дзе зьліваліся зь іншымі ручайкамі і шырокай бура-жоўтай лявай шумна рыналі ў Сьвіслач.

Другую весну сустракаў Сяргей Дубовік у Менску. Інтэрнам Пэдтэхнікуму, дзе Сяргей навучаўся, стаяў у нізіне рэчкі Сьвіслачы. Вясною, у разводзьдзе, двор інтэрнату заліваўся вадою, і студэнты ня рэдка зьяўляліся на заняткі па калені мокрымі.

“Гэта яшчэ нічога. . . Бывае і горай, але рэдка. . .” — шуткаваў дзед Лабанок, тэнікумаўскі сторsucceeded. “Як кажуць, кветачкі, а зьявяцца й ягадкі”. І “ягадкаў” доўга чакаць не давялося.

Была цёплая месячная ноч. Вокны ў інтэрнаце былі парасчынятыя, і ў пакой залятаў пахкі халаднаваты вецер. Бязупынку стагналі турбіны Эльводу. Час ад часу праходзіў, скуголячы на заваротах і крэсячы дратамі сіня-белыя іскры, трамвай.

Сяргей ляжаў на ложку каля вакна, што выходзіла на Савецкую вуліцу. І да гулу турбінаў, і да лязгату трамваяў ён даўно прызвычаіўся, нават хутчэй пад іх музыку засынаў.

Сягоньня Дубовіку ня спалася: атрымаў ад матулі ліст, поўны скаргаў на цяжкую долю, на савецкую ўладу і на яго. “А ўва ўсім вінаваты ты. Каб цябе не паслухалі, ніхто-б нас сілай у саўгас не загнаў”, — канчаўся ліст. Сяргей некалькі разоў яго перачытваў. “Каб цябе не паслухалі”. . . Так, бацькі паслухалі яго, пайшлі ў саўгас, сталі пралетарамі, адчынілі яму шырокую дарогу ў навуку. Ён атрымоўвае сорак рублёў стыпэндыі ў месяц, адзін толькі ён із сарака студэнтаў іх клясы, таму што ён па сацыяльнаму становішчу — рабочы. А ці-ж ён вучыцца

для сябе? Чаму яны не разумеюць, што і ім будзе лепей жыць, калі ён выб'ецца ў людзі. Сяргей даўно, яшчэ тагды, як адшукаў сваё прозьвішча на лісьце залічаных у тэхнікум, думаў: "Ну, дзякуй Богу! Чатыры гадкі як-небудзь адгарую. Закончу тэхнікум, стану настаўнікам. . . Маму вазьму да сябе, а сёстрам пасылацьму грошы. Кожны месяц пасылацьму". Ад гэтай думкі ён не адрокся й зараз. Яна, бадай, і ўтрымлівае яго тут, прымушае есьці гнілую капусту, дзяліць на тры часткі трыста грамаў хлеба ды, рызыкуючы сесьці на лаўку падсудных, падрабляць талончыкі, без якіх нідзе не дастанеш гэтых трыста грамаў. "Не, я мушу ім напісаць, — думаў Сяргей, кладучы ліст у тумбачку, — напісаць усю праўду".

Стрэлка ходзікаў перапаўзла на другую. Змоўклі трамваі. Толькі турбіны не змаўкалі, стагналі неяк несамавіта, быццам у іх насыпаў хтось пяску. Пазьней да стогну далучылася далёкае водгульле ні то грымотаў, ні то гарматных стрэлаў, нейкі скрыгат і трэск.

— Ат, можа, новую турбіну начная зьмена ўстаўляе. Даўно аб гэтым гавораць.

Сяргей нацягнуў на голаў каўдэрку й заснуў.

Прахапіўся ён ад дзікага крыку: "Патоп! . . Патоп!!!"

Першае, што Сяргей убачыў, — Карпа Удодзіка. . .

Карп стаяў на сяльніку й размахваў рукамі, быццам зьбіраўся ляцець. Асьветлены праменямі сонца, Удодзік, здавалася, палымнеў чырвоным полымем. Сяргей ірвануўся з ложка і. . . ногі яго апаліла ледзяная вада. Цяпер ён зразумеў: разьлілася Сьвіслач і затапляе інтэрнат. Вада хутка прыбывала. Марудзіць нельга было. Сяргей выхапіў з-пад падушкі порткі й верхнюю кашулю, хуценька ўскочыў у іх і, вылавіўшы з вады чаравікі, усьсеў на вакно й пачаў абувацца.

Брудная вада напаўняла пакой. На дрыготнай, а таму быццам рабой паверхні яе плавалі дошкі, чамаданы, скрыначкі, папера, салома. На аднэй з дошак сядзеў вялікі мокры пацук. Ён вадзіў наўкол тонкай прадаўгаватай пысай і нюхаў паветра. Чорныя зрэнкі загараліся рубінавымі агеньчыкамі, калі ён накіроўваў пысу насупраць сонца.

— Цудоўны эскіз бездапаможнасьці жывое істоты перад выбрыкамі прыроды, — падумаў Сяргей. — Хай сядзіць, — Яму таксама хочацца жыць,— і ён пакінуў думку апудзіць пацука ў ваду.

Удодзік, расьпіхаючы аднэй рукой дошкі зь іржавымі цьвікамі, а другой трымаючы над галавою паліто, ці то ад холаду, а мо й ад страху ляскаючы зубамі, паціху набліжаўся да Сяргея.

“Удодзік, птушачка, а маё паліто ў шафе... Ня ў службу, а ў дружбу...”

— Нясу, нясу...

Бяручы ад Удодзіка зьлінялае, з залатанымі локцямі паліто, Сягрей шуткаваў:

“Нам, напэўна, пазайздросьцяць палескія Рабінзоны, калі даведаюцца аб нашых прыгодах. А ня дрэнна было-б нешта напісаць накшталт Рабінзонаў, менскіх Рабінзонаў, — падумаў ён і, абрадаваны трапным назовам, весела выгукнуў: Карп, Удодзік! Рыба — птушачка! Ты ведаеш, хто мы? Менскія Рабінзоны... Няхай жывуць менскія Рабінзоны!”

— Рабінзоны мы, ці Калумбамі назавемся, ад гэтага Сьвіслач бушаваць не перастане, — стоячы па калені ў вадзе, зласьліва адазваўся Удодзік.

— Люблю войстрасловаў, не заўсёды зь імі згаджаюся, але з табою на дадзеным этапе згаджуся. Хоць ты і Карп, але яшчэ ранавата ў вадзе плаваць... Лезь сюды, абмяркуем, да якой прыстані курс трымацьмем, — і Сяргей пацясьніўся. Удодзік спрытна ўскочыў на вакно, працёр крысаю паліта ногі й зьняў з шыі брэзэнтавыя паўчаравікі...

— У цябе ёсьць хто з родных, ці знаёмых?

— Дзе?

— У Менску.

Удодзік нахмурыў рыжыя бровы, памаўчаў, штось абдумоўваючы, і неяк няўпэўнена адказаў: “Не, нікога...”

Сяргей страшна, як ён казаў, ня любіў хвальшывых людзей. Удодзіка ён такім ня лічыў, але гэтае сёньняшняе “не, нікога” Сяргея настаражыла. Аднойчы, ня гэтак даўно, Удодзік прыйшоў перад раньнем у інтэрнат пад моцным градусам. На запытаньне Сяргея, дзе ён спатыкнуўся, адказаў, што мае добрую цётку. А цяпер кажа, што нікога ня мае. Калі-ж ён зманіў? У грудзёх Сяргея штось запякло, закалола, быццам там вожык перавярнуўся, і ён нічога ня кажучы, увішна схапіўся рукамі за верхнюю шалёўку вакна, падцягнуўся і, калі ногі таркнуліся падваконьніка, адпіхнуўся імі з усёй сілы ды скочыў праз бурны й шырокі раўчук, што ўтварыўся каля сьцяны інтэрнату, на шашу, недалёка ад мосту.

Прыгожая велічна-трагічная панарама расхілілася перад Сяргеем і на момант захапіла ўсю ягоную істоту. Адыйшоў дзесь у неведзь Удодзік, шэрай кропкай мільгануў перад вачыма й расплыўся ў сутоньні шэры пацук, ды й самога сябе, ці-ж бо тло сваё, пакінуў Сяргей і на нябачных крыльлях узьнёсься ў ружова-сінявую бязьмежнасьць над шырокім палымнеючым вя-

сёлкавай шматкаляровасьцю морам. Ніколі яшчэ ня бачыў ён гэтулькі вады, гэткіх вялічэзных крыгаў лёду. Яны, быццам казкавыя вяліканы, гналіся адна за аднэю, удараліся ў сталёвыя рэбры быкоў, із скрыгатам разламліваліся, лезьлі адна на адну, на гарбы быкоў, зрываліся, падалі ў ваду і, выскачыўшы на другім баку маста, кружыліся на адным месцы ў рытмічным танцы і, падхопленыя хвалямі, уцякалі ў срэбна-блакітную далячынь. Неяк нязграбна раскарачваліся над гэтай бурапенай шырокія чорныя кароны вязу ды стромыя дзіды тапаляў, быццам іх паленаваўся дамаляваць мастак, пакінуўшы ў эскізе. Але гэтая нязграбнасьць, недапрацаванасьць кідалася ў вочы таму, што глядзелася на іх зьблізку. Зусім інакш, дэкарацыйна-проста й прывабна яны суцьмяніліся над бліскучым люстэркам, калі глядзець з адлегласьці, з другога берагу. Адтуль і Эльвод, шэрабрунатны, з закапцелымі бруднымі вокнамі, выглядаў цудоўным замкам, у якім жыве прыгожая князёўна...

— А можа там калісьці й стаяў замак ды жыла князёўна, хто ведае, — мроіў Сяргей. — Не пра ўсё далёка-мінулае напісана ў кнігах. Пэўна й Сьвіслач калісьці была вось такою бурнаю й шырокую. Ня хочацца ёй вузенькай, ціхай рачулкай калыхацца; напрудзіць усе свае сілы і, хоць у сотню гадоў раз былую сваю веліч і магутнасьць пакажа...

— Грамадзянін!

Сяргей лянотна глянуў праз плячо. Ягоныя вочы спатыкнуліся аб чорнае сукно.

— Праходзь, грамадзянін, не затрымоўвайся!

Дубовік падпарадкаваўся загаду міліцыянера і ступіў на дрыготныя дошкі мосту.

— Вы куды?

— На той бок, у тэхнікум...

— Студэнт?

Сяргей падцягнуў калашыну й паказаў босую, без шкарпэткі нагу.

— Марш адсюль!

Сяргей пайшоў праз мост у напрамку станцыі з намерам ехаць дамоў, у вёску.

Стары драўляны мост дрыжэў ад удараў крыгаў і гойдаўся. Грымотны грукат Сьвіслачы, нібы марш сотнятрубай аркестры, паддаваў бадзёрасьці, глушыў у сэрцы трапяткія струны трывогі, што няўспадзеў нахлынула на яго. Прычынаў да трывогі, здаецца, ня было. Усё яго маладое жыцьцё складалася з маленькіх і большых трывогаў, і таму Дубовік да ўсяго быў прызвычаены й нічым асабліва не праймаўся. Але гэткага няўтойму й

прадчуцьця нечага страшнага зь ім яшчэ ніколі не здаралася. Сяргей прыбавіў кроку. Сэрца білася часьцей і мацней.

Таго, чаго баяўся Сяргей, ня здарылася: мост вытрымаў штурм крыгаў. Доўга стаяў Сяргей на тым месцы каля мосту, куды ён скочыў нядаўна з вакна інтэрнату, і думаў пра прычыну трывогі, якая не жадала пакінуць яго ў супакоі.

Шумела й булькатала вада паміж шашою й сьцяною інтэрнату. Яна паднялася да ўзроўню вакон, гатовая вось-вось хлынуць у сярэдзіну дому. Сяргей успомніў пра Удодзіка. "Якія ветры палошчуць ягоныя ветразі? А дзе хлопцы — Зубовіч, Грэчыц, Клімко, Вярнікоўскі? Чаму яны, як уцякалі, не разбудзілі яго й Удодзіка? Запамяталі ў торапе? А мо наўмысьне? Зажартавалі? . . Добрыя жартачкі!"

Думкі, што тыя крыгі, білі ў голаў і яшчэ болей хвалявалі Сяргея. Ён стаяў тут, хоць у гэтым ня было ніякае патрэбы. Яму-ж бо трэ на станцыю, ехаць. Нейкая сіла трымала яго тут, яму чагось не хапала, чагось не даставала. І Сяргей прыпомніў.

— Ах, каб ты згарэла, каб ты!

Ён пакінуў у шуфлядцы тумбачкі агульны сшытак. . . "Вершы, сьведкі паэты, там, у вадзе. Пісаныя хімічным алавіком, яны растопяцца, расплывуцца і сінімі плямкамі ўсплывуць на паверхню вады, каб зьмяшацца з брудам і сьмецьцем. І ліст ад родных там. Ліст, можа, хай сабе й гіне. Шмат у ім такога, за што і з тэхнікумам можна разьвітацца, калі трапіць на нядобрае вока. Ды й вершы пахнуць туманам і прэлым лістам шалясьцяць. . . Ня кульгаюць у іх рытмы, каб у ногу з бурапенай крочыць. . ."

Заглыблены ў думы, Сяргей не заўважыў, як сабраўся каля мосту натоўп.

— Глядзі, Юля, утапельца ў чаўне вязуць! — Пачуў ён знаёмы малады голас. Сяргей паглядзеў у той бок. Насупраць яго, праз шашу, абапёршыся на парэнчы мосту, стаялі дзьве аднолькава апранутыя ў шэрыя веснавыя паліто дзяўчыны. Сяргей адразу іх пазнаў. Гэта былі сёстры Пількевіч. Малодшую звалі Юляй, а старэйшую — Янінай. Юля навучалася на адным курсе, нават у аднэй зь Сяргеем клясе. Яніна працавала сакратаркай у газэце "Чырвоная зьмена". Туды аднойчы Дубовік насіў свае вершы і пазнаёміўся зь Янінай. Юля, ня ў прыклад сястры, была вельмі прыгожая, але, як і сястра, ганаровая. Полька з паходжаньня, яна на кожным кроку падчырквала сваю апрычонасьць, шляхэтнасьць, за што яе ў тэхнікуме мала хто паважаў. Сяргей пакахаў Юлю зь першага пагляду. Год прайшоў ужо зь лішнім, як ён яе пабачыў і "пракалоў на дзіду прыгажосьці няўтомнае сэрца

сваё", а да гэтага часу яшчэ ні разу нават не пагутарыў на адзіноце... Сягоньня надарыўся зручны момант зачапіць Юлю. Бяда, кажуць, лагодзіць людзкія недарэчнасьці, зьмякчае сэрцы. "Няўжо-ж разводзьдзе не зьвядзе нас і сягоньня? Падыйду і... папрашуся на кватэру... на пару дзён, пакуль вада адхлыне". З надзеяй і верай у посьпех Сяргей накіраваўся да сёстраў Пількевіч. Юля, якая даўно сачыла няпрыкметна ад сястры за Дубовікам, разгадаўшы намер Сяргея, штаўханула Яніну ў локаць, і яны, нібы змоўленыя, пабраўшыся за рукі, сьмяючыся, пабеглі на мост. Сяргей бачыў, як іх затрымаў міліцыянер, як Юля стала перад ім на зважай, а Яніна ўзяла пад казырок, як... Сяргей ня мог глядзець. Ком горычы й крыўды падступіў пад глытаўку, перацяў дыханьне, у ваччу заіскрыліся чырвоныя зьнічкі.

Над бушуючай Сьвіслаччу лянотна кружлялі дзьве белакрылыя кагаркі...

1958

## НІХТО ЦЯБЕ НЕ ЗАПЫНІЦЬ

Апавяданьне

Над Арлом бушавала мяцеліца. Заўчасна пацямнела.

Трамвай скавытаў на заваротках і пры стрыме, зь месца кранацца не хацеў, стагнаў і ўздрыгваў усім прамерзлым целам ды, падсьцёбваны элекрычнай пугай, зрываўся ткі йсьці, але ледзь цягнуў чыгунныя ногі па засьнежаных рэйках. Пасажыры, пераважна работнікі й работніцы, што варочаліся з працы, сядзелі моўкна. Толькі час-часам хто-небудзь моцна кашляў ды пастукваў нагой аб нагу. На кожным прыпынку колькі асобаў, наставіўшы каўняры й сьцепануўшыся бы ў трасцы, пасьпешна скакалі праз дзьверы ў шэра-белую каламуту. У трамвай урываўся сьцюдзёны вецер і біў у твар калючым сьнегам. Трамвай хутка спаражняўся. У ім засталіся толькі двое пасажыраў: Кастусь Зімёнак і дзяўчына ў белай вязанай шапачцы. Кастусь рады быў, што ён не адзін, што мае спадарожніцу, але хутка й гэтая радасьць, бліснуўшы на Кастуся прыгожымі вачыма, подскакам забаразьдзіла да дзьвярэй. Кастусь застаўся адзін. Каб неяк разьвеяць самоту, адчапіцца ад цяжкіх думак, ён хукаў на замерзлую шыбіну, прыглядаўся да кандуктаркі, як тая лічыць грошы, пераводзіў пагляд на павадырку трамваю, маладзейшую

за кандуктарку, без барадаўкі на носе, але не яны, а тая студэнтка зь інстытуту, стаяла перад вачыма, а ейныя словы зьвінелі ў Кастуся ў вушах: "Вольгі няма... Вольга паехала дадому... Вольгінага бацьку арыштавалі..."

Трамвай ізноў заскрыгатаў і спыніўся.

— Вам куды, таварыш? — папыталася сіплым голасам кандуктарка.

— Мне куды?.. Ды мне, ведаеце... Куды-ж гэта мне?.. А як гэты спынак завецца?..

— Гэта Кальцо...

— А... Кальцо.. А мне трэба ў Пэдінстытут... Ага, туды мне трэба...

— Пэдіастытут застаўся далёка, далёка ззаду. Вам трэба ехаць назад.

— Назад?.. Вось і добра... Я паеду назад. Дайце мне білет!

— Мы назад не паедзем... У трамвайны парк папхаемся...

— Дык я зьлезу... Я пайду пехатой... Я зьлезу...

Кастусь скочыў па калені ў сьнег. Вецер заскавытаў, шугануў халодным шротам у твар, грымнуў магутным кулаком у грудзі. Кастусь падставіў ветру сьпіну й пайшоў паўз драўляны плот, сам ня ведаючы куды.

— Ня ў той бок ідзеш, таварыш!.. Інстытут ня ў тым баку...

Гэта гукала няпрыгожая, але спагадлівая кандуктарка трамваю. Кастусь падзякаваў у сэрцы за спагаду, але парады яе не паслухаўся, бо ў ніякі інстытут яму йсьці ня трэба было. Ён толькі адтуль... "Вольгі няма... Вольга паехала дадому... Вольгінага бацьку арыштавалі..." — зьвінела ў Кастуся ў вушшу. — "І трэба-ж так скласьціся? Ня суджана мне, мабыць, выбіцца ў людзі. Нешчасьлівая мая зорка-апякунка. Ах, лепей ня думаць, а йсьці ды йсьці насупраць завірусе, насупраць ночы. А там? Нешта-ж будзе, недзе нешта будзе..."

Доўга йшоў Кастусь і перадам, і задам наперад, пакуль не напароўся на нейкую жэрдку. Трымаючыся левай рукой за яе, пайшоў у левы бок, але вецер так хвастаў сьнегам у вочы, што давялося перамяніць думку і йсьці ў правы бок. І добра зрабіў, што пайшоў ўправа. Жэрдка прывяла яго да якойсьці нізенькай, пахілай хаткі. Засыпаная сьнегам, яна суцьмяна пабліскавала празь сьнежную шугу адным невялічкім вакенцам. Вецер бегаў наўкол хаткі подскакам, злаваў і пагражаў, быццам Кастусь перашкаджаў яму тынкаваць сьцены, маляваць дзьверы. Вось ён ускочыў на страху й шугануў, бы з рукава малатарні, калючай пацярухай, перамешанай з горкім дымам і водырам нейкай стравы. Кастусь, ня доўга думаючы, перахрысьціў парог незнаё-

май хаткі. У твар дыхнула цяплом, потым гноем.

— Добры вечар!

— Добры вечар, — азваўся мяккі жаноцкі голас. — Праходзьце на тую палавіну.

Кастусь працёр залепленыя сьнегам вочы. Цяпер ён бачыў печ, каля печы карову, а каля каровы жанчыну. Печ палілася. Сьветлы сноп сьвятла зь печы крыжаваўся з другім снопам, што выходзіў з прадаўгаватага прастакутніка насупраць Кастуся. Праз гэты прастакутнік Кастусь прайшоў у другі пакой, асьветлены ліхтаром-“начніцай”. Ліхтар стаяў на нізенькім століку, за якім сядзеў сухарлявы, няпрычэсаны рыжы чалавек з малатком у руцэ й шылам у зубах. Паміж каленаў ён трымаў бот. Заскаруплымі кароткімі пальцамі ён браў з бляшанкі драўляныя цьвікі й спрытна заганяў іх у чорную гумовую падэшву, выкраеную з аўтамабільнай шыны. На прывітаньне шавец штось мармытнуў і страсянуў рыжай трасянкай на галаве. Відаць, ён вельмі сьпяшаўся скончыць падбіваць падэшву, бо на Кастуся ня браў увагі. Кастусь тым часам аглядаў пакой. Нічога ў ім не было. Голыя, даўно ня беленыя сьцены, такая-ж брудная закураная столь; падлога чыстая, але старая, папрагніваная. У куце на падлозе добры ахапак перацертай саломы. У другім куце стол, над сталом невялічкі абразок —Ісус Хрыстос нясе крыж. . . Галеча выглядала з кожнага кутка, але Кастусь рады быў, што трапіў сюды, у цяпло, вырваўся з халодных абдымкаў завірухі. Яна, няўтомная, напаміналі аб сабе грукатам аканіцаў аб сьцяну ды прыглушаным стогнам і падвываньнем. Ногі Кастусёвы пазаходзіліся з пары, і ён пераступаў з нагі на нагу, варушыў пальцамі, але боль ня сунімаўся. Кастусю рабілася то горача, то зябка, ён сьціскаў зубы, корчыўся. Шавец спасьцярог, што Кастусю нядобра. Малаток павіс у паветры.

— Табе нядобра, хлопча? Што з табой?

Голас ў шаўца грубаваты, але задушэўны. Словы ягоныя, быццам ёд па ране, прайшліся па Кастусёвым сэрцы.

— Нічога, ня турбуйцеся, — спыніў Кастусь шаўца, які памкнуўся ўставаць. — Ногі крыху пазаходзіліся з пары.

— О, гэта не вялікая бяда. Цярплівасьці, і ніякіх лекаў. І ніякіх лекаў, — паўтарыў шавец, настаўляючы ў дзірачку цьвік. Неўзабаве ён паклаў бот на столік, устаў з услончыка і падаў яго Кастусю. З радасьцяй Кастусь ня сеў, а паў на ўслончык. Яму адразу неяк палягчэла. Пальцы ног яшчэ пяклі, але ня гэтак, як раней.

Шавец падыйшоў да вакна, зірнуў на замураваныя лёдам шыбы, паглядзеў на абразок у куце і ўставіўся падсьлепаватымі

вачыма ў Кастуся.

— Чым магу служыць? — выразна, з паўзамі пасьля кожнага слова, папытаў шавец.

— У мяне да вас адна толькі просьба, — стараючыся як мага быць спакойным, прагаварыў Кастусь: — Не выганяйце мяне, дазвольце пераначаваць. . .

— Добрых людзей ніхто ня выганяе, — усё гэтак-жа гледзячы на Кастуся й выразна сказаў шавец. Гэтыя словы ўскрылілі Кастуся, і ён пастанавіў расхрыстаць, як кажуць, перад гэтым добрым, як яму здавалася, чалавекам душу.

— Я ня ведаю, добры я ці не, але што я нешчасьлівы, гэта ведаю вельмі добра. Я ня. . .

—Тым болей, — перапыніў Кастуся шавец, — нешчасьлівым и рады дапамагчы, бо, як бачыш, і сам ня вельмі з шчасьлівага дзесятку.

— Шчыра дзякую!

— А адкуль будзеш сам?

— Я ня тутэйшы. Радзіўся на Беларусі. . .

— Раскулачаны? — нейкім адменным, хітраватым голасам папытаў шавец. Кастусь крыху сумеўся. Хацеў зманіць, але перадумаў.

— Не, я не раскулачаны. . . Я — контррэвалюцыянер. . .

Рыжая трасянка зашумела, здалося Кастусю, на галаве шаўца. Кастусь думаў, што шавец адчыніць яму дзьверы і "папросіць", але памыліўся.

— Ого, — агаліў шавец шчарбатыя зубы, — які-ж ты контррэвалюцыянер, калі на табе, як кажуць, яшчэ пух не аперыўся. . .

— Не аперыўся, гэта праўда, але крыльле ўжо паабціналі. . .

Шавец схапіў боты пад паху, сказаў Кастусю пачакаць і выйшаў пасьпешна на кухню. Там ён штосьці гаварыў паціху з жонкай, але Кастусь ня мог рашчуць іхных словаў. Пасьля невялікае паўзы зарыпелі прамерзлыя надворныя дзьверы. "Пайшоў дакладаць, куды трэба, — падумаў Кастусь. — І няхай ідзе. . . Толькі-б далі чаго-небудзь зьесьці. . ."

Быццам адгадаўшы Кастусёвы думкі, з чыгунчыкам варанае неабіранае бульбы ў руках прыйшла невялікага росту жанчына. Худая, зморaная, яна ледзь соўгала нагамі ў пакрыўленых шэрых валёнках. Паставіўшы чыгунок на стол, яна неяк нязграбна, няўмела ўсьміхнулася й запрасіла Кастуся да стала. Кастусь не адмовіўся: ад раньня каліва ў роце ня меў. Гаспадыня прынесла талерку салёных гуркоў, акрайчык чорнага хлеба й конаўку сырадою.

— Ежце, не саромцеся! Будзьце, як дома! — ласкава сказала

жанчына.

— А як-жа вы, ваш гаспадар? — папытаў Кастусь дзеля ветлівасьці, а белей, каб даведацца, куды пайшоў шавец.

— Мы пасьля павячэраем, як вернецца мой. Ён зараз і назад аддасьць толькі боты суседу, бо таму заўтра няма ў чым на работу выйсьці.

Пастаяўшы крышку, яна пайшла на кухню ізноў, вярнулася з каўдэркай і паклала яе на салому ў куце.

— Павячэрайце й кладзецеся адпачываць. Змарыліся пэўна?

— Прызнацца, і добра стаміўся. Вельмі-ж вецер ня пушчаў ды сьнег за ногі прытрымваў, — спаэтызаваў Кастусь, абіраючы гарачую бульбіну. Жанчына паспачувала Кастусю, пажадала добрай ночы й зачыніла за сабою двупалавічныя дзьверцы. Кастусь вобміргам спаражніў чыгунок і талерачку, але малака й хлеба не зачапіў, бо не хацеў крыўдзіць гэтых бедных, а добрых людзей.

— Вось-бы цяпер зацягнуцца дымком, і болей нічога ня трэба было-б, — уздыхнуў, кладучыся на салому.

Гаспадыня шорхала на кухні валёнкамі, трашчэлі дровы ў печы, вецер намагаўся паваліць хатку. Шумы й колеры перамяшаліся, закружыліся, і Кастусь кудысь праваліўся. . .

Шырака, як вокам сягнуць, белае йскрыстае мора. . . Бягуць, пераліваюцца сьсіня-залацістыя хвалі. Мароз пячэ ў скроні, хапае за вушы, лезе ў рукавіцы, за каўнер. Ідуць сьнежныя дзяды, ідуць. . .

— Гэта Ўсурыйскі край, — кажа нехта.

— Вунь там бялеюць баракі, — чуваць слабы голас.

— Барждэй-бы дабрацца да юрцаў. . .

— Хоць-бы баланды якой далі. . .

Галасы слабеюць, аддаляюцца. Кастусь ляжыць у сьнезе, ня можа ўзьняцца. Рыгор Грэчка бярэ яго пад пахі, падымае. . .

— Давай уцякаць, — кажа Грэчка. — Тут нам канцы будуць.

— Уцякаць, толькі ўцякаць! . . — І яны бягуць па сьнежных хвалях, праз тайгу дрымучую, праз рэкі шырокія. . . Невялічкая чыгуначная будынiна. “Тайга” — чытае Кастусь. Зьвіняць рэйкі, варушацца шпалы. “Цягнік”, — крычаць людзій бягуць, бягуць. . . І Кастусь бяжыць. . . Куды мы бягом? — пытае Кастусь у Рыгора. — У Маскву, браце, у Маскву. . . Глядзіць Кастусь — “Белорусский вокзал” — напісана на сьцяне чырвонымі літарамі. У вялікай чакальні няма ні душы, адно таўшчэзныя каменныя слупы трымаюць столь. — Пераначуем тут, — кажа Рыгор, — а заўтра раненька я да рыднай жынкі, а ты да матулэнькі підэмо. . .”

Кастусь здымае чаравікі, кладзе пад галаву й абдымае каляндy... Моцны ўдар у сьпіну... Касматая рука хапае Кастуся за каўнер, падымае высака, высака й шпурляе ў вялізарныя дзьверы. "Чаравікі падайце, чаравікі я пакінуў пад каляндай!" — крычыць Кастусь. Празь дзьверы высоўваецца чорная галава зь вялікім гарбатым носам і чорнымі вусамі: "Ха-ха-ха-ха!.." — рагоча чорная галава. — Я думаў, мой камрад Адольф прыехаў, аж гэта шпана, шпана прыперлася..." Галава зьнікае.

— Што гэта ён, гэты Ёська казаў? — пытае Кастусь у Рыгора. Маўкліня. Глядзіць Кастусь — Рыгора нідзе няма, а сядзіць за сталом начальнік ГПУ...

— Сягоньня сьвята кастрычніцкай рэвалюцыі, — кажа начальнік. — Прыяжджаюць да нас замежныя госьці. Сам вялікі Сталін прыйшоў іх сустракаць, а вы вуркаганы, хавіру на беларускім вакзале знайшлі, ці што? Каб за 24 гадзіны й нагі вашай тут ня было! — Кастусь рады, што гэтак параўнальна мякка зь ім абыйшоўся начальнік, што яго контрыка, у вуркаганы залічыў... Але ня тут тое было. "Ты чаму ўтаіў пры залічэньні ў інстытут, што быў у канцлягеры? — пытае ў Кастуся начальнік. — Ты думаеш, што мы цябе ня знойдзем? Мы ўсё ведаем, мы й рэкі пад зямлёю бачым!.. Марш, контра, адсюль і на вочы мне не пападайся!.." — Бяжыць Кастусь, што сілы стае, на станцыю, а ногі ня слухаюцца, бег на месцы выходзіць.

— Бяжы барjджэй у Арол! — чуе Кастусь Рыгораў голас. Азірнуўся — Мікола, ягоны сябра, студэнт пэдінстытуту стаіць, а Рыгора нідзе няма.

— У Арле табе дапаможа Вольга, мая дзяўчына... Бaржджэй бяжы!..

Кастусь ляжыць на рэйках, слухае, ці хутка прыйдзе цягнік... Маўчаць рэйкі. Падняўся Кастусь, каб далей бегчы, а цягнік ляціць за пару крокаў прасьцютка на яго...

— Ратуйце!..

Усхапіўся Кастусь і ачумела азіраецца...

— Цьфу, прападзі ты!.. І прысьніцца-ж такая чартаўня!

У хаце ціха й сьцюдзёна. Праз замерзлыя шыбы слаба прабіваюцца чырвоныя прамяні. "Завіруха ўляглася", — з задавальненьнем канстатуе Кастусь і піхае нагамі шэрую каўдэрку. На стале — акрайчык хлеба, конаўка... Кастусь памкнуўся да стала, але стрымаўся: моцна загаласілі прамерзлыя дзьверы. Прыйшоў шавец.

— Як чуешся, контрык?..

— Дзякую! Вельмі добра... Толькі сон якісь паскудны сьніўся...

— То-ж бо ты кідаўся з боку на бок, стагнаў ды крычэў усю ноч. Мы ўжо думалі, што ты захварэў на гарачку якую. . . Ай-я-яй! — пакруціў шавец галавою. Пасьля, прайшоўшыся з кута ў кут, папытаў: "А што гэта за Вольга, пра якую ты часта паўтараў — Вольгі няма, Вольга паехала дадому, у Вольгі бацьку арыштавалі?"

Кастусь расказаў шаўцу, як яго выгналі з Варонежа пры чыстцы гораду ад "ненадзейнага элемэнту", як яго сябра з пэдінстытуту Мікола Кандрашын параіў яму ехаць у Арол, дзе вучылася ягоная нарачоная Вольга, якая мелася дапамагчы яму ўладзіцца вучыцца.

— Я ўчора пад вечар прыехаў у Арол, — апавядаў Кастусь, — знайшоў інтэрнат інстытуту, дзе жывуць студэнткі, пастукаў у дзьверы, дзе мелася быць Вольга, але выйшла ня Вольга, а ейная сяброўка, і сказала: "Вольгі няма". . . Мая апошняя надзея лопнула. Дзецца мне ня было куды, і я даехаў трамваем да Кальца ды, зьлезшы, пайшоў за вачыма. . . Дзякую яшчэ раз ад шчырай душы, што дазволілі мне пераначаваць!

— Няма за што дзякаваць. А скажы, што ты думаеш рабіць далей?

— Я й сам ня ведаю, што мне рабіць.

— Бацькі ў цябе ёсьць?

— Ёсьць, але я не магу да іх ехаць, бо яны жывуць у прыгранічнай паласе. Без дазволу ГПУ мяне там арыштуюць.

— Дурніца! — неяк із злосьцяй адказаў шавец. — Можаш ехаць!

— Не магу, — запярэчыў Кастусь. — У Слуцку, на апошняй станцыі, заўсёды спраўджаюць пагранічнікі ў пасажыраў дакуманты. . .

— Паедзеш на маю адказнасьць. Ніхто цябе не запыніць, — гэтак-жа пераканальна паўтарыў шавец і папытаўся: — Калі ты радзіўся?

— Трэйцяга сьнежаня 1915 году.

— Ага, — мармытнуў шавец і палез у шуплядку стала. Дастаў ліст чыстае паперы, алавік і, сеўшы пад абразком на покуце, пачаў штось вылічаць, разважаючы ўголас: "Тры й дванаццаць — пятнаццаць. Пятнаццаць і пятнаццаць — трыццаць. Тысяча дзевяцьсот трыццаць восем без трыццацёх — восем. . . Сягоньня дзявятага сакавіка? . ."

Шавец вылез з-за стала, паклаў у шупляду паперу й алавік.

— Так, дарагі хлопча, — павярнуўся ён да Кастуся худым, нейкім нявыразнага колеру тварам. — Зорка твая нешчасьлівая, але сягоньня яна павярнулася да цябе добрым бокам. . . Яж-

джай дадому! Ніхто цябе не запыніць...

Кастусь глядзеў на шаўца, і яму здавалася, што перад ім стаіць не шавец, а Хрыстос, што нясе цяжкі крыж...

Кастусь апрануўся. Шавец паказаў пальцам на хлеб на стале:

— Гэта ты зьеж, зло нам не пакідай... Мы лепшага й самі ня маем.

— Я не хацеў вас крыўдзіць, а таму й ня зьеў, — апраўдваўся Кастусь. Шавец нічога не сказаў, а паклаў на стол дзесяць рублёў. "Гэта табе на дарогу, — сказаў ён неяк сарамяжна, быццам быў вінен Кастусю сто рублёў, а аддаваў толькі дзесяць. — Даўбы болей, але ня маю... — Пры гэтых словах ён разьвітаўся з Кастусём, пажадаў яму шчасьлівай дарогі. Ужо бяручыся за клямку, кінуў: "Я не магу цябе праводзіць на станцыю, бо трэба быць на працы... Адпрасіўся на пару часінак". Дзьверы заскрыпелі й змоўклі. Кастусь зьеў акрайчык хлеба з малаком, паклаў у кішэню грошы, перахрысьціўся, гледзячы на Ісуса Хрыста зь цяжкой ношай, і пайшоў на станцыю. За паўгадзіны цягнік імчаў Кастуся Зімёнка па засьнежаных палёх і лясох туды, дзе жыве ягоная старэнькая любая матуля, дзе зігціць блакітным лёдам вузенькая, а такая прыгожая Случ, дзе...

Пры ўспаміне пра тое, што на мосьце службоўцы ГПУ будуць спраўджаць дакуманты, Кастуся кідала ў жар. Але-ж — "Ніхто цябе не запыніць..." Ён супакойваўся, ды ненадоўга. Чым бліжэй да Слуцку, — мацней грукацела сэрца, узрастала трывога. Кастусь, як малітву, як заклін, паўтараў тое, што сказаў шавец, але гэтае, паблеклае "ніхто цябе не запыніць" заступалі, выпіхалі два іншыя словы: "Прад'явеце дакуманты!" Колы лязгаталі: "Прад'явеце дакуманты!.." Рэйкі скавыталі: "Прад'явеце дакуманты!"... Вецер барабаніў у вакно: "Прад'явеце дакуманты!"... Кастусь уставіўся асьцерплымі зрэнкамі ў шыбу. Замігцелі ўваччу чорныя слупы... "Гэта-ж мост!.. Мост!.. Раз, два, тры, чатыры... Пяць, шэсьць, сем, восем..." Не пасьпеў Кастусь палічыць тыя слупы, ці зялезныя дугі на мосьце: цягнік праскочыў мост, набліжаўся да Слуцку. Не дачакаўшыся, пакуль цягнік стане, Кастусь зыскочыў на драўляны памост пэрону і незір папраставаў падбегам у Слуцк.

"Ніхто цябе не запыніць", — радасна паўтараў ён няраз прарочыя словы шаўца.

А сам нават прозьвішча ў таго нязвычайнага чалавека забыўся папытацца...

1963

# БІРУТА

## Апавяданьне

...Эх, Бірута!.. І чаму ты такая бессардэчная?.. Ну, баялася перапісвацца з "ворагам народу", "нацдэмам", — не адказвай на лісты, і ўсё... За што-ж ты мне нож у сэрца ўсадзіла? І як толькі твая беленькая, такая кволенькая ручка на такое паднялася: "Ня пішы мне болей, бо я выйшла замуж..." Лёгка мне, думаеш, было гэтыя забойчыя словы чытаць? О, ты ня ведаеш, як я пакутаваў, як я пераважываў. Я падымаўся да сонца й валіўся, як сноп, стомлены цяжкай працай у катлаване, а ўсё-ж думаў пра цябе, пра наша спатканьне. Я ня ведаў, дзе мы спаткаемся. У Менск мне ўезд забаронены — "рэжымны" горад — але я думаў, спадзяваўся на некае цуда. І яно сталася: мяне выклікалі ў Трэйцюю частку Пятага Аддзелу Дальлагу ОГПУ... Але гэта яшчэ ня было цуда. Усіх, хто падлягаў звальненьню з канцлягера, туды выклікалі. Цуда сталася, калі я зманіў начальніку 3-ай часткі, а той мне паверыў, што Грэзак, мой родны Грэзак, ляжыць на 200 кілямэтраў далей ад мяжы з Польшчай, як Грозаў... Каб, ня дай ты Божа, ён быў крыху пісьменны, не пабачыў-бы я ў сваіх руках ліцера, а пайшоў-бы ў карцэр за хлусьню, з палітычнай ахварбоўкай... А я-ж маніў без усялякай "ахварбоўкі", рызыкаваў толькі дзеля таго, каб пабачыць цябе, Бірута. І, вось, сягоньня стаю на пэроне менскага вакзалу й не магу дрыжыкі ўтаймаваць. У вушах, як тая лягерная сырэна, скуголяць словы начальніка Менскага чыгуначнага ГПУ, ад якога я толькі што выйшаў. А мог і ня выйсьці. Гэты, менскі "страж рэвалюцыі" болей, відаць, адукаваны за таго далёкаўсходняга, дадумаўся, мабыць, што мне праз памылку ліцер у пагранічную паласу выпісалі: "Чаго ты ў Менск прыехаў? — дапытваўся. — Чаму ня ехаў у Слуцак праз Магілёў, а загнуў дугу ў Менск?.. Га?.. Назад у канцлягер захацелася?.. Спадабалася табе там?.. Га?.. Каб яму так жыцьцё падабалася! Зманіў і гэтаму: "Спраўку, кажу, трэба ўзяць у Пэдтэхнікуме, дзе вучыўся..." Бліскаў, бліскаў, як маланка, вірлатымі вачыма то на ліцер, то на сэксота, які мяне затрымаў і ў ГПУ прывалок, а пасьля кінуў мне ліцер і гаўкнуў:

— Ідзі, бяры даведку і каб сягоньня-ж я цябе болей у Менску ня бачыў!.. Ясна?..

Каб яго так пярун ляснуў, як мне ўсё "ясна" — ніякая даведка

мне не патрэбна, бо маю аж дзьве. Не даведка, а ты, Бірута, прывяла мяне ў Менск. . . І я даведаюся ўсю праўду. Я ня веру, што выйшла замуж. Ня веру. . .

Злуецца вецер. Хапае блакітныя іскры з трамвайных дратоў. Пякуцца іскры. Шпурляе іх вецер на дах трамваю, у полымя кляновых лістоў ускрай ходнікаў. Над няўклюдным гмахам Дому Ураду трапечацца, бы ў спалосе, чырвонае палотнішча. Чырвонае, набрынялае крывёю. . . Ня хочацца пра кроў думаць. Вось, і Бірута насіла чырвоны капялюшык. Як ён быў ёй да твару, ружова-бялявага. Як сонца. І сама яна сьвяцілася нейкім патаемным, прывабным сьвятлом. А якая недакранальная. Колькі разоў спрабаваў узяць пад руку, каб не пасьлізнулася. . . Дзе там! "Сорамна так хадзіць", кажа. "Мы-ж ня муж з жонкай, а толькі добра знаёмыя. . ." І то праўда, і няпраўда: мы й добра знаёмыя ня былі. Што я пра яе ведаў? Амаль нічога. Літоўка. Мае матулю, сястру. . . І ўсё. Ды як-жа я мог што ведаць, калі ні разу й не пагутарыў, як трэба. Скажу колькі слоў і падаўлюся. Нешта ў глытаўцы стане, дух займе — пык, мык. . . і няма слоў. І што-б гэта магло быць? А яна засьмяецца й пабяжыць. . . Толькі капялюшык, чырвоны, мільгець, мільгець. . . І горача неяк зробіцца, быццам цябе нехта кіпянем абліў. Азірнуўся, ці хто часам майго сораму ня бачыў, устаўлюся на шыльду на сьцяне каля дзьвярэй тэхнікуму, дзе я амаль кожны дзень пільнаваў Біруту, і чытаю: Менскі Дзяржаўны Беларускі Пэдагагічны Тэхнікум імя Ўсевалада Ігнатоўскага". Прачытаю й ізноў пачынаю: "Менскі. . ." І колькі разоў так здаралася. Сябры ўжо пачалі падсьміхацца: "Алесь, што ты, як карункавая паненка, у шыльду глядзішся? Прыгожы й так. . . Нінка па табе дурэе. . ." Асабліва дапякаў Янка Язэпчык, найлепшы сябра. Ён і сам на Біруту вока меў, але стараўся датрымаць нашую ўмову: "Не падстаўляць сябру нагу, а падтрымоўваць пад руку. . ." Янка ня вельмі датрымоўваў гэтую ўмову. Праўда, гневацца няма чаго: да Біруты ён не чапляўся, але падсьміхваўся зь мяне, даючы зразумець, што Бірута мяне не кахае. "Ніна, — кажа, — па табе дурэе". Ні разу не сказаў: "Бірута па табе дурэе". Няхай-бы хоць сказаў: "Бірута цябе, бадай, паважае", ці "мае на ўвазе. . ." Дык не. Пра Біруту ні слова, а ўсё пра Ніну. Гэта пра Васілевіч Ніну. Яна сапраўды мяне кахала, але што я мог зрабіць, калі ня мог адказаць ёй узаемнасьцю? Яна й прыгожая, і добрая, але вельмі-ж мізэрненькая на выгляд. А яшчэ — ножкі крывыя. Тады, увосень, пры капаньні бульбы ў Сьляпянцы, — аж два тыдні ўвесь Тэхнікум на "парыве" парыўся, — яна была ў паліто, і я яе добра не разгледзеў. А як прыйшла вясна, ды

ўбачыў Ніну без паліта... О, Божа мой!... Ножкі тоненькія ды павыгінаныя ў каленях, як у Будзённага... А яшчэ Янка дапамагае: намаляваў Ніну на кані й падпісаў — "Першая конная... Ха-ха-ха!.." Бедны Янка. Прыпомнілі, казаў, на допыце й гэты малюнак. Думаў нядобрае пра мяне. Але-ж дарма: у мяне пра яго ні разу й ня пыталі. Ня ведаў я нават што ён арыштаваны. Ніна, бадай, ад злосьці на яго данесла. Яна-ж у гэтым "фаху" працавала. Уладзік аб гэтым мне пад сакрэтам казаў. Ён, сакратар камсамольскай арганізацыі, ведаў, хто з камсамольцаў чым займаецца. "Сьцеражыся, — кажа, — Алесь, Ніны..." Позна папярэдзіў... Ніна шмат чаго ад мяне даведалася. Яна-ж заўсёды, як толькі спаткаемся, пытала: "А дзе ты быў? А зь кім бачыўся? А што Сяргей Гарэйка піша? А чаму ён заўсёды любіць дэклямаваць:

«Луна стоит на капитанской вахте,
На триста верст рассыпался прибой...
И, словно белая трепещущая яхта,
Уходит женщина, любимая тобой».

А што піша Сяргей Русаковіч? А чаму ён назваў сваё апавяданьне — "Крумкачы"? Што?.. Што?.. Што?..

Біруta не такая. Не падобная зусім на Ніну. У яе ножкі, як верацёнцы, і вочы, як васількі, і вусны... Эх, ды што казаць. Кругом, як лялька. І ня выпытвае. Усё маўчыць ды нешта думае. Ане, возьме гітару ды як ударыць па струнах... Страсяне залацістымі косамі, узьніме вочкі-васількі ў столь і ціха, ціха засьпявае:

«Ня кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары...»

Колькі разоў я рашчульваўся да сьлёз ад гэтай песьні? А колькі разоў сядзеў зь ёю ў інтэрнаце каля вакна. Яна любавалася месячыкам ды зорамі, а я любаваўся ёю. Ня мог налюбавацца. Тыя хвіліны былі самымі найшчасьлівейшымі ў маім маладым жыцьці. Шчасьце, кажуць, вельмі кароткае. Так, гэта праўда. Было гэта, здаецца, у сыботу. Ляжу ў ложку. Ціха ў пакоі. Усе хлопцы пайшлі на паказ у клюб. А мне ня хочацца йсьці, бо сяброўка Біруты Анжэліка сказала, што Біруta ня пойдзе. А бязь Біруты мне там ня цікава. Ляжу й думаю, чамуж Біруta ня хоча йсьці? Што здарылася? Яна-ж ніколі ніводнага спэктаклю не прапусьціла. І вось, у гэты час скрыпнулі дзьверы. Гляджу, на парозе Янка... Бляды нейкі, разгублены.

— Алесь, бяжы!.. Біруta..

— Што зь ёю? Дзе яна?

— На Камуністычнай. . . Плача. . .
— Што зь ёю здарылася?
— Ня ведаю. Не дапытацца. Можа цябе паслухае, скажа. . .
За якіх пяць хвілін я ўжо быў на Камуністычнай. Біруга стаяла каля дашчанага плоту, упёршыся ілбом у скрыжаваныя на плоце рукі. Яна ўжо, мабыць, зьнемаглася плакаць, бо голасу не падавала, толькі час ад часу моцна ўздрыгвала й сьцепвалася ўсім целам, як ад холаду. Месяц, адзіны сьведка Біруцінай роспачы, серабрыў раскіданыя ў беспарадку па белай блюзцы косы. Паціхутку я паклаў ёй на плячо руку. Плячо было мокрае й гарачае. Біруга нібы й ня чула. Гэта быў першы выпадак, што яна не зарэагавала на дотык да яе цела. Акрылены гэтым, я моцна прыціснуў яе да сябе. Яна нібы прачнулася, крутанулася да мяне тварам. Буйныя сьлёзы, як дыямэнты, сыпаліся з вачэй.
— Біруга, даражэнькая!. . Што з табою?
Яна захісталася і, як падкошаная, упала на мяне. Я падхапіў яе пад рукі.
— Бірутачка, ня трэба так забівацца! Скажы, што здарылася? Можа, я дапамагу табе?. . Скажы?!. .
Яна маўчала. І я стаў яе цалаваць: у косы, у плечы, у вочы. . . Як доўга я яе цалаваў, ня ведаю. Мабыць, доўга. І нічога не даведаўся. Сказала толькі:
— Усё прапала, усё. . .
Пра прычыну сьлёз Біруты я даведаўся пазьней. А тады, у панядзелак, яна на заняткі ня прыйшла. І ў аўторак, і. . . ніколі. Як у ваду канула. Кануў і я ў нейкую бездань, страціў усялякую радасьць і надзею. Што я толькі тады не перадумаў, а дадумацца да нічога ня мог. Думалася самае горшае. А Янка падліваў алівы ў вагонь: "Эх, ты!. . Чые бычкі, а чые цяляткі. . . Вось і ўся разгадка. . ." — Не, Янка, Біруга не такая, — пярэчыў я сябру, бо ніколі ні зь кім я яе ня бачыў. Праўда, да таго, як Біруга прыехала жыць у інтэрнат на Камуністычнай, я меў на воку яе толькі ў буднія дні, у часе заняткаў. Як яна праводзіла час пасьля заняткаў, ведала толькі яна. Можа які нягоднік і насьмяяўся?
Спаткаў неяк Анжэліку, сяброўку Біруты. Адразу-ж пачаў пра тое, што баліць:
— Анжэліка, ты ведаеш, што я кахаю Біруту?
— Ведаю. . .
— Дык ты ведаеш, што зь ёю сталася. Скажы!
— Нічога зь ёю ня сталася. . . Дрэнна чуецца й усё.
— Анжэліка, не мані!. . Я ўсё ведаю сам, але хацеў праверыць цябе, якая ты дзяўчына. Ты прыгожая таксама, як і Біруга. . .

і падабаешся мне, але... з манюкамі я болей сустракацца не хачу... Бывай!..

Недалёкая Анжэліка затрымала мяне за руку.

— Не кажы так, бо пакрўджуся!.. Я не хацела казаць праўду, бо Біруга прасіла. Нават табе, пакуль што прасіла не казаць. Але, калі ты такі... Калі толькі паміж намі, дык скажу... Біруга перайшла ў Музычны Тэхнікум... Задаволены?..

— Ня зусім, але дзякуй і за гэта! А чаго яна перайшла, ня ведаеш?

— Гэта ты ўжо ў яе папытаешся...

"Цікавая сымфонія — ад сьлёз да музыкі... Тут нейкі выкручасты скрыпічны ключ. Трэба яго неяк разагнуць", — думаў я, ідучы ў Музычны... Але й на гэты раз "ключ разагнуць" не ўдалося. Біруту я знайшоў адразу. Патрапіў якраз на перапынак. Яна сама ўбачыла мяне першая, і клікнула. Я нібы ня чуў, прастую далей па калідоры. Трэба-ж паламацца для прыклёпу. Дагнала... Ну, і перапрасіла за сваё "некарэктнае захаваньне". Эх, бедная Біруга! Я сам гатоў быў перапрасіць цябе за свае брудныя думкі. Ты-ж такая, як і была: чыстая й недакранальная... А Янку дам, будзе ён ведаць, як выдумляць. Біруце я не сказаў пра ўсё, што пра яе думаў і што Янка плявузгаў.

Ізноў жыцьцё маё пайшло бадзёрым крокам пад гукі піяна й ціхія задушэўныя напевы каханай Біруты. Амаль кожны вечар я хадзіў у Музычны. Яна чакала мяне, брала за руку і вяла ў вялікую парожную аўдыторыю. Там садзілася за піяна й пачынала свой "канцэрт". Сумам і безнадзейнасьцю зьвінелі струны піяна на жаданьне Біруты. Вясёлага Біруга іграць не магла. На маю просьбу: — штосьці вясёленькае, — Біруга пакачала галавою: "Не прасі, не магу..." І заплакала... Болей я "вясёленькага" не прасіў. Яна ў задуме перабірала пальцамі клявітуру, а я стаяў ззаду, паклаўшы рукі на сьпінку крэсла, на якім яна сядзела, і думаў: "Пацалаваць яе, ці не чапаць, каб не пакрыўдзілася?.." Не асьмеліўся. Толькі апошні раз дайшло да гэтага. І то яна першая.

Было гэта ў нашым тэхнікумаўскім клюбе ў дзень 15-ай гадавіны Чырвонай Арміі. Тэхнікум наш трымаў шэфства над Менскім артдывізіёнам. І вось, для чырвонаармейцаў мы падрыхтавалі канцэрт. Удзельнічаў і я ў п'есе "Граніца на замку". Запрасіў я на канцэрт Біруту. Яна не абяцала што прыйдзе. Ня любы быў мне й канцэрт той, але адмовіцца было ўжо позна. І, вось, я на сцэне... Праз дзірачку ў заслоне ўглядаюся ў залю. Амаль усю залю запоўнілі чырвонаармейцы. Студэнты стаяць паўз сьцены, каля дзьвярэй пры ўваходзе. Усё яшчэ

заходзяць, некаторыя прымошчваюцца на вокнах. . . А Біруты няма. І канцэрт наш пачаўся й закончыўся, а яна ня прыйшла. Аркестра зайграла вальс "На сопках Манжурыі". Прыкідваю на вока, каго са студэнтак папрасіць танцаваць. Стрыгу вачыма адну, другую і. . . у дзьвярох зачырванеў знаёмы капялюшык. . . Бірута! . . Прыйшла! . . Я кінуўся да яе, як утрапёны, і ледзь ня зьбіў з ног нейкага тыпуса ў хромавай тужурцы, што йшоў наперадзе Біруты. Той пільна паглядзеў на мяне, нешта буркнуў пад нос і пайшоў праз залю, кагосьці шукаючы вачыма. Я прывітаўся зь Бірутай і запрасіў на вальс. Яна не адмовілася. І хутка мы закружыліся. . . О, які гэта быў прыгожы вальс! У мяне ўсё кружылася ў галаве ад шчасьця, ад радасьці. Я шукаў вачыма Янку, хацеў, каб ён пабачыў, зь кім я танцую. "Каго ты так шукаеш?" — Пачуўся ціхі, але незадаволены голас Біруты. Я зірнуў ёй у вочы, мацней прыціснуў да сябе й хацеў сказаць, каго я шукаю, але ў гэты момант нехта пакратаў мяне за правае плячо. І аркестра змоўкла. Я азірнуўся й спыніўся. Перада мною стаяў той, якога я ледзь ня зьбіў з ног. Ён, мне здалося, быў "пад добрай мухай". "Напэўна разьлічыцца са мною хоча", — мільганула думка, але тыпус перакрэсьліў яе пытаньнем:

— Вы будзеце Алесь Нядоля?

— Так, я той самы Нядоля.

— Пойдзем са мною на двор, я маю штось сказаць.

— Бірута, ідзі пасядзі, я зараз вярнуся! — А сам думаю: "Я табе пакажу, братка, як чапляцца. Хоць ты й здаравейшы за мяне выглядаеш, але я добра "насабачаны" ў прыёмах французкай барацьбы. Так шпурну, што цераз клюб гэты пераляціш. — Хадзем, — кажу. А ён:

— Захапі паліто, прыдасца. . .

Тут толькі нешта нядобрае кальнула мне ў сэрца, і мурашкі па сьпіне забегалі. А Бірута? . . Бірута не адыйшла ад мяне. Яна стаяла, слухала і, мабыць, раней за мяне здагадалася, куды павядзе мяне гэты тыпус, бо сьлёзы заіскрыліся ў яе на вачох, і яна кінулася мне на шыю й пачала цалаваць. О, якія гэта былі пацалункі! Маланкі, хіба, могуць так пранізваць усё цела й апякаць да сьмерці. Да сьмерці будуць мяне, мабыць, пячы ды саграваць першыя й апошнія пацалункі Біруты. Бадай і таму работніку ГПУ горача стала, бо адвёў пагляд у бок і левую рукою паслабіў на шыі гальштук. Правую руку ён трымаў у кішэні. Нарэшце сказаў:

— Пайшлі, давольна! . .

Гэта быў загад. Я правёў Біруту да крэсла. Яна ня села, а

ўпала на крэсла. Да яе падбегла Анжэліка й яшчэ якаясь дзяўчына. А аркестра йзноў зайграла, нібы пахавальны марш, сумны й балючы...

На дварэ мяне чакалі двое ў форме ГПУ... Чакалі пакуты, "амэрыканкі", начныя допыты, голад і далёкая страшная дарога ў Далёкаўсходні канцлягер...

— А, вось і тэхнікум... Такі-ж ён, як і тры гады назад, і не такі: чужы нейкі. Сьцены тыя самыя, але ў сьценах — другія незнаёмыя студэнты. Няма там ні Біруты, ні Янкі... Нікога ўжо няма. І шыльда ўжо ня тая. Няма на ёй "імя Ўсевалада Ігнатоўскага". Няма й самога Ігнатоўскага...

А воньдзека й клюб... Мільгаюць у вокнах чырвоныя, белыя майкі. Можа на "Сопках Манжуры" танцуюць? Не, фазкультурай займаюцца. Там і я калісь скакаў праз "кабылу", падцягваўся на кольцах... Хто там цяпер зь імі займаецца? Пестрык, хіба? Добры быў настаўнік.

У калідоры змрочна й прахалодна. Цішыня. Чуваць толькі голас настаўніцы ў клясе, што насупраць. Хто-ж гэта? Ці не Алеся Александровіч, часам? Не, гэта не Алесін голас: грубы нейкі. У Алесі голас, як у салаўя, цененькі ды пераліўны. Асабліва тады, як чытала паэму свайго брата Андрэя "Цені на сонцы..." Сапраўдныя яны, цені на сонцы. Асабліва Андрэй... Дзьмухні, дык і перакуліцца...

А хто гэта ў канцы калідору каля вакна стаіць?.. Дзед Лабанок хіба? Хто-ж яшчэ?.. А можа тая сьледчая Надзежда Лавіцкая? Па новую ахвяру прыйшла, чакае, як калісь мяне чакала. Смуглявая, чорнакосая, вочы, як у ведзьмы... І ў чорным паліто... Прывід нейкі, а не жанчына. "Пойдзем са мною". — Толькі два словы й сказала. І павяла...

Скрыпіць паркетная падлога пад нагамі. Чалавек каля вакна пачуў, мабыць, што нехта йдзе, адвярнуўся ад вакна, угледаецца... Ён гэта, дзед Лабанок...

— Добры дзень, дзедка Лабанок!

— Добры, добры, калі ня хлусіш!..

Усё з жартамі, як і раней. Трасе казьлінай бародкай, стрыж... як сарока хвастом, рудымі вейкамі, працягвае худзенькую дрыготную руку.

— Пазнаеце мяне?..

— Пазнаю й не пазнаю... Старасьць, як кабыла хвастом, памяць адбіла. Ды на табе матроская шынэль, — з далёкага карабля ты сюды прыплыў...

— Так, вы ўгадалі: з Далёкаўсходняга "карабля"... Ва Уладзівастоку гэтую шынэль купіў на таўкучцы, каб канцлягерным

бушлатам людзям вочы не мазоліць... Я — Алесь Нядоля... Памятаеце?..

— А, як-жа, як-жа!.. Пятрусь Грэчыц, Янка Язэпчык, Алесь Нядоля... Тры мушкацёры... Так, так...

Ня вельмі рады, мабыць, такому госьцю: узяў з падваконьніка званок, паглядае на гадзіньнік, што бубніць над намі на сьцяне. "Трэба сьпяшаць, запытаць пра Біруту, бо яшчэ возьме ды ўцячэ. З такімі, як я, цяпер найлепшыя сябры ня вельмі цырымоняцца. А ён што? Тэхнікумаўскі сторож, і я для яго, як і ён для мяне — чужыя. А ён Біруту, напэўна, ведае. Ён шмат каго й чаго ведае...

— Дзедка Лабанок, даруйце!.. Бачу, вы зьбіраецеся йсьці званіць на перапынак, дык затрымліваць вас ня буду. Хачу толькі запытаць у вас пра адну студэнтку. Былую студэнтку Пэдтэхнікуму. Вы яе напэўна ведаеце. Звалі яе Біруta... Жмудзінка яна па нацыянальнасьці. Дзьве іх тут і было толькі жмудзінкі: Біруta Гаруньціс і Анжэліка...

— О, Біруta?.. Біруta?.. Невялічкая, кругленькая, як гурочак?.. З залатымі косамі на ўсе плечы?.. Як-жа, я яе добра ведаю. Такую прыгажуню ды ня ведаць?.. Яна й цяпер часамі сюды прыходзіць. Хваліўся мне сакратар камсамолу з трэйцягу курсу... Як-жа бо яго?.. Ага. Дзяркач... Дык хваліўся, што Біруta да яго на спатканьне прыходзіць... Брэша ён. Я ня веру, каб яна такога нягеглага пакахала. Цябе — гэта іншая рэч...

— Дзедка Лабанок! Шчыра дзякую за навіну! Бывайце! Калі ўбачыце Біруту, дык перадайце прывітаньні... Я сьпяшаюся на цягнік...

— Добра, перадам... Да пабачаньня!.. Ага да гэтага самага...

— Наўрад, дзедка, ці пабачымся... Наўрад...

..."Дзесяць хвілін да чацьвертай. Заняткі закончацца а чацьвертай... Хоць-бы пасьпець. Яна цяпер ужо на трэйцім курсе і, напэўна на дзённай зьмене. Хутчэй у Музычны! Варушыся, Алесь! Шчасьце тваё не за гарамі, а за ўзгоркам... Шчасьце, а, можа, і няшчасьце? Не, толькі шчасьце! Яна мяне яшчэ не перастала кахаць. Я ўпэўнены, што не. А пра замуж чаму напісала? Баялася. Так, толькі дзеля гэтага. Яна ня дурная дзяўчына, о, не! І Дзяркача гэтага яна не кахае. Нягеглы, як дзед Лабанок кажа, — раз. Камсамолец — два. Камсамольца яна кахаць ня можа. Ненавідзець — толькі. Яна яго, калі праўда, што спатыкаецца, за грамаадвод мае: як-ні-як, а ён іхны чалавек. Калі што, можа й заступіцца... А можа й сапраўды вый-

шла замуж... Цьфу!.. Хоць-бы ўжо веніка якога, ці мятлу знайшла, а то дзяркача. Сэрца дзяўчыны, як тое морскае дно: не разгледзіш, што там робіцца. За два зь лішнім гады яна маё, можа, і імя забылася, а ня тое што. Задзярэ свой кірпаты носік і гаварыць не захоча. Няхай толькі паспрабуе. Я маю й на гэта лекі. Яна думае, и нічога ня ведаю. Ведаю й скажу: "Біруга, не ганарыся вельмі, што маеш Дзеркача... Ён табе ня па́ра. Ён — камсамолец, а ты... Хто ты?.. Ты — дачка жмудзінскай шпіёнкі..." Так і скажу. Плакаць будзе, бедная, так, як тады на Камуністычнай. Не, ня буду гэтак казаць. Шкада яе. Ды не яе віна, што нас разлучылі. Хіба яна сабе вораг, ня хоча жыць, як жонкі камуністаў ды камсамольцаў? А якое жыцьцё яна будзе мець са мною, з чалавекам дна, у якога ніякай будучыні, ніякага сягоньня. Не, ня буду ёй перашкаджаць. Няхай ходзіць да Дзеркача, няхай кахае. Я толькі пастаю каля дзьвярэй, пагляджу на яе, і ўсё. А калі пабачыць і прызнаецца, тады... Што я ёй скажу тады? А... скажу пра матулю. "Біруга, — скажу, — я ведаю, чаму ты тады плакала на Камуністычнай вуліцы. Памятаеш?.. Я тваю матулю бачыў... Ты ведаеш дзе?.. Праз шэсьць месяцаў сьледзтва мне абвесьцілі прыгавар Маскоўскай калегіі. Каб жывым давезьці ў канлягер на тую будоўлю камунізму, паслалі мяне на лёгкую працу — табельшчыкам у швэйную майстэрню пры турме. За гэта пла ціл і шэсьцьсот грамовай "пайкай" хлеба й лішняй "манашкай" супу. Чытаючы прозьвішчы работніц швэйнай майстэрні на табельным лісьце, я спаткаў прозьвішча Гаруньціс. Адразу чамусь убачыў цябе, Біруга, каля плоту на Камуністычнай... Адным словам, падумаў, што гэта, напэўна нехта з вашых. Ну, і хутка даведаўся..."

Не скажу ёй праўды. Не скажу, што яе матуля не падобная была да чалавека, да жывога чалавека, а да нябожчыцы. Нашто яе крыўдзіць, і так моцна пакрыўджаную гэтымі людаедамі. Скажу, што матуля яе выглядала ня горш, за другіх жанчын, што была вельмі радая, калі даведалася, што хутка пойдзе на этап, і казала: "Ну, цяпер я ўпэўненая, што вярнуся да сваіх дачушак. У канцлягеры хоць паветра сьвежага можна будзе надыхацца ўдоваль". А ці дапамагло ёй тое паветра? У яе-ж ужо тады, як зь ёй пазнаёміўся хусьцінка, якой выцірала вусны, пасьля кашлю, уся ў чырвоных плямах была... Білі, казала, і яе, каб прызналася, што для Летувіскай разьведкі весткі вайсковага характару зьбірала. Наўрад, ці пабачыць яна сваіх дачушак. Біруга ўжо, напэўна, ведае. Трэба будзе асьцеражліва ў Біруты спытаць, ці піша матуля. Калі ня піша, дык болей і

не напіша. Яна й да кацлягеру, бадай, не даехала. Я нашто малады і ў дзесяць разоў за яе здаравейшы, а пасьля сарака дзён язды ад Менску да Нікольск-Усурыйску, як адчапілі на станцыі дзьверы таго "цялятніка", як дыхнула ў твар тое сьвежае марознае паветра, дык ня ўтрымаўся на нагах, пакаціўся, як падкошаны, у сьнег... Дзякуй таму чарнігаўскаму ўкраінцу Івану Тарану, да лягеру дапамог дайсьці!.. А дзе-ж ёй, цені чалавечай, такую пакуту перанесьці?..

— Гэй, Алесь, ідзі!.. Бірута!..

Хто-ж гэта кліча? Нібы Янкі Язэпчыка голас пачуўся?.. Але, дзе-ж ён? Нідзе нікога няма. Вуліца бязьлюдная. Можа з трамваю хтось праз вакно клікнуў? Не, трамвай даўно ўжо празьвінеў... Што-ж гэта са мною ўжо сталася? Галодныя галюцынацыі пачынаюцца, ці што, як у таго Івана Тарана?.. Казаў, іду ў полі мяжою, каб дзе якую шчавіну знайсьці, углядаюся, і раптам чую голас бабкі Грыпіны: "Іван, а Іванко, ідзі галушкі ісьці". Завярнуўся, каб да хаты ісьці, галушкі есьці, аж успомніў, што ўчора бабку Грыпіну жоўтым пясочкам засыпалі... Ня можа яна мяне гукаць, здалося мне толькі... Ад голаду так здалося... А і я-ж ад учарашняга дня нічога яшчэ ня еў. Учора на Беларускім вакзале ў Маскве папрасіў у нейкага камандзера, што з жонкай у буфэце закусваў, каб даў мне недаедзеную булачку зь яго стала ўзяць, "галубком на вуліцы раскрышыць", дастаў рубля й даў... Добры чалавек, каб яго ніякая куля ня трапіла, трапіўся. На тым рублі й сягоньня яшчэ трымаюся. Але язвачка, як казаў лягерны канавал "лепком", ужо пачынае ў страўніку варушыцца, есьці захацела. Таму й пачынае галюцынацыі выдумляць: "Алесь, ідзі... Бірута..." Трэба неяк заткнуць ёй рот, каб ня крычала. Але чым заткнуць? Нават і крошкі ніякай у кішэні няма. Можа, у Біруты папрашу, калі ўбачу. Але-ж сорамна неяк у яе прасіць. Не, ня буду. Перацярплю неяк. На станцыі ў каго-небудзь папрашу. Бірута й сама,нябось, галодная, што яна мне дасьць?

— Алесь, ідзі!.. Бірута!..

Ну, вось ізноў тая язвачка не дае спакою... Але, пачакай?.. Пачакай?.. Хто-ж гэта там, наперадзе, праз вуліцу насустрач мне йдзе?.. Падобная да Біруты... Дальбог-жа, падобная... І яшчэ зь ёю якаясь асоба. Сястра хіба?.. Вось табе й яшчэ адна галюцынацыя: зрокавая ўжо. Адна слыхавая, а другая зрокавая... Ёсьць яшчэ й нюхавая, але ў мяне яшчэ да гэтага не дайшло... "Трэба павярнуць галаў у бок ад прадмету, які табе пакажацца, і паглядзець ізноў. Калі прадмет зьнікне, знацца, у цябе галюцынацыя. Калі ня зьнікне, галюцынацыі няма..."

Гэта я дзесьці чытаў, у падручніку па псыхалёгіі, ці дзе, ня памятаю. Трэба праверыць на практыцы. Ну, вось, павярнуў голаў управа, цяпер буду глядзець на "прадмет"... Ідуць — Біруга і... сястра Міля, мабыць... Вось, і гістарычнае спатканьне, вырашальнае спатканьне. "Что нам грядущий день готовит?" Ня дзень, а хвіліна, адна толькі хвілінка. І якое-ж ліха гэтую Мілю яшчэ прынесла? Я яе саромеюся, нават баюся неяк. Каб Біруга была сама, тады-б... Але, пачакай! Ці-ж то Бірунціна сястра, такая, як цыганка? У Мілі-ж такія, залацістыя косы, як і Біруты. Дый ідуць яны неяк ня так, як заўсёды хадзілі: Біруга заўсёды трымала Мілю пад руку, і яны ніколі моўкна ня йшлі, а буркаталі штосьць, як дзьве галубкі. А цяпер — Біруга йдзе наперадзе, а тая крыху адзаду. А якая Біруга стала прыгожая. Яна глядзіць на мяне... Чаго-ж я стаю, як укопаны? Ногі ня слухаюцца неяк... Ня сьмелы я ўсё-ж...

— Алесь!.. Алеська, дарагі!.. Даруй за апошні ліст... Даруй за ўсё!.. То ня праўда, што я пісала... Ня праўда!..

Гэта Біруга гукае... Што яна сказала?.. Чаму сястра штурханула яе ў плечы? Чаго гэтак вылупіла на мяне вочы?.. О, дык гэта-ж не сястра!.. Я пазнаў яе, суку. Гэта-ж тая сьледчая ГПУ Надзежда Лавіцкая, якая й па мяне прыходзіла ў тэхнікум і вяла надвячоркам на папярэдні допыт. А Янку Язэпчыка, як казаў, яна й без "папярэдняга" арыштавала й вяла... О, Біруга, Бірутачка! Прапала ты ні за грош. Не дапаможа ўжо табе й той камсамолец... Але, чаго-ж я стаю? Трэба дапамагчы Біруце вырвацца ад гэтай ведзьмы. Дапамагчы — чым? Маю недзе складаны ножык... Куды-ж я яго запхнуў? А вось ён, мая халодная зброя... Лёгка ён лез у цьвердую скарынку чорнага хлеба, палезе і ў сьпіну гэтае гадзюкі. Даганю і ўсаджу... Ня будзе болей хадзіць па Менску і лавіць ды вадзіць нявінныя ахвяры. Але-ж яна зоркая ды ўзброеная, сука, ды не адна ходзіць — наводдалі за ёю назіраюць апэратыўнікі. Вунь адзін такі, мабыць, тыпус, набліжаецца. Не, нічога я ёй ножыкам не зраблю. А чым? Як?.. Млосна неяк стала... Галава кружыцца...

— Біруга!.. Біру!..

— Гэй, гражданін!.. Чаго крычыш, цішыню нарушаеш? П'яны?..

— Не, я ня п'яны... Нядобра мне... Нядобра...

— П'яны!.. А нож на каго нагатаваў?.. Пайшлі са мною!..

1965

# БІБЛІЯГРАФІЯ ТВОРАЎ МІХАСЯ КАВЫЛЯ І ЛІТАРАТУРА ПРА ЯГО ДЫ ЯГОНУЮ ТВОРЧАСЬЦЬ

Апрацавала Зора Кіпель

У бібліяграфіі, у храналягічным парадку, падаюцца друкаваныя зборнікі Міхася Кавыля, паэмы, паасобныя вершы, драматычныя творы ды проза, што друкавалася ў пэрыядычным друку, але не ўвайшлі ў гэтую кнігу. У бібліяграфіі гэтаксама пададзеная мастацкая проза ды драматычныя творы, паэмы й паасобныя вершы, якія нідзе не друкаваліся.

У асобны пададдзел вылучаныя публіцыстычныя артыкулы М. Кавыля, падпісаныя найчасьцей ягоным сапраўдным прозьвішчам Я. Лешчанка ды іншымі псэўдонімамі.

Вершы М. Кавыля пакладзеныя на музыку ды кружэлкі запісаныя на словы паэты складаюць другі разьдзел. У гэтым разьдзеле прытрымліваецца альфабэтычны парадак паводле беларускага назову вершу.

У асобным разьдзеле падаюцца артыкулы пра М. Кавыля ды рэцэнзіі на ягоныя творы.

## I. ТВОРЫ МІХАСЯ КАВЫЛЯ

**Вершы, паэмы й драматычныя творы.**

1. **Расьцьвітуць сады** (Маладняк, кн. 4, 1931, б. 77). Адзін зь першых друкаваных вершаў паэты. Падпісаны псэўданімам Я. Маёвы.

2. **За што?** (Беларуская газэта 52(170), 14 ліпеня 1943, б. 4) Верш.

3. **Веяў вецер буйны** (Беларуская газэта 70(188), 15 верасьня 1943, б.3) Верш.

4. **Я — беларус** (Голас вёскі 29(83), 22 ліпеня 1943, б. 7). Патрыятычны верш.

5. **Пагоня** (**«Вечар птушкаю крылятай»**), (Голас вёскі 9(115), 3 сакавіка 1044), Верш.

6. **Я нікуды не хаджу,** (Голас вёскі 9(115), 3 сакавіка 1944) Верш.

7. **О, матуля мая, Беларусь** (Шыпшына 3, 1944) Верш.

8. **Ростань.** Вершы. Рэгенсбург, 1947, 43 б. Першы зборнік вершаў.

9. **Трыццаць першая восень** (Шыпшына 5, 1947, б. 38; Шляхам жыцьця 12(24), сьнежань 1947, б. 51) Верш напісаны ў 1947 г. на дзень народзінаў.

10. **Гумар** («Ну чым вас пацешыць, браты землякі»), (Беларуская воля 2(3), студзень 1948, б. 7) Верш датаваны 1947 годам, Бэльгія.

11. **На Парнасе** («На Парнасе ходзіць вартавы»), (Дзіда 2, 1948) Верш.

12. **Калі мы пойдзем зноў у бой** (Шыпшына 6, 1948, б. 11) Верш напісаны ў Бэльгіі ў 1947 годзе.

13. **Гальгофа** (Шыпшына 7, 1948, б. 8) Верш напісаны ў Бэльгіі ў 1947 г.

14. **Недабітыя рыцары** (Шыпшына 7, 1948, б. 9-11) Паэма напісаная ў Бэльгіі ў 1947 годзе.

15. **Мы.** Інсцэніроўка. Нідзе не друкавалася. Сцэнка аб паўстаньні Кастуся Каліноўскага. Пісаная ў Бакнанг, Нямеччына. Датавана 1948 г. Машынапіс перахоўваецца ў архіве БІНіМ.

16. **Праўды слова** (Беларускае слова, 15 студзеня 1949) Верш напісаны ў 1949 годзе.

17. **Дума аб гэрою** («Ходзяць ветры, ходзяць хмары») (Напагатове 3(9), 1949, б. 6-9) Верш.

18. **Расплата** (Беларускае слова 9(10), 15 верасьня 1949). Апавяданьне пра партызанаў Вітушкі. Са слоў партызана Д-а запісаў А. Зарэцкі (псэданім М. Кавыля).

19. **Спалох** (Беларускае слова 1(14), 1 студзеня 1950) Апавяданьне.

20. **General Greely** (Hudki raźvitalnyja. Zmoŭknuŭ "aŭrał"). (Souvenir edition Gen. A. W. Greely, USAT, B. Haven-New York, 18. 2-3.3 1950, p. 2).

Верш напісаны на параплаве па дарозе з Брэмэнгавэну ў Ню Ёрк, люты-сакавік 1950 год.

21. **Пад зорамі белымі.** Вершы. Ню Ёрк, 1954, 70 бач. Зборнік вершаў. Колькі вершаў з цыклю пад «Зорамі белымі» былі надрукаваныя ў анталёгіі «Ля чужых берагоў», Мюнхэн, 1955, б. 73-81.

22. **Расея** (Беларускае слова 4(25), 1955, б. 2). Верш напісаны ў 1955 г.

23. **Ліст Пятрусю Броўку** (Бацькаўшчына 25(255), 19 чэрвеня 1955, б. 1; Конадні 3, 1955, б. 7-9). Верш, напісаны 15 траўня 1955 г., зьяўляецца адказам на пашквільны верш Пятруся Броўкі «Здрадніку».

24. **1956** («Ён панёс спадзяваньні і мроі»), (Беларускае слова 3(32), сьнежань 1956). Вірш пісаны на канцы 1956 — насустрач 1957 году.

25. **Недасьпяваная песьня.** Гістарычная мэлёдрама ў 3-х актах. (Жыве Беларусь, Манчэстар, 1, сьнежань 1957 — 5, ліпень 1958; 7, лістапад 1958 — 12, лістапад 1960). П'еса. Час дзеяньня 1920 год.

26. **Замухрышка.** Казка-сцэнарый у 3-х дзеях. Вольны пераклад дзіцячай п'ескі Cinderella. Нідзе ня друкавалася. Машынапіс перахоўваецца ў Архіве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

27. **Лясная казка.** Дзіцячая п'еска. Нідзе ня друкавалася. Машынапіс (10 бач.) перахоўваецца ў Архіве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

28. **Марыльчына знаходка.** Дзіцячая калядная п'еска. Нідзе ня друкавалася. Машынапіс (16 бач.) перахоўваецца ў Архіве БІНіМ.

29. **Максіму Танку** (Бацькаўшчына 37(371), 15 верасьня 1957, б. 3). Верш напісаны з нагоды закліку Танка працаваць у газэтцы «За вяртаньне на Радзіму».

30. **Разводзьдзе.** Урывак з аповесьці (Беларускае слова 2(39), красавік-ліпень 1958). Апавяданьне з жыцьця беларускіх студэнтаў у Менску. Датаванае 1958 г. Па словах аўтара далейшага працягу ня будзе. Надрукаванае ў гэтым зборніку, б. 297, як апавяданьне.

31. **Першая рана** (Pieršaia rana), Манчэстар, Выдавецтва Беларускага Вызвольнага Руху, 1960. 41 бач. Зборнік вершаў.

32. **Мэры** (Бацькаўшчына 12-13(496-497), 25 сакавіка 1960, б. 6). Верш.

33. **Грэх на сэрцы цяжкі** (Голас радзімы 70(455), верасень 1060). Правакацыйны верш, у якім выкарыстоўваюцца сапраўдныя радкі зь вершаў М. Кавыля. Верш падпісаны М. Кавыль. Паэта зазначае, што «па тэорыі верагоднасьці верш гэны напісаны Максімам Танкам».

34. **Цяжкія думы.** Санэты. [Саўт Рывэр], Выданьне Беларуска-Амэрыканскага Дапамаговага Камітэту, 1961. 61 бач. Зборнік: 14 санэтаў, 2 вянкі санэтаў і 1 карона санэтаў.

35. **Сябры** («Сяброў са сьвечкаю шукаць»), (Беларуская думка 10-11, сьнежань 1967 — сакавік 1968, б. 13). Верш.

36. **Камароўка** («Пра Камароўку Ніл Гілевіч»), (Беларуская думка 12-13, 1969-1970, б. 32). Верш падпісаны псэўдонімам А. Камароўскі. З нагоды вершу Ніла Гілевіча пра Камароўку, прыгарад Менску, надрукаванага ў «Голасе радзімы» 32, жнівень 1969.

37. **Палітыка** (Баявая ўскалось 11, 1971, б. 4-5). Верш напісаны ў 1971 г.

39. **Стой, таварыш!..** (Баявая ўскалось 11, 1971, б. 2-4). Пацыфічны верш супраць усялякіх войнаў, напісаны 30 травеня 1971 году.

40. **Марш «філёзафаў» БССР** (Беларус 200, сьнежань 1973, б. 5). Верш-адказ «Голасу радзімы» на зьмешчаны артыкул «Да вяршынь філасофскай навукі».

41. **Карэкта** (Беларус 203, сакавік 1974, б. 3) Верш, падпісаны псэўдонімам Андрэй Камароўскі, у адказ на зьмешчаны ў «Голасе радзімы» № 7, люты 1974, верш-пародыя нейкага Антося Філядэльфійскага.

42. **Гіцаль у сталіцы.** Нібы фэльетон (Беларуская думка 16-17, б. 52-53; 20, 1976, б. 24-25 — папраўка. Падпісаны Андрэй Камароўскі.

43. **Баран** (Беларуская думка 20, 1976, б. 25). Верш.

44. **Песьня на песьню** (Беларус 245, верасень 1977, б. 5). Адказ на пашквіль Рыгора Махавіка «Песьня пра худую авечку» (Голас радзімы, 30 чэрвеня 1977)

45. **Марк Аўрэліюс.** Роздумы. На беларускую мову пераклаў Міхась Кавыль. Уводнае слова Яна Пятроўскага. Gainesville, Florida, Byelorussian Charitable Educational Fund, 1978. 139 p.

46. **Мы шукаем сваю Палястыну** (Беларус 310, сакавік-травень 1983) Верш-адказ на Лёфтусавы паклёпы супроць эмігрантаў беларусаў у ягонай кнізе «Belorus secret». Верш напісаны 22 сакавіка 1983 году.

47. **Царква** (У: Віталі Цярпіцкі. Гісторыя пабудовы Беларускае Праваслаўнае Царквы імя Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры, Ню Джэрсі. Саўт Рывэр, 1984, б. 1-8 (апошняя нумарацыя). Верш датаваны 1972-84, прысьвечаны будаўніком і апякуном царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай ў Саўт Рывэры.

48. **Дайце «гевэр».** Пятру Нядзьвецкаму. Нідзе ня друкаваны верш прысьвечаны Пятру Нядзьвецкаму. Бяз даты. Машынапіс перахоўваецца ў Архіве БІНіМ.

49. **Із агню ды ў полымя.** Раман (Беларуская думка 33, 1988, б. 23-26; 34, 1989, б. 16-26; 35, 1990, б. 8-14 — далей будзе).

50. **Адна ноч у Чарніцах.** Паэма. Напісаная ў 1989 годзе. Нідзе ня друкавалася. Рукапіс перахоўваецца ў Архіве БІНіМ.

51. **Беларусь, Беларусь!** (Беларуская думка 35, 1990, б. 1-2). Верш напісаны ў 1990 годзе, У архіве БІНіМ знаходзіцца машынапіс гэтага вершу пад назовам «Беларусы, Беларусы!»

**Публіцыстыка, рэцэньзіі.**

52. **Аб нашай моладзі** (Беларускае слова 9/10, 15 верасьня 1949). Перадавіца (бяз подпісу) напісаная М. Кавылём.

53. **Аб «Зацемках аб літаратуры» М. Сяднёва.** (Беларускае слова 4(7), 29 ліпеня 1951, б. 3; 5(8), 30 верасьня 1951, б. 3). Дыскусія на літаратурныя тэмы выкліканая артыкулам М. Сяднёва «Зацемкі аб літаратуры», Беларуская трыбуна 3, 1950; 3(6), 1951.

54. **Мой адказ Рамановічу** (Бацькаўшчына 1-2(437-438), Праваслаўныя Каляды 1959). М. Кавыль адказвае на артыкул К. Рамановіча (Рыгор Крушына) «Думкі аб паэзіі» зьмешчаны ў № 34 Бацькаўшчыны за 24 жніўня 1958 г.

55. **Правакацыя і.. «Бацькаўшчына»** (Беларуская думка 2, 1961, б. 13-14, 18). Адказ на надрукаваны ў «Голасе радзімы» 70(455), верасень 1960, правакатарскі верш «Грэх на сэрцы цяжкі» й падпісаны псэўдонімам М. Кавыля. Гэтаксама рэакцыя «Бацькаўшчыны» на гэты верш.

56. **«Драбы» У. Случанскага** (Беларуская думка 6, 1964, б. 25-26). Рэцэньзія на аповесьць У. Случанскага «Драбы». Дата й месца публікацыі аповесьці не пададзена.

57. **«Коммунист Белоруссии» вінаваціць «Полымя»** (Беларуская думка 6, 1964, б. 31). Невялічкая зацемка падпісаная Я. Л.

58. **А ўсё такі — вучылі** (Беларуская думка 6, 1964, б. 30). Невялічкая зацемка, падпісаная Я. Л., у якой разглядаецца кніга Л. Абэцэдарскага «Белоруссы ■ Москве ■ XVII в.»

59. **«Дзярлівая птушка» К. Акулы** (Беларуская думка 8, 1965, б. 31-33). Рэцэньзія на кнігу К. Акулы «Дзярлівая птушка».

60. **Першая ахвяра** (Беларуская думка 9, 1966). Артыкул пра В. Быкава падпісаны Я. Л.

61. **Працоўная група СБМ у г. Цытаў** (У: A. Winicki. Material on the History of Byelorussian Emigration in Germany, 1939-1951. Los Angeles, 1968. V. 1, p. 18-20)

62. **Хулителям Белоруссии** (Новое русское слово, 23 июня 1972) Ліст у рэдакцыю падпісаны И. Л. Аўтар палімізуе зь некаторымі выказваньнямі пра будучыню Беларусі.

63. **Паэт, друкар, рэдактар** (да 60-цігодзьдзя з дня нараджэньня), (Беларуская думка 15, 1973, б. 18). Ушанаваньне 60-х угодкаў сябры-паэты Янкі Золака (Антона Даніловіча).

64. **«Без татарского ига будет лучше»** (Новое русское слово, 18 марта 1973). Ліст у рэдакцыю, падпісаны Иосиф Лещенко. Адказ Ігару Агатаву на артыкул «Национальный вопрос», зьмешчаны ў НРС, 30 студзеня 1973 г.

65. **«О, Беларусь, мая шыпшына. . .»** (Беларуская думка 18-19, 1973-74, б. 18-21, 31). Рэфэрат, прачытаны на акадэміі прысьвечанай сьв. памяці Юркі Віцьбіча.

66. **Глубже и шире!** (Новое русское слово, 27 декабря 1973). Ліст у рэдакцыю падпісаны Иосиф Лещенко, у якім аўтар палімізуе зь нейкім Ю. К. пра жыцьцё ў Амэрыцы.

67. **Искатель правды** (Новое русское слово, 16 января 1974) Палеміка зь нейкім Ю. К. прадаўжаецца, гл. пазыцыю 66.

68. **Трезвые реалисты** (Новое русское слово, 21 мая 1974). Адказ Н. Отрадніну на ягоны артыкул «О нашем общем деле», НРС, 12 мая 1974. Дыскусыя пра нацыянальнае пытаньне.

69. **Вторая ловушка** (Новое русское слово, 12 июля 1974). Ліст у рэдакцыю, падпісаны И. Лещенко, аб паездцы прэзыдэнта Ніксана ў Хатынь.

70. **Янка Купала** (Новое русское слово, 19 сентября 1974). Ліст у рэдакцыю з падзякай А. Клёнаву за артыкул «Как я познакомился с Янкой Купалой, НРС, 8 сентября 1974.

71. **Не судить, а награждать** (Новое русское слово, 29 октября 1974). Адказ на ліст у рэдакцыю Б. Просса «Это и есть американская демократия», НРС, 13 октября 1974. Дыскусыя пра кантравэрсыю вакол прэз. Ніксана й яго памілаваньня.

72. **Звонят колокола Хатыни. . .** (Новое русское слово, 7 августа 1974). Ліст у рэдакцыю з нагоды наведаньня прэз. Ніксанам Хатыні. Падпісаны И. Лещенко.

73. **Узник Седанлага** (Новое русское слово, 15 декабря 1974). Артыкул-успаміны пра жыцьцё ў канцэнтрацыйным лягеры «Седанлаг». Падпісаны: Иосиф Лещенко.

74. **Ходячая сентенция** (Новое русское слово, 2 февраля 1975). Артыкул, падпісаны Иосиф Лещенко, у якім аўтар разважае аб беларускіх савецкіх паэтах.

75. **Повторение истории?** (Новое русское слово, 4 октября 1975). Ліст у рэдакцыю падпісаны Иосиф Лещенко. Дыскусыя ўзьнялася вакол Вялікага Княства Літоўскага.

76. **Белорусы и Литовцы** (Новое русское слово, 30 октября 1975). Ліст

у рэдакцыю падпісаны И. Лещенко, дзе ён палімізуе з Н. Нефедававым, аўтарам артыкулу «Литовское Княжество», НРС, 11 кастрычніка 1975, у якім той стараецца давесьці, што Вялікае Княства Літоўскае было не беларускім.

77. **Курган-Помнік** (У: Памятная кніга, 1950-1975, б. 68-71). Разважаньні пра пабудову кургана-помніка ў Саўт Рывэры ў штаце Ню Джэрзі пры царкве Сьв. Эўфрасіньні Полацкае. Адчыненьне помніка адбылося 22 кэрвеня 1974 году. Кароткі зьмест паангельску.

78. **Роздум пра «Роздум»** (Беларус 234, кастрычнік 1976, б. 6). Крытыка Язэпа Лешчанкі на артыкул Дзімітрыя Верасава «Роздум пра музыку», Запісы 13, 1975.

79. **Чичиковщина по-советски** (Новое русское слово, 1 августа 1976). Артыкул падпісаны Иосиф Лещенко, дзе аўтар крытыкуе выкарыстоўваньне імёнаў памерлых гэрояў — «мёртвыя душы» — для прапаганды.

80. **Расстрел польских офицеров** (Новое русское слово, 12 сентября 1976). Ліст у рэдакцыю падпісаны Иосиф Лещенко. Рэакцыя на артыкул «Катынь».

81. **«Праваслаўе ў Вялікім княстве Літоўскім за гадоў панаваньня Уладыслава Ягайлы»** (Беларуская думка, 21-22, 1977-78, б. 30). Рэцэньзія на кнігу а. Мікалая Лапіцкага.

82. **Роздум уголас** (Беларус 240, красавік 1977, б. 6). Адказ Д. Верасаву на ягоную крытыку ў артыкуле «Патрыятызм і мастацтва», Беларус № 236.

83. **Не та мерка** (Новое русское слово, 22 июня 1977). Ліст у рэдакцыю, падпісаны Иосиф Лещенко. Адказ Б. Бровцыну на ягоны артыкул «Российская Федеративная Империя», НРС, 17-19 мая 1977. Дыскутуецца беларуская мова.

84. **Воспоминание** (Новое русское слово, 23 августа 1977). Ліст у рэдакцыю падпісаны Иосиф Лещенко, дзе ён успамінае невялічкі эпізод спатканьня з Максімам Лужаніным.

85. **Песьня пра песьню** (Беларус 245, верасень 1977, б. 5). Адказ на пашквіль Рыгора Махавіка «Песьня пра худую авечку» надрукаваны ў «Голасе радзімы», 30 чэрвеня 1977 году.

86. **Трактор в подарок** (Новое русское слово, 20 майя 1979). Ліст у рэдакцыю, падпісаны Иосиф Лещенко, у якім аўтар іранізуе пра зьмешчаны ў «Голасе радзімы» артыкул аб цяжкім жыцьці беларускіх эмігрантаў.

87. **Скупаватая муза** (Беларуская думка 24, 1980, б. 37). Рэцэньзія на зборнік вершаў Янкі Золака «Творы».

88. **«Гісторыя пабудовы Беларускай Праваслаўнай Царквы Сьвятое Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры».** Віталі Цярпіцкі. (Беларуская думка 29, 1984, б. 39). Рэцэньзія на кнігу.

89. **Заўвагі да заўвагаў** (Беларуская думка 30, 1985, б. 33). Адказ на «Ліст у «Бел. думку» К. Якуба, зьмеычаны ў тым-жа № «Бел. думкі» на б. 32-33.

90. **«Прымі сіе»** (Беларуская думка 32, 1987, б. 29-30). Рэцэньзія на кнігу Масея Сяднёва «Ачышчэньне агнём».

91. **Чарнобыль** (Беларуская думка 32, 1987, б. 1-3). Разважаньні пасьля трагічнай катастрофы ў Чарнобылі [redacted] пасьледкі яе на Беларусі.

92. **Ушанаваньне паэта Янкі Золака** (Беларуская думка 33, 1988, б. 16-17). У адзначэньне 75-х угодкаў паэты Янкі Золака 1-га лістапада 1987 году, сябры-паэты прысьвяцілі яму свае вершы. Верш М. Кавыля «Янку Золаку», гл. б. 149 у гэтай кнізе.

93. **І раптам...** (Беларуская думка 34, 1989, б. 15-16). Разгляд артыкулу ў «Новом русском слове» ад 22 кастрычніка 1988 г., у якім падаецца гісторыя зьяўленьня ў прэсе вестак пра Курапаты.

94. **«Культура» пра Беларусь** (Беларуская думка 35, 1990, б. 15-16). Агляд польскага часопісу «Kultura» 4(49), 1989, у якім зьмешчана колькі артыкулаў пра Беларусь.

## II. ВЕРШЫ М. КАВЫЛЯ ПАКЛАДЗЕНЫЯ НА МУЗЫКУ

### Песьні

95. **Беларусь.** Музыка Дзьмітры Верасава й Юліяна Рымко. Верш, пакладзены на музыку, у крыху іншай рэдакцыі. Заўвага аўтара: верш у папярэдняй рэдакцыі на песьню не надаецца, а таму прашу карыстацца новай рэдакцыяй (у гэтым зборніку на б. 28).

96. **Божа наш.** Гімн-малітва пакладзеная на музыку Дзьмітрам Верасавым і Юльянам Рымко. Ноты ў рэдакцыі часопіса «Беларуская думка».

97. **Васілёчкі.** Песьня для жаночага дуэту альбо ансамблю. Музыка Міколы Куліковіча. (Куліковіч, М. Беларускі песенны зборнік, Кліўлэнд, 1960, б. 62-63). Мэлёдыя пабудавана на матывах народнай песеннасьці, найбольш на зваротках песьні «А ў полі вярба».

98. **Вясна.** Музыка Ксавэры Барысаўца.

99. **Казка.** Музыка Ксавэры Барысаўца.

100. **Ліст сына.** Музыка Ксавэры Барысаўца.

101. **Не забуду я.** Раманс для тэнара або сапрана. Музыка Міколы Куліковіча. (Куліковіч, М. Беларускі песенны зборнік, 1960, б. 50-52).

102. **Ой, ты край мой залаты.** Дуэт. Музыка Э. Зубковіч. (Э. Зубковіч. Край мой васількова, Ню Ёрк, 1972, б. 18-19)

103. **Паэма.** Музыка З. Фібіх.

104. **Поле-Поле.** Музыка Дзьмітры Верасава.

105. **Рыбацкая калыханка.** На народную песьню, аранжыроўка Дзьмітры Верасава.

106. **У няведамую даль.** Музыка Ксавэры Барысаўца.

107. **Я душу нявыгойна параніў.** Музыка Э. Зубковіч, для сярэдняга голасу з фартапіяна. (Э. Зубковіч. Край мой васількова, Ню Ёрк, 1972, б. 15-17).

**Запісы на кружэлкі песьняў на словы М. Кавыля.**

108. **Васілёчкі** (Blue Flowers), Lyr. M. Kavyl. Music by Nikolaj Kulikowicz. Kalaski. Byelorussian arranger, composer and accompanist: prof. Nikolaj Kulikowicz. Vocal: Nadine Grade, soprano; Barbara Vergbalowicz, mezzo soprano. 33 1/3 LP SS-10952-01A.

109. Cornflowers. **Васількі.** Mus. N. Kulikovich, Lyr. M. Kavyl. Byelorussian Women's choir "Kalina". Directed by composer X. Borisovets. South River, N. J. Byelorussian-American Relief Committee. U4RM-8599 High Fidelity. ARL-0964.

110. Spring. **Вясна.** Mus. X. Borisovets. Lyr. M. Kavyl. Trio: R. Kosciuk, L. Machniuk, A. Machniuk. Byelorussian Lyric Songs. South River, N. J. Byelorussian-American Relief Committee. U4RM-8600 High Fidelity ARL 0965.

111. Lark. **Жаваранак.** Mus. M. Glinka. Lyr. M. Kavyl. Duet: R. Kostiuk & L. Machniuk. Byelorussian Lyric Songs. South River, N. J., Byelorussian Relief Committee. U4RM-8600 High Fidelity ARL 0965.

112. Fable. **Казка.** Mus. X. Borisovets. Lyr. by M. Kavyl. Duet: R. Kosciuk, H. Pietysh. Byelorussian Women's Choir "Kalina" under the direction of composer Xavery Borisovets. South River, N. J. S4RM 6497.

113. A Son's Letter. **Ліст сына.** Mus. X. Borisovets. Lyr. M. Kavyl. Solo: R. Kosciuk. Byelorussian Women's Choir "Kalina" under the direction of Xavery Borisovets. South River, N. J. St. Euphrosene Church Sisterhood. BWC 101 Stereo.

114. A poem. **Паэма.** Mus. Z. Fibikh, Arr. D. Vierasaй. Lyr. M. Kavyl. Duet: L. Machniuk & R. Kasciuk. Byelorussian Lyric Songs, South River, N. J., Byelorussian-American Relief Committee. U4RM-8600 High Fidelity ARL 0965.

115. Pole-Pole. **Поле-Поле.** Mus. D. N. Vierasaй. Words M. Kavyl. Byelorussian Song. Byelorussian-American Relief Committee Chorus. Cond. V. Sielach-Kacanski. Recorded in RCA Studio. USA. G 7-OB-6190 78 RPM.

116. Fisherman's Lullaby. **Рыбацкая калыханка.** Folk song. Arr. D. Vierasaй. Lyr. M. Kavyl. Solo: R. Kasciuk. Byelorussian Lyric Songs. South River, N. J., Byelorussian-American Relief Committee. U4RM-8600 High Fidelity ARL 0965.

117. Into the Unknown. **У няведамую даль.** Mus. X. Borisovets. Lyr. M. Kavyl. Duet: R. Kosciuk & L. Machniuk. Byelorussian Women's Choir "Kalina", directed by composer Xavery Borisovets. South River, N. J. U4RM High Fidelity. ARL-0964.

## III. АРТЫКУЛЫ, РЭЦЭНЬЗІІ ПРА М. КАВЫЛЯ Й ЯГОНУЮ ТВОРЧАСЬЦЬ.

118. **Адамовіч, Ант.** Мастак нятускнае красы (Беларускі Сьвет 19(48), 1987, б. 53-65). У артыкуле пра творчасьць Алеся Салаўя, крытык на б. 63 прыгадвае санэты М. Кавыля, іх пераважную колькасьць чым у іншых беларускіх паэтаў.

119. **Верасаў, Дзьмітры.** Патрыятызм і мастацтва. (Беларус 236, лістапад 1976, б. 8). Палеміка зь Я. Лешчанкам наконта ягонага артыкулу «Роздум пра роздум», Беларус 234, кастрычнік 1976.

120. **Вечар трох паэтаў** (Беларускае слова 9/10, 15 вер. 1949, б. 4). Невялікая зацемка пра вечар паэзіі Р. Крушыны, М. Кавыля й Я. Золака ў Бакнангу 21 жніўня 1949 году. Кавыль прачытаў вытрымкі з новай паэмы «Міжагнёўе». Падпісана — «Прысутны».

121. **Вывучай беларускую літаратуру.** Міхась Кавыль. (Жыве Беларусь, Manchester, 3(9), травень 1959, б. 6-7). Біяграфія Міхася Кавыля. Надрукаваны таксама ягоны верш «Памятай». У гэтай кнізе надрукаваны пад назовам «Беларусь б'е ў сэрцы. . .», гл. б. 58.

122. **Золак, Янка.** Жыцьцёвы й творчы шлях Міхася Кавыля. Да пяцідзесяцігодзьдзя з дня народзінаў. (Беларуская думка 8, 1966, б. 22-23). Біяграфічныя дадзеныя й агляд творчасьці. Партрэт.

123. **Пад зорамі белымі** (Баявая Ускалось 1(4), 1954, б. 49). Кароткая рэцэньзія-паведамленьне пра зборнік вершаў М. Кавыля «Пад зорамі белымі», Ню Ёрк, 1954.

124. **«Пад зорамі белымі»** (Беларускі голас, кастр. 1955). Кароткая рэцэньзія на зборнік вершаў М. Кавыля «Пад зорамі белымі», Ню Ёрк, 1954.

125. **Рамановіч, М.** Зборнік вершаў Міхася Кавыля. (Бацькаўшчына 25(255), 19 чэрвеня 1955, б. 3). Рэцэньзія на зборнік вершаў М. Кавыля «Пад зорамі белымі».

126. **Склют, Р.** Пад зорамі белымі — Шорах маўклівасьці — Ля ціхай брамы. (Конадні 3, 1955, б. 74-80). Крытычна-параўнальная рэцэньзія на тры зборнікі беларускіх эміграцыйных паэтаў, — М. Кавыля, Я. Юхнаўца й М. Сяднёва ды агляд іхнай творчасьці наагул.

127. **Сыманчук, Я.** «Пад зорамі белымі». (Беларускі голас 15, кастрычнік 1955, б. 3). Рэцэньзія на зборнік вершаў М. Кавыля «Пад зорамі белымі».

128. **Шевчук, Гр.** Два поети. (Час 48(113), 30 листопада 1947). Разгляд творчасьці двух беларускіх паэтаў, М. Кавыля й Масея Сяднёва.

129. **Шэсьдзясят і адна пэрла Міхася Кавыля.** (Беларускі каталік 5, 1961-62, б. 7). Адзыў на трэйці зборнік М. Кавыля «Цяжкія думы», зборнік санэтаў. Падаецца да ведама, што Інтэрнацыянальны Інстытут Беларусаведы ўзяў на сябе заданьне перакласьці санэты М. Кавыля ў чужыя мовы. Перадрук двух санэтаў зь вянка санэтаў «Цяжкія думы».

# АЛЬФАБЭТНЫ ПАКАЗЬНІК

# ЗЬМЕСТ

## IN THE SAME SERIES:

№ 1. **Натальля Арсеньнева.** Між Берагамі. Выбар паэзіі, New York - Toronto, 1979. 350 р. + XXXIX

№ 2. **Алесь Салавей.** Нятускная краса. Збор твораў. New York - Melborne, 1982. 373 р. + XVI

№ 3. **Александра Саковіч.** У Пошуках Праўды. Апавяданьні й аповесьці. New York - Cleveland, 1986. 245 р.

№ 4. **Міхась Кавыль.** Міжагнёўе. Выбраныя творы. New York, 1990. 344 р. + XXI